# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

*Раздзел першы*

## ПА СЛЯДАХ ЗДАБЫЧЫ

Цёмны хваёвы лес стаяў нахмурыўшыся па абодвух берагах замёрзлай ракі. Вецер, які пранёсся нядаўна, сарваў з дрэў белую намаразь, і ў надыходзячым змроку яны хіліліся адно да аднаго, чорныя і злавесныя. Глыбокая цішыня панавала навокал. Гэта была Глуш—дзікая Паўночная Глуш з абледзянелым сэрцам. І ўсё-ж штосьці жывое рухалася ў ёй і кідала ёй выклік. Па замёрзлай рацэ прабіралася запрэжка ездавых сабак. Ускудлачаная шэрсць іх заінела на марозе, дыханне застывала ў паветры, і клубы пары асядалі ў сабак на скуры, пакрываючы яе крышталамі намаразі. Сабакі былі ў скураной вупражцы, і скураныя пастронкі ішлі ад яе да саней, якія цягнуліся ззаду. Сані без палазоў, з моцнай бярозавай кары, усёй паверхняй ляжалі на снезе. Пярэдняя частка іх была загнута кверху, як скрутак, каб прымінаць мяккі снег, які хваляй узнімаўся перад санямі. На санях стаяла моцна прывязаная доўгая, вузкая скрыня. Былі там і іншыя рэчы: коўдры, сякера, кафейнік і патэльня; але перш за ўсё звяртала на сябе ўвагу доўгая, вузкая скрыня, якая займала большую частку саней.

Наперадзе сабак на шырокіх лыжах з цяжкасцю рухаўся чалавек. За санямі цягнуўся другі. На санях, у скрыні, ляжаў трэці, для якога ўсякая праца была скончана, якога перамагла і знішчыла Паўночная Пустыня,—трэці быў ужо няздольны ні рухацца, ні зма-

гацца. Паўночная Пустыня не любіць руху. Яна замаражвае ваду, каб спыніць яе бег да мора; яна высмоктвае сокі з дрэва, і яго магутнае сэрца дубее ад сцюжы; але з асаблівай раз'юшанасцю і лютасцю Паўночная Пустыня ламае ўпартасць чалавека, таму што чалавек—самая мяцежная істота ў свеце, паўстаючая супроць закона, які гаворыць, што ўсякі рух нарэшце павінен спыніцца.

І вось наперадзе і ззаду саней ледзь ішлі два бясстрашныя і непакорлівыя чалавекі, у якіх яшчэ не згасла жыццё. Іх адзенне было зроблена з футры і мяккай дубленай скуры. На расніцы, шчокі і губы густа наліплі крышталі намаразі ад замярзаўшага на паветры дыхання, і твары іх цяжка было разгледзець.

Яны ішлі моўчкі, зберагаючы дыханне для хадзьбы. Амаль асязальная маўклівасць акружала іх з усіх бакоў.

Мінула гадзіна, мінула другая. Бледнае святло кароткага цьмянага дня пачало гаснуць, калі ў навакольнай цішыні пачулася слабае, аддаленае выццё. Яно імкліва ўзвілася кверху, дасягнула высокай ноты, затрымалася на ёй, дрыжучы, але не зніжаючы сілы, а потым паступова замерла. У ім чуліся нейкая панурая лютасць і азвярэнне голаду.

Чалавек, які ішоў наперадзе, абярнуўся, злавіў позірк таго, які цераз сілу ішоў ззаду саней, і абодва яны кіўнулі адзін аднаму. І зноў цішыню парушыла прарэзлівае выццё. Яны прыслухаліся, каб вызначыць кірунак гуку. Ён далятаў аднекуль ззаду, з тых снежных прастораў, якія яны толькі што прайшлі.

Неўзабаве пачулася выццё ў адказ, яно таксама даносілася аднекуль ззаду, але на гэты раз лявей.

— За намі гоняцца, Біл,—сказаў той, што ішоў наперадзе. Голас яго прагучэў хрыпла і ненатуральна і гаварыў ён відавочна цераз сілу.

— Дзічыны мала,—адказаў яго таварыш.—Вось ужо колькі дзён я не бачыў ні аднаго трусінага следу.

Яны змоўклі, але ўсё яшчэ напружана прыслухоўваліся да выцця, якое кожную хвіліну чулася ззаду іх.

Як толькі сцямнела, яны павярнулі сабак да невялікай кучкі хвоек на беразе ракі і зрабілі прывал. Труна, пастаўленая ля агню, з'яўлялася для іх сталом і лаўкай. Збіўшыся ў кучу па другі бок агню, сабакі раўлі

і грызлі, але не выказвалі ніякага жадання ўцячы ў цемнату.

— Нешта яны ўжо вельмі цiснуцца да агню,—заўважыў Біл.

Генры, прысеўшы на кортачкі перад агнём, стараючыся прымасціць кафейнік з кавалкам лёду, кіўнуў галавой. Загаварыў ён толькі пасля таго, як сеў на труну і пачаў есці.

— Яны таксама сваю скуру берагуць,—сказаў ён.— Ведаюць, што лепш з'есці, чым яго самога з'ядуць. Сабак не ашукаеш.

Біл паківаў галавой:

— Хто іх ведае!

Таварыш паглядзеў на яго з цікаўнасцю.

— Першы раз чую, каб ты сумняваўся ў іх розуме.

— Генры, а ты не заўважыў, як сабакі грызліся, калі я карміў іх?—сказаў той, павольна разжоўваючы бабы.

— Так, тузаніны было больш, чым заўсёды,—пацвердзіў Генры.

— Колькі ў нас сабак, Генры?

— Шэсць.

— Дык вось...—Біл зрабіў паузу, каб надаць больш вагі сваім словам.—Я таксама кажу, што ў нас шэсць сабак. Я ўзяў шэсць рыб з мяшка. Даў кожнаму сабаку па рыбіне, і аднаму нехапіла, Генры.

— Няправільна падлічыў.

— У нас шэсць сабак,—абыякава паўтарыў той.— Я дастаў шэсць рыб. Аднавухаму рыбы нехапіла. Мне прышлося дастаць яшчэ адну рыбу.

— У нас толькі шэсць сабак,—сказаў Генры.

— Генры,—казаў далей Біл,—я не кажу, што ўсе былі сабакі, але толькі іх было сем.

Генры перастаў жаваць, паглядзеў праз агонь на сабак і пералічыў іх.

— Зараз там толькі шэсць,—сказаў ён.

— Я бачыў, як адзін уцёк па снезе,—са спакойнай настойлівасцю адказаў Біл.—А было іх сем.

Генры зірнуў на яго са спачуваннем і сказаў:

— Хутчэй-бы нам з табой дабрацца да месца.

— Гэта як-жа разумець?

— А так, што ад гэтай паклажы, якую мы вязем, ты сам не свой зрабіўся, вось табе і здаецца бог ведае што.

— Я пра гэта ўжо думаў,—адказаў Біл сур'ёзна.— Як толькі ён пабег, я адразу зірнуў на снег і ўбачыў сляды. Потым падлічыў сабак—іх было шэсць. Сляды асталіся на снезе. Хочаш глянуць? Пойдзем—пакажу.

Генры нічога не адказаў і моўчкі жаваў. З'еўшы боб, ён запіў яго кубкам кофе, выцер рот тыльным бокам рукі і сказаў:

— Значыць, ты думаеш, што гэта...

Працяглае, тужлівае выццё,—дзікае і сумнае, якое данеслася аднекуль з цемнаты,—перарвала яго словы. Ён моўчкі прыслухаўся і потым закончыў пачатую фразу, махнуўшы рукой у тым кірунку, адкуль чулася выццё.

... што гэта адтуль?

Біл кіўнуў галавой.

— Як ні круціся, больш нічога не прыдумаеш. Ты-ж сам чуў, якую грызню ўзнялі сабакі.

Працяглае выццё чулася ўсё часцей і часцей, здалёк даносіліся скавытанні ў адказ, і цішыня ператварылася ў сапраўднае пекла. Выццё неслася з усіх бакоў, і сабакі ад страху збіліся ў кучу так блізка да агню, што агонь падпальваў ім шэрсць. Біл падкінуў у агонь дроў і закурыў люльку.

— Я бачу, ты зусім засумаваў,—сказаў Генры.

— Генры...

Біл задумліва пасмактаў люльку, а потым зноў загаварыў:

— Я ўсё думаю, Генры: ён куды шчаслівейшы за нас з табой,—і Біл паказаў на трэцяга чалавека, ткнуўшы пальцам у труну, на якой яны сядзелі.

— Калі мы з табой памром, Генры,—добра, калі хоць кучка каменняў будзе ляжаць над нашымі целамі, каб іх не сажралі сабакі.

— У нас няма ні сваякоў, ні грошай,—дадаў Генры.— Наўрад ці нас з табой павязуць хаваць у такую далечыню—чаго я ніяк не магу зразумець, Генры, гэта— навошта такому чалавеку, які быў у сябе на радзіме не то лордам, не то чымсьці накшталт гэтага, і не клапаціўся ні аб ядзе, ні аб цёплых коўдрах,—навошта

такому чалавеку спатрэбілася рыскаць на краі свету, па гэтай усімі забытай краіне?..

— Так. Калі-б ён астаўся дома, ён дажыў-бы да пачцівай старасці,—згадзіўся Генры.

Яго таварыш хацеў было адказаць, але раздумаў і нічога не сказаў. Замест гэтага ён працягнуў руку ў цемру, якая сцяной насоўвалася на іх з усіх бакоў. У цемры нельга было разгледзець выраза абрысаў; была відаць толькі пара вачэй, якія гарэлі як вугалле. Кіўком галавы Генры паказаў на другую пару вачэй і на трэцюю. Круг вогненных вачэй звужаўся каля іх стаянкі. Час ад часу якая-небудзь пара вачэй рухалася альбо знікала, з тым каб зноў паявіцца праз секунду.

Трывога сабак расла; раптам, ахопленыя страхам, яны збіліся ў кучу амаль ля самага агню, падпаўзлі да ног людзей і прыціснуліся да іх. У штурханіне адзін з сабак трапіў у агонь; ён завішчэў ад болю і страху, і ў паветры запахла паленай шэрсцю. Ад гэтай мітусні кальцо вачэй на хвіліну трывожна зарухалася і нават крыху адступіла назад, але як толькі сабакі супакоіліся, яно зноў апынулася на ранейшым месцы.

— Вось няшчасце, што ў нас няма патронаў!

Дакурыўшы люльку, Біл дапамог свайму спадарожніку раскласці футравую пасцель і коўдру паверх хваёвага галля, якое ён яшчэ да вячэры накідаў на снег. Генры прамармытаў нешта і пачаў развязваць макасіны.

— Колькі ў цябе асталося патронаў?—запытаў ён.

— Тры,—пачулася ў адказ.—А трэба было-б трыста. Я-б ім паказаў, д'яблам.

Ён злосна пагразіў кулаком у бок вогненных вачэй і пачаў клапатліва ўладжваць перад агнём макасіны.

— Калі толькі гэтыя халады мінуць!—казаў далей Біл.—Вось ужо два тыдні, як стаяць маразы ў пяцьдзесят градусаў. Не трэба было пускацца ў гэтае падарожжа, Генры. Не падабаецца яно мне. Мне неяк не па сабе. Прыехаць-бы ўжо хутчэй, і справе канец! Апынуцца-б нам з табой зараз ля каміна ў форце Мак-Гэры, пагуляць у крыбэдж... Шмат-бы я даў за гэта!

Генры прабурчэў нешта і пачаў класціся спаць. Ён ужо пачаў драмаць, але голас таварыша разбудзіў яго.

— Паслухай, Генры, чаму сабакі не накінуліся на таго—прышлага, якому таксама дасталася рыбіна? Вось што мяне непакоіць.

— Ты занадта ўжо непакоішся, Біл,—пачуўся сонны адказ.—Раней з табой гэтага не было. Пакінь балбатаць, засні, а раніцой устанеш як ні ў чым не бывала. Пякотка ў цябе, таму ты і непакоішся.

Яны спалі, адзін каля аднаго, пад агульнай коўдрай, цяжка дыхаючы. Агонь патух, і круг вогненных вачэй, які ачапіў стаянку, змыкаўся ўсё цясней і цясней.

Сабакі ў страху збіліся кучай і раз-по-раз пагражаючы раўлі, калі якая-небудзь пара вачэй падбіралася занадта блізка. Аднаго разу яны зарыкалі так моцна, што Біл прачнуўся. Ён асцярожна вылез з-пад коўдры, каб не разбудзіць таварыша, і падкінуў у агонь галля. Агонь шугнуў, і кальцо вачэй падалося назад.

Выпадкова Біл зірнуў на сабак, якія збіліся ў кучу. Ён працёр вочы і ўгледзеўся больш уважліва. Потым зноў палез пад коўдру.

— Генры!—паклікаў ён таварыша.—Генры!

Генры застагнаў, прачынаючыся, і запытаў:

— Што здарылася?

— Нічога,—пачуў ён,—толькі іх зноў сем. Я зараз пералічыў.

Генры сустрэў гэтае паведамленне бурчэннем, якое зараз-жа перайшло ў храпенне,—ён зноў заснуў.

Раніцой Генры прачнуўся першым і падняў таварыша з пасцелі. Да світання аставалася яшчэ гадзін са тры, хоць было ўжо шэсць гадзін раніцы. Генры ў цемнаце пачаў гатаваць снеданне, а Біл скруціў коўдры і пачаў укладваць сані.

— Паслухай, Генры,—запытаў ён раптам,—колькі, ты гаворыш, у нас было сабак?

— Шэсць.

— Няправільна!—заявіў ён радасна.

— Зноў сем?—запытаў Генры.

— Не, пяць. Адзін знік.

— Што за д'ябал!—крыкнуў разлютаваны Генры і, кінуўшы гатаваць, падышоў пералічыць сабак

— Правільна, Біл,—сказаў ён.—Фэці ўцёк.

— Куляй паімчаўся. Ідзі, знайдзі яго цяпер.

— Дрэнныя справы,—адказаў Генры.—Жыўцом з'елі. Ён напэўна, не адзін раз цяўкнуў, калі гэтыя чэрці пачалі яго рваць.

— Фэці заўсёды быў дурнаваты,—сказаў Біл.

— У самага дурнога сабакі ўсё-ж хопіць розуму не ісці на верную смерць.

Ён агледзеў астатніх сабак, хутка ацэньваючы ў галаве вартасці кожнага.

— Наўрад ці хто-небудзь з іх зробіць такую штуку.

— Іх ад агню і палкай не адгоніш,—згадзіўся Біл.— Я заўсёды лічыў, што ў Фэці не ўсё ў парадку.

Такім было надмагільнае слова, прысвечанае сабаку, які загінуў на Паўночным шляху,—і яно было нікольки не горш шмат іншых эпітафій сабакам, ды часта і людзям.

*Раздзел другі*

## ВАЎЧЫЦА

Паснедаўшы і паклаўшы ў сані свае мізэрныя пажыткі, падарожнікі пакінулі ветлівы агонь і рушылі ў цемнату. І зараз-жа пачулася выццё—дзікае і сумнае выццё; ваўкі пераклікаліся адзін з адным скрозь змрок і холад. Развіднела ў дзевяць гадзін.

У полудзень неба на поўдні паружавела, у тым месцы, дзе крывізна зямлі ўстае загародай паміж паўдзённым сонцам і краінай поўначы. Але ружовы водбліск хутка згас. Шэрае дзённае святло, якое асталося пасля яго, пратрымалася да трох гадзін, потым і яно пагасла, і над бязлюднай і застыўшай краінай апусцілася завеса арктычнай ночы.

Як толькі надышла цемната, выццё, якое праследавала падарожнікаў і справа, і злева, і ззаду, пачулася бліжэй; часамі яно чулася так блізка, што сабак апаноўваў страх, і яны кідаліся, ахопленыя панікай.

Пасля аднаго з такіх прыпадкаў панічнага страху, калі Біл і Генры зноў упарадкавалі запрэжку, Біл сказаў:

— Хоць-бы яны на якую-небудзь дзічыну напалі і пакінулі нас у спакоі!

— Так, гэта вельмі перашкаджае,—згадзіўся Генры. І яны змоўклі да наступнай стаянкі.

Генры нахіліўся над закіпаючым кацялком з бобам, падкладаючы туды колаты лёд, калі яго ўвагу раптам

прыцягнулі да сябе гук удару, выгук Біла і прарэзлівы віск сабак. Ён выпрастаўся і паспеў толькі разгледзець няясныя абрысы звера, які праімчаўся па снезе і знік у цемнаце. Потым Генры заўважыў Біла, які стаяў ні то з урачыстым, ні то з прыгнечаным выглядам сярод сабак, з палкай у адной руцэ і з хвастом вяленага лося ў другой.

— Палову ўсё-ж сцягнуў,—сказаў ён.—Затое я ўсыпаў яму як належыць! Чуў, як заскавытаў?

— А хто гэта быў?—запытаў Генры.

— Не разабраў. Магу толькі сказаць, што ногі, і пашча, і скура ў яго ёсць, як ва ўсякага сабакі.

— Ручны воўк, ці што?

— Воўк ці не воўк, толькі, напэўна, здорава ручны, калі з'яўляецца проста да кармлення і хапае рыбу.

Гэтай ноччу, пасля вячэры, калі яны сядзелі на доўгай скрыні, курачы люльку, круг вогненных вачэй звузіўся яшчэ больш.

— Хоць-бы яны стада ласёў дзе-небудзь ўзагналі, пакінулі-б нас у спакоі,—сказаў Біл.

Генры прамармытаў штосьці не зусім ветлівае, і хвілін пятнаццаць яны сядзелі моўчкі: Генры—утаропіўшы вочы на агонь, а Біл—на круг вогненных вачэй, які свяціўся ў цемнаце зусім блізка ад агню.

— Добра было-б зараз падкаціць да Мак-Гэры...—зноў пачаў Біл.

— Ды кінь ты сваё «добра было-б», пакінь каркаць,—не вытрымаў Генры.—Пякотка ў цябе, вось ты і скуліш. Вып'і соды—адразу палягчэе, і мне з табой весялей будзе.

Раніцой Генры разбудзіла страшэнная лаянка. Ён падняўся на локці і ўбачыў Біла, які стаяў сярод сабак ля запаленага кастра. Ён шалёна махаў рукамі, са скажоным ад лютай злосці тварам.

— Хэло!—крыкнуў Генры.—Што здарылася?

— Фрог уцёк,—пачуў ён у адказ.

— Быць не можа!

— Кажу табе ўцёк.

Генры выскачыў з-пад коўдры і кінуўся да сабак. Уважліва пералічыўшы іх, ён далучыў свой голас да праклёнаў, якія яго таварыш пасылаў па адрасу ўсясільнай Паўночнай Пустыні, якая адабрала ў іх яшчэ аднаго сабаку.

— Самы дужы сабака быў ва ўсёй запрэжцы,—закончыў сваю гутарку Біл.

— І кемлівы-ж,—дадаў Генры.

Такой з'яўлялася другая эпітафія за гэтыя два дні.

Снеданне прайшло нявесела; чацвёрку сабак, якая засталася, запрэглі ў сані. Дзень гэты прайшоў таксама, як і шмат іншых папярэдніх дзён. Падарожныя моўчкі ішлі па абледзянелай прасторы. Цішыня парушалася толькі выццём праследавальнікаў, якія гналіся за імі па слядах, не паказваючыся на вочы. З надыходам цемнаты, калі праследавальнікі на гэты раз падышлі бліжэй, выццё пачулася амаль побач; сабакі трывожыліся, дрыжэлі ад страху і ў паніцы зноў блыталі пастронкі, прыгнятаючы тэтым і без таго падаўленых людзей.

— Ну, бязмозглыя стварэнні, цяпер ужо нікуды не дзенецеся,—з задаволеным выглядам сказаў Біл.

Генры кінуў гатаваць і падышоў паглядзець. Яго таварыш не толькі прывязаў сабак, але прымацаваў іх, па індзейскаму спосабу да палак. На шыю кожнаму сабаку ён надзеў скураную пятлю. Да пятлі, каб сабака не мог дастаць яе зубамі, шчыльна да шыі прывязаў тоўстую палку ў чатыры-пяць футаў даўжынёй. Другі канец быў прымацован скураным рэмнем да загнанага ў зямлю кала. Сабакі не маглі перагрызці рамень каля шыі, а палкі перашкаджалі ім дастаць зубамі рамень ля кала.

Генры ўхвальна кіўнуў галавой.

— Аднавухага толькі такім чынам і можна стрымаць,—сказаў ён.—Ён, як нажом, скуру зубамі рэжа, і амаль з такой-жа быстрынёй. А так да раніцы ўсе цэлыя будуць.

— Ну яшчэ-б!—сказаў Біл.—Калі хоць адзін прападзе, я заўтра ад кофе адмоўлюся.

— А яны-ж ведаюць, што ў нас няма чым іх пастрашыць,—заўважыў Генры, кладучыся спаць і паказваючы на мігатлівы круг, які ачапіў стаянку.—Пальнуць-бы ў іх разок-другі—хутка-б пашану да нас адчулі. З кожнай ноччу ўсё бліжэй і бліжэй падбіраюцца. Адвядзі вочы ад агню, угледзься вунь у той бок. Ну? бачыў вунь таго?

Абодва пачалі з цікавасцю сачыць за няяснымі сілуэтамі, якія рухаліся ззаду агню. Пільна ўглядаючыся

ў тое месца, дзе ў цемнаце блішчэлі пара вачэй, можна было разгледзець, хоць і не адразу, абрысы жывёлы. Часамі ўдавалася нават заўважаць, як жывёлы пераходзяць з месца на месца.

Вазня сярод сабак прыцягнула ўвагу Біла і Генры. Нецярпліва скавычачы, Аднавухі то ірваўся з прывязі ў цемнату, то адступаў назад, з азвярэннем грызучы палку.

— Глядзі, Біл!—прашаптаў Генры.

У крут, асветлены агнём, ціханька, бокам прашмыгнуў звер, падобны да сабакі. Ён падыходзіў пужліва і ў той-жа час нагла, звярнуўшы ўсю ўвагу на сабак, але не выпускаючы з-пад увагі і людзей. Аднавухі кінуўся да прышэльца, наколькі дазваляла палка і нецярпліва заскавытаў.

— Гэты дурань, здаецца, нікольні не баіцца,—ціха сказаў Біл.

— Ваўчыца,—шапнуў Генры.—Цяпер я разумею, што здарылася з Фэці і з Фрогам. Стая выпускае яе, як прынаду. Яна прываблівае сабак, а астатнія накідаюцца і пажыраюць іх.

У агні нешта затрашчала. Палена адкацілася ўбок з моцным сіпеннем. Спалоханы звер адным прыжкком знік у цемры.

— Ведаеш, што я думаю, Генры?—сказаў Біл.

— Што?

— Гэта—той самы звер, якога я агрэў палкай.

— Тут і думаць няма чаго,—адказаў Генры.

— Я вось што хачу сказаць,—казаў далей Біл:—відаць, што ён прызвычаіўся да агню, і гэта мне здаецца падазроным.

— Ён ведае больш, чым належыць ведаць паважаючаму сябе ваўку,—згадзіўся Генры.—Воўк, які з'яўляецца да кармежкі сабак,—бывалы звер.

— У старога Вілэна быў калісьці сабака, які пайшоў разам з ваўкамі,—разважаў уголас Біл.—Добра гэта памятаю. Я яшчэ падстрэліў яго ў стаі ваўкоў на ласінай пашы ля Літл-Стыка. Стары Вілэн плакаў, як дзіця. Гаварыў, што цэлыя тры гады яго не бачыў. Ён усё з ваўкамі бегаў.

— Я думаю, што правільна разважаеш,—гэтаму не адзін раз даводзілася есці рыбу з рук чалавека.

— Калі мне толькі ўдасца, я яго заб'ю, няхай сабе ён будзе воўк ці не воўк! Нам больш нельга сабак губляць.

— Ды ў цябе-ж толькі тры патроны,—запярэчыў Генры.

— А я буду цэліцца без промаху,—адказаў Біл.

Раніцой Генры зноў расклаў агонь і заняўся гатаваннем снедання пад храпенне таварыша.

— Ужо вельмі ты добра спаў,—сказаў Генры, падымаючы Біла снедаць.—Будзіць цябе не хацелася.

Не прачнуўшыся яшчэ як трэба, Біл пачаў есці. Заўважыўшы, што кубак яго пусты, ён нагнуўся за кафейнікам. Але кафейнік стаяў каля Генры.

— Слухай, Генры,—сказаў ён з мяккім дакорам,— ты нічога не забыў?

Генры ўважліва азірнуўся вакол і паківаў галавой. Біл падаў яму пусты кубак.

— Ты не атрымаеш кофе,—абвясціў Генры.

— Няўжо ўвесь вышаў?—спалохана спытаў той.

— Не.

— Баішся, што ў мяне страваванне сапсуецца?

— Не.

Твар Біла пачырванеў ад гневу.

— Тады, можа быць, ты патурбуешся растлумачыць мне, у чым справа?—сказаў ён.

— Спэнкер уцёк,—адказаў Генры.

Павольна, з выглядам паўнейшай пакорлівасці Біл павярнуў галаву і, не крануўшыся з месца, пералічыў сабак.

— Як тэта здарылася?—абыякава запытаў ён.

Генры пацiснуў плячыма.

— Не ведаю. Мабыць, Аднавухі перагрыз яму рамень. Сам ён, вядома, не мог гэтага зрабіць.

— Праклятае стварэнне!—павольна і сур'ёзна сказаў Біл, нічым не выказваючы кіпеўшага ў ім гневу.— У сябе рамень перагрызці не мог, дык ён у Спэнкера перагрыз.

— Ну, для Спэнкера цяпер усе трывогі скончыліся. Ён зараз, напэўна, ужо перастрававаўся і імчыцца ў кішках дваццаці ваўкоў,—такую эпітафію прачытаў Генры гэтаму сабаку.—Выпі кофе, Біл.

Але Біл паківаў галавой.

— Ну, выпі,—настойваў Генры, падняўшы кафейнік. Біл адсунуў свой кубак.

— Няхай я буду пракляты, калі вып'ю! Сказаў, што не буду, калі сабака прападзе,—значыць не буду.

— Вельмі добрае кофе!—спакушаў яго Генры.

Але Біл паставіў на сваім і паснедаў усухамятку, запраўляючы яду нечленападзельнымі праклёнамі па адрасу Аднавухага, які выкінуў ім такую брыдкую штуку.

— Сёння ноччу я прывяжу іх усіх па аднаму,— сказаў Біл, калі яны рушылі ў дарогу.

Прайшоўшы не больш ста ярдаў, Генры, які ішоў уперадзе, нахіліўся і падняў нейкую рэч, якая папала яму пад лыжы. Было цёмна, ён не мог разгледзець, што гэта такое, але пазнаў навобмацак. Генры шпурнуў яе назад, так што рэч гэтая, стукнуўшыся аб сані, адскочыла прама да лыж Біла.

— Можа быць, табе гэта яшчэ спатрэбіцца,—сказаў Генры.

Біл ахнуў. Усё, што асталося ад Спэнкера,—палка, якая была прывязана яму да шыі.

— Начыста злопалі,—сказаў Біл.—І рамянёў на палцы не пакінулі. Добра-ж яны прагаладаліся, Генры... Хто ведае, як яшчэ скончыцца наша паездка?..

Генры задзірыста рассмяяўся.

— Хоць ваўкі ніколі за мной не ганяліся, але мне прыходзілася і горш гэтага, а ўсё-ж жывы застаўся. Адной жменькі дакучлівых стварэнняў яшчэ мала, каб даканаць твайго пакорлівага слугу, дружышча Біл!

— Не ведаю, не ведаю,—злавесным тонам прамармытаў той.

— Ну вось, калі будзем пад'язджаць да Мак-Гэры, тады даведаешся.

— Не вельмі я на гэта спадзяюся,—настойваў на сваім Біл.

— У цябе проста дрэнны настрой, і больш нічога,— безапеляцыйна заявіў Генры.—Табе трэба хіны прыняць. Вось, дай толькі да Мак-Гэры дабрацца, я табе дам порцыю.

Біл прабурчэў нешта, выказваўшы яго нязгоду з такім дыягназам, і змоўк.

Дзень прайшоў, як і ўсе папярэднія.

Рассвітала ў дзевяць гадзін. У дванаццаць гарызонт на поўдні паружавеў ад нябачнага ў гэтую пару года сонца, і настаў пахмурны дзень, які праз тры гадзіны павінна была паглынуць ноч.

Якраз у той момант, калі сонца зрабіла слабую спробу выглянуць з-за гарызонта, Біл дастаў з саней стрэльбу і сказаў Генры:

— Ты не спыняйся, Генры. Я пайду глянуць, што там робіцца.

— Трымаўся-б ты лепш каля саней,—параіў яму Генры.—У цябе-ж усяго тры патроны. Хто яго ведае, што можа здарыцца?..

— Ну, хто цяпер каркае?—урачыстым тонам запытаў той.

Генры змаўчаў і пайшоў далей адзін, увесь час трывожна азіраючыся ў пустынную імглу, у якой знік Біл.

Праз гадзіну Біл дагнаў сані.

— Яны разышліся ва ўсе бакі, і досыць далёка адзін ад аднаго,—сказаў ён,—але ад нас не адстаюць, хоць палююць за здабычай. Яны ўпэўнены, што мы не ўцячэм ад іх, толькі ведаюць, што прыдзецца пацярпець крыху, і тым часам не хочуць выпускаць нічога ядомага.

— Гэта значыць ім здаецца, што мы не ўцячэм ад іх,—падкрэсліў Генры.

Але Біл пакінуў гэтыя словы без увагі.

— Я некаторых бачыў. Вельмі худыя! Напэўна, ім даўно нічога не перападала, калі не лічыць Фэці, Фрога і Спэнкера. А іх так шмат, што яны з'елі і не пачулі. Здорава схудалі. Рэбры—як сціральная дошка, і жываты зусім падцягнула. Адным словам, дрэнныя іх справы. Таго і глядзі, ашалеюць, і тады трымай вуха востра!

Праз некалькі хвілін Генры, які ішоў цяпер за санямі, ціха, засцерагаючы свіснуў.

Біл азірнуўся і спакойна спыніў сабак. За паваротам, які яны толькі што прайшлі, адкрыта па іх свежых слядах бег пушысты звер. Прынюхваючыся

да слядоў, ён бег лёгкай, плаўнай рысцой. Калі людзі спыніліся, спыніўся і ён, выцягнуўшы да іх морду і ўцягваючы ўздрыгваўшымі ноздрамі пах людзей, які да яго далятаў.

— Ваўчыца,—сказаў Біл.

Сабакі ляглі на снег. Ён прайшоў міма іх да таварыша, што стаяў каля саней. Абодва пачалі разглядаць дзіўнага звера, які ўжо некалькі дзён праследаваў іх і знішчыў палову сабачай запрэжкі.

Пачакаўшы і азірнуўшыся, звер зрабіў некалькі крокаў уперад. Ён паўтараў тэты манеўр да таго часу, пакуль не падышоў да саней ярдаў на сто. Потым спыніўся каля кучкі хвоек, падняў морду і, паводзіўшы носам, пачаў уважліва сачыць за людзьмі, якія за ім назіралі У гэтым позірку было штосьці сумнае, нагадваючае позірк сабакі, але без ценю сабачай адданасці. Гэта быў сум, народжаны голадам, лютым, як воўчыя клыкі, бязлітасным, як сцюжа.

Для ваўка звер быў вялікі, і, не гледзячы на яго худобу, відаць было, што ён належыць да самых буйных прадстаўнікоў сваёй пароды.

— Ростам футы ў два з паловай,—вызначыў Генры.—І ў даўжыню напэўна каля пяці будзе.

— Не зусім звычайная масць для ваўка,—заўважыў Біл.—Я ніколі рыжых не бачыў. А гэты амаль карычневы.

Вядома, звер быў зусім не карычневай масці. Шэрсць у яго была зусім як у ваўка. Пераважаў у яе шэры волас, але лёгкае чырванаватае адценне, якое то знікала, то з'яўлялася зноў, стварала абманлівае ўражанне,—шэрсць здавалася то шэрай, то раптам пералівалася рыжаватай фарбай, якая цяжка падыходзіла пад звычайнае азначэнне гэтага колеру.

— Самы сапраўдны эскімоскі сабака, — сказаў Біл.—Таго і глядзі, хвастом завіляе.

— Гэй, ты, эскімос!—паклікаў ён.—Падыйдзі сюды... як там цябе называюць!

— Ды ён ані не баіцца,—засмяяўся Генры.

Яго таварыш голасна крыкнуў і пагразіў зверу кулаком, аднак той не выказаў ніякага страху. Можна было заўважыць толькі, што ваўчыца яшчэ больш насторажылася. Яна прадаўжала глядзець на іх усё

з той-жа бязлітаснай галоднай тугой. Перад ёй было мяса, а ваўчыца галадала. І калі-б у яе толькі хапіла смеласці, яна кінулася-б на людзей і зжэрла іх.

— Слухай, Генры,—сказаў Біл, несвядома паніз іўшы голас да шэпту пад уплывам сваіх думак.—У нас тры патроны. Але-ж яе можна напавал забіць. Тут не прамахнешся. Трох сабак як і не было,—трэба-ж пакласці канец гэтаму. Што ты на гэта скажаш?

Генры кіўнуў галавой у знак згоды.

Біл непрыкметна выцягнуў стрэльбу з саней, падняў быў яе, але так і не данёс да пляча. Якраз у гэты момант ваўчыца скокнула са сцежкі ўбок і схавалася сярод хвоек. Яны паглядзелі адзін на аднаго. Генры многазначна засвістаў.

— Ну, як-жа я не здагадаўся!—вылаяў сябе Біл, кладучы стрэльбу на месца.—Як-жа такому ваўку не ведаць стрэльбы, калі ён ведае час кармлення сабак! Кажу табе, Генры, ва ўсіх нашых няшчасцях яна вінавата. Калі-б не гэтае стварэнне, у нас зараз было-б шэсць сабак, а не тры. Успомні маё слова, Генры,—я да яе дабяруся. На адкрытым месцы яе не заб'еш—надта разумная. Але я яе выследжу. Я падстрэлю гэтае стварэнне з засады.

— Толькі далёка не адыходзь,—папярэдзіў яго спадарожнік.—Калі стая накінецца, тры патроны табе не дапамогуць. Гэтае звяр'ё надзвычай прагаладалася, а раз яны ўжо адважацца напасці, табе не здабраваць, Біл.

У гэтую ноч прывал быў зроблен рана. Тры сабакі не маглі цягнуць сані ні так хутка, ні так доўга, як гэта рабілі шэсць; яны прыкметна выбіліся з сіл. Абодва спадарожнікі хутка ляглі спаць, пасля таго як Біл прывязаў сабак як мага далей адзін ад аднаго, каб яны не перагрызлі рамнёў. Але ваўкі зрабіліся больш смелымі і ўначы не адзін раз будзілі людзей. Яны падыходзілі так блізка, што сабакі пачыналі шалець ад страху, і для таго, каб стрымліваць асмялеўшых драпежнікаў на адлегласці, прыходзілася ўвесь час падкідаць галля ў агонь.

— Я чуў ад маракоў, што акулы часам плаваюць за караблямі,—сказаў Біл, залазячы пад коўдру пасля адной з такіх прагулак да агню.—Дык вось, ваўкі—

гэта сухаземныя акулы. Яны сваю справу лепш нас з табой ведаюць і бягуць за намі зусім не для маціёна. Пападземся мы ім, Генры. Вось убачыш, пападземся.

— Ты ўжо напалову папаўся, калі столькі гаворыш пра гэта,—адрэзаў Генры.—Хто баіцца лупцоўкі, той ужо напалову адлупцаваны. Можна падумаць, што ты ўжо напалову з'едзены.

— Яны прыканчвалі людзей і лепшых чым мы з табой,—адказаў Біл.

— Ды кінь ты каркаць! Цярплівасці нехапае слухаць!

Генры сярдзіта перавярнуўся на другі бок, здзіўляючыся таму, што Біл змаўчаў. Гэта на яго не было падобна, таму што рэзкі тон лёгка выводзіў яго з цярпення. Генры доўга думаў аб гэтым, перш чым заснуць, але нарэшце павекі яго пачалі зліпацца, і ён заснуў з такой думкай: «Хандрыць Біл. Трэба будзе яго падбадзёрыць заўтра».

*Раздзел трэці*

## ПЕСНЯ ГОЛАДУ

Па пачатку дзень абяцаў удачу. За ноч не прапала ні аднаго сабакі, і спадарожнікі бадзёра рушылі ў дарогу сярод акружаючай іх цішыні, цемры і холаду. Біл як быццам не ўспамінаў аб змрочных прадчуваннях, якія трывожылі яго мінулай ноччу, і нават жартаваў над сабакамі, калі на адным з паваротаў яны перакулілі сані. Усё змяшалася ў кучу. Перакуліўшыся, сані захраслі паміж дрэвам і велізарным валуном, і каб разабрацца ва ўсёй гэтай блытаніне, прышлося распрэгчы сабак. Абодва нагнуліся над санямі, стараючыся падняць іх, як раптам Генры ўбачыў, што Аднавухі ўцякае ўбок.

— Назад, Аднавухі!—крыкнуў ён, устаючы з кален і паварачваючыся тварам да сабакі.

Але Аднавухі кінуўся бегчы, цягнучы па снезе пастронкі. А там, на толькі што пройдзенай імі дарозе, яго чакала ваўчыца. Падбегшы да яе бліжэй, Аднавухі натапырыў вушы, перайшоў на лёгкі дробны

крок і спыніўся. Ён глядзеў на яе ўважліва і недаверліва, але па ўсяму было відаць, што яго цягне да ваўчыцы. А яна як быццам усміхалася яму, хутчэй спачувальна, чым пагражаючы, скалячы зубы. Ваўчыца некалькі разоў гулліва падскочыла і спынілася. Аднавухі пайшоў да яе, усё яшчэ баючыся, насцярожана, задраўшы хвост, натапырыўшы вушы і высока падняўшы галаву.

Ён паспрабаваў абнюхаць яе, але ваўчыца адступіла назад, хітра заігрываючы з ім. Кожны раз, як ён рабіў крок уперад, яна адступала назад. І так, крок за крокам, ваўчыца вабіла Аднавухага за сабой, усё далей ад абароны людзей. Раз як быццам няясная падазронасць пранеслася ў яго ў галаве. Аднавухі павярнуў галаву і паглядзеў на перакуленыя сані, на сваіх таварышоў па запрэжцы і на клікаўшых яго людзей. Але калі што-небудзь падобнае і мільганула ў галаве ў сабакі, ваўчыца ўмомант развеяла ўсе яго падазрэнні; яна падышла, на адзін момант дакранулася да яго носам, а потым зноў пачала, гуляючы, адыходзіць усё далей і далей ад наступаўшага на яе Аднавухага.

Тым часам Біл успомніў аб стрэльбе. Але яна ляжала пад санямі, і пакуль Генры дапамог яму разабраць паклажу, Аднавухі і ваўчыца так блізка падышлі адзін да аднаго, што страляць на такой адлегласці было рызыкоўна.

Надта позна зразумеў Аднавухі сваю памылку. Яшчэ не дагадваючыся, у чым справа, Біл і Генры бачылі, як ён павярнуў і кінуўся бегчы ў кірунку да іх. Яны ўбачылі штук дванаццаць схудзеўшых шэрых ваўкоў, якія імчаліся пад прамым вуглом да дарогі, наперарэз Аднавухаму. У адзін момант ваўчыца пакінула ўсю сваю гуллівасць і здрадлівасць. З ровам кінулася яна на Аднавухага. Той адкінуў яе плячом, пераканаўся, што зваротны шлях адрэзан, і, усё яшчэ спадзяючыся дабегчы да саней, змяніў кірунак і кінуўся да іх па круту. З кожнай хвілінай ваўкоў рабілася ўсё больш і больш. Ваўчыца, не адстаючы, неслася за сабакам, трымаючыся на адлегласці аднаго прыжка ад яго.

— Куды ты?—раптам крыкнуў Генры, схапіўшы таварыша за плячо.

Біл скінуў яго руку.

— Досыць!—сказаў ён.—Больш яны ніводнага сабакі не атрымаюць!

Са стрэльбай у руцэ ён кінуўся ў хмызняк, што рос абапал дарогі. Яго намеры былі зусім ясныя. Прыняўшы сані за цэнтр круга, па якому бег сабака, Біл разлічваў перасячы яго паміж Аднавухім і яго праследавальнікамі. Сярод белага дня, маючы ў руках стрэльбу, адагнаць ваўкоў і выратаваць сабаку было зусім магчыма.

— Асцярожней, Біл! — крыкнуў яму наўздагон Генры.—Не рызыкуй дарэмна!

Генры сеў на сані і рашыў чакаць. Больш яму нічога не аставалася рабіць. Біл ужо знік з вачэй; у кустах і сярод растучых кучкамі хвоек то з'яўляўся, то зноў знікаў Аднавухі. Генры зразумеў, што становішча сабакі безнадзейнае. Ён вельмі добра разумеў небяспеку, але яму прыходзілася бегчы па знешняму кругу, тады як стая ваўкоў імчалася па ўнутранаму, і больш вузкаму. Нельга было і думаць, што Аднавухі здолее настолькі выперадзіць сваіх праследавальнікаў, каб перасячы іх дарогу і дабрацца да саней. Абедзве лініі кожную хвіліну маглі сустрэцца. Генры ведаў, што дзесьці там, у снягах, заслоненыя ад яго дрэвамі і зараснікам, у адным пункце павінны сыйсціся стая ваўкоў, Аднавухі і Біл.

Усё адбылося хутка, значна хутчэй, чым ён чакаў. Пачуўся стрэл, потым яшчэ два, адзін за адным,— Генры зразумеў, што зарады ў Біла вышлі. Услед за гэтым даляцелі моцны роў і віск. Генры адрозніў голас сабакі, якая завыла ад болю і жаху, і выццё раненага, як відаць, ваўка.

І ўсё. Выццё сціхла. Віск спыніўся. Над пустыняй зноў навісла цішыня.

Генры доўга сядзеў на санях. Яму не было чаго ісці туды. Усё было ясна, як быццам сустрэча Біла са стаяй адбылася ў яго на вачах. Толькі адзін раз ён ускочыў з месца і таропка выцягнуў з-пад саней сякеру; але затым зноў апусціўся на сані і доўга сядзеў нахмурыўшыся, а два ўцалеўшыя сабакі ціснуліся да яго ног і дрыжэлі ад страху.

Нарэшце, ён падняўся—так стомлена, нібы мускулы яго страцілі ўсякую пругкасць, і пачаў запрагаць сабак. Адзін пастронак ён надзеў сабе на плечы і разам з імі пацягнуў сані. Але ішоў ён нядоўга, і як толькі пачало цямнець, зрабіў прывал і прыгатаваў як мага больш галля. Потым накарміў сабак, павячэраў і прымасціў сабе пасцель каля сагана агню.

Але Генры не суджана было заснуць. Не паспеў ён заплюшчыць вочы, як ваўкі падышлі ледзь не да самага агню. Каб разгледзець іх, ужо не трэба было напружваць зрок. Цесным кальцом акружалі яны агонь, і Генры зусім ясна бачыў, як адны з іх ляжалі, другія сядзелі, трэція падпаўзалі на бруху бліжэй да агню або блукалі вакол яго. Некаторыя нават спалі. Яны скручваліся на снезе клубком па-сабачаму і спалі моцным сном, які цяпер быў яму недаступны.

Генры расклаў вялікі агонь, таму што ведаў, што толькі агонь з'яўляецца перашкодай паміж яго целам і клыкамі галодных ваўкоў. Абодва сабакі не адыходзілі ад чалавека, цягнуліся да яго, просячы аховы, вылі, вішчэлі і пачыналі шалёна раўці, калі які-небудзь воўк падбіраўся бліжэй астатніх. Пачуўшы роў сабак, увесь круг прыходзіў у рух, ваўкі ўскаквалі са сваіх месц і імкнуліся ўперад, нецярпліва выючы і равучы. Потым зноў клаліся на снезе і адзін за адным пачыналі засынаць.

Круг звужаўся ўсё цясней і цясней. Паволі, дзюйм за дзюймам, то адзін, то другі воўк паўзком падкрадваўся ўперад, пакуль усе яны не былі на адлегласці амаль аднаго прыжка ад Генры. Тады ён хапаў з агню галавешкі і кідаў імі ў стаю. Гэта выклікала хуткае адступленне, якое суправаджалася раз'юшаным выццём і спалоханым ровам, калі пушчаная трапнай рукой галавешка пападала ў якога-небудзь вельмі смелага ваўка.

Раніца застала Генры асунуўшымся і змучаным, вочы ў яго запалі ад бяссоннай ночы. У цемнаце ён зварыў сабе снеданне, а ў дзевяць гадзін, калі дзённае святло разагнала ваўкоў, узяўся за справу, якую абдумаў за доўгія начныя гадзіны. Ссекшы некалькі маладых хвоек, ён зрабіў з іх памост і прывязаў яго вы-

сока да дрэў. Затым, пры дапамозе сабак, падняў на канаце труну і паставіў яе на гэтым памосце.

— Да Біла дабраліся, і да мяне, можа быць, таксама дабяруцца, але вас, малады чалавек, яны не дастануць,—сказаў ён, звяртаючыся да нябожчыка, пахаванага высока на дрэвах.

Пасля гэтага Генры рушыў у дарогу. Пустыя сані лёгка падскоквалі за прыбавіўшымі ходу сабакамі, якія таксама ведалі, што небяспека міне іх толькі тады, калі яны дабяруцца да форта Мак-Гэры.

Цяпер ваўкі праследавалі яго яшчэ больш адкрыта, спакойнай рысцой беглі яны ззаду саней і побач, высунуўшы языкі, варушачы худымі бакамі. Ваўкі былі да таго худыя,—скуры ды косці, толькі мускулы выступалі, як вяроўкі,—што Генры здзіўляўся, як яны трымаюцца на нагах і не валяцца ў снег.

Ён баяўся, што цемната насцігне яго ў дарозе. У поўдзень сонца не толькі сагрэла паўднёвую частку неба, але нават бледны залацісты абадок паказаўся над гарызонтам. Генры прыняў гэта як добрую адзнаку. Дні рабіліся даўжэйшымі. Сонца даўжэй заставалася на небе. Але як толькі ветлівыя прамені яго змерклі Генры зрабіў прывал. Да поўнай цемнаты заставалася яшчэ некалькі гадзін шэрага дзённага святла і сумнага змяркання, і ён ужыў іх на тое, каб назапасіць, як мага больш галля.

Разам з ноччу да яго прышоў жах. Ваўкі асмялелі ды і праведзеная без сну ноч зрабіла свой уплыў на Генры. Захутаўшыся ў коўдру, паклаўшы сякеру паміж кален, ён скурчыўся каля агню і ніяк не мог перамагчы сон. Абодва сабакі шчыльна ціснуліся да яго. Адзін раз ён прачнуўся і на адлегласці якіх небудзь дванаццаці футаў ад сябе ўбачыў вялікага шэрага ваўка аднаго з самых буйных ва ўсёй стаі. Звер павольна пацягнуўся, як лянівы сабака, усёй пашчай пазяхнуў Генры прама ў твар, пазіраючы на яго, як на сваю ўласнасць, нібы чалавек быў усяго толькі здабычай, якая рана ці позна, а дастанецца яму.

Такая ўпэўненасць адчувалася ў паводзінах усёй стаі. Генры налічыў штук дваццаць ваўкоў, якія ўтаропіліся на яго галоднымі вачыма або спакойна спалі на снезе. Яны нагадвалі яму дзяцей, якія сабраліся ва-

кол накрытага стала і чакаюць толькі дазволу, каб пачаць есці. І гэтай ядой суджана стаць яму! Ён задаваў сабе пытанне: калі-ж ваўкі пачнуць свой бал?

Падкладаючы суччa ў агонь, Генры заўважыў, што цяпер ён зусім па-новаму адносіцца да свайго цела. Ён назіраў за работай мускулаў і з цікавасцю разглядаў хітры механізм пальцаў. Пры святле агню ён некалькі разоў згінаў іх, то па-аднаму, то ўсе адразу, то растапырваў, то хутка сціскаў у кулак. Ён вывучаў будову пазногцяў, пастукваў кончыкамі пальцаў то мацней, то больш мякка, правяраючы чуллівасць сваёй нервовай сістэмы. Усё гэта захапляла Генры, і ён раптам адчуў вялікае замілаванне да свайго цела, якое працавала так лёгка, так дакладна і дасканала. Потым ён кідаў баязлівы позірк на ваўкоў, якія змыкаліся вакол яго ўсё цясней, і яго, быццам громам, паражала раптам думка, што гэтае цудоўнае цела, гэтая жывая плоць ёсць не што іншае, як мяса—прадмет прагнасці пражорлівых звяроў, якія разарвуць, раздзяруць яго сваімі клыкамі, заспакояць ім голад, таксама як ён сам не раз заспакойваў свой голад мясам лося і труса. Ён прачнуўся ад дрымоты, якая межавалася з кашмарам, і ўбачыў перад сабой рыжую ваўчыцу. Яна сядзела на адлегласці якіх-небудзь шасці футаў ад агню і тужліва пазірала на чалавека. Абодва сабакі скуголілі і раўлі ля яго ног, але ваўчыца не звяртала на іх ніякай увагі. Яна глядзела на чалавека, і на працягу некалькіх хвілін ён адказваў ёй тым-жа. У ваўчыцы не было нічога страшнага. У вачах яе свяціўся вялікі сум, але Генры ведаў, што сум гэты народжан страшэнным голадам. Ён быў стравай, а бачачы гэтую страву ў ваўчыцы ўзбуджаліся смакавыя адчуванні. Пашча яе была разяўлена, слюна капала на снег, і ваўчыца аблізвалася, прадчуваючы асалоду.

Шалёны страх апанаваў Генры. Ён хутка працягнуў руку за галавешкай, каб кінуць ёю ў ваўчыцу. Але не паспеў ён і дакрануцца да галавешкі, як ваўчыца адскочыла назад, і ён здагадаўся, што звер гэты прывык да таго, каб у яго кідалі чым папала. Адскокваючы назад, ваўчыца агрызнулася, вышчарыўшы белыя клыкі да самых дзяснаў; вочы яе страцілі ўсю сваю тугу і засвяціліся такой крыважэрнай злосцю, што Генры

ўздрыгануўся. Ён зірнуў на сваю руку, заўважыў, з якой спрытнасцю пальцы трымалі галавешку, як яны прыладжваліся да ўсіх яе няроўнасцей, ахопліваючы з усіх бакоў грубае дрэва, як мізенец, міжвольна, сам па сабе адсунуўся далей ад гарачага месца,—і ў тую-ж хвіліну ён ясна ўявіў сабе, як белыя зубы ваўчыцы ўразаюцца ў гэтыя тонкія, далікатныя пальцы і рвуць іх. Ніколі яшчэ Генры не любіў свайго цела так, як цяпер, калі існаванне яго было такім нетрывалым.

Усю ноч Генры адбіваўся ад галоднай стаі палаючымі галавешкамі, а калі змагацца са сном ужо нехапала сілы, яго абуджвалі віск і выццё сабак. Надышла раніца, але ўпершыню за ўвесь час ваўкі не разбегліся ад дзённага святла. Чалавек дарэмна чакаў гэтага. Яны па-ранейшаму акружалі агонь кальцом і глядзелі на Генры з такой наглай упэўненасцю, што ён зноў страціў мужнасць, якая вярнулася была да яго разам з дзённым святлом.

Генры зрабіў смелую спробу рушыць у дарогу, але як толькі ён вышаў з пад аховы агню, як на яго кінуўся самы смелы воўк са стаі; аднак, прыжок быў дрэнна разлічаны, і воўк прамахнуўся. Генры выратаваўся толькі тым, што адскочыў назад, і зубы ваўка ляснулі ў якіх-небудзь шасці дзюймах ад яго бядра.

Уся стая, ускочыўшы на ногі, кінулася да яго, і толькі палаючыя галавешкі адагналі яе на значную адлегласць.

Нават удзень Генры не адважваўся адыйсці ад агню, каб насякчы сукоў. Футаў за дваццаць ад стаянкі стаяла велізарная засохшая хвоя. Ён патраціў палову дня, каб расцягнуць да яе ланцуг агню, увесь час трымаючы напагатове для сваіх ворагаў некалькі палаючых галінак. Дабраўшыся да дрэва, ён азірнуўся вакол, выглядаючы, дзе больш галля, каб зваліць хвою ў тым кірунку.

Гэтая ноч прайшла таксама, як і папярэдняя, з той толькі розніцай, што Генры амаль не мог змагацца са сном. Ён ужо не прачынаўся ад рову сабак. Да таго-ж яны рыкалі, не сціхаючы,—і яго стомлены, ахоплены дрымотай мозг ужо не разбіраўся ў адценнях рыку.

Раптам ён прачнуўся, як быццам ад штуршка. Ваўчыца стаяла на адлегласці якога-небудзь кроку ад

яго. Машынальна, не выпускаючы галавешкі з рук, ён ткнуў ёю ў вышчараную пашчу ваўчыцы. Яна адскочыла назад, выючы ад болю, а Генры з асалодай удыхаў пах смаленай шэрсці і гарэлага мяса, гледзячы, як звер трасе галавой і злосна рыкае ўжо ў некалькіх футах ад яго.

Але на гэты раз, перш чым заснуць, ён прывязаў да правай рукі тлеючы хваёвы сучок. Ледзь толькі Генры заплюшчыў вочы, як боль ад апечаных месц прымушаў яго прачнуцца. Так прадаўжалася некалькі гадзін. Прачынаючыся, ён адганяў ваўкоў палаючымі галавешкамі, падкідаў у агонь галля і зноў прыладжваў сучок на руку. Усё ішло добра; але ў адно з такіх прачынанняў Генры дрэнна прывязаў сучок, і як толькі вочы яго заплюшчыліся, ён выпаў у яго з рукі.

Яму сніўся сон. Форт Мак-Гэры. Цёпла. Утульна. Ён гуляе ў крыбэдж з начальнікам факторыі. І яму сніцца, што ваўкі асаджаюць форт. Ваўкі выюць ля самых варот, і яны з начальнікам часамі адрываюцца ад гульні, каб прыслухацца да выцця і пасмяяцца над дарэмнымі намаганнямі ваўкоў пранікнуць унутр форта. Потым—які дзіўны сон яму сніўся!—пачуўся трэск. Дзверы расчыніліся насцеж. Ваўкі ўбеглі ў пакой. Яны кінуліся на яго і на начальніка. Як толькі дзверы расчыніліся, выццё стала нясцерпна моцным і трывожыла яго. Сон прымаў нейкія іншыя абрысы, Генры не мог яшчэ зразумець—якія, але выццё не спынялася ні на адну хвіліну.

А потым ён прачнуўся і пачуў выццё ўжо наяве. Навакол панаваў аглушальны рык і брэх. Ваўкі кінуліся на Генры. Усе яны былі тут—каля яго, над ім. Нечыя зубы ўеліся яму ў руку. Інстыктыўна ён ускочыў у агонь і, прыгаючы, адчуў, як вострыя зубы раанулі яго па назе. І вось пачалася барацьба агнём. Тоўстыя рукавіцы абаранялі яго рукі ад агню, ён поўнымі жменямі раскідваў ва ўсе бакі палаючае вугалле, і касцёр стаў пад канец чымсьці накшталт вулкана.

Але гэта не магло працягвацца доўга. Твар у Генры пакрыўся пузырамі, бровы і расніцы былі абсмаленыя, і гарачыня рабілася нясцерпнай. Схапіўшы ў кожную

руку па галавешцы, ён скочыў бліжэй да краю агню. Ваўкі адступілі. Па абодвух баках, усюды, куды толькі падала палаючае вугаллё, сіпеў снег, і па велізарных прыжках, фырканню і рыку якога-небудзь адступаючага ваўка можна было здагадацца, што ён наступіў на вугаль.

Раскідаўшы галавешкі, чалавек скінуў тлеючыя рукавіцы і пачаў таптаць па снезе нагамі, каб ахаладзіць іх. Абодва сабакі зніклі, і ён вельмі добра ведаў, што яны з'явіліся чарговай стравай на тым прыпозненым балю, які пачаўся з Фэці і ў адзін з бліжэйшых дзён, можа быць, закончыцца ім самім.

— А ўсё-ж вы яшчэ не дабраліся да мяне!—крыкнуў ён, з лютай злосцю пагразіўшы кулаком галодным звярам.

Пачуўшы яго голас, уся стая ўстрывожылася, зарыкала, а ваўчыца падкралася яшчэ бліжэй і ўтаропіла на яго тужлівыя, галодныя вочы.

Генры пачаў абдумваць новую мысль, якая прышла яму ў галаву. Расклаўшы агонь шырокім кальцом, ён кінуў на талы снег сваю пасцель і сеў на ёй унутры гэтага кальца. Як толькі чалавек схаваўся за вогненнай агарожай, уся зграя з цікаўнасцю акружыла агонь, каб паглядзець, куды ён дзяваўся. Да гэтага часу ім не было доступу да агню, а цяпер яны ўселіся вакол яго цесным кругам і, як сабакі, жмурыліся, пазяхалі і пацягваліся ў непрывычным для іх цяпле. Потым ваўчыца села, узняла морду да зорак і пачала выць. Ваўкі адзін за адным падцягвалі ёй, і, нарэшце, уся зграя села на заднія лапы і, узняўшы морды да неба, зацягнула песню голаду.

Пачало світаць, потым надышоў дзень. Агонь дагараў. Галлё ўсё выходзіла, трэба было аднавіць запас. Чалавек паспрабаваў выйсці за межы вогненнага кальца, але ваўкі кінуліся яму насустрач. Палаючыя галавешкі прымушалі іх адскакваць у бакі, але назад яны ўжо не ўцякалі. Дарэмна стараўся Генры пратнаць іх. Пераканаўшыся, нарэшце, у безнадзейнасці гэтай спробы, ён адступіў унутр палаючага кальца, і ў гэты час воўк прыгнуў на яго, але прамахнуўся і ўсімі чатырма лапамі папаў у агонь. Выючы і рыкаючы ад страху, звер адпоўз ад агню, каб астудзіць на снезе апечаныя лапы.

Генры, згорбіўшыся, сядзеў на коўдры, уткнуўшы ў калені галаву. Па бязвольна апушчаных плячах і паніклай галаве можна было зразумець, што чалавек адмовіўся ад барацьбы. Час ад часу ён падымаў галаву і глядзеў на агонь, які дагараў. Кальцо агню і гарачых вуголляў ужо дзе-ні-дзе разамкнулася, распалася на асобныя агні. Вольны праход між імі ўсё павялічваўся, а агні памяншаліся.

— Ну, цяпер вы, здаецца, можаце мяне злопаць,— прамармытаў Генры.—Мне ўсёроўна, я хачу спаць...

Прачнуўшыся на секунду, ён убачыў паміж двума агнямі прама перад сабой ваўчыцу, якая глядзела на яго праніклівым позіркам.

Праз некалькі хвілін, якія здаліся яму гадзінамі, ён зноў прачнуўся. Адбылася нейкая незразумелая перамена,—настолькі незразумелая для яго, што ён адразу прачнуўся. Нешта здарылася. Спачатку ён не мог зразумець, што іменна. Потым здагадаўся. Ваўкі зніклі. Толькі па вытаптанаму навокал снезе можна было меркаваць, на колькі блізка яны падабраліся да яго.

Хваля дрымоты зноў ахапіла Генры, галава яго схілілася на калені, але раптам ён уздрыгануўся і прачнуўся.

Аднекуль даляталі людскія галасы, скрып саней, нецярплівае скавытанне сабак. З боку ракі да стаянкі між дрэвамі пад'язджалі чацвера саней. Шэсць чалавек акружылі Генры, які скурчыўся ў кальцы патухаючага агню. Яны расштурхвалі і трэслі яго, стараючыся вярнуць яго да прытомнасці. Ён паглядзеў на іх, як п'яны, і прамармытаў дзіўным, вялым голасам:

— Рыжая ваўчыца... прыходзіла да кармёжкі сабак... Спачатку зжэрла сабачы корм... потым сабак... А потым зжэрла і Біла..

— Дзе лорд Альфрэд?—крыкнуў яму ў самае вуха адзін з прыехаўшых, груба трасануўшы яго за плячо.

Ён павольна паківаў галавой.

— Яго яна не зжэрла... Ён там, на дрэвах... ля апошняй стаянкі.

— Памёр?—крыкнуў той.

— Так. У труне,—адказаў Генры.

Ён сярдзіта тузануў плячом, вызваляючыся ад чалавека, які нахіліўся над ім.

— Пакіньце мяне ў спакоі, я ні на што не прыгодны. Спакойнай ночы...

Павекі яго задрыжэлі, і закрыліся, галава схілілася на грудзі. І як толькі ён лёг на коўдры, у марозным паветры пачулася моцнае храпенне.

Але, апрача храпення, чуліся і іншыя гукі. Здалёк, ледзь улоўнае на такой адлегласці, даносілася выццё галоднай стаі, якая пагналася за другой здабычай узамен толькі што ўлізнуўшага чалавека.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

*Раздзел першы*

## БІТВА КЛЫКОЎ

Ваўчыца першая пачула гукі чалавечых галасоў і скавытанне ездавых сабак, і яна-ж першая адскочыла ад чалавека, загнанага ў круг патухаючага агню. Неахвотна расстаючыся з ужо злоўленай здабычай, стая памарудзіла некалькі хвілін, прыслухоўваючыся, а потым кінулася па следу ваўчыцы.

На чале стаі бег вялікі шэры воўк, адзін з яе важакоў. Ён і накіраваў стаю па пятах ваўчыцы, засцерагаючы выскаляючыся на больш маладых членаў стаі і адганяючы іх ударамі клыкоў, калі тыя асмельваліся забягаць наперад. І гэта ён прыбавіў ходу, угледзеўшы ўперадзе ваўчыцу, павольнай рысцой бегшую па снезе.

Ваўчыца пабегла побач з ім, як быццам месца гэтае было прызначана для яе, і ўжо больш не аддалялася ад стаі. Важак не рыкаў і не вышчараў зубоў на ваўчыцу, калі выпадковы прыжок выносіў яе наперад. Наадварот, ён, як відаць, быў вельмі прыхільны да яе,—з яе пункту гледжання нават вельмі прыхільны, таму што стараўся ўвесь час бегчы побач, і калі ён падбягаў вельмі блізка, то сама ваўчыца рыкала і вышчарала зубы. Часам яна не спынялася нават і перад тым, каб куснуць яго за плячо. У такіх выпадках важак зусім не выказваў злосці, а толькі адскакваў убок і рабіў некалькі нязграбных прыжкоў уперад, усім сваім выглядам і паводзінамі нагадваючы збянтэжа-

нага вясковага хлапца. Гэта было адзіным, што перашкаджала яму кіраваць стаяй, але ваўчыцу перамагалі іншыя непрыемнасці. З правага боку ад яе бег худы вялікі воўк, на шэрай скуры якога былі сляды многіх бітваў. Ён увесь час трымаўся з правага боку ад ваўчыцы. Тлумачылася гэта тым, што ў яго было толькі адно вока, левае. Стары воўк увесь час цясніў яе, тыкаючыся сваёй, пакрытай рубцамі мордай то ў бок ваўчыцы, то ў плячо, то ў шыю. Яна сустракала яго ўвіванні лясканнем зубоў, таксама як і ўвіванні самца, што бег злева, і калі абодва яны пачыналі чапляцца да яе адначасова, ваўчыцы прыходзілася туга,—трэба было рвануць зубамі абодвух, у той-жа час не адставаць ад стаі і глядзець сабе пад ногі. У такія хвіліны абодва самцы пагражаюча рыкалі і вышчаралі адзін на аднаго зубы. У другі час яны-б пабіліся, але зараз нават каханне і суперніцтва ўступалі месца больш моцнаму пачуццю, пачуццю голаду, які мучыў усю стаю.

Пасля кожнага адпору стары воўк адскакваў ад востразубай ваўчыцы і сутыкаўся з маладым трохгодкам, які бег справа, з боку яго сляпога вока. Малады воўк быў не меншы за старых і, калі прыняць пад увагу слабасць і схудаласць астатніх ваўкоў, вылучаўся з усёй стаі сваёй сілай і смеласцю. І ўсё-ж ён бег так, што галава яго была роўна з плячом аднавокага ваўка. Як толькі ён адважваўся параўняцца з ім (што здаралася досыць рэдка), стары рыкам і ўдарамі клыкоў зараз-жа асаджваў яго на ранейшае месца.

Аднак, часам малады адставаў і ўпотай праціскаўся паміж старым важаком і ваўчыцай. Гэты манеўр сустракаў падвойны, нават трайны адпор. Як толькі ваўчыца пачынала нездаволена рыкаць, стары важак рабіў круты паварот і накідаўся на трохгодка. Часам разам са старым на яго накідалася і ваўчыца, а часам да іх далучаўся і малады важак, які бег злева.

У такіх выпадках, сустрэўшы тры раз'юшаныя пашчы, малады воўк спыняўся, як укопаны, асядаў на заднія лапы і, увесь натапырыўшыся, шчэрыў зубы. Замяшанне на чале стаі нязменна суправаджалася замяшаннем у задніх яе радах. Ваўкі, якія беглі ззаду, натыкаліся на маладога ваўка і выказвалі сваё незадавальненне тым, што злосна кусалі яго за заднія лапы

і за бакі. Яго становішча было небяспечнае, таму што недахоп ежы і злосць звычайна спадарожнічаюць адно з другім. Але бязмежная самаўпэўненасць маладосці штурхала яго на паўтарэнне гэтых спроб, хоць яны не мелі ніякага поспеху і прыносілі яму толькі адны непрыемнасці.

Калі-б папалася ваўкам ежа—любоў і барацьба зараз-жа авалодалі-б стаяй, і яна разбеглася-б. Але становішча яе было жудаснае. Ваўкі аслаблі ад доўгай галадоўкі і рухаліся ўперад больш павольна, чым звычайна. У хвасце пляліся самыя слабыя—маладняк і старыя ваўкі. Наперадзе ішлі самыя дужыя. Усе яны падобны былі хутчэй на шкілеты, чым на сапраўдных ваўкоў. І ўсё-ж у рухах ваўкоў, за выключэннем самых слабых, не было відаць ні зморанасці, ні самага малога напружання. Здавалася, што ў іх мускулах, выступаўшых на целе, як вяроўкі, хаваецца невычарпальны запас энергіі. За кожным рухам стальнога мускула наступаў другі рух, за ім—трэці, чацверты,— і так без канца.

У гэты дзень ваўкі прабеглі шмат міль. Яны беглі ўсю ноч. Надышоў наступны дзень, а яны ўсё яшчэ беглі. Беглі па абледзянелай, мёртвай прасторы. Нідзе ніякіх адзнак жыцця. Толькі яны адны рухаліся ў гэтай застыўшай пустыні. Толькі ў іх адных было жыццё, і яны рыскалі ў пошуках за іншымі жывымі істотамі, каб разарваць іх і прадоўжыць сваё жыццё.

Ваўкам прышлося перайсці не адзін водападзел і абагнуць не адзін ручай у нізінах, перш чым пошукі іх скончыліся поспехам. Нарэшце, яны сустрэлі лася. Першай іх здабычай быў вялікі лось-самец. Тут было жыццё, было мяса, і яго не ахоўвалі ні таямнічы агонь, ні галавешкі, якія лёталі ў паветры. Раздвоеныя капыты і галіністыя рогі былі знаёмы ваўкам, і яны адкінулі сваё звычайнае цярпенне і асцярожнасць. Бітва была кароткай і заўзятай. Лося акружылі з усіх бакоў. Спрытнымі ўдарамі цяжкіх капытоў ён распорваў ваўкам жываты, праломліваў чэрапы, ламаў ім косці велізарнымі рагамі. Лось падмінаў іх пад сябе, качаючыся па снезе, але ён быў асуджан на пагібель і нарэшце паваліўся. Ваўчыца з разлютаванасцю ўпілася яму ў горла, а зубы астатніх ваўкоў рвалі жывё-

ліну на часткі—жыўцом, не чакаючы, пакуль ён перастане змагацца.

Ежы было ўволю. Лось важыў звыш васьмісот фунтаў—па дваццаць фунтаў на кожную глотку стаі. Калі ваўкі са здзіўляючай вытрымкай маглі пасціцца, то хуткасць, з якой яны пажыралі ежу, была не менш дзіўнай, і неўзабаве ад прыгожай, поўнай сіл жывёліны, якая сустрэлася некалькі гадзін таму назад са стаяй, асталося толькі некалькі раскіданых па снезе касцей.

Цяпер ваўкі падоўгу адпачывалі і спалі. Насыціўшыся, маладзейшыя самцы пачалі сварыцца і біцца, і гэта не спынялася на працягу ўсіх астатніх дзён, якія надышлі перад распадам стаі. Голад скончыўся. Ваўкі дайшлі да багатых дзічынай месц, і хоць яны ўсё яшчэ палявалі стаяй, але дзейнічалі ўжо з вялікай асцярожнасцю, адразаючы ад невялікіх ласіных стадаў, якія пападаліся ім па дарозе, цельных самак або старых хворых лосяў.

І вось надышоў дзень, калі ў гэтай краіне багатай дзічынай воўчая стая разбілася на дзве. Ваўчыца, малады важак, які бег злева ад яе, і аднавокі, што бег справа, павялі сваю палову стаі на ўсход, у кірунку да ракі Макензі, праз мясцовасць, дзе было шмат азёр. Палова стаі, якая засталася з імі, памяншалася з кожным днём. Ваўкі разбіліся на пары—самец з самкай. Часам вострыя зубы саперніка адганялі прэч якога-небудзь адзінокага ваўка. І, нарэшце, яны асталіся ўчатырох—ваўчыца, малады важак, аднавокі і дзёрзкі трохгодак.

Ваўчыца к гэтаму часу проста разлютавала. Сляды яе зубоў былі ва ўсіх трох ухажвальнікаў. Але ваўкі ні разу не адказалі ёй тым-жа, ні разу не паспрабавалі абараняцца. Яны толькі падстаўлялі плечы пад яе самыя лютыя ўкусы і, круцячы хвастамі, драбязілі вакол ваўчыцы, стараючыся ўціхамірыць яе гнеў. Але калі ў адносінах да самкі ваўкі здаваліся ўвасабленнем лагоднасці, то ў адносінах адзін да аднаго яны былі ўвасобленая злосць. Лютасць трохгодка перайшла ўсе межы. Ён падляцеў да старога ваўка з боку яго сляпога вока і на кавалачкі разарваў яму вуха. Але сівы стары, які бачыў толькі адным вокам, заклікаў на дапамогу супроць маладосці і сілы ўсю сваю доўгалет-

нюю мудрасць і ўвесь свой вопыт. Яго крывое вока і спаласаваная рубцамі морда досыць красамоўна казалі пра тое, якога роду быў гэты вопыт. Вельмі шмат бітваў прышлося яму перажыць на сваім вяку, каб хоць на адну хвіліну задумацца над тым, што яму трэба зрабіць.

Бітва пачалася сумленна, але несумленна скончылася. Цяжка было загадзя меркаваць аб яе выніку, але да старшага ваўка далучыўся трэці, і стары і малады важакі разам накінуліся на дзёрзкага трохгодка, парашыўшы расправіцца з ім. Бязлітасныя клыкі былых таварышоў уядаліся ў яго з усіх бакоў. Забыліся тыя дні, калі ваўкі разам палявалі, здабыча, якую яны разам забівалі, голад, які аднолькава мучыў іх усіх. Усё гэта было мінулай справай. Зараз перад імі стаяла любоў, яшчэ больш жорсткая і бязлітасная, чым голад.

Тым чысам ваўчыца—прычына ўсіх разладаў—села са здаволеным выглядам на снезе і пачала сачыць за бітвай. Ёй гэта нават спадабалася. Надышла яе гадзіна,—а гэта здараецца рэдка,—калі шэрсць устае дыбам, клык удараецца аб клык, рве, паласуе падатлівае цела,—і ўсё гэта толькі дзеля таго, каб авалодаць ёю.

І малады воўк, які ўпершыню ў сваім жыцці сутыкнуўся з каханнем, аддаў з-за яго сваё жыццё. Абодва супернікі стаялі над яго целам. Яны глядзелі на ваўчыцу, якая сядзела на снезе і ўсміхалася ім. Але старэйшы важак быў вельмі мудры—мудры ў справах кахання не менш, чым у бітвах. Малады важак павярнуў галаву, каб залізаць рану на плячы. Загрывак яго быў звернут прама да суперніка. Сваім адзіным вокам старэйшы ўбачыў, што яму здараецца зручны выпадак. Кінуўшыся стралой на маладога ваўка, ён разануў яго клыкамі па шыі, пакінуўшы на ёй велізарную глыбокую рану і ўспароўшы вену. Потым ён адскочыў назад.

Малады важак зароў, але яго страшны рык зараз-жа перайшоў у сударажны кашаль, паражоны насмерць, зыходзячы крывёй, ён кінуўся на старэйшага важака, але жыццё ўжо пакідала яго, ногі падкошваліся, вочы засцілаў туман, удары і прыжкі рабіліся ўсё слабей і слабей.

А ваўчыца сядзела ўбаку і ўсміхалася. Відовішча бітвы выклікала ў ёй нейкае невыразнае пачуццё радасці.

Калі малады воўк ляжаў на снезе, ужо не рухаючыся, Аднавокі гордым поступам накіраваўся да ваўчыцы. Урачыстасць пераможцы змешвалася ў ім з асцярожнасцю. Ён прастадушна чакаў рэзкага прыёму і таксама прастадушна здзівіўся, калі ваўчыца не ашчэрыла на яго зубоў. Упершыню за ўвесь час яго сустрэлі так ласкава. Яна абнюхалася з ім і нават пачала скакаць і гуляць, зусім як шчанё. І Аднавокі, забыўшы свой стары ўзрост і ўмудранасць вопытам, таксама ператварыўся ў шчанка, бадай, нават яшчэ больш дурнога, чым ваўчыца.

Забыты былі і пераможаныя супернікі, і аповесць аб каханні, крывёю напісаная на снезе. Толькі аднаго разу напомнілі яны аб сабе, калі Аднавокі спыніўся на хвіліну, каб залізаць раны. І тады губы яго злосна задрыжэлі, шэрсць на шыі і на плячах паднялася дыбам, кіпцюры сударгава ўеліся ў снег, цела выгнулася, прыгатаваўшыся да прыжка. Але ў наступную-ж хвіліну ўсё было забыта, і ён кінуўся ўслед за ваўчыцай, якая чулліва вабіла яго ў лес.

А затым яны пабеглі побач, як добрыя сябры, якія прышлі, нарэшце, да ўзаемнага пагаднення. Дні ішлі, а яны не разлучаліся адно з адным,—разам гналіся за здабычай, разам забівалі яе, разам з'ядалі. Але праз некаторы час ваўчыцай аўладала трывога. Здавалася, яна штосьці шукае і ніяк не можа знайсці. Яе вабілі да сябе зацішныя месцейкі пад зваліўшыміся дрэвамі, і яна праводзіла цэлыя гадзіны, абнюхваючы зацярушаныя снегам расколіны ў кручах і пячоры пад навіслымі берагамі ракі. Старога ваўка ўсё гэта нікольки не цікавіла, але ён добрадушна ішоў за ёй, а калі ў некаторых месцах пошукі ваўчыцы зацягваліся больш звычайнага, Аднавокі клаўся на снег і чакаў яе звароту.

Не затрымліваючыся доўга на адным месцы, яны прабеглі ўсю краіну і, дайшоўшы да ракі Макензі, адправіліся ўздоўж берага, час ад часу зварочваючы ў пошуках здабычы на невялікія прытокі, але нязменна варочаючыся да ракі. Часамі ім пападаліся другія ваўкі, якія брадзілі звычайна парамі; але ні той, ні

другі бок не выказваў ні радасці пры сустрэчы, ні прыязных пачуццяў, ні жадання зноў сабрацца ў стаю. Сустракаліся ім і адзінокія ваўкі. Гэта заўсёды бывалі самцы, якія стараліся як-небудзь далучыцца да Аднавокага і яго падругі. Але Аднавокі не дапускаў гэтага, і варта было толькі ваўчыцы стаць побач з ім, натапырыцца і ашчэрыць зубы, як навязчывыя ваўкі адыходзілі, адступалі і зноў пускаліся ў свой адзінокі шлях.

Неяк аднаго разу, калі яны беглі месячнай ноччу па заціхшаму лесу, Аднавокі раптам спыніўся. Ён узняў кверху морду, выпраміў хвост і, раздуўшы ноздры, пачаў нюхаць паветра. Потым падняў пярэднюю лапу, як сабака на стойцы. Ён быў устрывожан і не спыняў унюхвацца, стараючыся разгадаць вестку, якая неслася па паветры. Ваўчыцы досыць было толькі раз пацягнуць носам, і яна пабегла далей, падбадзёрваючы свайго спадарожніка. Устрывожаны, ён усё-ж пайшоў за ваўчыцай, але ўвесь час спыняўся, каб распазнаць засцярогу, якая неслася па ветры.

Асцярожна ступаючы, ваўчыца вышла з-за дрэў на вялікую паляну. Некалькі хвілін яна стаяла там адна. Потым, увесь насцаражыўшыся, кожным сваім валаском выдзяляючы бязмежнае недавер'е, да яе падпоўз Аднавокі. Яны сталі побач, не спыняючы прыслухоўвацца, узірацца, нюхаць паветра.

Да іх вушэй данесліся гукі сабачай грызні і бойкі, гартанныя крыкі мужчын, прарэзлівыя галасы жанчын, якія лаяліся, і нават тонкі жаласны плач дзіцяці. За выключэннем вялікіх, абцягнутых скурай палатак, цяжка было разгледзець што-небудзь, апрача полымя агню, якое ўвесь час засланялі чалавечыя фігуры, і дыму, які павольна падымаўся ў спакойным паветры. Але да ноздраў ваўкоў даносіліся тысячы пахаў індзейскага пасёлка, якія гаварылі аб рэчах, зусім незразумелых Аднавокаму і знаёмых ваўчыцы да найменшых падрабязнасцей. Ваўчыцу ахапіў дзіўны непакой, і яна ўвесь час прынюхвалася ўсё з большай і большай асалодай. Але Аднавокі ўсё яшчэ сумняваўся. Ён пусціўся было бегчы і выдаў гэтым сваю баязлівасць. Ваўчыца павярнулася, ткнула яго мордай у шыю, нібы супакойваючы, потым зноў пачала глядзець на пасёлак. У вачах яе засвяціўся сум, але гэта ўжо не быў

сум, народжаны голадам. Яна дрыжэла ад ахапіўшага яе жадання спусціцца туды, падыйсці бліжэй да агню, умяшацца ў сабачую тузаніну, увінацца і адскокваць ад неасцярожных крокаў людзей.

Аднавокі нецярпліва таптаўся каля яе; ранейшы непакой вярнуўся да ваўчыцы, яна зноў адчула непераможную патрэбу знайсці тое, што яна так доўга шукала. Яна павярнулася і, на вялікую радасць Аднавокага, які бег крыху наперадзе яе, накіравалася ў лес, пад прыкрыццё дрэў. Бясшумна, як цені, плывучы ў асветленым месяцам лесе, яны натрапілі на след. Абодва ваўкі ўткнуліся насамі ў снег. Сляды былі зусім свежыя. Аднавокі асцярожна рухаўся наперад, а яго таварышка ішла за ім па пятах. Іх шырокія лапы з мяккімі падушкамі, як аксаміт, слізгалі па снезе. Раптам Аднавокі ўбачыў нейкую рэч, якая невыразна бялела на белай снежнай прасторы. Лёгкі слізгаючы поступ Аднавокага і раней здаваўся быстрым, але яго нельга было і параўноўваць з той быстрынёй, з якой ён імчаўся цяпер. Уперадзе яго скакала нейкая няясная белая пляма. Ваўкі беглі па вузкай прагаліне, акружанай па абодвух баках зараснікам маладых хвоек. Праз дрэвы быў відаць канец прагаліны, якая выходзіла на залітую месяцам паляну. Стары воўк наганяў мільгаючую перад ім белую плямку. Кожны яго прыжок скарачаў адлегласць паміж імі. Вось яна ўжо зусім блізка. Яшчэ адзін прыжок—і зубы ваўка ўчэпяцца ў яе. Але прыжок гэты так і не адбыўся. Белая плямка, якая аказалася трусом, узнялася высока ў паветры прама над галавой Аднавокага і пачала падскокваць і гойдацца там наверсе, не датыкаючыся зямлі, як быццам танцуючы нейкі фантастычны танец.

Палахліва фыркнуўшы, Аднавокі адскочыў назад і, прыпаўшы на снег, грозна зарыкаў на гэтую страшную і незразумелую рэч. Але ваўчыца зусім спакойна абышла яе, з хвіліну прымервалася да прыжка, а потым падскочыла, каб схапіць танцуючага труса. Яна высока ўзнялася ў паветры, але не даскочыла да дзічыны і толькі ляснула зубамі. Ваўчыца падскочыла ў другі і ў трэці раз. Аднавокі, павольна выпастаўшыся, назіраў за ваўчыцай. Нарэшце, яе промахі раззлавалі ваўка, ён сам зрабіў магутны прыжок і, ухапіўшы труса зубамі, апусціўся на зямлю разам з ім.

Але ў тую-ж хвіліну пачуўся нейкі падазроны трэск, і Аднавокі са здзіўленнем убачыў маладую хвою, якая нахілілася і была гатова вось-вось ударыць яго. Пашчэнкі ваўка разняліся, ён кінуўся ад гэтай незразумелай небяспекі назад, вышчараўшы зубы, у горле яго заклятаў рык, шэрсць стала дыбам ад лютасці і страху. А стройнае дрэўца выпрасталася, і трусік зноў заскакаў высока ў паветры. Ваўчыца раззлавалася. У пакаранне, яна ўелася клыкамі ў плячо Аднавокага, а ён, спалоханы гэтым нечаканым нападам, з разлютаванасцю рвануў ваўчыцу за морду. Такі адказ у сваю чаргу з'явіўся для ваўчыцы нечаканасцю, і яна наскочыла на Аднавокага, рыкаючы ад абурэння. Аднавокі ўжо зразумеў сваю памылку і паспрабаваў уласкавіць ваўчыцу, але яна не спыняла кусаць яго; тады, пакінуўшы ўсе свае спробы да прымірэння, воўк пачаў выкручвацца ад яе ўкусаў, хаваючы галаву і падстаўляючы пад яе зубы то адно плячо, то другое.

Тым часам трус прадаўжаў свой танец у паветры. Ваўчыца ўселася на снег, і Аднавокі стары, баючыся цяпер сваёй таварышкі яшчэ больш, чым таямнічай хвоі, зноў прыгнуў. Схапіўшы труса і апусціўшыся з ім на зямлю, ён не зводзіў свайго адзінага вока з дрэўца. Як і раней, яно сагнулася да самай зямлі. Воўк скурчыўся, чакаючы немінучага ўдару, шэрсць на ім стала дыбам, але зубы не выпускалі здабычы. Аднак, удару не было. Дрэўца так і асталося схіленым над ім. Як толькі воўк пачынаў рухацца, хвоя таксама рухалася, і ён бурчэў на яе праз сціснутыя пашчэнкі; калі ён стаяў спакойна, дрэўца таксама не варушылася, і воўк парашыў, што так больш бяспечна. Аднак, цёплая кроў труса здавалася яму вельмі смачнай. З гэтага цяжкага становішча яго вывела ваўчыца. Яна адабрала ў яго труса, і пакуль хвоя пагражаюча гойдалася і калыхалася над ёй, спакойна адгрызла яму галаву. Хвоя зараз-жа выпрасталася і больш не трывожыла іх, заняўшы належнае ёй вертыкальнае палажэнне, у якім дрэва расце ад прыроды. А ваўчыца з Аднавокім падзялілі паміж сабой здабычу, незразумелым чынам злоўленую для іх хвояй.

Шмат траплялася ім такіх слядоў і прагалін, дзе трусы гойдаліся высока ў паветры, і воўчая пара абследавала іх усё; ваўчыца заўсёды была першай,

а Аднавокі ішоў за ёй следам, назіраючы і вучачыся, як трэба абкрадваць пасткі, і гэтае веданне пазней саслужыла яму добрую службу.

*Раздзел другі*

# ЛОГАВА

Цэлыя два дні блукалі ваўчыца і Аднавокі каля індзейскага пасёлка. Аднавокі непакоіўся і палохаўся, а ваўчыцу лагер нечым вабіў, і яна ніяк не хацела адыходзіць. Але аднойчы раніцой, калі ў паветры, зусім недалёка ад іх, пачуўся стрэл і куля стукнулася ў дрэва ўсяго за некалькі дзюймаў ад галавы Аднавокага, ваўкі ўжо больш не вагаліся і пусціліся ў дарогу доўгімі роўнымі прыжкамі, хутка павялічваючы адлегласць паміж сабой і небяспекай.

Яны беглі нядоўга—усяго два дні. Ваўчыца ўсё больш настойліва шукала. Яна моцна абцяжэла за гэтыя дні і не магла хутка бегаць. Аднойчы, пагнаўшыся за трусом, якога ў звычайны час яна-б вельмі лёгка злавіла, цяпер-жа раптам кінула пагоню і прылягла на снег адпачыць. Аднавокі падышоў да яе, але не паспеў ён ціханька дакрануцца мордай яе шыі, як ваўчыца з такой лютасцю рванула яго зубамі, што ён паваліўся на спіну і, выкручваючыся ад яе пашчы, меў досыць смешны выгляд. Ваўчыца зрабілася яшчэ больш успыльчывай, чым раней; але Аднавокі быў цярплівы і клапатлівы, як ніколі.

І вось, нарэшце, ваўчыца знайшла тое, што шукала. Знайшла за некалькі міль уверх па цячэнню невялікага ручая, які летам упадаў у Мекензі; цяпер, прамерзнуўшы да камяністага дна, ручай заціх, ператварыўшыся ад вытокаў да вусця ў адну суцэльную белую масу. Ваўчыца змораннай рысцой бегла ззаду Аднавокага, які адышоў далёка наперад, і раптам заўважыла, што ў адным месцы высокі бераг навісае над ручаём. Яна звярнула ўбок і падбегла туды. Буйныя вясеннія ліўні і талыя снягі размылі вузкую шчыліну ў беразе і ўтварылі там невялікую пячору. Ваўчыца спынілася ля ўваходу, уважліва агледзела сцяну пячоры. Затым абегла яе з абодвух бакоў, пачынаючы з асновы і да таго месца, дзе круча пераходзіла ў ад-

хонны спад. Вярнуўшыся да пячоры, яна ўвайшла ўнутр праз вузкую адтуліну. Першыя футы тры ёй прыйшлося прапаўзці, потым сцены раздаліся ўшыр і ўвышыню, і ваўчыца выйшла на невялікую круглую пляцоўку, футаў шасці ў дыяметры. Галавой яна амаль дакраналася столі. Унутры было суха і ўтульна. Ваўчыца пачала ўважліва аглядаць усю пячору, а Аднавокі, які вярнуўся к гэтаму часу, стаяў ля ўваходу і цярпліва назіраў за ёй. Апусціўшы галаву і амаль закранаючы носам блізка састаўленыя лапы, ваўчыца перакруцілася некалькі разоў вакол сябе, не то са змораным уздыхам, не то з бурчэннем, падагнула ногі і расцягнулася на зямлі, галавой да ўваходу. Аднавокі, натапырыўшы вушы ад цікавасці, падсмейваўся над ёй, і ваўчыцы было відаць, як кончык яго хваста добрадушна ходзіць узад і ўперад на фоне светлай плямкі ля ўваходу ў пячору. Мяккім рухам яна на адну секунду прыціснула свае вострыя вушы да галавы, адкрыла пашчу і высунула язык, усім сваім выглядам выказваючы поўнае задавальненне і спакой.

Аднавокі быў галодны. Хоць, лежачы ля ўваходу ў пячору, ён спаў, але сон яго быў трывожны. Ён увесь час прачынаўся і, натапырыўшы вушы, прыслухоўваўся да навакольнага свету, залітаму яркім красавіцкім сонцам, якое іграла на снезе. Як толькі Аднавокі пачынаў дрымаць да вушэй яго далятаў ледзь улавімы шэпат нябачных ручайкоў, і ён ускокваў і напружана ўслухоўваўся. Сонца вярнулася, і абуджаная Поўнач пасылала свой заклік ваўку. Усё навокал ажывала. У паветры адчувалася вясна, пад снегам зараджалася жыццё, дрэвы набракалі сокам, почкі скідалі з сябе ледзяныя аковы.

Аднавокі трывожна пазіраў на сваю падругу, але яна не выказвала ніякага жадання падняцца з месца. Ён вызірнуў з пячоры і ўбачыў стайку снегіроў, узляцеўшых недалёка ад яго. Аднавокі прыўзняўся, але, зірнуўшы яшчэ раз на сваю падругу, лёг і зноў задрымаў. Да яго вуха данеслася слабае гудзенне. Скрозь дрымату ён некалькі разоў абмахнуў лапай морду. Потым прачнуўся. Ля кончыка яго носа з гудзеннем віўся камар. Камар быў вялікі; мабыць, ён правёў усю зіму ў сухім пні, а цяпер сонца выгнала яго

з дрантвення. Воўк не мог працівіцца закліку навакольнага свету. Апрача таго, ён быў галодны.

Аднавокі падпоўз да сваёй падругі і паспрабаваў пераканаць яе падняцца. Але яна толькі грозна зарыкала на яго. Воўк парашыў адправіцца адзін і, вышаўшы на яркае сонечнае святло, убачыў, што снег пад нагамі правальваецца і падарожжа будзе справай нялёгкай. Ён пабег уверх па замёрзламу ручаю, дзе снег, у ценю дрэў, быў усё яшчэ цвёрды і чысты. Праблукаўшы гадзін восем, Аднавокі вярнуўся, калі ўжо сцямнела, яшчэ больш галодным. Ён не раз бачыў дзічыну, але не мог злавіць яе. Трусы ўсё гаксама лёгка скакалі па таламу насту, а ён правальваўся і барахтаўся ў снезе.

Нейкае няяснае падазрэнне прымусіла яго спыніцца ля ўваходу ў пячору. Адтуль даляталі слабыя, чужыя яму гукі. Яны не былі падобны на голас ваўчыцы, але разам з тым у іх чулася нешта знаёмае. Ён асцярожна ўпоўз у пячору і яго засцерагаючым рыкам сустрэла ваўчыца. Яе рыканне не збянтэжыла Аднавокага, але прымусіла ўсё-ж трымацца воддаль; яго цікавілі другія гукі—слабое, прыглушанае павіскванне і плач. Ваўчыца зноў сярдзіта забурчэла на яго; ён скруціўся клубком ля ўваходу ў пячору і заснуў. Калі настала раніца і ў логава пранікла цьмянае святло, воўк зноў пачаў шукаць крыніцу гэтых невыразна-знаёмых гукаў. У засцерагаючым рыканні ваўчыцы з'явіліся новыя ноткі. У ім гучэла рэўнасць, і гэта прымушала ваўка трымацца на досыць вялікай адлегласці. І ўсё-ж яму ўдалося разгледзець, што паміж нагамі ваўчыцы, прытуліўшыся да яе жывата, варушацца пяць маленькіх жывых клубочкаў; слабыя, бездапаможныя, яны ціха вішчэлі і не расплюшчвалі вачэй на святло. Воўк быў здзіўлены. Гэта здаралася не ў першы раз у яго доўгім і шчаслівым жыцці, здаралася часта, і ўсё-ж кожны раз ён нанава здзіўляўся. Яго падруга глядзела на яго з трывогай. Час ад часу яна ціха бурчэла, а калі воўк, як ёй здавалася, падыходзіў надта блізка, то бурчэнне яе пераходзіла ў пагрозу. Яе вопыт нічога ёй аб гэтым не гаварыў, але інстынкт, які замяняў усім маткам-ваўчыцам вопыт, невыразна падказваў ёй, што бацькі паядаюць сваё бездапаможнае патом-

ства. Гэты інстынкт выражаўся ў страху, які прымушаў яе гнаць Аднавокага ад вытвараных ім ваўчанят.

Між іншым, ніякай небяспекі і не было. Стары воўк у сваю чаргу адчуў загад інстынкта, які перайшоў да яго ад яго бацькоў. Не задумваючыся над ім, не стараючыся даць яму якое-небудзь тлумачэнне, ён адчуваў яго ўсёй сваёй істотай і, паслухаўшы голасу інстынкта, папросту павярнуўся спіной да свайго нованароджанага сямейства і адправіўся на пошукі ежы.

За пяць-шэсць міль ад логава ручай разгаліноўваўся, і абодва яго рукавы пад прамым вуглом паварачвалі да гор. Воўк пайшоў удоўж левага рукава і натрапіў на след. Абнюхаўшы след і пераканаўшыся, што сляды зусім свежыя, ён прынік да зямлі і зірнуў у тым кірунку, куды яны вялі. Потым ён асцярожна павярнуўся і пабег удоўж правага рукава. Сляды былі значна большыя чым яго ўласныя, і ён ведаў, што там, куды яны прывядуць, надзея на здабычу малая.

Прабегшы з поўмілі ўдоўж правага рукава, ён злавіў сваім чуллівым вухам, як нечыя зубы грызуць дрэвы. Падкраўшыся бліжэй, ён убачыў, што гэта быў дзікабраз, які тачыў зубы аб кару, стаўшы перад дрэвам на заднія лапы. Аднавокі асцярожна падкраўся да яго, не спадзяючыся, між іншым, на ўдачу. Ён ведаў гэтага звера, хоць так далёка на поўначы дзікабразы яму не трапляліся, і за ўсё сваё жыццё ён ні разу не пакаштаваў іх мяса. Але вопыт навучыў ваўка, што бывае ў жыцці шчасце або ўдача, і ён прадаўжаў падбірацца да дзікабраза. Цяжка ўгадаць, чым скончыцца гэтая сустрэча, бо зыход барацьбы ніколі нельга ведаць загадзя.

Дзікабраз скруціўся клубком, яго доўгія вострыя іголкі тырчэлі ва ўсе бакі, і нападзенне было цяпер немагчымым. У маладосці Аднавокі ткнуўся аднойчы ў такі-ж самы безжыццёвы са знешняга выгляду клубок іголак і нечакана атрымаў удар хвастом па носе. Адна іголка так і асталася тырчэць у яго ў мордзе, прыносячы пякучы боль, і выйшла з раны толькі праз некалькі тыдняў. Таму ён лёг, уладзіўшыся больш зручна і трымаючы нос на адлегласці цэлага фута ад хваста дзікабраза. Замёршы ў такім стане, ён прыгатаваўся чакаць. Хто ведае? Усё можа здарыцца. Раптам дзікабраз раскруціцца. Раптам выпадзе магчы-

масць спрытным ударам лапы распароць далікатнае, нічым не ахаванае бруха.

Але праз поўгадзіны воўк падняўся, злосна зарыкаў на нерухомы клубок і пабег далей. Вельмі часта даводзілася яму ў мінулым пільнаваць дзікабразаў без усякага выніку, каб зараз траціць на гэта час. І ён пабег далей па праваму рукаву ручая. Дзень заканчваўся, а яго пошукі ўсё яшчэ не мелі поспеху.

Абуджаны інстынкт айцоўства кіраваў воўкам. Ежу трэба знайсці ў што-б там не было. У поўдзень Аднавокі наткнуўся на белую курапатку. Ён выбег з зарасніку хмызняка і апынуўся нос у нос з дурной птушкай. Яна сядзела на пні, на адлегласці якога-небудзь фута ад яго морды. Яны ўбачылі адзін аднаго адначасова. Птушка спалохана ўзмахнула крыллямі, але воўк ударыў яе лапай, зваліў на зямлю, кінуўся і схапіў курапатку зубамі якраз у той момант, калі яна пачала кідацца па снезе, спрабуючы ўзляцець на паветра. Як толькі зубы ваўка ўеліся ў далікатнае мяса, ламаючы крохкія косці, ён пачаў было есці птушку. Потым раптам успомніў нешта, і пусціўся бегчы да пячоры, нясучы курапатку ў зубах.

Прабегшы яшчэ з мілю сваім бясшумным поступам, слізгаючы, нібы цень, уважліва прыглядаючыся да кожнага новага павароту дарогі, ён зноў наткнуўся на адбітак тых вялікіх лап, сляды якіх ён яшчэ ўбачыў досвіткам. Сляды ішлі па яго дарозе, і ён прыгатаваўся ў любую хвіліну сустрэць уладальніка гэтых лап.

Аднавокі асцярожна высунуў галаву з-за скалы ў тым месцы, дзе ручай крута паварачваў убок, і яго пільныя вочы заўважылі нешта такое, што прымусіла яго зараз-жа прылегчы на зямлю. Гэта быў той звер, якому належалі вялікія сляды,—вялікая самка рысь. Яна ляжала перад дзікабразам, які скруціўся ў шчыльны клубок, у той-жа позе, у якой не так даўно ляжаў перад ім і воўк.

Калі раней ваўка можна было параўнаць з плывучым ценем, то цяпер гэта была здань таго ценю, якая асцярожна агінала маўклівую нерухомую пару з падветранага боку. Ён лёг на снег, паклаўшы курапатку побач з сабой, і праз іглы нізкарослай хвоі пачаў уважліва сачыць за ігрой жыцця, якая разгортвалася ў яго на вачах,—за прытоенай рыссю і прытоеным

дзікабразам,—за абодвума звярамі, поўнымі жыцця; і ўся асаблівасць гэтай ігры заключалася для аднаго боку ў тым, каб з'есці другі, а для таго—каб не быць з'едзеным.

І стары воўк, Аднавокі, схаваўшыся за дрэвамі, таксама прымаў удзел у гэтай ігры, спадзяючыся, што выпадак дапаможа і ён атрымае ежу, неабходную яму, каб жыць.

Мінула поўгадзіны, мінула гадзіна; усё аставалася па-ранейшаму. Клубок іголак захоўваў поўную нерухомасць, і яго лёгка можна было палічыць за камень; рысь ператварылася ў статую з мрамара; а Аднавокі—той здаваўся мёртвым. Аднак, усе трое жылі такім напружаным жыццём, напружаным амаль да адчування фізічнага болю, што наўрад ці калі-небудзь даводзілася ім адчуваць у сабе столькі жыцця, як зараз, калі целы іх здаваліся закамянелымі.

Аднавокі ледзь паварушыўся і назіраў далей з яшчэ большай цікаўнасцю. Адбыліся нейкія перамены. Дзікабраз нарэшце парашыў, што вораг яго пакінуў. Павольна, асцярожна пачаў ён раскручваць сваю непранікальную броню. Яго не трывожыла ніякае падазрэнне. Калючы клубок павольна-павольна раскруціўся і выпрастаўся. Аднавокі адчуў, што рот у яго напаўняецца слюнай, бачачы жывую дзічыну, якая ляжала перад ім, як гатовы пачастунак.

Яшчэ не паспеўшы як належыць раскруціцца, дзікабраз заўважыў свайго ворага. І ў гэты момант рысь ударыла яго.

Удар быў хуткі, як маланка. Лапа з моцнымі кіпцюрамі, сагнутымі, як у драпежнай птушкі, распарола далікатнае бруха і зараз-жа адскочыла назад. Калі-б дзікабраз раскруціўся ва ўсю даўжыню або заўважыў ворага на якую-небудзь дзесятую долю секунды пазней, лапа асталася-б непашкоджанай; але ў той момант, калі рысь аддзёрнула лапу, дзікабраз ударыў яе збоку хвастом і ўсадзіў у яе вострыя іголкі.

Усё адбылося адначасова—удар, удар у адказ, перадсмяротны віск дзікабраза і крык параненай вялікай кошкі, ашаломленай болем. Аднавокі прыўзняўся, натапырыў вушы і выцягнуў хвост, які дрыжэў ад узбуджэння. Злосць затуманіла рысі галаву. Яна з ярасцю накінулася на звера, які прычыніў ёй такі боль. Але

дзікабраз, скавычачы і рохкаючы, цягнучы за сабой выпаўшыя з распоратага бруха ўнутранасці і спрабуючы скруціцца ў клубок, яшчэ раз махнуў хвастом, і вялікая кошка зноў завыла ад нечаканага болю. Яна пачала адступаць задам, не перастаючы чхаць; нос яе, увесь абтыканы іголкамі, быў падобен да велізарнай падушкі для шпілек. Рысь драпала нос лапамі, стараючыся вызваліцца ад гэтых пякучых, як агонь, стрэл, уткнулася мордай у снег, цёрлася аб галінкі, не спыняючы скакаць ва ўсе бакі—уперад, назад, направа, налева, не памятаючы сябе ад страшэннага болю і страху.

Яна ўвесь час чхала і сударажна біла сваім кароткім хвастом. Потым прыжкі яе спыніліся, і яна заціхла. Аднавокі сачыў за ёй. Ён нават уздрыгануўся і натапырыўся, калі рысь раптам з дзікім выццём узнялася высока ў паветры. Яна кінулася па сцежцы, пры кожным прыжку прарэзліва выючы. І толькі тады, калі рысь, якая ляцела куляй, знікла і выццё яе замёрла ўдалечыні, Аднавокі адважыўся выйсці ўперад. Ён ішоў з такой асцярожнасцю, нібы ўвесь снег быў засыпан іголкамі, гатовымі кожную хвіліну ўпіцца ў мяккія падушкі яго лап. Дзікабраз сустрэў з'яўленне ваўка лютым віскам і ляcканнем доўгіх зубоў. Ён зноў ухітрыўся скруціцца, але гэта ўжо не быў ранейшы непранікальны клубок; папсаваныя мускулы не слухалі яго. Ён быў раздзёрты амаль папалам і зыходзіў крывёй.

Аднавокі хапаў пашчай і з асалодай глытаў акрываўлены снег. Пасля такога ўзбуджаючага сродку голад яго толькі ўзмацніўся; але ён нездарма пажыў на свеце і заўсёды памятаў аб асцярожнасці. Трэба было вычакаць час. Ён лёг і пачаў чакаць, а дзікабраз скрыгатаў зубамі, рохкаў, скуголіў і ціха вішчэў. Праз некалькі хвілін Аднавокі заўважыў, што іголкі дзікабраза павалі апускаюцца і па ўсяму яго целе прабягаюць дрыжыкі. Потым дрыжыкі адразу спыніліся. Доўгія зубы ляснулі ў апошні раз, іголкі апусціліся, цела абмякла і больш ужо не рухалася.

Нясмелым, палахлівым рухам лапы Аднавокі расцягнуў дзікабраза ва ўсю даўжыню і перавярнуў яго на спіну. Нічога не здарылася. Дзікабраз быў мёртвым. Пасля ўважлівага агляду воўк асцярожна ўзяў яго ў

зубы і пабег удоўж ручая, цягнучы дзікабраза за сабой і павярнуўшы галаву ўбок, каб не наступіць на калючыя іголкі. Потым Аднавокі ўспомніў нешта, кінуў сваю ношу і вярнуўся да таго месца, дзе ляжала курапатка. Ён не хістаўся ні адной хвіліны. Ён ведаў, што трэба зрабіць: трэба з'есці курапатку. Затым Аднавокі пабег назад і падняў сваю ношу.

Калі ён уцягнуў здабычу ў логава, ваўчыца агледзела яе, павярнула да ваўка галаву і злёгку лізнула яго ў шыю. Але зараз-жа ўслед за гэтым яна зарыкала, адганяючы яго ад ваўчанят; праўда, на гэты раз рыканне было ўжо не такім злосным, у ім чулася хутчэй перапрашванне, чым пагроза. Інстынктыўны страх перад бацькам яе патомства паступова прападаў. Аднавокі трымаў сябе, як і належыла ваўку-бацьку, і не выказваў беззаконнага жадання сажраць малышоў, выведзеных ёю на свет.

*Раздзел трэці*

## ШЭРЫ ВАЎЧОК

Ён не быў падобны на сваіх сясцёр і братоў. Іх шэрсць ужо набывала рыжаватае адценне, атрыманае ў спадчыну ад маці-ваўчыцы, у той час, як ён увесь удаўся ў бацьку. Ён быў адзіным шэрым ваўчком ва ўсім плодзе. Ён нарадзіўся сапраўдным ваўком і вельмі нагадваў Аднавокага, з той толькі розніцай, што ў яго былі два вокі, а ў бацькі—адно. Вочы ў шэрага ваўчка толькі нядаўна расплюшчыліся, а ён ужо ясна бачыў імі. І нават калі вочы яго былі яшчэ заплюшчаныя, ён адрозніваў рэчы па смаку, паху і навобмацак. Ён вельмі добра ведаў сваіх двух братоў і двух сясцёр. Ён падымаў з імі нязграбную вазьню, якая часамі пераходзіла ў бойку, і злаваў, і яго тонкае горла пачынала дрыжэць ад пацешных хрыплых гукаў, прадвеснікаў рыкання. Задоўга да таго як у ваўка расплюшчыліся вочы, ён навучыўся па паху, датыканню і смаку пазнаваць ваўчыцу—крыніцу цяпла, вадкай ежы і пяшчотнасці. І калі яна сваім мяккім, ласкаючым языком дакраналася далікатнага цельца ваўчка, ён супакойваўся, прытуляўся да маткі і спакойна засынаў.

Першы месяц яго жыцця амаль увесь прайшоў у та-

кім сне; але цяпер ён ужо добра бачыў, спаў менш і вельмі добра пазнаёміўся са сваім светам. Свет яго быў цёмны, але ён не падазраваў гэтага, бо не ведаў нічога іншага. Ваўчка акружала поўцемра, але вачам яго не даводзілася прыстасоўвацца да іншага асвятлення. Свет яго быў вельмі малым. Ён абмяжоўваўся сценамі логава; але ваўчок не меў ніякага разумення аб неабсяжнасці знешняга свету, і таму жыццё ў такіх цесных рамках яму не абрыдла. Між іншым, ён вельмі хутка выкрыў, што адна са сцен яго свету адрознівалася ад іншых. Там быў выхад з пячоры, і адтуль ішло святло. Ён выявіў, што гэтая сцяна не падобна на іншыя, яшчэ задоўга да таго, як у яго з'явіліся ўласныя думкі і ўсвядомленыя жаданні. Яна непераможна забіла да сябе ваўчка яшчэ задоўга да таго, як ён здолеў зірнуць на яе расплюшчанымі вачыма. Святло, якое ішло адтуль, біла яму прыплюснутыя павекі, і зрокавыя нервы запаляліся цёплымі іскрамі, якія прыносілі прыемнае і разам з тым дзіўнае адчуванне. Жыццё яго цела, кожнай яго клетачкі, жыццё, якое складала самую сутнасць арганізма і дзейнічала міма волі ваўчка, рвалася да гэтага святла, штурхала да яго цела, таксама як складаны хімічны састаў расліны штурхае яе да сонца. У самым пачатку, яшчэ задоўга да таго, як у ваўчка пачала прачынацца свядомасць, ён увесь час падпаўзаў да выхаду з пячоры. Сёстры і браты не адставалі ад яго. І ў гэты перыяд іх жыцця ні адно з ваўчанят ні разу не запаўзала ў цёмныя куткі ля задняй сцяны. Святло вабіла іх да сябе, як быццам яны былі раслінамі; хімічны працэс, які называецца іх жыццём, патрабаваў святла, яно было неабходнай умовай існавання; і малюсенькія шчанячыя цельцы паўзлі да яго, не разважаючы, пакараючыся інстынкту, як вусікі вінаграднай лазы. Пазней, калі ў кожным з іх пачала выяўляцца індывідуальнасць, з'явіліся жаданні і свядомыя пабуджэнні, цяга да святла толькі ўзмацнілася. Яны безупынна паўзлі і імкнуліся да яго, і маці прыходзілася ўвесь час заганяць іх назад.

Вось тут ваўчок даведаўся і аб іншых уласцівасцях сваёй маткі, апрача мяккага, ласкаючага языка.

Настойліва спрабуючы падпаўзці да святла, ён даведаўся, што ў маткі ёсць нос, якім яна ў пакаранне можа адкінуць яго назад; затым ён даведаўся і пра

лапу, якая ўмела прытаптаць яго да зямлі і хуткім дакладна разлічаным рухам перакаціць у куток. Так упершыню ён адчуў боль і навучыўся ўнікаць яго, спачатку баючыся падвяргаць сябе такой небяспецы, а потым, перастаўшы баяцца, навучыўся выкручвацца і ўцякаць ад пакарання. Гэта ўжо былі свядомыя ўчынкі—вынік з'явіўшайся здольнасці абагульняць з'явы свету. Да гэтага часу ён унікаў болю несвядома, таксама несвядома, як і лез да святла. Але цяпер ён унікаў болю таму, што в е д а ў, што такое боль.

Ён быў вельмі лютым ваўчком. І такімі-ж былі яго браты і сёстры. Нічога іншага і нельга было чакаць. Бо ён быў драпежнікам і паходзіў з пароды драпежнікаў, якія жывіліся мясам. Малако, якое ён ссаў з першага-ж дня ледзь мігцеючага жыцця, перараблялася з мяса; і цяпер, калі яму споўніўся месяц і вочы яго ўжо цэлы тыдзень былі расплюшчанымі, ён таксама пачаў есці мяса, напалову пераживанае ваўчыцай і выплюнутае назад для пяці падросшых ваўчанят, якім ужо нехапала малака.

Але ён рабіўся самым лютым ваўчком з усяго вывадка. Рыканне атрымлівалася ў яго больш хрыплым і гучным. Прыпадкі яго шчанячай ярасці былі страшнейшыя, чым у астатніх заўчанят. Ён першы навучыўся спрытным ударам лапы перакульваць наўзніч сваіх братоў і сясцёр. І ён-жа першы схапіў другое ваўчанё за вуха і пачаў тузаць і цягаць яго ўзад і ўперад, шалёна рыкаючы праз сціснутыя пашчэнкі. І ўжо, зразумела, ён больш за ўсіх іншых ваўчанят турбаваў матку, якая старалася адагнаць свой вывадак ад уваходу ў пячору.

Святло з кожным днём усё больш і больш вабіла да сябе шэрага ваўчка. Ён увесь час пускаўся ў падарожжы, накіроўваючыся да ўваходу ў пячору, і таксама ўвесь час яго адцягвалі назад. Праўда, ён не ведаў, што гэта быў уваход. Ён не падазраваў аб існаванні розных уваходаў і выхадаў, якія вядуць з аднаго месца ў другое. Ён наогул не меў разумення аб існаванні іншых месц, ужо не кажучы аб спосабах дабрацца туды. Таму ўваход у пячору здаваўся яму сцяной—сцяной святла. Чым сонца было для жывучых на волі, тым для яго была гэтая сцяна,—сонцам яго свету. Яна вабіла яго да сябе, як агонь вабіць ма-

тылька. Ваўчок увесь час імкнуўся дабрацца туды. Жыццё, якое хутка развівалася ў ім, штурхала яго да сцяны святла. Жыццё, якое таілася ў ім, ведала, што гэта адзіны шлях у свет,—шлях, на які яму суджана ступіць. Але ён нічога не ведаў пра гэта. Ён нічога не ведаў аб існаванні знешняга свету. У гэтай сцяны святла была адна дзіўная ўласцівасць. Яго бацька (а ваўчок ужо прызнаў у ім аднаго з жыхароў свайго свету, падобная на матку істота, якая спіць блізка да святла і прыносіць ежу),—яго бацька меў звычай праходзіць прама праз гэтую далёкую светлую сцяну і знікаць за ёй. Шэры ваўчок не мог зразумець гэтага. Хоць маці ніколі не дазваляла яму набліжацца да гэтай сцяны, але ён падыходзіў да іншых, і ўсякі раз яго далікатны нос натыкаўся на цвёрдую перашкоду. Гэта прыносіла боль. І пасля некалькіх такіх падарожжаў ён пакінуў сцены ў спакоі. Не задумваючыся, ён палічыў гэтыя знікненні бацькі за яго адметныя ўласцівасці, таксама як малако і мясная жвачка былі адметнымі ўласцівасцямі маткі.

Па сутнасці кажучы, шэры ваўчок не ўмеў думаць, прынамсі, як думаюць людзі. Мозг яго працаваў у пацёмках. І ўсё-ж яго вывады былі такія-ж ясныя і выразныя, як вывады людзей. Ён прымаў рэчы так, як яны ёсць, але ў гэтым быў свой метад адбору. Ён ніколі не турбаваў сябе пытаннем, чаму здарылася тая або іншая рэч. Дастаткова было ведаць, як гэта здарылася. І таму, ткнуўшыся некалькі разоў запар носам у заднюю сцяну, ваўчок прымірыўся з тым, што не можа знікаць у ёй. Таксама ён прымірыўся з тым фактам, што бацька можа гэта рабіць. Але жаданне разабрацца ў розніцы паміж бацькам і сабой ніколі і не ўзнікала ў ім. Логіка і фізіка не прымалі ўдзелу ў фармаванні яго мозга.

Як і большасць жыхароў Лясной Глушы, ён рана зазнаў голад. Надышлі дні, калі не толькі мяса скончылася, але і саскі яго маткі перасталі даваць малако. Спачатку ваўчаняты вішчэлі і скуголілі, але большую частку часу праводзілі ў сне. Потым на іх напала галоднае здрантвенне. Не было ўжо тузаніны і боек, ніхто з іх не раз'юшваўся, не спрабаваў рыкаць; і падарожжы да далёкай белай сцяны спыніліся зусім.

Аднавокі быў у роспачы. Ён рыскаў усюды, дзе толькі было можна, і мала спаў у логаве, якое было цяпер нудным і бязрадасным. Ваўчыца таксама пакінула свой вывадак і выйшла на пошукі ежы. У першыя дні пасля нараджэння ваўчанят Аднавокі некалькі разоў рабіў падарожжы да індзейскага пасёлка і абкрадваў трусіныя пасткі; але як толькі снег растаў і рэкі ўзняліся, індзейцы пайшлі далей, і гэтая крыніца ежы знікла.

Калі шэры ваўчок вярнуўся да жыцця і зноў пачаў цікавіцца далёкай белай сцяной, ён выявіў, што насельніцтва яго свету значна паменшылася. У яго асталася толькі адна сястра. Астатнія зніклі. Калі да яго вярнуліся сілы, ён вымушан быў гуляць у адзіноцтве, таму што сястра не магла ні падняць галавы, ні крануцца. Яго маленькае цела акруглялася ад мяса, якое ён еў цяпер; але для яе ежа з'явілася надта позна. Яна ўвесь час спала, і іскра жыцця ў яе маленькім, абцягнутым скурай шкілеце мігцела ўсё слабей і слабей і, нарэшце, патухла.

Потым надышоў час, калі шэры ваўчок ужо не бачыў больш, як яго бацька з'яўляецца і знікае ў сцяне або спіць ля ўваходу ў пячору. Гэта здарылася ў канцы другой, менш лютай галадоўкі. Ваўчыца ведала, чаму Аднавокі не прышоў назад, але яна не магла расказаць шэраму ваўчку пра тое, што ёй давялося ўбачыць.

Адправіўшыся ў пошукі за здабычай уверх па леваму рукаву ручая, туды, дзе жыла рысь, яна натрапіла на след Аднавокага, пакінуты ім напярэдадні. І там, дзе сляды канчаліся, яна знайшла яго самога, вярней тое, што ад яго асталося.

Усё навокал гаварыла аб бітве, аб тым, як, выйграўшы бітву, рысь накіравалася да сябе ў логава.

Перш чым адыйсці, ваўчыца адшукала гэтае логава, але, мяркуючы па ўсіх адзнаках, рысь была дома, і ваўчыца не адважылася ўвайсці туды.

Пасля гэтага ваўчыца ўнікала палявання на левым рукаве ручая. Яна ведала, што ў рысі ў логаве ёсць дзяцёнышы і што сама рысь славіцца сварлівым характарам, злосцю і адважнасцю ў бойках. Поўтузіне ваўкоў нічога не значыць загнаць на дрэва фыркаючую, натапыраную рысь; але зусім іншая справа су-

стрэцца з ёй вока на вока, асабліва, калі ведаеш, што за спіной у рысі цэлы вывадак галодных дзяцёнышаў.

Але Лясная Глуш астаецца Глушшу, і мацярынства астаецца мацярынствам, яно не спыняецца ні перад чым як у Лясной Глушы, так і паза ёй; і немінуча павінен быў надыйсці дзень, калі дзеля свайго шэрага ваўчка ваўчыца адважыцца пайсці па леваму рукаву, да логава ў скалах, насустрач раз'юшанай рысі.

*Раздзел чацверты*

## СЦЯНА СВЕТУ

К таму часу, калі маці пачала пакідаць пячору і хадзіць на паляванне, ваўчок ужо зразумеў закон, які забараняў яму набліжацца да выхаду з логава. Закон гэты шмат разоў унушала яму маці, штурхаючы яго то носам, то лапай, ды і ў ім самім пачынаў развівацца інстынкт страху. За ўсё сваё кароткае жыццё ў пячоры ён ні разу не спаткаў нічога такога, што магло спалохаць яго. І ўсё-ж ён ведаў, што такое страх. Страх перайшоў да ваўчка ад аддаленых прэдкаў, праз тысячу жыццяў. Гэта была спадчына, атрыманая ім непасрэдна ад Аднавокага і ваўчыцы; але і да іх у сваю чаргу праз усё пакаленне ваўкоў, якія былі да іх, перайшоў страх—спадчына Лясной Глушы.

Такім чынам, шэры ваўчок ведаў страх, хоць і не разумеў яго сутнасці. Магчыма, што ён прымірыўся з ім, як з адной з перашкод, якія ставяць жыццё, а яму прышлося пераканацца, што такія перашкоды існуюць. Ён зазнаў, што такое голад, і, не маючы магчымасці заспакоіць яго, наткнуўся на перашкоду. Цвёрдыя сцены пячоры, рэзкія штуршкі носам, якімі частавала яго маці, знішчальны ўдар яе лапы, незаспакоены голад выпрацавалі ў ім упэўненасць, што не ўсё на свеце дазволена, што для жыцця існуе вялікая колькасць абмежаванняў і забарон. І гэтыя абмежаванні і забароны былі законам. Пакарыцца ім—значыць унікнуць болю і астацца непашкоджаным.

Ваўчок не разважаў аб усім гэтым так, як разважаюць людзі. Ён проста падзяліў навакольны свет на тое, што выклікае боль і тое, што болю не выклікае. І, размежаваўшы, унікаў усяго, што выклікае боль,

гэта значыць забарон і перашкод, каб карыстацца ўзнагародамі і радасцямі. Вось чаму, пакараючыся закону, які яму ўнушыла маці, пакараючыся невядомаму і безнайменнаму закону страху, ваўчок трымаўся як мага далей ад уваходу ў пячору. Уваход гэты ўсё яшчэ здаваўся яму белай сцяной святла. Калі маткі ў пячоры не было, ён большай часткай спаў, а прачынаючыся, ляжаў зусім ціха і стрымліваў журботнае вішчэнне, якое лякатала яму горла і рвалася вонкі.

Прачнуўшыся неяк аднаго разу, ён пачуў ля белай сцяны непрывычныя гукі. Ён не ведаў, што гэта была расамаха, якая спынілася ля ўваходу і, дрыжучы ад уласнай смеласці, асцярожна прынюхвалася да пячоры. Ваўчок ведаў толькі адно: гукі былі непрывычныя, дзіўныя, а значыць, невядомыя і страшныя,—бо невядомае было адным з асноўных элементаў, з якіх складваўся страх.

Шэрсць на спіне ў ваўчка стала дыбам, але ён маўчаў. Чаму ён здагадаўся, што ў адказ на гэтыя гукі трэба натапырыцца? У яго не было такога вопыту ў мінулым, і ўсё-ж так праяўляўся ў ім страх, якому нельга было знайсці тлумачэння ў пражытым ім жыцці. Але страх суправаджаўся яшчэ адным інстынктыўным жаданнем—жаданнем схавацца. Ваўчанё ахапіў жах, але ён ляжаў без гуку, без руху, застыўшы, акамянеўшы,ператварыўшыся ў мёртвае цела. Вярнуўшыся дамоў і пачуўшы сляды расамахі, маці яго зарыкала, кінулася ў пячору і з незвычайнай для яе пяшчотнасцю пачала лізаць і лашчыць ваўчка. І ваўчок зразумеў, што яму ўдалося ўнікнуць вялікай бяды.

Але ў ім дзейнічалі і іншыя сілы, галоўнай з якіх быў рост. Інстынкт і закон патрабавалі ад яго пакорлівасці, але рост патрабаваў непакорлівасці. Маці і страх прымушалі яго трымацца як мага далей ад белай сцяны. Але рост ёсць жыццё, а жыццю суджана вечна імкнуцца да святла. І ніякімі перашкодамі нельга было спыніць хвалі жыцця, якая ўзнімалася ў ім, узнімалася з кожным праглынутым кавалкам мяса, з кожным глытком паветра. І нарэшце, аднойчы страх і паслухмянасць былі адкінуты ўбок напорам жыцця, і ваўчок няпэўнымі, нясмелымі крокамі накіраваўся да выхаду з пячоры.

У процілегласць другім сценам, з якімі яму прыходзілася сутыкацца, гэтая сцяна, здавалася, адступала ўсё далей і далей па меры таго, як ён набліжаўся да яе. Выпрабоўваючы высунуўшы ўперад свой маленькі далікатны нос, ён не наткнуўся ім на цвёрдую паверхню. Сама сцяна, здавалася, была такой-жа празрыстай і пранікальнай, як святло. Ваўчок увайшоў у тое, што яму здавалася сцяной, і апусціўся ў складаючае яе рэчыва.

Гэта збівала з панталыку: ён-жа поўз праз цвёрдую масу. А святло рабілася ўсё ярчэйшым і ярчэйшым. Страх гнаў ваўчка назад, але мацнеючае жыццё прымушала ісці далей. Раптам ён апынуўся ля выхаду з пячоры. Сцяна, унутры якой, як яму здавалася, ён знаходзіўся, нечакана адышла на невымерна далёкую адлегласць. Ад яркага святла зрабілася балюча вачам. Яно асляпляла ваўчка. Прастора, якая раптам рассунулася, кружыла яму галаву. Вочы самі па сабе прывыкалі да яркага асвятлення і прыстасоўваліся да павялічанай адлегласці паміж прадметамі. Спачатку сцяна адскочыла так далёка, што згубілася з вачэй. Цяпер ён зноў разгледзеў яе, але яна адышла далёка і здавалася ўжо зусім іншай. Сцяна зрабілася стракатай, у яе ўваходзілі дрэвы, якія раслі абапал ручая, і гара, якая ўзвышалася ззаду дрэў, і неба, якое было яшчэ вышэй гары.

Ваўчком апанаваў жах. Страшных і невядомых рэчаў зрабілася яшчэ больш. Ён натапырыўся ля ўваходу ў пячору і пачаў глядзець на свет, які адкрыўся перад ім. Ваўчок быў перапалоханы. Усё невядомае здавалася яму варожым. Шэрсць у яго на спіне стала дыбам; ён злёгку вышчарыў зубы, спрабуючы люта, застрашальна зарыкаць. Маленькі спалоханы звярок кідаў выклік і пагражаў усяму свету.

Аднак, нічога не здарылася. Ваўчок не спыняў глядзець і ад цікаўнасці нават забыўся зарыкаць. Забыўся нават на свой спалох. На час страх уступіў месца цікаўнасці. Ваўчок пачаў адрозніваць бліжэйшыя прадметы: адкрытую частку ручая, што мігцеў на сонцы, засохшую хвою каля адкосу, самы адкос, які прама ўзнімаўся да неба ў якіх-небудзь двух футах ад пячоры, ля ўваходу ў якую ён прымасціўся. Да гэтага часу шэры ваўчок жыў на роўнай паверхні. Яму яшчэ

не даводзілася паспрабаваць ушыбаў ад падання. Ды ён і не ведаў, што такое падание. Таму ён смела ступіў прама ў паветра. Заднія ногі ў яго затрымаліся на выступе ля ўваходу ў пячору, так што ён паваліўся галавой уніз. Зямля моцна стукнула ваўчка па носе, і ён завішчэў, і тут-жа ўслед за гэтым пакаціўся кулём уніз па адкосу. Яго ахапіў панічны страх. Невядомае, нарэшце, авалодала ім. Яно не выпускала яго з лап і рыхтавалася зрабіць з ім нешта страшнае. Страх апанаваў ваўчка, і ён завішчэў, як перапалоханае шчанё. Невядомае хацела ўчыніць яму нейкі страшны боль,—ён яшчэ не мог зразумець, які, і выў і вішчэў не сціхаючы. Гэта было куды горш, чым ляжаць, заміраючы ад страху, калі невядомае толькі прамільгнула міма яго. Цяпер яно захапіла яго ў сваю ўладу. Маўчанне нічаму не дапаможа. Апрача таго, ваўчком апанаваў ужо не страх, а жах.

Але адкос рабіўся ўсё больш спадзістым, і ля яго падгор'я расла трава. Хуткасць падання зменшылася. Спыніўшыся, нарэшце, ваўчок спачатку страшэнна завыў, потым працягла і сумна заскавытаў. А затым самым дзелавым чынам, нібы яму ўжо тысячы разоў у жыцці прыходзілася займацца сваім туалетам, пачаў злізваць прыстаўшую да бакоў сухую гліну. Скончыўшы з гэтым, ён сеў і азірнуўся навокал таксама, як гэта зрабіў-бы першы чалавек, які папаў з зямлі на Марс. Ваўчок прабіўся праз сцяну свету, невядомае выпусціла яго са сваіх абдымкаў, і ён астаўся непашкоджаным. Але першы чалавек на Марсе сустрэў-бы значна менш незвычайнага, чым ваўчок. Без усякага папярэдняга ведання, без усякага папярэджання ён апынуўся ў ролі даследчыка зусім незнаёмага яму свету.

Цяпер, калі страшная невядомасць адпусціла ваўчка на волю, ён забыў аб усіх яе жахах. Ён адчуваў толькі цікаўнасць да ўсяго, што яго акружала. Ён агледзеў траву пад сабой, кусцік брусніцы трохі далей, ствол засохлай хвоі, якая стаяла скраю палянкі, акружанай дрэвамі. Вавёрка выбегла з-за хвоі прама на ваўчка і страшна спалохала яго. Ён прытуліўся да зямлі і зарыкаў. Але вавёрка перапалохалася не менш яго. Яна хутка ўзлезла на дрэва і, апынуўшыся па-за небяспекай, сярдзіта затараторыла.

Гэта надало ваўчку храбрасці, і, хоць дзяцел, з якім яму прыйшлося ўслед за тым сутыкнуцца, прымусіў яго ўздрыгнуць, ён упэўнена ішоў далей. Упэўненасць гэтая ўзрасла да такой ступені, што, калі нейкая птушка задзірыста падскочыла да ваўчка, ён гулліва працягнуў да яе лапу. У адказ на гэта птушка балюча дзяўбанула яго ў кончык носа; ваўчок прытуліўся да зямлі і завішчэў. Птушка спалохалася яго віску і паспяшалася адляцець.

Ваўчок вучыўся. Яго маленькі, слабы мозг ужо зрабіў несвядомы вывад. Рэчы бываюць жывыя і нежывыя. І жывых рэчаў трэба асцерагацца. Нежывыя заўсёды застаюцца на адным месцы, а жывыя рухаюцца, і ніколі нельга ведаць загадзя, што яны могуць зрабіць. Ад іх трэба чакаць усякіх нечаканасцей і быць да ўсяго гатовым.

Ваўчок рухаўся вельмі нязграбна. Ён натыкаўся на сукі і на іншыя рэчы. Галінка, якая на першы погляд здавалася, была на вялікай адлегласці ад яго, сцябала яго па носе і абдзірала бакі. Паверхня была няроўная. Часам ён спатыкаўся і збіваў нос. Не менш часта ён аступаўся і біў лапы. Апрача таго, траплялiся дробныя і вялікія каменні, якія пераварачваліся, як толькі ён наступаў на іх; тут ваўчок зразумеў, што не ўсе нежывыя рэчы знаходзяцца ў стане ўстойлівай роўнавагі, як яго пячора; выявілася таксама, што маленькія нежывыя рэчы значна часцей падаюць і пераварачваюцца, чым вялікія. І ваўчок з кожнай памылкай даведваўся ўсё больш і больш. Чым далей ён ішоў, тым лепш у яго гэта атрымлівалася. Ён прыстасоўваўся. Ён вучыўся разлічваць свае рухі, прыладжвацца да сваіх фізічных вагчымасцей, вымяраць адлегласць паміж рознымі прадметамі, а таксама паміж імі і сабой.

Шчасце, якое не пакідала навічкоў, не здрадзіла і ваўчку. Народжаны, каб зрабіцца паляўнічым за дзічынай (хоць сам ён і не ведаў гэтага), ваўчок натрапіў на дзічыну адразу каля пячоры ў першую-ж сваю вылазку ў свет. Майстэрскі схаванае гняздо курапаткі трапілася ваўчку толькі дзякуючы яго-ж уласнай нязграбнасці. Ён паваліўся на яго. Ён паспрабаваў прайсціся па ствалу хвоі, якая павалілася. Гнілая кара падалася пад яго нагамі, і ваўчок са страшэнным выццём сарваўся з круглага ствала, зваліўся на куст і, пра-

ляцеўшы праз лісцё і галінкі, апынуўся прама ў гняздзе, дзе сядзелі сем птушанят курапаткі.

Яны запішчалі, і ваўчок спачатку спалохаўся. Затым, заўважыўшы, што птушаняты зусім маленькія, ён пасмялеў. Птушаняты рухаліся. Ён прыціснуў аднаго лапай, і той заварушыўся яшчэ мацней. Ваўчку гэта вельмі спадабалася. Ён абнюхаў птушанё. Узяў яго ў рот. Птушанё білася і ласкатала яму язык. У тую-ж хвіліну ваўчок адчуў голад. Пашчэнкі яго сціснуліся. Далікатныя костачкі хруснулі, і цёплая кроў пабегла яму ў рот. Яна аказалася вельмі смачнай. Гэта была дзічына, такая-ж дзічына, якую яму прыносіла маці, толькі значна смачнейшая, таму што яна была жывая. Ваўчок з'еў птушанё і спыніўся толькі тады, калі пакончыў з усім вывадкам. Пасля гэтага ён аблізнуўся, таксама, як гэта рабіла яго маці, і пачаў выбірацца з куста.

Яго сустрэў крылаты віхор. Імклівы націск і лютыя ўдары крылляў асляпілі ашаломленага ваўчка. Ён схаваў галаву паміж лапамі і завішчэў. Удары пасыпаліся з новай сілай. Курапатка-маці была ў шаленстве ад ярасці. Тады ваўчок раззлаваўся. Ён ускочыў з рыканнем і пачаў адбівацца лапамі. Запусціўшы свае дробныя зубы ў крыло птушкі, ён пачаў, што было сілы тузаць і цягаць яе з боку ўбок. Курапатка адбівалася, б'ючы яго другім крылом. Гэта была першая бітва ваўчка. Ён не памятаў сябе ад узбуджэння. Ён забыў увесь свой страх перад невядомым і ўжо нічога не баяўся. Ён рваў і біў жывую істоту, якая наносіла яму ўдары. Апрача таго, гэта было мяса. Ваўчком авалодала прагнасць забойства. Ён толькі што знішчыў сем маленькіх жывых істот. Зараз ён знішчыць вялікую жывую істоту. Ён быў вельмі заняты і вельмі шчаслівы, каб адчуваць сваё шчасце. Ваўчок увесь дрыжэў ад узбуджэння, якога да гэтага часу яму ніколі не даводзілася пераносіць. Ён не выпускаў крыла і рыкаў праз сціснутыя зубы. Курапатка выцягнула яго з куста. Калі-ж яна павярнулася, каб зноў зацягнуць яго назад, ваўчок выцягнуў яе на адкрытае месца. Птушка крычала і біла яго свабодным крылом, пер'е яе разляталася па паветры, як снежныя клочча.

Ваўчок ужо не памятаў сябе ад ярасці. Ваяўнічая кроў яго продкаў узнялася і забушавала ў ім. Сам

таго не заўважаючы, ваўчок жыў у гэты момант поўным жыццём. Ён выконваў прызначаную яму ў жыцці ролю, рабіў тую справу, для якой быў народжан,— забіваў здабычу і біўся, перш чым забіць яе. Ён апраўдваў сваё існаванне, выконваючы вышэйшае прызначэнне жыцця, таму што жыццё дасягае сваіх вяршынь у тыя хвіліны, калі ўсе яго сілы накіроўваюцца на выкананне пастаўленых перад ім мэт.

Праз некаторы час птушка перастала змагацца. Ваўчок усё яшчэ трымаў яе за крыло. Яны ляжалі на зямлі і глядзелі адзін на аднаго. Ён паспрабаваў люта і пагражаюча зарыкаць. Курапатка дзяўбанула яго ў нос, які ўжо пачынаў балець ад усякіх папярэдніх прыгод. Ваўчок уздрыгануўся ад болю, але не выпусціў крыла. Птушка дзяўбанула яго яшчэ і яшчэ раз. Ён завішчэў і падаўся назад, не ўцяміўшы, што разам з крылом цягне за сабой і ўсю птушку. Град удараў пасыпаўся на яго нос, які ныў ад болю. Ваяўнічы запал ваўчка пагас, ён выпусціў здабычу і з усіх ног пусціўся на ганебныя ўцёкі. Ён прылёг адпачыць на другім баку палянкі, каля хмызняка, і ляжаў там, высунуўшы язык і цяжка дыхаючы; нос у яго ўсё яшчэ балеў, і ваўчок жаласліва вішчэў. Раптам ён пачуў, што на яго насоўваецца нешта страшнае. Невядомае з усімі сваімі жахамі навалілася на ваўчка, і ён інстынктыўна адскочыў пад абарону куста. У тую-ж хвіліну на яго павеяла ветрам, і ён убачыў, як вялікае крылатае цела ў злавесным маўчанні пранеслася міма куста. Ястраб, які кінуўся на ваўчка зверху, прамахнуўся.

Пакуль ваўчок ляжаў пад кустом і, пакрыху прыходзіў да памяці ад страху, пачынаў баязліва выглядваць адтуль, на другім баку палянкі са спустошанага гнязда выпархнула курапатка. Гора страты прымусіла яе забыць аб крылатай маланцы нябёс. Але ваўчок усё бачыў, і гэта было для яго засцярогай і ўрокам. Ён бачыў, як ястраб каменем зваліўся ўніз, пранёсся над зямлёй, амаль закранаючы яе целам, усадзіў кіпцюры ў курапатку, якая закрычала ад смяротнага болю і жаху, і ўзняўся ўвышыню, уносячы птушку з сабой.

Ваўчок доўга не выходзіў са свайго сховішча. Ён

многаму навучыўся. Жывыя істоты—гэта мяса. Яны прыемны на смак, але вялікія жывыя істоты прычыняюць боль. Лепш за ўсё есці маленькіх, такіх, як птушаняты, курапаткі, а вялікіх, накшталт самой курапаткі, трэба пакінуць у спакоі. І ўсё-ж ён адчуваў укол самалюбію, у ім таілася жаданне яшчэ раз схапіцца з вялікай птушкай,—шкада, што ястраб панёс яе. А можа быць, знойдуцца іншыя курапаткі? Трэба пайсці паглядзець.

Ваўчок спусціўся па спадзістаму берагу да ручая. Вады ён да гэтага часу яшчэ не бачыў. Выгляд яна мела нядрэнны. Ніякіх няроўнасцей. Ён смела ступіў у ваду і, скавычачы ад страху, пайшоў на дно, прама ў абдымкі невядомага. Зрабілася холадна, захапіла яму дух. Замест паветра, якім ён прывык дыхаць, у лёгкія хлынула вада. Удушша здавіла яму горла, як смерць. Для яго яно межавалася са смерцю. У ваўчка не было свядомага ўяўлення аб ёй, але, як і ўсе жыхары Лясной Глушы, ён меў інстынктыўны страх смерці. Яна здавалася яму самым страшным болем. У ёй заключалася сама сутнасць невядомага, нагрмаджэнне ўсіх яго жахаў,—апошняя, страшная катастрофа, аб якой ён нічога не ведаў, і ўсё-ж надзяляла яе ўсімі жахамі, якія жывуць у ім самым.

Ваўчок вынырнуў на паверхню і ўсёй пашчай глынуў свежае паветра. На гэты раз ён не пайшоў на дно. Ён ударыў усімі чатырма лапамі, як быццам гэта было для яго самай прывычнай справай, і паплыў. Бліжэйшы бераг знаходзіўся ў якім-небудзь ярдзе ад ваўчка, але ён вынырнуў спіной да яго і, убачыўшы перш за ўсё процілеглы бераг, зараз-жа накіраваўся туды. Ручай быў вузкі, але якраз у гэтым месцы разліваўся футаў на дваццаць у шырыню.

На самай сярэдзіне ваўчка падхапіла плынь і панесла ўніз па ручаю, прама на маленькія парогі, якія пачыналіся ў тым месцы, дзе берагі зноў звужваліся. Плысці тут было цяжка. Спакойная вада раптам зрабілася бурнай. Ваўчок то выплываў на паверхню, то хаваўся з галавой пад ваду. Увесь гэты час яго кідала з аднаго боку ў другі, пераварачвала то на бок, то на спіну, ударала аб каменне. Пры кожным такім штуршку ён вішчэў, і па гэтым віску можна было падлічыць,

колькі разоў ён стукнуўся аб каменне, пакуль нёсся па цячэнню.

Ніжэй парогаў, дзе берагі зноў расшыраліся, ваўчок трапіў ў вір, які лёганька аднёс яго да берага і таксама лёганька паклаў на дробныя ўзбярэжныя каменьчыкі. Ваўчок вылез хутчэй з вады і лёг. Цяпер ён даведаўся пра свет яшчэ больш. Вада была нежывая і ўсё-ж яна рухалася. Апрача таго, яна здавалася такой-жа цвёрдай, як зямля, на самай-жа справе нічога цвёрдага ў ёй не было. І ён зрабіў вывад, што рэчы не заўсёды такія, якімі здаюцца. Страх перад невядомым, які быў нічым іншым, як недавер'ем, атрыманым у спадчыну ад продкаў, толькі ўзмацніўся пасля сутычкі з рэчаіснасцю. Ад гэтага часу ў ім цвёрда ўкаранілася недавер'е да знадворнага выгляду рэчаў. І перш чым даверыцца ім, ён пастараецца даведацца, што яны ўяўляюць сабой у сапраўднасці.

У гэты дзень ваўчонку было суджана адведаць яшчэ адну прыгоду. Ён раптам успомніў, што ў яго ёсць маці, і адчуў, што яна патрэбна яму больш, чым усё астатняе ў свеце. Ад усіх перанесеных ім выпрабаванняў у ваўчка стамілася не толькі цела, але і маленькі мозг. За ўсё папярэдняе жыццё мазгу яго не даводзілася так працаваць, як за адзін гэты дзень. Да таго-ж ваўчок захацеў спаць. І ён накіраваўся на пошукі пячоры і маткі, з гнятучым пачуццём адзіноцтва і поўнай бездапаможнасці.

Прабіраючыся праз хмызняк, ён раптам пачуў пранізлівы, раз'юшаны крык. Перад яго вачыма прамільгнула нешта жоўтае. Ён убачыў ласку, якая кінулася ад яго. Ласка была маленькая, і ваўчок яе не спалохаўся. Затым ля самых сваіх ног ён убачыў жывую істоту, усяго ў некалькі дзюймаў даўжыні,—гэта быў дзяцёныш ласкі, які, таксама як і ваўчок, уцёк з дому і адправіўся падарожнічаць. Маленькая ласка паспрабавала ўцячы ад ваўчка. Ён перавярнуў яе на спіну. Пачуўся дзіўны гук ласкі, падобны на скрып. У тую-ж хвіліну перад яго вачыма зноў пранеслася жоўтая пляма. Ваўчок пачуў раз'юшаны крык, нешта моцна ўдарыла яго па шыі, і ён адчуў, як вострыя зубы ласкі-маткі ўпіліся ў яго цела.

Пакуль ён з віскам і выццём адступаў назад, ласка падбегла да свайго дзяцёныша і схавалася з ім у гушчары. Боль ад укусу ўсё яшчэ не праходзіў, але боль ад крыўды даваў аб сабе адчуць яшчэ мацней, і ваўчок сеў і ціха заскуголіў. Ласка-матка была такая-ж маленькая, а ўсё-ж кусалася балюча! Ваўчку трэба было даведацца, што, не гледзячы на свае памеры і сваю маленькую вагу, ласка—адзін з самых лютых, мсцівых і страшных драпежнікаў Лясной Глушы. Ваўчок яшчэ не перастаў скуголіць, калі ласка-маці зноў з'явілася перад ім. Яна не кінулася на яго адразу, таму што дзяцёныш быў па-за небяспекай. Ласка асцярожна набліжалася да ваўчка, так што ён мог разгледзець яе тонкае, змяінае цела і высока паднятую галаву, рухомую, як у змяі. У адказ на рэзкі, пагражаючы крык ласкі шэрсць на спіне ў ваўчка паднялася дыбам, і ён зарыкаў. Яна падыходзіла ўсё бліжэй і бліжэй. Прыжок, за якім ваўчок не мог прасачыць сваімі неспрактыкаванымі вачыма,—і тонкае жоўтае цела на адну секунду знікла з яго поля зроку.

У наступны момант ласка ўжо ўчапілася яму ў горла, глыбока пракусіўшы скуру.

Ваўчок рычаў і спрабаваў адбівацца, але ён быў вельмі малады, гэта быў яго першы выхад у свет, і таму рык яго перайшоў у віск, а жаданне змагацца змянілася жаданнем уцячы ад небяспекі. Ласка не адпускала яго. Яна ўсё вісела ў яго на горле, стараючыся дабрацца зубамі да вены, дзе пульсавала жыццё ваўчка. Ласка любіла кроў і лічыла за лепшае смактаць яе з горла—крыніцы жыцця.

Шэрага ваўчка чакала верная смерць, і апавяданне пра яго асталося-б ненапісаным, калі-б ваўчыца не выскачыла з-за кустоў. Ласка выпусціла яго і кінулася да горла ваўчыцы, але, прамахнуўшыся, учапілася ёй у пашчэнку. Ваўчыца ўзмахнула галавой, як бічом, зубы ласкі сарваліся, і яна ўзляцела высока ў паветра. Не даўшы тонкаму жоўтаму целу нават апусціцца на зямлю, ваўчыца падхапіла яго наляту, і ласка сустрэла сваю смерць на вострых зубах ваўчыцы.

Ваўчку давялося адчуць новы прыліў пяшчотнасці з боку маці.

Маці радавалася яшчэ больш, чым сын. Яна лёганька падкідвала яго носам, пяшчотна залізвала раны, зробленыя зубамі ласкі. А затым матка і дзяцёныш падзялілі паміж сабой крывяпіўцу-ласку, з'елі яе, вярнуліся ў пячору і заснулі.

*Раздзел пяты*

## ЗАКОН ЗДАБЫЧЫ

Развіццё ваўчка ішло са здзіўляючай хуткасцю. Дні два ён адпачываў, а затым зноў вышаў з пячоры. У гэтае сваё падарожжа ён знайшоў маладую ласку, матка якой была з'едзена пры яго дапамозе, і пакла-паціўся, каб дзяцёныш адправіўся ўслед за маткаю. На гэты раз ён ужо не блукаў. Замарыўшыся, ён знайшоў дарогу да пячоры і лёг спаць. Пасля гэтага ваўчок кожны дзень адпраўляўся на прагулку і з кожным разам заходзіў усё далей і далей.

Ён прывык дакладна суразмяраць сваю сілу і слабасць, разумеў, калі трэба было выявіць адвагу, а калі—асцярожнасць. Выявілася, што асцярожнасць трэба захоўваць заўсёды, за выключэннем тых рэдкіх момантаў, калі ўпэўненасць ва ўласных сілах дазваляе даць волю злосці і прагнасці.

Варта было ваўчку наскочыць на курапатку, якая зазявалася, і ён рабіўся злосным, як чорт. Таксама не выпускаў ён выпадку злосна зарыкаць на траскатню ваверкі, на якую ён натрапіў упершыню каля засохшай хвоі. І адзін толькі выгляд птушкі, якая дзеўбанула яго тады ў нос, амаль нязменна выклікаў у ім шаленства.

Але былі хвіліны, калі ваўчок не звяртаў увагі нават на гэтую птушку, і гэта здаралася ў той час, калі ён адчуваў, што яму пагражае напад іншых драпежнікаў, якія, таксама як і ён, рыскаюць у пошуках мяса. Ваўчок не забыў ястраба і, убачыўшы яго цень, слізгаючы па траве, хаваўся як мага далей у кусты. Лапы яго больш не раз'язджаліся нахаду ў розныя бакі,—ваўчок ужо пераняў ад маткі яе лёгкую бясшумную хаду, абманлівая хуткасць якой была непрыкметна для вока!

Што датычыцца дзічыны, то ўдачы яго скончыліся з першым-жа днём. Сем птушанят курапаткі і маленькая ласка—вось і ўся здабыча ваўчка. Але жаданне забіваць мацнела ў ім з кожным днём, і ваўчок песціў мару

дабрацца калі-небудзь да вавёркі, якая сваёй траскатнёй паведамляла ўсім жыхарам лесу аб яго набліжэнні. Але вавёрка з такой-жа лёгкасцю лазіла па дрэвах, з якой птушкі лёталі па паветры, і ваўчку аставалася толькі адно: паспрабаваць непрыкметна падкрасціся да яе, пакуль яна была на зямлі.

Ваўчок надзвычай паважаў сваю матку. Яна ўмела здабыць мяса і ніколі не забывалася прынесці ваўчку яго долю. Больш таго,—яна нічога не баялася. Ваўчку не прыходзіла ў галаву, што гэтая адвага далася ёй шляхам вопыту і ведання. Ён думаў, што адважнасць ёсць выражэнне сілы. Маці была ўвасабленнем такой сілы; і, падрастаючы, ён адчуваў гэтую сілу ў больш рэзкім удары яе лапы; у тым, што штуршкі носам, якімі маці карала яго раней, замяніліся цяпер лютымі ўдарамі яе клыкоў. Гэта таксама ўнушала ваўчку павагу да маткі. Яна патрабавала ад яго паслухмянасці, і чым больш ён падрастаў, тым больш сурова яна з ім абыходзілася.

Зноў надышоў галодны час, і ваўчок цяпер ужо ўпаўне свядома пераносіў мукі голаду.

Ваўчыца зусім схудзела ў пошуках ежы. Праводзячы амаль увесь час на паляванні і большай часткай без усякіх вынікаў, яна рэдка прыходзіла спаць у пячору. На гэты раз галадоўка была нядоўгая, але лютая. Ваўчок не знаходзіў малака ў матчыных сасках і не мог раздабыць ні кавалачка мяса.

Раней ён паляваў дзеля забавы, дзеля той прыемнасці, якую прыносіла яму паляванне; цяпер-жа ён узяўся за гэтую справу па-сапраўднаму, і ўсё-ж у яго нічога не атрымлівалася. Але няўдачы толькі спрыялі яго развіццю. Ён з яшчэ большай стараннасцю вывучаў звычаі вавёркі і прыкладаў яшчэ больш намаганняў да таго, каб падкрасціся да яе знянацку. Ён выследжваў палявых мышэй і спрабаваў выкапваць іх з норак, даведаўся шмат аб чым новым пра дзятлаў і іншых птушак. І вось надышоў час, калі ваўчок ужо не хаваўся за кусты ўбачыўшы цень ястраба. Ён зрабіўся больш дужым, спрактыкаваным, адчуваў у сябе большую ўпэўненасць. Апрача таго, голад зрабіў яго больш лютым. І аднойчы ваўчок сеў пасярод паляны на самым відным месцы і пачаў чакаць, калі ястраб спусціцца да яго. Ён ведаў, што там, над ім, у блакітным небе, лётае

ежа—ежа, якой так настойліва патрабуе яго страўнік. Але ястраб адмовіўся прыняць бой, і ваўчок забраўся ў гушчар, жаласліва вішчачы ад расчаравання і голаду.

Голад скончыўся. Ваўчыца прынесла дамоў мяса. Мяса было незвычайнае, зусім не падобнае на тое, якое яна прыносіла раней. Гэта быў дзяцёныш рысі, які ўжо падрос, але не такі вялікі, як ваўчок. І ўсё мяса цалкам прызначалася яму. Ваўчыца ўжо паспела заспакоіць свой голад, хоць ваўчок і не падазраваў, што для гэтага ёй спатрэбіўся ўвесь астатні вывадак рысі. Не падазраваў ён і таго, які смелы ўчынак прыйшлося зрабіць маці. Ваўчок ведаў толькі адно: маладзенькая рысь з аксамітнай скуркай была мясам, і ён еў гэтае мяса і рабіўся шчаслівейшым з кожным праглынутым кавалкам.

Насычанасць выклікае бяздзеянне, і ваўчок прылёг у пячоры побач з маткай і заснуў. Яго разбудзіла яе рыканне. Ніколі яшчэ ваўчок не чуў ад маткі такіх дзіўных гукаў. Магчыма, што за ўсё сваё жыццё яна ніколі не рыкала больш страшна. Але прычына для такога рыкання была, і ніхто не ведаў гэтага лепш, чым сама ваўчыца. Вывадак рысі нельга знішчыць беспакарана.

У яркіх праменнях паўдзённага сонца ваўчок убачыў самку-рысь, якая прыпала да зямлі ля ўваходу ў пячору. Шэрсць на спіне ў ваўчка паднялася дыбам. На яго насоўваўся жах,—гэта было ясна без інстынкта. І калі нават выгляд рысі быў недастаткова страшны, то раз'юшанае выццё, якое пачулася, раптам перайшоўшы ад рыку да хрыплага віску, гаварыла само за сябе.

Жыццё, якое таілася ў ваўчку, узняло галаву; грозна рыкаючы, ён устаў і заняў месца побач з маткаю. Але яна пагардліва адштурхнула яго назад. Нізкі ўваход не дазваляў рысі зрабіць прыжок, яна юркнула ў пячору, але ў гэты момант ваўчыца скочыла і прыціснула яе да зямлі. Мала што ўдалося ваўчку ўбачыць у гэтай бойцы. Ён чуў толькі рык, фырканне рысі і пранізлівы крык. Абодва зверы качаліся па зямлі; рысь рвала праціўніка зубамі і кіпцюрамі, але ваўчыца магла пускаць у ход толькі клыкі.

Адзін раз ваўчок падскочыў да рысі, з раз'юшаным рыкам учапіўся ёй у заднюю лапу і не разнімаў зубоў. Цяжарам свайго цела ваўчок, сам таго не падазраючы,

перашкоджаў рухам рысі і дапамагаў матцы. Але хутка барацьба набыла новы абарот, абодва зверы падмялі пад сябе ваўчка, і яму прышлося выпусціць лапу рысі. У наступную хвіліну абедзве маткі адскочылі адна ад другой, і, перш чым зноў сашчапіцца з ваўчыцай, рысь ударыла ваўчка сваёй магутнай лапай, разарваўшы яму плячо да самай касці, і адкінула яго да сцяны. Пранізлівы крык параненага і перапалоханага ваўчка далучыўся да выцця раз'юшаных звяроў. Але барацьба так зацягнулася, што ў ваўчка было дастаткова часу, каб накрычацца ўволю і пачуць новы прыліў мужнасці; к канцу бітвы, ярасна рыкаючы праз сціснутыя пашчэнкі, ён зноў учапіўся ў заднюю лапу рысі.

Рысь была мёртвая. Але і ваўчыца моцна аслабела ад атрыманых ран. Яна пачала было лашчыць ваўчка і залізваць яму рану на плячы, але страта крыві зусім знясіліла яе, і ўвесь гэты дзень і ўсю ноч ваўчыца праляжала каля мёртвага ворага, не кратаючыся і ледзь дыхаючы. Наступны тыдзень, выходзячы з пячоры толькі дзеля таго, каб напіцца, ваўчыца ледзь перастаўляла ногі, таму што кожны рух учыняў ёй боль. К канцу тыдня рысь была з'едзена, і раны ваўчыцы ўжо настолькі загаіліся, што яна магла зноў пачаць паляванне.

Плячо ў ваўчка ўсё яшчэ балела, і ён хадзіў пакульгваючы, пакуль страшная рана не загаілася. Але свет за гэты час неяк змяніўся. Ваўчок трымаўся ў ім з большай упэўненасцю, з пачуццём гонару, якога ён не адчуваў да бойкі з рыссю. Яго адносіны да свету былі цяпер больш суровымі: ён удзельнічаў у бойцы; ён усадзіў зубы ў цела ворага і астаўся жывым. Таму ваўчок трымаўся цяпер смела і нават задзёрыста, чаго раней у ім не было. Ён ужо не баяўся дробных звяркоў і амаль перастаў палохацца, хоць невядомае не переставала прыгнятаць яго.

Ваўчок пачаў хадзіць разам з ваўчыцай на паляванне, шмат разоў бачыў, як яна забівае дзічыну, і сам прымаў удзел у гэтым. Ваўчок няясна пачаў разумець закон з д а б ы ч ы. У жыцці існуюць дзве пароды—яго ўласная і чужая. Да першай належыць ён з маткай, да другой—усе астатнія істоты, якія маюць здольнасць рухацца. Але і яны ў сваю чаргу падзяляюцца на дзве групы. Першую складаюць тыя, каго забівае і есць яго

парода,—не драпежнікі і дробныя драпежнікі. Зверы, якія ўваходзяць у другую групу, забіваюць і ядуць яго пароду або яго парода забівае і есць іх. І з гэтага падраздзялення склаўся закон. Мэта жыцця—здабыча. Сутнасць жыцця—здабыча. Жыццё жывіцца жыццём. Усё жывое ў свеце ваўчка падзяляецца на тых, хто есць, і тых, каго ядуць. І закон гэты гаварыў: еш, або цябе з'ядуць. Ваўчок не мог ясна і выразна сфармуляваць закон і не спрабаваў вывесці з яго ніякай маралі. Ён нават не думаў аб гэтым, а проста жыў згодна гэтага закона.

Дзеянне закона ваўчок бачыў усюды. Ён з'еў птушанят курапаткі. Ястраб з'еў іх матку і хацеў з'есці самога ваўчка. Пазней, калі ваўчок падрос, яму захацелася з'есці ястраба. Ён з'еў маленькую рысь. Маці яе з'ела-б ваўчка, калі-б сама не была забіта і з'едзена. Так яно і ішло. Усё жывое вакол ваўчка жыло згодна гэтаму закону, малюсенькай частачкай якога з'яўляўся і ён сам. Ён быў драпежнікам. Ён жывіўся толькі мясам, жывым мясам, якое ўцякала ад яго, узлятала на паветра, лазіла па дрэвах, хавалася ў зямлю або ішло да яго насустрач і пачынала бойку, а часам і прымушала яго ўцякаць.

Ваўчок не ўмеў мысліць, як чалавек, і не меў здольнасці да сувязей. Паставіўшы сабе якую-небудзь адну мэту, ён толькі аб ёй і думаў, толькі яе адной і дамагаўся. Апрача закона мяса, у жыцці ваўчка было мноства іншых, менш важных законаў, якія ён павінен быў вывучыць і, вывучыўшы, пакарацца ім. Свет меў шмат нечаканасцей. Жыццё, якое трапятала ў ваўчка, гульня яго мускулаў з'яўляліся для яго невычарпальнай крыніцай шчасця. Пагоня за мясам прымушала яго дрыжэць ад асалоды. Лютасць і бойка прыносілі з сабой адну прыемнасць. І нават у жаху і таямніцах невядомага было для яго жыццё.

Апрача гэтага, у жыцці было шмат іншых прыемных адчуванняў. Насычанасць, лянівая дрымота на сонцы—усё гэта з'яўлялася для ваўчка ўзнагародай за яго стараннасць і працу, а стараннасць і праца самі па сабе прыносілі яму радасць. Такім чынам, ваўчок жыў у згодзе з акружаўшым яго варожым асяроддзем. Ён быў вельмі жыццерадасным, шчаслівым і ганарыўся сабой.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

*Раздзел першы*

## ТВАРЦЫ АГНЮ

Ваўчок наткнуўся на гэта зусім нечакана. Усё здарылася па яго віне. Ён забыў аб асцярожнасці. Вышаў з пячоры і пабег да ручая напіцца. Магчыма, што ваўчок нічога не заўважыў яшчэ таму, што не паспеў канчаткова прачнуцца. (Уся ноч прайшла на паляванні, і ваўчок толькі што падняўся са сну.) А можа быць, нядбайнасць яго тлумачылася і тым, што дарога да ручая была яму добра знаёма. Ён часта бегаў па ёй, і да гэтага часу ўсё сходзіла ўдачна.

Ваўчок апусціўся па сцежцы міма засохшай хвоі, перасек палянку і пабег паміж дрэвамі. І раптам ён адначасова ўбачыў і пачуў нешта незнаёмае. Перад ім моўчкі сядзелі на кортачках пяць жывых істот, якіх яму не даводзілася бачыць да гэтага часу. Гэта была першая сустрэча ваўчка з чалавекам. Але людзі не ўскочылі, не вышчарылі зубоў, не зарыкалі пры з'яўленні ваўчка. Яны не краталіся і сядзелі на кортачках, маўклівыя і злавесныя.

Не кратаўся і ваўчок. Пакараючыся інстынкту, ён-бы, не разважаючы, кінуўся-б бегчы ад іх, але ўпершыню за ўсё жыццё ў ім раптоўна ўзнік другі, зусім процілеглы інстынкт. Ваўчка ахапіў страх. Усведамленне ўласнай слабасці і нікчэмнасці пазбавіла ваўчка здольнасці рухацца.

Ваўчок ніколі яшчэ не бачыў чалавека, але інстынктыўна разумеў усю яго сілу. Дзесьці ў глыбіні яго

свядомасці жыла ўпэўненасць, што гэтая жывёла адваявала сабе першынства над усімі астатнімі жыхарамі Лясной Глушы. На чалавека зараз глядзела не адна пара вачэй,—на яго ўтаропіліся вочы ўсіх продкаў ваўчка, якія блукалі ў цемнаце вакол безлічных зімніх стаянак, прыглядваліся здалёк, з-за густых зараснікаў, да дзіўнай двуногай жывёліны—да чалавека. Ваўчок апынуўся ва ўладзе сваіх продкаў, ва ўладзе страху і павагі, народжаных векавой барацьбой і вопытам, накопленым пакаленнямі. Гэтая спадчына прыгняла ваўка, які быў усяго толькі ваўчанём. Калі-б ваўчок быў больш старэйшым, ён-бы ўцёк. Але зараз ён прыпаў да зямлі, паралізаваны страхам і амаль быў гатовы выказаць тую пакорлівасць, з якой далёкі продак ішоў да чалавека, каб пагрэцца ля яго агню.

Адзін з індзейцаў устаў, падышоў да ваўчка і нахіліўся над ім. Ваўчок яшчэ ніжэй прыпаў да зямлі. Невядомае набыло нарэшце плоць і кроў, схілілася над ваўчком і працягнула да яго руку, збіраючыся схапіць яго. Шэрсць ваўчка паднялася дыбам, незалежна ад яго волі, губы задрыжэлі, агаліўшы маленькія клыкі. Рука, якая навісла над ім, на хвіліну затрымалася, і чалавек сказаў са смехам:

— Вабам вабіска іп піт та. (Глядзіце! Белыя клыкі!)

Астатнія гучна рассмяяліся і пачалі падбухторваць індзейца ўзяць ваўчка ў рукі. Рука апускалася ўсё ніжэй і ніжэй, а ў ваўчка бушавала барацьба двух інстынктаў. Адзін унушаў, што трэба пакарыцца, другі штурхаў на барацьбу. Нарэшце ваўчок пайшоў на згоду з самім з сабою. Ён паслухаўся інстынктаў—пакарыўся да таго часу, пакуль рука не дакранулася да яго, а затым парашыў змагацца і схапіў яе зубамі. У наступны момант удар па галаве паваліў яго набок. Усякае жаданне змагацца знікла. Ваўчок ператварыўся ў паслухмянага шчанюка. Ён сеў на заднія лапы і заскуголіў. Але чалавек з укушанай рукой раззлаваўся. Ваўчок атрымаў яшчэ адзін удар па галаве і, падняўшыся на ногі, заскуголіў яшчэ галасней, чым першы раз.

Чатыры індзейцы разрагаталіся, і нават чалавек, якога ўкусіў ваўчок, далучыўся да іх рогату. Усё яшчэ рагочучы, яны абступілі ваўчка, які не спыняў выць ад болю і жаху.

Але вось ён пачуў нешта такое, што пачулі і індзейцы. Ваўчок пазнаў гэтыя гукі і, у апошні раз працягла завыўшы (у гэтым выцці хутчэй гучэла радасць, чым гора,) змоўк і прыгатаваўся чакаць з'яўлення маткі—сваёй адважнай, лютай маткі, якая ўмела біцца з праціўнікамі, умела забіваць іх і ніколі нічога не баялася. Яна набліжалася са страшэнным рыкам. Маці пачула крыкі свайго ваўчка і кінулася да яго на дапамогу.

Яна кінулася да людзей. Устрывожаная, гатовая рынуцца ў бітву, ваўчыца ўяўляла з сябе мала прыемнае відовішча, але ваўчка гэты ратавальны гнеў толькі ўзрадаваў.

Ён завішчэў ад шчасця і кінуўся ёй насустрач, а людзі паспешна адступілі на некалькі крокаў назад. Ваўчыца стала паміж ваўчком і людзьмі, шэрсць на ёй падымалася дыбам, у горле клекатаў рык. Лютасць зусім перакрывіла ваўчыцу, скура ў яе на носе сабралася ў дробныя складкі і ўся падзёргвалася ад аглушальнага рыку.

І раптам адзін індзеец крыкнуў:

— Кіч!

У выгуку яго чулася здзіўленне.

Ваўчок адчуў, што маці натапырылася да гэтага гуку.

— Кіч!—зноў крыкнуў чалавек, на гэты раз рэзка і загадна.

І тады ваўчок убачыў, як ваўчыца, яго бясстрашная маці, вішчачы, прыпала да зямлі, дакрануўшыся да яе брухам, і закруціла хвастом, просячы міру. Ваўчок нічога не зразумеў. Яго ахапіў жах. Ён зноў задрыжэў перад чалавекам. Інстынкт гаварыў яму праўду. І маці пацвердзіла гэта. Яна таксама выказвала пакорлівасць людзям.

Чалавек, які сказаў «Кіч», падышоў да ваўчыцы. Ён паклаў ёй руку на г лаву, і ваўчыца яшчэ ніжэй прыпала да зямлі. Яна не ўкусіла яго, ды і не збіралася гэтага рабіць. Да ваўчыцы падышлі астатнія людзі і пачалі абмацваць і гладзіць яе, але яна не пратэставала. Усе яны былі вельмі ўзрушаны, і з ртоў іх вырываліся громкія гукі. У гэтых гуках не было нічога пагражаючага, ваўчок прытуліўся да маткі і парашыў пакарыцца,

але час ад часу шэрсць у яго на спіне ўсё-ж уставала дыбам.

— Што-ж тут дзіўнага!—сказаў адзін індзеец.—Яе бацька быў воўк. Праўда, яе маці была сабака, але хіба брат мой не прывязваў яе вясной на цэлыя тры ночы ў лесе? Значыць, бацька Кіч быў воўк.

— Ужо год мінуў з таго часу, як яна ўцякла, Шэры Бобр,—сказаў другі індзеец.

— Што-ж тут дзіўнага, Язык Ласося?—адказаў Шэры Бобр.—Тады быў голад і сабакам нехапала мяса.

— Яна жыла з ваўкамі,—сказаў трэці індзеец.

— Ты праўду кажаш, Тры Арлы,—адказаў Шэры Бобр, паклаўшы руку на ваўчка,—і вось табе доказ.

Ваўчок паціху зарыкаў, адчуўшы дакрананне рукі, і рука адскочыла назад, рыхтуючыся ўдарыць яго. Тады ён схаваў клыкі і пакорліва прыпаў да зямлі, а рука зноў апусцілася і пачала чухаць яго за вуха і гладзіць па спіне.

— Вось табе доказ,—казаў далей Шэры Бобр.—Ясна, што Кіч—яго маці. Але бацька ў яго быў ваўком. Таму ў ім мала сабачага і шмат воўчага. У яго белыя клыкі, і я дам яму мянушку Белы Клык. Я сказаў. Гэта мой сабака. Хіба Кіч не належала майму брату? І хіба брат мой не памёр?

Ваўчок, які атрымаў такім чынам імя, ляжаў і слухаў.

Людзі не спынялі гаварыць яшчэ некаторы час. Затым Шэры Бобр выняў нож з ножан, якія віселі ў яго на шыі, пайшоў у хмызняк і выразаў палку. Белы Клык назіраў за ім. Шэры Бобр зрабіў на абодвух канцах палкі па засечцы і прывязаў да іх рамяні з сурамяці. Адзін рамень ён абвязаў вакол шыі Кіч. Затым падвёў яе да маленькай хвоі і прывязаў другі рамень да дрэва. Белы Клык пайшоў за маткай і лёг побач з ёй. Язык Ласося працягнуў да ваўчка руку і перакуліў яго на спіну. Кіч спалохана глядзела на іх. Белы Клык адчуў, як страх зноў ахапляе яго. Ён не здолеў падавіць у сабе рыку, але кусацца ўжо не асмельваўся. Рука з растапыранымі кручкаватымі пальцамі пачала чухаць яму жывот і перакочваць з аднаго боку на другі. Ляжаць на спіне з задзёртымі ўверх нагамі было смешна і няёмка. Апрача таго, Белы Клык адчуваў сябе такім бездапаможным, што ўся яго істота абуралася

супроць такога становішча. Ён не мог абараніцца. Белы Клык ведаў, што калі гэты чалавек захоча прынесці яму боль, ён не здолее абараніцца. Хіба можна адскочыць убок, калі ўсе чатыры нагі целяпаюцца ў паветры? І ўсё-ж пакорлівасць прымусіла ваўчка падавіць пачуццё страху, і ён абмяжоўваўся ціхім бурчэннем. Бурчэнне вырывалася міма яго волі, але чалавек не раззлаваўся і не ўдарыў яго па галаве. І як гэта ні дзіўна, але Белы Клык адчуваў нейкую невытлумачальную прыемнасць, калі рука гладзіла яго па шэрсці ўзад і ўперад. Перавярнуўшыся на бок, ён перастаў бурчэць; а калі пальцы пачалі скрабсці і чухаць у яго за вухам, прыемнае адчуванне толькі ўзмацнілася. І калі, нарэшце, чалавек пагладзіў яго ў апошні раз і адышоў, страх канчаткова пакінуў Белага Клыка. Яму яшчэ ўперадзе не адзін раз суджана было адчуць страх перад чалавекам, але пачатак прыяцельскіх адносін паміж імі быў пакладзен у гэтыя хвіліны.

Праз некаторы час Белы Клык пачуў набліжэнне нейкіх дзіўных гукаў. Ён хутка здагадаўся, што гукі гэтыя далятаюць ад людзей. Праз некалькі хвілін на сцежку чарадой вышла астатняя частка племені, якое пераваНдроўвала на другое месца. Іх было чалавек сорак—мужчын, жанчын, дзяцей, якія згіналіся пад цяжарам лагернага скарбу. Апрача таго, з імі ішло шмат сабак; і ўсе сабакі, за выключэннем шчанят, таксама былі нагружаны рознай паклажай. Кожны сабака нёс на спіне мяшок з рэчамі, фунтаў у дваццаць—трыццаць вагой.

Белы Клык ніколі яшчэ не бачыў сабак, але адразу адчуў, што яны мала чым адрозніваюцца ад яго ўласнай пароды. Убачыўшы ваўчка і яго матку, сабакі зараз-жа даказалі, як невяліка гэтая розніца. Адбылася бойка. Увесь натапырыўшыся, Белы Клык рыкаў і агрызаўся на абступіўшыя яго з усіх бакоў раззяўленыя сабачыя пашчы; сабакі збілі ваўчка з ног, але ён не перастаў кусаць і рваць іх за лапы і за жываты, адчуваючы ў той-жа час, як сабачыя зубы ўядаюцца яму ў цела. Падняўся няўяўны шум. Ваўчок чуў рык Кіч, якая кінулася яму на падмогу, чуў крыкі людзей, удары палак і віск сабак, якім даставаліся гэтыя ўдары.

Усё гэта заняло толькі некалькі секунд, і ваўчок зноў быў на нагах. Ён убачыў, што людзі адганяюць сабак палкамі і каменнямі і хочуць абараніць і выратаваць яго ад бязлітасных клыкоў яго сабратоў, якія ўсё-ж чымсьці адрозніваліся ад воўчай пароды. І хоць ваўчок не мог ясна ўразумець такое адцягненае паняцце, як справядлівасць, тым не менш ён па-свойму адчуў справядлівасць чалавека і прызнаў у ім істоту, якая ўстанаўляе закон і сочыць за яго выкананнем. Ацаніў ён таксама і сілу, з якой людзі прымушаюць падпарадкоўвацца сваім законам. Яны не кусаліся і не драліся, як усе зверы, якіх сустракаў да гэтага часу ваўчок, і выкарысталі сілу нежывых рэчаў. Нежывыя рэчы падпарадкоўваліся іх волі. Так, каменні і палкі, кінутыя гэтымі дзіўнымі істотамі, скакалі па паветры, як жывыя, і наносілі сабакам моцныя ўдары.

Улада гэтая здавалася ваўчку незвычайнай, незразумелай уладай, яна выходзіла за межы ўсяго звычайнага.

Але вось апошні сабака адбегся ўбок; мітусня сунялася, і Белы Клык пачаў залізваць раны, разважаючы аб першым знаёмстве з бязлітаснасцю стаі і аб сваім першым далучэнні да яе. Да гэтага часу ён думаў, што ўся яго парода складаецца з Аднавокага, маці і яго самога. Яны трое стаялі асобна. І раптам, зусім нечакана, яму прышлося выявіць, што ёсць яшчэ шмат іншых істот, якія належаць, мабыць, да яго пароды. І дзесьці ў глыбіні свядомасці ў ваўчка з'явілася пачуццё крыўды на сваіх сабратоў, якія хацелі разарваць яго ў бойцы. Апрача таго, ваўчок быў пакрыўджаны тым, што матку прывязалі да палкі, хоць гэта і было зроблена рукамі вышэйшай істоты. Тут ужо пахла пасткай, няволяй. Але ні аб пастцы, ні аб няволі ваўчок нічога не ведаў. Патрэбнасць свабодна блукаць, бегаць, ляжаць, калі захочацца, перайшла да яго па спадчыне ад продкаў. Зараз рухі ваўчыцы абмяжоўваліся даўжынёй палкі, і тая-ж самая палка абмяжоўвала і рухі ваўчка, таму што ён яшчэ не мог абыйсціся без маткі.

Ваўчку гэта не падабалася. І ён канчаткова астаўся незадаволеным такімі парадкамі, калі людзі падняліся і рушылі ў дарогу, таму што нейкі маленечкі чалавек узяў у рукі палку, да якой была прывязана Кіч, і павёў

яе за сабой, як палонніцу, а за Кіч пацягнуўся і Белы Клык, вельмі збянтэжаны і занепакоены гэтым новым здарэннем.

Яны адправіліся ўніз па рачной даліне, значна далей тых месц, куды заходзіў у сваіх вандраваннях Белы Клык, і дайшлі да самага канца яе, дзе рэчка ўпадала ў Макензі. На беразе на высокіх жэрдках стаялі пакінутыя раней пірогі[1], ляжалі рашоткі для сушкі рыбы, і тут індзейцы сталі лагерам. Белы Клык са здзіўленнем азіраўся вакол сябе. Магутнасць людзей расла на яго вачах з кожнай хвілінай. Ён ужо пераканаўся ў іх уладзе над раз'юшанымі сабакамі. Гэтая ўлада гаварыла аб сіле. Але яшчэ больш здзіўляла ваўчка іх улада над нежывымі прадметамі, іх здольнасць змяняць самы твар свету. Гэта здзіўляла ваўчка больш за ўсё. Ён заўважыў, што людзі ўстанаўляюць жэрдкі для вігвамаў; але тут не было нічога цікавага,—гэта рабілі тыя-ж самыя людзі, якія ўмелі кідаць на вялікую адлегласць каменні і палкі. Аднак, калі з жэрдак, абцягнутых скурай і парусінай, атрымаліся вігвамы, Белы Клык здзівіўся.

Больш за ўсё яго здзіўлялі велізарныя размеры вігвамаў. Яны раслі ўсюды, як жывыя істоты, з надзвычайнай хуткасцю. Яны займалі амаль усё поле зроку ваўчка. Ён баяўся іх. Яны злавесна маячылі ў вышыні, і калі вецер прабягаў па стаянцы, надзімаючы на вігвамах парусіну і скуру, ваўчок у страху прыпадаў да зямлі, не зводзячы з іх вачэй і рыхтуючыся кожную хвіліну адскочыць убок, як толькі яны пачнуць валіцца на яго.

Але хутка яго страх перад вігвамамі знік. Ваўчок бачыў, як жанчыны і дзеці ўваходзілі і выходзілі з іх без усякай шкоды для сябе, а сабакі часта спрабавалі прайсці ўнутр, але людзі праганялі іх з лаянкай і шпурлялі ў іх каменнямі. К канцу дня ваўчок пакінуў Кіч і асцярожна падпоўз да бліжэйшага вігвама. Яго падбухторвала цікаўнасць—патрэбнасць вучыцца жыць, дзейнічаць і набірацца вопыту. Апошнія некалькі дзюймаў, якія аддзялялі яго ад сцяны вігвама, поўз

[1] Пірога—вузкі і доўгі човен у караібаў, які звычайна выдзёўбваецца ці выпальваецца з цэлага дрэвавага ствала.

страшэнна доўга і асцярожна. Падзеі гэтага дня ўжо падрыхтавалі яго да таго, што невядомае мае схільнасць з'яўляцца самым нечаканым, неймаверным чынам. Нарэшце, нос яго дакрануўся парусіны. Ваўчок чакаў... але нічога не здарылася. Тады ён панюхаў гэтую дзіўную тканіну, насычаную пахам чалавека, потым узяў яе зубамі і злёгку пацягнуў да сябе. Нічога не здарылася, хоць парусінавая сцяна і задрыжэла. Ваўчок пацягнуў мацней. Сцяна захісталася. Ваўчку гэта вельмі спадабалася. Ён цягнуў усё мацней і мацней, пакуль уся сцяна не пачала рухацца. Тады з вігвама данёсся рэзкі вокліч індзіянкі, і ваўчок кулём пабег да Кіч. Але з гэтага часу ён перастаў баяцца маячыўшых над яго галавой вігвамаў. Праз хвіліну ваўчок зноў адышоў ад маткі. Яе палка была прывязана да калочка, увагнанага ў зямлю, і ваўчыца не магла пайсці за Белым Клыком. Да ваўчка з ваяўнічым выглядам набліжаўся вялікі шчанюк, старэйшы і большы за яго. Шчанюка называлі Ліп-Ліп, як аб гэтым пазней даведаўся Белы Клык. Ён быў ужо спрактыкаваны ў баях і лічыўся сярод сваіх сабратаў забіякай.

Белы Клык прызнаў у шчанюку істоту сваёй пароды і, не чакаючы ад яго ніякіх варожых дзеянняў, прыгатаваўся прыязна прыняць яго. Але як толькі незнаёмы ашчэрыў зубы і ўвесь падабраўся для прыжку, Белы Клык таксама настаражыўся і таксама вышчарыў зубы. Натапырыўшыся і пагрозна рыкаючы, ваўчок і шчанюк пачалі кружыць адзін за адным, чакаючы далейшых дзеянняў. Гэта цягнулася некалькі хвілін, і Беламу Клыку такая гульня пачынала спадабацца. Раптам Ліп-Ліп зрабіў парыўчы прыжок, рвануў ваўчка зубамі і адскочыў убок. Ён укусіў ваўчка якраз у тое плячо, якое пасля бойкі з рыссю ўсё яшчэ балела, глыбока, каля самай касці. Белы Клык завыў ад здзіўлення і болю, але ў наступны-ж момант з лютасцю кінуўся на Ліп-Ліп і пачаў злобна кусаць яго.

Але Ліп-Ліп нездарма пражыў сваё жыццё ў лагеры і нездарма ўдзельнічаў у стольк іх бойках са шчанюкамі. Тры, чатыры, шэсць разоў запар укусіў ён навічка сваімі маленькімі вострымі зубамі, і, нарэшце, Белы Клык з віскам ганебна ўцёк пад абарону маткі. Гэта

была яго першая бойка з Ліп-Ліпам, і такіх боек уперадзе было шмат, таму што яны з першай жа сустрэчы адчулі варожасць адзін да аднаго, глыбокую варожасць, якая выклікала ў іх вечныя сутычкі.

Кіч ласкава аблізвала Белага Клыка, прабуючы ўтрымаць яго каля сябе, але цікаўнасць ваўчка была ненасытная. Праз некалькі хвілін ён зноў накіраваўся на разведку і натыкнуўся на чалавека, якога называлі Шэрым Бабром. Прысеўшы на кортачкі, Шэры Бобр рабіў нешта з высахлым мохам і палкамі, якія былі раскладзены перад ім на зямлі. Белы Клык падышоў бліжэй і пачаў назіраць за ім. З рота Шэрага Бабра вырваліся нейкія гукі, у якіх, як здалося Беламу Клыку, не было нічога варожага, і ён падышоў яшчэ бліжэй.

Жанчыны і дзеці падносілі Шэраму Бабру палкі і галінкі. Як відаць, справа была сур'ёзная. Цікаўнасць Белага Клыка так разгарэлася, што ён падышоў да Шэрага Бабра ўсутыч, забыўшы, што перад ім знаходзіцца страшная чалавечая істота. Раптам ён убачыў, што з-пад рук Шэрага Бабра над палкамі і мохам пачынае падымацца нешта дзіўнае, што нагадвала туман. Потым паміж палкамі, круцячыся і звіваючыся, узнікла штосьці жывое, падобнае па колеру да сонца ў небе. Белы Клык не падазраваў аб існаванні агню. Агонь вабіў яго да сябе, як калісь у пячоры ў дні дзяцінства яго вабіла святло. Ваўчок падпоўз яшчэ бліжэй. Ён пачуў над сабой смех Шэрага Бабра і зразумеў, што ў гэтых гуках няма нічога варожага. Затым Белы Клык дакрануўся да полымя носам і высунуў язык.

У першую секунду ён аслупянеў. Прытаіўшыся сярод палак і моху, невядомае з лютасцю ўчапілася яму ў нос. Белы Клык адскочыў ад агню, страшэнна завішчэўшы. Пачуўшы гэты віск, Кіч з рыкам кінулася ўперад, наколькі дазваляла палка, і пачала кідацца ад раз'юшанасці, адчуваючы сябе бяссільнай дапамагчы ваўчку. Але Шэры Бобр рагатаў, ляскаючы сябе па бёдрах, і расказваў усяму лагеру аб тым што здарылася, і ўсе гучна смяяліся. А Белы Клык, які ўсеўся на заднія лапы, вішчэў, вішчэў несціхаючы і здаваўся такой маленькай, вартай жалю фігуркай, якая была непрыкметна сярод абступіўшых яго людзей.

Гэта быў самы моцны боль, які яму давялося перанесці. Жывая істота, якая ўзнікла пад рукамі Шэрага Бабра і падобная колерам на сонца, апякла яму і нос і язык. Белы Клык скуголіў, скуголіў, не сціхаючы, і кожнае яго выццё людзі сустракалі новым выбухам смеху. Ён паспрабаваў лізнуць нос, але дотык апечанага языка да апечанага носа толькі ўзмоцніў боль, і ваўчок завыў з яшчэ большай роспаччу і сумам.

А потым яму зрабілася сорамна. Ён разумеў, чаму людзі смяюцца. Нам не дадзена ведаць, якім чынам некаторыя жывёлы разумеюць што такое смех, і здагадваюцца, што мы смяемся з іх. Тое-ж самае здарылася і з Белым Клыкам. Яму зрабілася сорамна, што людзі з яго смяюцца. Ён павярнуўся і ўцёк, але ўцячы яго прымусіў не боль ад апёкаў, а смех, таму што смех пранікаў глыбей і параніў мацней, чым агонь. Белы Клык кінуўся да Кіч, якая шалела на прывязі,—да адзінай у свеце істоты, якая не смяецца над ім.

Змерклася, услед за змрокам надышла ноч, а Белы Клык не адыходзіў ад маткі. Нос і язык усё яшчэ балелі, але яго мучыла другая, яшчэ больш моцная трывога. Яго ахапіў сум па радзіме. Ён адчуваў нейкую пустату ў сабе, яму нехапала цішыні і спакою, што акружалі ручай і пячору ў скале. Жыццё зрабілася надта шумным. Вакол яго было вельмі многа людзей—мужчын, жанчын, дзяцей,—усе яны шумелі і раздражнялі ваўчка. Сабакі заўсёды лаяліся, грызліся, рыкалі і падымалі мітусню. Спакойнае адзіноцтва, якое ён ведаў раней, скончылася. Тут нават само паветра было насычана жыццём. Яно і гудзела навокал Белага Клыка, не змаўкаючы ні на хвіліну. Новыя гукі трывожылі і раздражнялі Белага Клыка, прымушаючы яго кожную хвіліну чакаць новых здарэнняў.

Ён назіраў, як людзі адыходзяць, прыходзяць і снуюдаюцца па лагеру. Падобна таму, як чалавек глядзіць на ім-жа створаных багоў, так і Белы Клык глядзеў на акружаючых яго людзей. Яны былі для яго вышэйшымі істотамі—божаствам. Яго смутнае сазнанне бачыла ва ўсіх іх дзеяннях тую-ж цудатворную сілу, якой чалавек надзяляе бога. Яны былі ўладальнікамі незразумелай, бязмежнай магутнасці; уладарамі ўсяго жывога і нежывога свету; яны трымалі ў па-

спухмянасці ўсё, што здольна рухацца, і надавалі рух нерухомым рэчам; з мёртвага моху і палак яны тварылі жыццё, якое кусалася і колерам сваім нагадвала сонца. Яны тварылі агонь! Яны былі багі!

*Раздзел другі*

# НЯВОЛЯ

Кожны новы дзень прыносіў Беламу Клыку новыя перажыванні. Пакуль Кіч сядзела на прывязі, ён бегаў па ўсяму лагеру, даследваючы, вывучаючы яго і набіраючыся вопыту. Ён хутка азнаёміўся з прывычкамі і спосабам жыцця людзей, але такое блізкае знаёмства не выклікала ў ім пагарды да іх. Чым больш ён пазнаваў людзей, тым больш пераконваўся ў іх перавазе.

І таксама як яго маці, Кіч, выказала ім пакорлівасць, як толькі пачула сваё імя, так і Белы Клык пранікся той-жа пакорлівасцю. Калі яны пападаліся яму насустрач, ён уступаў ім дарогу. Калі яны клікалі яго, ён падыходзіў. Калі яны пагражалі, ён прыпадаў да зямлі. Калі яны праганялі яго, ён хутка ўцякаў. Таму што кожнае іх жаданне пацвярджалася сілай, якая магла прычыніць боль, сілай, якая выяўлялася пры дапамозе кулака альбо палкі, пры дапамозе лётаючых каменняў і апякаючых болем удараў бізуна.

Белы Клык належыў людзям, як належалі ім усе сабакі. Яго ўчынкі залежалі ад іх жаданняў. Яго цела яны маглі замучыць, растаптаць або пашкадаваць. Гэты ўрок Белы Клык запамятаў хутка, але даўся ён яму нялёгка,—надта многае ў натуры ваўчка абуралася супроць таго, з чым яму прыходзілася сутыкацца на кожным кроку; і разам з тым, непрыкметна для самога сябе, Белы Клык пачынаў разумець хараство новага жыцця, хоць прывыкаць да яго было і цяжка і неприемна. Яму падабалася аддаваць свой лёс у чужыя рукі і знімаць з сябе ўсякую адказнасць за ўласнае існаванне. Ужо адно гэта з'яўлялася для яго ўзнагародай, таму што абапірацца на другога заўсёды лягчэй, чым стаяць аднаму.

Але ўсё гэта здарылася не адразу,—за адзін дзень нельга аддацца чалавеку і душой і целам. Белы Клык не мог адразу перамагчы ў сабе спадчынасць, не мог

забыць Лясную Глуш. Бывалі дні, калі ён выходзіў на ўскрай лесу і стаяў там, прыслухоўваючыся да заклікаў, якія вабілі яго ўдалечыню. І заўсёды ў такіх выпадках ён варочаўся непакойным і ўстрывожаным і, жаласліва і ціха вішчучы, клаўся побач з Кіч і лізаў ёй морду сваім хуткім, дапытлівым язычком.

Белы Клык хутка вывучыў лагернае жыццё. Ён пазнаёміўся з несправядлівасцю і прагнасцю дарослых сабак у час раздачы мяса і рыбы. Яму прыйшлося пераканацца ў тым, што мужчыны справядлівыя, дзеці бязлітасныя, а жанчыны добрыя, і ад іх хутчэй, чым ад іншых, можна атрымаць кавалак мяса ці костку. А пасля двух ці трох сутычак з маткамі шчанюкоў Белы Клык зразумеў, што матак лепш пакідаць у спакоі, лепш унікаць сустрэч з імі і трымацца ад іх як мага далей.

Але больш за ўсіх яму атручваў жыццё ўсё-ж Ліп-Ліп. Ён быў старэйшы і дужэйшы за ваўчка. Белы Клык біўся досыць ахвотна, але заўсёды ён быў пераможаны. Праціўнік быў занадта вялікі для яго. Ліп-Ліп праследаваў сваю афяру, як кашмар. Варта было Беламу Клыку адыйсці ад маткі, забіяка быў тут як тут, не адыходзіў ад яго ні на крок, рыкаў, прычэпліваўся да яго і ніколі не выпускаў выпадку кінуцца на Белага Клыка і выклікаць яго на бойку, калі паблізу не было людзей. Гэтыя сутычкі прыносілі Ліп-Ліпу велізарную прыемнасць, таму што ён заўсёды выходзіў з іх пераможцам. Але тое, што было для яго самай вялікай асалодай у жыцці, прыносіла Беламу Клыку толькі адны пакуты.

Аднак, запалохаць Белага Клыка было не так лёгка. Ён цярпеў паражэнні, але ў душы ніяк не мог прымірыцца. І ўсё-ж гэтая вечная варожасць пачынала адбівацца на яго характары. Ён зрабіўся злосным і панурым. Лютасць была ўласціва яго пародзе,—бясконцыя праследаванні яшчэ больш злосным рабілі ваўчка... Тое, што было ў ім дабрадушнага, гуллівага, шчанячага, не знаходзіла сабе выхаду.

Ён ніколі не гуляў і не вазіўся з іншымі шчанюкамі. Ліп-Ліп не дапускаў гэтага. Варта было Беламу Клыку з'явіцца сярод іх, як Ліп-Ліп налятаў на яго, пачынаў

сварку і біўся з Белым Клыкам да таго часу, пакуль той не ўцякаў прэч.

Нарэшце амаль усё шчанячае, што было ў Белым Клыку, знікла, і ён пачаў здавацца значна старэй свайго ўзросту. Пазбаўлены магчымасці даваць выхад сваёй энергіі ў гульні, ён замкнуўся ў сабе і пачаў развівацца разумова. У Белым Клыку з'явілася хітрасць; у яго было дастаткова часу, каб абдумваць свае ўчынкі. З прычыны таго, што яму перашкаджалі атрымліваць сваю долю мяса і рыбы ў часе агульнага кармлення сабак, ён зрабіўся спрытным злодзеем. Прыходзілася самому прамышляць для сябе, і Белы Клык навучыўся рабіць гэта так майстэрскі, што зрабіўся сапраўдным бічом для індзіянак. Ён шмыгаў па ўсяму пасёлку, ведаў, дзе што робіцца, усё бачыў і чуў, прыстасоўваўся да акалічнасцей і навучыўся ўнікаць сустрэч са сваім непрымірымым ворагам.

Яшчэ ў самым пачатку варожасці з Ліп-Ліпам Белы Клык злосна пажартаваў над сваім ворагам і ўпершыню адчуў асалоду помсты. Белы Клык прыкладна тым-жа спосабам заманіў Ліп-Ліпа прама ў раз'юшаную пашчу Кіч, як яна калісьці заманьвала сабак і адводзіла іх ад людской стаянкі на з'яданне ваўкам. Ратуючыся ад Ліп-Ліпа, Белы Клык пабег не прама, а пачаў кружыць паміж вігвамамі. Бегаў ён добра, хутчэй любога шчаняці яго ўзросту і хутчэй самога Ліп-Ліпа. Але на гэты раз ён не асабліва спяшаўся і падпусціў свайго праследавальніка на адлегласць усяго толькі аднаго прыжка ад сябе.

Узбуджаны пагоняй і блізкасцю афяры, Ліп-Ліп пакінуў усякую асцярожнасць і забыўся, дзе ён знаходзіцца. Калі ён успомніў пра гэта, было ўжо позна. На ўсім бягу абагнуўшы вігвам, ён зразмаху наляцеў прама на Кіч, якая ляжала на прывязі. Ліп-Ліп завыў ад жаху. Хоць Кіч і была прывязаная, але адчапіцца ад яе было не так лёгка. Ліп-Ліп ужо не мог уцячы, таму што Кіч збіла яго з ног і пачала кусаць і рваць сваю афяру.

Адкаціўшыся, нарэшце, ад ваўчыцы ўбок, Ліп-Ліп ледзь падняўся на ногі, увесь ускудлачаны, пабіты і фізічна і маральна. Шэрсць яго тырчэла клоччамі ў тых месцах, дзе па ёй прайшліся зубы Кіч. Ліп-Ліп раскрыў пашчу і, не сходзячы з месца, прарэзліва, па-шчанячаму

завыў. Але Белы Клык не даў яму дакончыць. Ён кінуўся на Ліп-Ліпа і ўчапіўся яму зубамі ў заднюю лапу. Уся ваяўнічасць пакінула шчанюка, і ён пусціўся ганебна ўцякаць, а яго афяра гналася за ім па пятах і не адчапілася да таго часу, пакуль Ліп-Ліп не дабег да свайго вігвама. Тут на выручку яму падаспелі індзіянкі, і Белы Клык, які ператварыўся ў раз'юшанага д'ябла, адступіў толькі пад градам ляцеўшых у яго каменняў.

Надышоў дзень, калі Шэры Бобр адвязаў Кіч, парашыўшы, што цяпер яна ўжо не ўцячэ. Белы Клык быў у захапленні, бачачы матку на волі. Ён з радасцю адправіўся блукаць з ёй па ўсяму пасёлку, і пакуль Кіч была блізка, Ліп-Ліп трымаўся ад Белага Клыка на значнай адлегласці. Белы Клык нават натапырваўся і падыходзіў да яго з задзёрыстым выглядам, але Ліп-Ліп не прымаў выкліку. Ён быў не дурны і парашыў пачакаць з помстай да таго часу, пакуль не сустрэнецца з Белым Клыкам адзін-на-адзін.

У той-жа дзень Кіч з Белым Клыкам вышлі на ўскрай лесу, з якім межаваўся пасёлак. Белы Клык паступова, крок за крокам, адводзіў туды матку, і калі яна спынілася на ўскраі лесу, ён паспрабаваў зацягнуць яе далей. Ручай, логава і спакойны лес вабілі да сябе Белага Клыка, і ён хацеў, каб маці пайшла разам з ім. Ён адбегся на некалькі крокаў, спыніўся і паглядзеў на яе. Яна стаяла, не рухаючыся. Белы Клык жаласліва заскавытаў і, гуляючы, пачаў бегаць сярод кустоў. Затым вярнуўся, лізнуў яе ў морду і зноў адбегся. Але маці ўсё-ж не рухалася. Белы Клык стаяў, гледзячы на яе, і здавалася, што настойлівасць і нецярпенне ўсяліліся раптам у цела ваўчка і затым павольна пакінулі яго, калі Кіч павярнула галаву і паглядзела на лагер.

Далеч клікала Белага Клыка. І маці чула гэты кліч. Але яшчэ ясней яна чула кліч агню і чалавека,—кліч, на які з усіх звяроў адгукваецца толькі воўк—воўк і дзікі сабака, бо яны браты.

Кіч павярнулася і павольнай рысцой пабегла назад. Жыццё лагера трымала яе ў сваёй уладзе мацней усякай прывязі. Нябачнымі, таямнічымі шляхамі багі заўладалі ваўчыцай і не адпускалі яе ад сябе. Белы Клык сеў пад цяністай бярозай і ціха заскуголіў. Пахла хвояй, раскошныя лясныя араматы напаўнялі паветра, напамі-

наючы яму аб ранейшым вольным жыцці, на змену якому прышла няволя. Але Белы Клык быў усяго-толькі шчанюком, і кліканне маткі даносілася да яго ясней, чым кліч Лясной Глушы або чалавека. Ён спадзяваўся на яе ва ўсім. Незалежнасць была яшчэ ўперадзе. І Белы Клык устаў і сумна пацягнуўся ў лагер, спыніўшыся па дарозе разы два, каб паскуголіць і прыслухацца да клічу, які ўсё яшчэ даносіўся з ляснога гушчару.

У Лясной Глушы матка і дзяцёныш вельмі нядоўга жывуць адно каля аднаго, але людзі часта скарачаюць і гэты кароткі тэрмін. Так было і з Белым Клыкам. Шэры Бобр завінаваціўся другому індзейцу, якога называлі Тры Арлы. А Тры Арлы адходзіў уверх па рацэ Макензі на Вялікае Нявольнічае Возера. Кавалак чырвонай матэрыі, мядзвежая скура, дваццаць патронаў і Кіч пайшлі на выплату доўга. Белы Клык бачыў, як Тры Арлы ўзяў яго матку да сябе ў пірогу, і хацеў пайсці за ёй. Ударам кулака Тры Арлы зваліў яго назад на бераг. Пірога адплыла. Белы Клык скочыў у ваду і паплыў за ёй, не звяртаючы ніякай увагі на крыкі Шэрага Бабра. Белы Клык не паслухаўся нават голасу чалавека—так баяўся ён страціць Кіч.

Але багі прывыклі, каб ім пакараліся, і разгневаны Шэры Бобр спусціў на ваду пірогу і паплыў наўздагон за Белым Клыкам. Дагнаўшы яго, ён працягнуў руку, выцягнуў ваўчка за шыварат з вады, але не адразу кінуў на дно пірогі. Адной рукой трымаючы Белага Клыка над пірогай, другой ён вельмі балюча яго адлупцаваў. Вось гэта дык была лупцоўка! Рука ў індзейца была цяжкая, удары былі разлічаны правільна і сыпаліся адзін за адным.

Пад градам гэтых удараў то з аднаго, то з другога боку Белы Клык раскачваўся ўзад і ўперад, як маятнік, які сапсаваўся. Самыя рознастайныя адчуванні хвалявалі яго ў гэты час. Спачатку ён здзівіўся. Затым ім апанаваў страх, і Белы Клык пачаў вішчэць пры кожным удары. Але страх хутка змяніўся злосцю. Свабодалюбівая натура дала сябе адчуць,—Белы Клык вышчарыў зубы і бясстрашна зарыкаў прама ў твар разгневанаму божаству. Божаства разгневалася яшчэ больш.

Удары пасыпаліся яшчэ часцей, зрабіліся больш цяжкімі і балючымі.

Шэры Бобр не сціхаючы наносіў удары, Белы Клык не сціхаючы рыкаў. Але гэта не магло прадаўжацца вечна. Хто-небудзь павінен быў уступіць,—і ўступіў Белы Клык. Страх зноў апанаваў ім. У першы раз у жыцці ён папаў у сапраўдную апрацоўку да чалавека. Боль ад выпадковых удараў палкай або каменем здаваўся ласкай у параўнанні з тым, што яму давялося перанесці зараз. Белы Клык здаўся і пачаў вішчэць і выць. Спачатку ён вішчэў пры кожным удары, але хутка страх яго перайшоў у жах, і віскі змяніліся несціхаючым выццём, якое не супадала з рытмам лупцавання. Нарэшце, Шэры Бобр апусціў руку. Белы Клык не спыняў выць, павіснуўшы ў паветры, як ануча. Гаспадар, як відаць, застаўся гэтым задаволены і кінуў яго на дно пірогі. Тым часам пірогу адносіла ўніз па цячэнню. Шэры Бобр узяўся за вясло. Белы Клык перашкаджаў яму грабсці. Індзеец са злосцю штурхануў яго нагой. У гэты момант свабодалюбівая воўчая натура зноў дала сябе адчуць у Белым Клыку, і ён уеўся зубамі ў нагу, абутую ў макасін. Папярэдняя лупцоўка была нішто ў параўнанні з той, якую яму давялося перанесці цяпер. Гнеў Шэрага Бабра быў страшны, і Белы Клык спалохаўся да поўсмерці. На гэты раз Шэры Бобр пусціў у ход цяжкае вясло, і калі Белы Клык апынуўся на дне пірогі, на ўсім яго маленькім целе не было ні аднаго жывога месца. Шэры Бобр яшчэ раз пхнуў яго нагой, на гэты раз ужо знарок. Белы Клык не паўтарыў свайго нападу на макасін. Няволя дала яму яшчэ адзін урок. Ніколі, ні пры якіх акалічнасцях нельга кусаць бога—гаспадара і ўладара; цела бога свяшчэннае, і зубы такіх, як Белы Клык, не смеюць апаганьваць яго. Гэта лічылася, мабыць, самым страшным злачынствам, самай страшнай крыўдай, якой не было ні літасці, ні міласці.

Пірога прычаліла да берага, але Белы Клык не зварухнуўся і ляжаў, павіскваючы і чакаючы, калі Шэры Бобр выкажа сваю волю. Шэры Бобр пажадаў, каб Белы Клык вышаў з пірогі, і кінуў яго на бераг так, што той з усяго размаху выцяўся бокам аб зямлю. Белы Клык, дрыжучы ўсім целам, падняўся на ногі і

завішчэў. Ліп-Ліп, які назіраў з берага за тым, што адбывалася, кінуўся, зваліў Белага Клыка з ног і ўеўся ў яго зубамі. Белы Клык быў вельмі бездапаможным, каб абараняцца ад Ліп-Ліпа, і яму-б не здабраваць, але Шэры Бобр ударыў шчанюка нагой так, што той узляцеў высока ў паветра, а затым пляснуўся на зямлю футах у дванаццаці ад Белага Клыка. Такая была чалавечая справядлівасць, і Белы Клык, не гледзячы на свой цяжкі стан, не мог не адчуць удзячнасці да чалавека. Ён паслухмяна пацягнуўся за Шэрым Бабром праз увесь пасёлак да яго вігвама. І такім чынам Белы Клык запамятаў, што права караць багі пакідаюць за сабой, а ніжэйшых жывёл, падуладных ім, гэтага права пазбаўляюць.

У тую-ж ноч, калі ўсё сціхла, Белы Клык успомніў матку і засумаваў. Але сумаваў ён так голасна, што разбудзіў Шэрага Бабра, і той адлупцаваў яго. Пасля гэтага ў прысутнасці багоў ён тужыў паціханьку. Але часам Белы Клык выходзіў адзін на ўскрай лесу і гучна скуголіў і выў там, выказваючы свой сум.

У гэты перыяд ён мог-бы паслухацца голасу мінулага, які клікаў яго назад да пячоры і ручая. Але памяць аб матцы стрымлівала яго на месцы. Можа быць, яна вернецца назад у пасёлак, як варочаюцца людзі пасля палявання. І Белы Клык астаўся ў няволі, чакаючы Кіч.

Паднявольнае жыццё не так ужо гняло Белага Клыка. Шмат што ў ім яго цікавіла. Здарэнні навокал адбываліся адно за адным. Дзіўным учынкам, якія рабіліся багамі, не было канца, а Белы Клык заўсёды адрозніваўся цікаўнасцю. Апрача таго, ён навучыўся ладзіць з Шэрым Бабром. Паслухмянасць, строгая, безадмоўная паслухмянасць патрабавалася ад Белага Клыка; тады можна было ўнікнуць лупцоўкі і стварыць сабе зноснае жыццё.

А часам здаралася нават, што Шэры Бобр сам кідаў Беламу Клыку кавалак мяса і, пакуль той еў, не падпускаў да яго другіх сабак. І такому кавалку не было цаны. Ён цаніўся чамусьці больш, чым дзесятак кавалкаў, атрыманых з рук жанчын. Шэры Бобр ні разу не пагладзіў і не прылашчыў Белага Клыка. І, можа быць, цяжар яго рукі ці яго справядлівасць і магутнасць,

а можа быць, усё гэта разам узятае дзейнічала на Белага Клыка, але паміж ім і яго панурым гаспадаром пачынала зараджацца ўзаемная прыхільнасць.

Нейкія здрадніцкія, ледзь адчувальныя сілы апутвалі Белага Клыка путамі няволі, і дзейнічалі яны таксама беспамылкова, як палка, камень або ўдар кулаком. Тыя ўласцівасці яго пароды, якія з даўніх часоў гналі ваўкоў да кастра чалавека, добра паддаваліся развіццю. Яны развіваліся і ў Белым Клыку, і пасёлак, хоць жыццё ў ім і было поўнае горачы, рабіўся яму ўсё даражэйшым і даражэйшым. Але Белы Клык не падазраваў гэтага. Ён адчуваў толькі сум па Кіч, спадзяваўся на тое, што яна вернецца, і прагна імкнуўся да ранейшага, вольнага жыцця.

*Раздзел трэці*

## АДШЧАПЕНЕЦ

Ліп-Ліп да такой ступені атручваў жыццё Беламу Клыку, што той рабіўся больш злым і лютым, чым належала яму быць ад прыроды. Лютасць была ўласціва яго характару, але цяпер яна перайшла ўсякія межы. Ён быў вядомы сваёй злосцю нават людзям. Кожны раз, калі ў пасёлку чуўся лай, сабачае гырканне і бойка або жанчыны паднімалі крык з-за украдзенага кавалку мяса, ніхто не сумняваўся, што прычынай усяго гэтага з'яўляецца Белы Клык. Людзі не стараліся разабрацца ў прычынах яго паводзін. Яны бачылі толькі вынікі, а ў выніках гэтых не было нічога добрага. Белы Клык быў пранырай, падбухторшчыкам, злодзеем і зачыншчыкам усіх боек; разлютаваныя індзіянкі абзывалі Белага Клыка ваўком, гультаём, прадракалі яму дрэнны канец, а ён пільна сачыў за імі і кожную хвіліну гатоў быў ухіліцца ад удару палкай ці каменем.

Белы Клык адчуваў сябе адшчапенцам сярод жыхароў лагера. Усе малыя сабакі бралі прыклад з Ліп-Ліпа. Паміж імі і Белым Клыкам была нейкая розніца. Можа быць, сабакі чулі ў ім іншую пароду і адчувалі да яго інстынктыўную варожасць, якая заўсёды ўзнікае паміж хатнім сабакам і ваўком. Як-бы там ні было, але яны далучыліся да Ліп-Ліпа. І, абвясціўшы вайну, сабакі мелі дастаткова прычын, каб не спыняць яе. Усе

яны, да аднаго, пазнаёміліся з зубамі ваўчка, і, трэба аддаць справядлівасць Беламу Клыку, ён адплачваў сваім ворагам у сто разоў. Многіх сабак ён мог-бы перамагчы ў бойцы адзін-на-адзін, але ў гэтым яму было адмоўлена. Пачатак кожнай такой бойкі з'яўляўся сігналам для ўсіх маладых сабак,—яны збягаліся з усяго пасёлка і накідаліся на Белага Клыка.

Варожасць з сабачай зграяй навучыла яго двум важным рэчам адбівацца адразу ад усёй зграі і, маючы справу з адным праціўнікам, наносіць яму як мага большую колькасць ран у найкарацейшы тэрмін. Утрымацца на нагах сярод наступаючых з усіх бакоў ворагаў значыла захаваць сабе жыццё, і Белы Клык уразумеў гэтую навуку дасканальна. Ён умеў трымацца на нагах не горш кошкі. Нават дарослыя сабакі маглі колькі хочаш цясніць яго,—Белы Клык падаваўся ў бок, падскакваў, слізгаў, і ўсё-ж ногі не здраджвалі яму і цвёрда стаялі на зямлі.

Перад кожнай бойкай сабакі звычайна захоўваюць пэўны рытуал—рыкаюць, ходзяць адзін перад адным, шэрсць у іх устае дыбам. Але Белы Клык навучыўся абыходзіцца без гэтага. Усякае затрыманне пагражала з'яўленнем усёй сабачай зграі. Сваю справу трэба рабіць хутка, а затым уцякаць. І Белы Клык навучыўся не паказваць сваіх намераў. Ён кідаўся на ворага без усякага папярэджання і пачынаў кусаць і рваць яго, не даючы нават падрыхтавацца да бойкі. Такім чынам ён навучыўся наносіць праціўнікам нечаканыя і цяжкія раны. Апрача таго, Белы Клык зразумеў, як важна застаць ворага знянацку. Трэба напасці на сабаку нечакана, распароць яму плячо зубамі, парваць у клоччы вуха, перш чым ён паспее апамятацца,—і тады вораг напалову пераможан.

Больш таго: сабаку, якога засталі знянацку, зусім лёгка было збіць з ног; у гэтую хвіліну самае паражальнае месца ў яго на шыі з'яўлялася адкрытым. Белы Клык ведаў гэтае месца. Веданне гэтае дасталося яму па спадчыне ад многіх пакаленняў ваўкоў. І, нападаючы, Белы Клык прытрымліваўся такой тактыкі: па-першае, падсцерагаў сабаку, калі ён быў адзін; па-другое, налятаў на яго нечакана і збіваў з ног; па-трэцяе, уядаўся яму зубамі ў горла.

Белы Клык быў яшчэ малады, і яго неакрэпшыя пашчэнкі не маглі наносіць смяртэльных удараў, але ўсё-ж не адзін шчанюк бегаў па пасёлку са слядамі яго зубоў на шыі. І неяк аднаго разу, злавіўшы аднаго са сваіх ворагаў, на ўскраі лесу, ён ухітрыўся пасля некалькіх няўдалых спроб перакусіць яму горла і выпусціў з яго дух вон. У гэты вечар у лагеры ўзнялася мітусня. Яго ўчынак заўважылі, вестка аб ім дайшла да гаспадара здохшага сабакі, жанчыны прыпомнілі Беламу Клыку ўсе ўкрадзеныя ім кавалкі мяса, і каля Шэрага Бабра сабраўся цэлы натоўп народу. Але ён рашуча закрыў уваход у вігвам, куды быў пасаджан злачынец, і адмовіўся выдаць яго сваім аднапляменнікам.

Белага Клыка зненавідзелі і людзі і сабакі. У гэты перыяд свайго жыцця ён не ведаў ні хвіліны спакою. Кожны сабака вышчараў на яго зубы, кожны чалавек замахваўся на яго. Суродзічы сустракалі яго рыкам, багі—праклёнамі і каменнямі. Белы Клык жыў напружаным жыццём,—заўсёды настаражыўшыся, кожную хвіліну гатовы напасці, адбіць напад або ўхіліцца ад нечаканага ўдару. Ён дзейнічаў імкліва і спакойна,— кідаўся на праціўніка, бліснуўшы клыкамі, і зараз-жа адскакваў назад з пагражаючым рыкам.

Што датычыць рыку, дык рыкаць ён умеў страшней сабак—і старых і маладых. Мэта рыкання—засцерагчы або спалохаць ворага, і трэба добра разбірацца ў тым, калі і пры якіх акалічнасцях трэба пускаць у ход гэты сродак. І Белы Клык ведаў гэта. У свой рык ён укладваў усю лютасць і злосць, усё, чым толькі мог напалохаць ворага. Уздрыгваючыя ад бесперапынных спазмаў ноздры, стаўшая дыбам шэрсць, язык, які чырвонай змейкай звіваўся паміж зубамі, прыціснутыя вушы, вочы, якія палалі нянавісцю, губы, якія падзёргваліся, вышчараныя клыкі—прымушалі задумацца многіх яго праціўнікаў. Калі Белага Клыка заставалі знянацку, яму было досыць мінутнай паўзы, каб абдумаць план дзеянняў. Але часта паўза гэтая зацягвалася, вяла за сабой поўнае адмаўленне ад бойкі, і рык Белага Клыка скрозь і ўсюды даваў яму магчымасць адступіць з гонарам нават пры сутычках з дарослымі сабакамі.

Выгнаўшы Белага Клыка са сваёй кампаніі і абвясціўшы яму вайну, маладыя сабакі тым самым паставілі

сябе тварам да твара з яго злосцю і зусім выключнай спрытнасцю і сілай. Справа павярнулася такім чынам, што, забараніўшы Беламу Клыку жыць у зграі, сабакі і самі не маглі адлучыцца ад яе ні на адну хвіліну. Белы Клык не дапускаў гэтага. Маладыя сабакі кожную хвіліну чакалі яго нападу і не адважваліся бегаць паасобку. Усе яны, за выключэннем Ліп-Ліпа, былі вымушаны трымацца зграяй, каб агульнымі намаганнямі абараняцца ад грознага праціўніка, якога яны набылі ў асобе Белага Клыка. Адпраўляючыся ў адзіноцтве на бераг ракі, шчанюк або ішоў на верную смерць або агаламшаў увесь лагер прарэзлівым віскам, уцякаючы ад выскачыўшага з засады ваўчка.

Але Белы Клык не спыняў помсціць сабакам нават пасля таго, як яны запомнілі раз і назаўсёды, што ім трэба трымацца зграяй. Ён нападаў на сабак, застаючы іх паасобку; яны нападалі на яго ўсёй зграяй. Варта было сабакам убачыць Белага Клыка, як яны дружна кідаліся за ім у пагоню, і ваўчка выратоўвалі ў такіх выпадках толькі быстрыя ногі. Але гора таму сабаку, які, захапіўшыся праследаваннем, абганяў сваіх таварышоў! Белы Клык навучыўся на ўсім скаку паварачвацца да праследавальніка, які бег наперадзе зграі, і разрываў яго на кавалачкі, перш чым падаспявалі астатнія сабакі. Гэта здаралася вельмі часта, таму што, узбуджаныя пагоняй за ворагам, сабакі забывалі аб усім на свеце, а Белы Клык заўсёды захоўваў спакой. Увесь час азіраючыся назад, ён гатоў быў у любую хвіліну зрабіць на ўсім скаку круты паварот і кінуцца на вельмі заўзятага праследавальніка, які аддзяліўся ад усёй зграі.

У маладых сабаках жыве непераможная патрэбнасць гульні, і ворагі Белага Клыка ажыццяўлялі гэтую патрэбнасць, ператвараючы вайну з ім у захапляючую забаву. Такім чынам, паляванне за ваўчком было для іх самай любімай гульнёй,—праўда, гульнёй не жартаўлівай і часам смяртэльна небяспечнай. А Белы Клык, з якім ніхто з сабак не мог параўнацца быстрынёй ног, у сваю чаргу не спыняўся перад рыскам. У тыя дні, калі надзея на тое, што звернецца Кіч яшчэ не пакідала Белага Клыка, ён часта заманьваў сабачую зграю ў суседні лес. Па гаўканню і выццю Белы Клык вызначаў, дзе яны знаходзяцца; сам-жа ён бег моўчкі, нібы цень,

слізгаючы паміж дрэвамі, як гэта рабілі яго бацька і маці. Апрача таго, сувязь яго з Лясной Глушшу была цяснейшай, чым у сабак; ён лепш разумеў усе яе таямніцы, выкруты. Больш за ўсё яму падабалася заблытаць свае сляды, пераплысці ручай і спакойна легчы дзе-небудзь у гушчары лесу, прыслухоўваючыся да брэху згубіўшых яго праследавальнікаў.

Сустракаючы з боку сабак і людзей толькі адну нянавісць і знаходзячыся ўвесь час у варожых адносінах з усімі, Белы Клык развіваўся хутка, але аднабакова. У такой абстаноўцы ў ім не маглі зарадзіцца ні добрыя пачуцці, ні патрэбнасць да ласкі. Аб усім гэтым ён не меў ніякага разумення. Шэры Бобр—бажаство, ён мае ўладу. Таму Белы Клык пакараўся яму. Але сабакі, тыя, якія маладзей і меншыя за яго ростам,—слабыя, і іх трэба знішчаць.

У Белым Клыку развівалася толькі сіла. Ён мог процістаяць вечнай небяспецы, якая часта пагражала яго жыццю, толькі таму, што ўсе драпежніцкія інстынкты былі ў ім непамерна развітымі. У спрытнасці і хітрасці з ім не мог параўнацца ніхто; ён бегаў быстрэй, быў бязлітасней у бойках, сталёвыя мускулы выступалі на яго худым гібкім целе, як вяроўкі; ён быў больш вынослівым, злым, жорсткім і разумнейшым за ўсіх астатніх сабак. Белы Клык павінен быў зрабіцца такім, інакш ён не выжыў-бы ў той варожай абстаноўцы, у якой яму давялося апынуцца.

*Раздзел чацверты*

## НА СЛЯДАХ БАГОЎ

Восенню, калі дні зрабіліся карацейшымі і ў паветры ўжо чулася наближэнне халадоў, Беламу Клыку трапіўся выпадак вырвацца на волю. Ужо некалькі дзён у пасёлку панавала мітусня. Індзейцы разбіралі летнія вігвамы і рыхтаваліся выйсці на асенняе паляванне з усімі сваімі пажыткамі. Белы Клык пільна сачыў за зборамі, і калі вігвамы былі разабраны, а рэчы паклалі на пірогі, ён зразумеў усё. Пірогі адплывалі да берага, і частка іх ужо знікла з вачэй.

Белы Клык парашыў астацца і пры першай-жа магчымасці ўцёк з пасёлка ў лес. Пераплыўшы ручай, які ўжо зацягваўся ільдом, ён заблытаў свае сляды.

Потым забраўся ўглыб гушчару лесу і пачаў чакаць. Час ішоў. Ён паспеў некалькі разоў заснуць, прачнуцца і зноў заснуць. Яго разбудзіў голас Шэрага Бабра, які клікаў яго па імю. Чуліся і іншыя галасы. Белы Клык адрозніў голас жонкі гаспадара, якая прымала ўдзел у пошуках, і Міт-Са—сына Шэрага Бабра.

Белы Клык дрыжэў ад страху, але вытрымаў і не вышаў з прытулку, хоць нешта падбухторвала яго вылезці на кліч. У хуткім часе галасы сціхлі ўдалечыні, і Белы Клык вылез з кустоў, каб нацешыцца поспехам свайго ўчынку. Пачало цямнець. Некаторы час ваўчок забаўляўся паміж дрэвамі, радуючыся волі. Затым, зусім нечакана, яго ахапіла пачуццё адзіноцтва. Ён спыніўся ў задуменні і сеў, прыслухоўваючыся да лясной цішы. Адсутнасць гукаў і руху здавалася яму злавеснай, яго падсцерагала якаясьці невядомая небяспека. Белы Клык падазрона ўзіраўся ў няясныя абрысы высокіх дрэў, у густыя цені паміж імі, дзе мог прытаіцца любы вораг.

Потым яму зрабілася холадна. Цёплай сцяны вігвама, каля якой ён заўсёды грэўся, паблізу не было. Белы Клык пачаў пачарзе падгінаць то адну, то другую пярэднюю лапу, затым пакрыў іх сваім пушыстым хвастом, і ў гэтую хвіліну перад ім пранеслася здань. У гэтым не было нічога дзіўнага. Перад яго вачыма праслесліся знаёмыя карціны. Ён зноў убачыў пасёлак, вігвамы, полымя кастроў. Ён чуў прарэзлівыя галасы жанчын, грубы бас мужчынскай гутаркі, брэх сабак. Белы Клык прагаладаўся і ўспомніў кавалкі мяса і рыбу, якія яму даставаліся ад людзей. Зараз-жа акружала цішыня, якая абяцала не яду, а небяспеку.

Няволя распесціла Белага Клыка. Усклаўшы на людзей усе клопаты аб уласным пракармленні, ён тым самым страціў частку сваёй сілы. Белы Клык адвык здабываць сабе ежу. Над ім спускалася ноч. Яго пачуцці, прывыкшыя да шуму і руху пасёлка, да бесперапыннага чаргавання гукаў і карцін, не знаходзілі сабе работы. Яму не было чаго рабіць, не было чаго слухаць, не было на што глядзець. Белы Клык напружыў усе свае пачуцці, каб злавіць хоць які-небудзь гук або рух, якія-б нарушалі цішыню і нерухомасць прыроды. У гэтай вымушанай бяздзейнасці хавалася нейкая страшная небяспека.

Раптам Белы Клык здрыгануўся ад спалоху. Нешта велізарнае і бясформеннае пранеслася перад яго вачыма. На зямлю лёг цень дрэва, якое асвяціў месяц, вынырнуўшы з-за воблакаў. Супакоіўшыся, ён ціха завішчэў, але, успомніўшы, што віск можа прыцягнуць да яго ўвагу прытоенага дзе-небудзь ворага, змоўк.

Дрэва, схвачанае начным марозам, гучна трэснула ў яго над галавой. Белы Клык завыў і, не чуючы пад сабой ног ад жаху, стрымгалоў кінуўся да пасёлка. Ён адчуваў непераможную патрэбу ў тым, каб быць сярод людзей, пад чалавечай абаронай. У яго ноздрах стаяў пах дыму ад агню. У вушах звінелі галасы і крыкі. Ён выбег з лесу на залітую месяцам палянку, дзе не было ні ценяў, ні цемры. Але вочы яго не сустрэлі знаёмага пасёлка. Ён забыў: людзі пакінулі яго.

Белы Клык спыніўся як укапаны. Бегчы не было куды. Ён сумна блукаў па апусцеламу становішчу, абнюхваючы кучы смецця і хламу, пакінутага багамі. У гэтую хвіліну Белага Клыка ўзрадваў-бы нават камень, кінуты якой-небудзь раззлаванай жанчынай, нават цяжкая рука Шэрага Бабра; а Ліп-Ліпа і ўсю рыкаючую палахлівую зграю сабак ён сустрэў-бы з радасцю. Ён накіраваўся да таго месца, дзе стаяў раней бігвам Шэрага Бабра, сеў пасярод і падняў морду да месяца. Спазмы сціскалі яму горла, пашча ў яго раскрылася, і адзіноцтва, страх, сум па Кіч, усе мінулыя беды, смутак і прадчуванне будучых нягод і пакут,— усё гэта вылілася ў раздзіраючым сэрцы выцці. Гэта было працяглае, тужлівае выццё—першае воўчае выццё, якое вырвалася з грудзей Белага Клыка.

Як толькі надышла раніца, страхі яго зніклі, але пачуццё адзіноцтва толькі ўзмацнілася. Выгляд пакінутага стойбішча, у якім яшчэ так нядаўна кіпела жыццё, навадзіў сум на Белага Клыка. Нядоўга разважаючы, ён павярнуў у лес і пабег удоўж берага ракі. Ён бег увесь дзень, не даючы сабе ні хвіліны адпачынку. Здавалася, што ён можа бегчы вечна. Яго сталёвае цела не ведала стомленасці. І нават калі стамленне ўсё-ж прышло, вынослівасць, якая дасталася Беламу Клыку ад продкаў, дапамагала яму рабіць усё новыя і новыя намаганні, несла ўперад яго змучанае цела.

Там, дзе рака працякала паміж крутымі берагамі, Белы Клык карабкаўся па кручах. Ручаі і рэчкі, якія ўпадалі ў Макензі, ён пераходзіў уброд або пераплы-

ваў. Часта яму даводзілася бегчы па вузкай кромцы лёду, намерзшай каля берага; тонкі лёд ламаўся, і Белы Клык ледзь выбіраўся з ледзяной вады. І ён увесь гэты час чакаў, што вось-вось натрапіць на след багоў, якія маглі прыстаць да берага і накіравацца ў глыб краіны.

Па розуму Белы Клык стаяў вышэй чым многія з прадстаўнікоў яго пароды, і ўсё-ж думка аб другім берагу ракі Макензі не прыходзіла яму ў галаву. Што калі след багоў выйдзе на той бок? Аб гэтым і не падумаў. Магчыма, пазней, калі Белы Клык набраўся-б вопыту ў вандраваннях, паразумнеў і бліжэй пазнаёміўся-б з рэкамі і слядамі, ён і дапусціў-бы гэтую магчымасць. Такая спеласць чакала яго ў будучым. Зараз-жа ён бег наўгад, прымаючы пад увагу толькі адзін бераг Макензі.

Белы Клык бег усю ноч, натыкаючыся ў цемнаце на перашкоды і загароды, якія запавальнялі яго бег, але не адбівалі ахвоты рухацца далей. К сярэдзіне другога дня, пасля трыццаці гадзін безупыннага бегу, яго жалезныя мускулы пачалі слабець. Белага Клыка падтрымлівала толькі напружанне волі. Ён нічога не еў ужо на працягу сарака гадзін і зусім знясілеў ад голаду. Адбіваліся на ім і няспынныя апусканні ў ледзяную ваду. Яго пышная скура была ўся ў гразі. Шырокія падушкі на лапах разбіліся ў кроў. Ён пачаў кульгаць, спачатку крыху, потым усё больш і больш. У дадатак да ўсяго, неба нахмурылася, і пайшоў снег, мокры, талы снег, які прыліпаў да лап Белага Клыка, якія раз’язджаліся, засыпаў усё навакольнае і скрываў няроўнасці глебы, робячы дарогу яшчэ больш цяжкай і больш пакутнай для яго.

У гэтую ноч Шэры Бобр парашыў зрабіць прывал на далёкім берагу ракі Макензі, таму што дарога да месц палявання ішла ў тым кірунку. Але незадоўга да цемнаты Клу-Куч, жонка Шэрага Бабра, заўважыла на бліжэйшым беразе лося, які падышоў да ракі напіцца. І вось, калі-б не падышоў лось да берага, калі-б не збіўся Міт-Са з правільнай дарогі з-за снегу, Клу-Куч не заўважыла-б лося, Шэры Бобр не забіў-бы яго меткім выстралам з ружжа, і ўсе далейшыя падзеі склаліся-б зусім інакш. Шэры Бобр не зрабіў-бы прывалу на бліжэйшым берагу Макензі, а Белы Клык, прабегшы міма, або загінуў-бы, або трапіў-бы да сваіх дзікіх суродзічаў і астаўся-б ваўком да канца дзён.

Надышла ноч. Снег паваліў яшчэ больш, і Белы Клык, спатыкаючыся, кульгаючы і ціха вішчачы нахаду, трапіў на свежы след. След быў настолькі свежы, што Белы Клык адразу-ж пазнаў яго. Заскуголіўшы ад нецярплівасці, ён павярнуў назад і кінуўся ў лес. Да вушэй яго данесліся знаёмыя гукі чалавечай стаянкі. Ён убачыў полымя агню, Клу-Куч, якая была занята гатаваннем ежы, Шэрага Бабра, які прысеў на кортачкі і жаваў кавалак сырога сала. У людзей было свежае мяса!

Белы Клык чакаў пабояў. Пры думцы аб іх ён увесь натапырыўся, і шэрсць у яго на спіне стала дыбам. Затым ён зноў рушыў уперад. Белы Клык баяўся ненавісных яму пабояў і ведаў, што іх яму не ўнікнуць. Але ён ведаў таксама, што будзе грэцца каля агню, будзе карыстацца апекай багоў, сустрэне знаёмых сабак, хоць варожых яму, але ўсё-ж якія здольны задаволіць яго патрэбнасць у блізкасці да жывых істот.

Белы Клык паўзком набліжаўся да агню. Шэры Бобр убачыў яго і перастаў жаваць сала. Белы Клык папоўз яшчэ павальней, пачуццё прыніжанасці і пакорлівасці прыгнятала яго, прымушаючы поўзаць перад чалавекам. Ён поўз прама да Шэрага Бабра, з кожным дзюймам усё запавольваючы і запавольваючы рух, як быццам паўзці яму рабілася ўсё цяжэй. Нарэшце, Белы Клык лёг ля ног гаспадара, якому з гэтага часу ён аддаўся добраахвотна і целам і душой. Па ўласнаму жаданню падышоў ён да агню чалавека і прызнаў над сабой чалавечую ўладу. Белы Клык дрыжэў, чакаючы немінучага пакарання. Рука паднялася над ім. Ён увесь скруціўся, рыхтуючыся прыняць удар. Але ўдару не было. Белы Клык потайкам зірнуў уверх. Шэры Бобр разарваў сала на дзве часткі. Шэры Бобр працягнуў яму кавалак сала! Вельмі асцярожна і нават з некаторай падазронасцю Белы Клык панюхаў яго, а затым пачаў яго есці. Шэры Бобр загадаў даць Беламу Клыку мяса і, пакуль ён еў, не дапускаў да яго другіх сабак. Скончыўшы есці, удзячны і задаволены ваўчок лёг ля ног свайго гаспадара, гледзячы ў гарачае полымя агню, жмурачыся і пачынаючы часам драмаць. Ён ведаў, што раніца напаткае яго не ў змрочным лесе, не ў адзіноцтве, а ў пасёлку людзей, сярод багоў, якім ён аддаў усяго сябе і ад волі якіх цяпер залежаў.

*Раздзел пяты*

# ДАГАВОР

У сярэдзіне снежня Шэры Бобр адправіўся ўверх па рацэ Макензі. Міт-Са і Клу-Куч паехалі разам з ім. Сані Шэрага Бабра цягнулі сабакі, якіх ён выменяў або ўзяў у доўг. Другія сані, меншыя, цягнула запрэжка з маладых сабак, і імі кіраваў Міт-Са. І запрэжка і сані былі больш падобны на цацку, але Міт-Са быў у захапленні,—ён адчуваў, што выконвае сапраўдную мужчынскую работу. Апрача таго, ён вучыўся кіраваць сабакамі і трэніраваць іх; а шчанюкі тым часам прывыкалі да запрагання. Сані Міт-Са былі карысныя яшчэ і тым, што везлі каля двухсот фунтаў усякай паклажы і правізіі.

Беламу Клыку даводзілася і раней бачыць запрэжаных сабак, таму ён не вельмі пратэставаў, калі яго ў першы раз запрэглі ў сані. На шыю яму надзелі набіты мохам нашыйнік, прымацаваны двума лямкамі да рэменя, які праходзіў на грудзях і на спіне. Да гэтага рэменя была прывязана доўгая вяроўка, якая злучала яго з санямі.

Запрэжка складалася з сямі шчанюкоў. Усім ім споўнілася па дзевяць—дзесяць месяцаў, і толькі аднаму Беламу Клыку было восем. Кожны сабака прывязваўся да саней асобнай вяроўкай. Усе вяроўкі былі рознай даўжыні, і розніца паміж імі вымяралася даўжынёй корпуса сабакі. Кожная вяроўка была зацягнута праз кальцо на перадку саней. Сані, зробленыя з бяросты, былі без палазоў, і пярэдні канец іх быў загнуты кверху, каб не зарываўся ў снег. Дзякуючы такой будове цяжар саміх саней і паклажы размяркоўваўся на большую паверхню. З той-жа мэтай, як мага больш роўнамернага размеркавання цяжару, сабак прывязвалі да передка саней веерам, каб ні адзін сабака не ішоў па следу другога.

У веерападобнай запрэжцы была яшчэ адна перавага. Розная даўжыня вяровак перашкаджала сабакам, якія беглі ззаду, кідацца на пярэдніх, а распачынаць бойку можна было толькі з тым суседам, які ішоў на больш кароткай вяроўцы. Але ў гэтым выпадку нападаючы станавіўся тварам да твара са сваім ворагам і апрача таго падстаўляў сябе прама пад удары бізуна паганятага. Але самая вялікая перавага гэтай запрэжкі

заключалася ў тым, што, стараючыся напасці на пярэдніх сабак, заднія налягалі на пастромкі, а чым хутчэй каціліся сані, тым хутчэй бег і праследваемы сабака. Такім чынам, задні ніколі не мог дагнаць пярэдняга. Чым хутчэй бег адзін, тым хутчэй уцякаў ад яго другі, і тым хутчэй беглі ўсе астатнія сабакі. У выніку ўсяго гэтага хутчэй каціліся і сані. Вось такімі хітрымі падходамі чалавек умацаваў сваю ўладу над жывёламі.

Міт-Са быў вельмі падобны на бацьку, ад якога ён атрымаў у спадчыну сваю мудрасць. Ён даўно ўжо заўважыў, што Ліп-Ліп даймае Белага Клыка сваімі праследваннямі; але тады ў Ліп-Ліпа быў свой гаспадар, і Міт-Са асмельваўся пры зручным выпадку толькі кінуць у яго каменем. А цяпер Ліп-Ліп належаў Міт-Са, і, парашыўшы адпомсціць яму за мінулае, Міт-Са прывязаў яго на самую доўгую вяроўку. Такім чынам, Ліп-Ліп зрабіўся важаком, што з'яўлялася як быццам вялікім гонарам; але ў сапраўднасці гонару тут было мала, таму што забіяку і верхавода ўсёй зграі, Ліп-Ліпа, ненавідзелі і праследавалі цяпер усе сабакі.

Паколькі Ліп-Ліп быў прывязаны на самую доўгую вяроўку, сабакам здавалася, што ён уцякае ад іх. Яны бачылі толькі яго пушысты хвост і заднія лапы, а гэта далёка не так страшна, як стаўшая дыбам шэрсць і віхатлівыя клыкі. Апрача таго, відовішча бягучага сабакі выклікае ў другіх сабак упэўненасць, што ён уцякае іменна ад іх і што яго трэба ў што-б то ні было дагнаць.

Як толькі сані рушылі, уся запрэжка пагналася за Ліп-Ліпам, і гэтая пагоня прадаўжалася ўвесь дзень. На першых парах зняважаны Ліп-Ліп увесь час імкнуўся кінуцца на сваіх праследвальнікаў; але Міт-Са кожны раз сцябаў яго прама па галаве трыццаціфутавай пугай, якая была звіта з вяленых аленіх кішак, прымушаў яго вярнуцца на месца і бегчы далей. Ліп-Ліпа не спалохала-б уся зграя, але перад пугай ён здаваўся, і яму не аставалася нічога іншага, як нацягваць вяроўку і адносіць свае бакі ад зубоў таварышоў.

Але ў галаве індзейца таілася яшчэ адна хітрасць. Каб узмацніць варожасць усёй запрэжкі да Ліп-Ліпа, Міт-Са пачаў выдзяляць яго перад другімі сабакамі, узбуджаючы ў іх рэўнасць і нянавісць да важака. Міт-

Са карміў яго мясам у прысутнасці ўсёй зграі і нікому другому мяса не даваў. Сабакі аж шалелі. Яны кідаліся вакол Ліп-Ліпа, пакуль ён еў, але блізка падыйсці не асмельваліся, таму што Міт-Са стаяў каля яго з пугай у руцэ. А калі мяса не было, Міт-Са адганяў запрэжку далей і рабіў выгляд, што корміць Ліп-Ліпа.

Белы Клык узяўся за работу ахвотна. Пакараючыся багам, ён у свой час прарабіў значна даўжэйшы шлях, чым астатнія сабакі, і значна глыбей, чым яны, уразумеў усю дарэмнасць супраціўлення волі багоў. Апрача таго, праследаванне, якое яму прышлося перанесці, памяншала ў яго вачах значэнне зграі і павялічвала значэнне чалавека. Ён не прывык адчуваць сябе залежным ад сваіх-жа субратоў. Ён амаль забыўся на Кіч, і вернасць багам, уладу якіх прызнаў над сабой Белы Клык, зрабілася ледзь не адзіным даступным яму пачуццём. І Белы Клык старанна працаваў, слухаўся загадаў і падпарадкаваўся дысцыпліне. Ён працаваў сумленна і ахвотна. Гэтую ўласцівасць, якую мелі ўсе прыручаныя ваўкі і прыручаныя сабакі, Белы Клык меў у велізарнай ступені.

Белы Клык меў зносіны і з сабакамі, але гэтыя зносіны адбываліся на глебе варожасці і нянавісці. Ён ніколі не гуляў з імі. Ён умеў біцца—і біўся, аддаючы ў сто раз за ўсе ўкусы і прыцясненні, якія яму давялося перацярпець у тыя дні, калі Ліп-Ліп быў важаком зграі. Цяпер Ліп-Ліпа лічылі важаком толькі тады, калі ён бег на канцы доўгай вяроўкі наперадзе сваіх таварышоў і падскакваючых па снегу саней. На стаянках Ліп-Ліп трымаўся бліжэй да Міт-Са, Шэраму Бабру і Клу-Куч, не адважваючыся адыйсці ад багоў, таму што цяпер клыкі ўсіх сабак былі накіраваны супроць яго, і ён адчуў на сябе ўсю горач варожасці, якая прыходзілася раней на долю Белага Клыка.

Пасля падзення Ліп-Ліпа Белы Клык мог-бы зрабіцца важаком зграі. Але ён быў вельмі панурым і замкнёны для гэтага. Таварышы па запрэжцы атрымлівалі ад яго або ўкусы, або поўную абыякавасць. Пры сустрэчах з ім яны зварачалі ўбок, і ні адзін, нават самы смелы сабака не адважваўся адняць у Белага Клыка яго порцыю мяса. Наадварот, яны стараліся як мага хутчэй праглынуць сваю долю, баючыся, як-бы ён не адабраў яе. Белы Клык добра засвоіў закон: п р ы г н я т а й с л а б а г а і п а д п а р а д к о ў в а й с я д у ж а м у. Ён

паспешліва з'ядаў сваю порцыю, і тады—гора таму сабаку, які яшчэ не скончыў есці. Грозны рык, вышчараныя клыкі—і сабаку не аставалася нічога іншага, як выказваць сваё абурэнне раўнадушным зрокам, пакуль Белы Клык даканчваў яго порцыю.

Час ад часу то адзін, то другі сабака ўзнімаў супроць яго бунт, але ён хутка супакойваў іх. Белы Клык старанна ахоўваў сваё адасобленае становішча ў зграі і часта браў яго з бою. Але такія сутычкі былі непрацяглыя. Сабакі не маглі змагацца з ім. Белы Клык наносіў раны праціўніку, не даўшы яму апамятацца, і сабака зыходзіў крывёй, яшчэ не паспеўшы як належыць уступіць у бой.

У часе работы Белы Клык, таксама як і багі, падтрымліваў сярод сваіх сабратоў суровую дысцыпліну. Ён ні ў чым ім не патураў і патрабаваў бязмежнай павагі да сябе. Паміж сабой сабакі маглі рабіць усё, што хацелі. Гэта яго не датычыла. Белы Клык сачыў толькі за тым, каб сабакі не пасягалі на яго адасобленасць, саступалі яму з дарогі, калі ён з'яўляўся сярод зграі, і прызнавалі яго панаванне над сабою. Варта было якому-небудзь сабаку прыняць ваяўнічы выгляд, вышчарыць зубы або натапырыцца, як Белы Клык кідаўся і без усякай міласці пераконваў забіяку ў памылковасці яго ўчынкаў.

Ён быў лютым тыранам, які ўладарнічаў з жалезнай цвёрдасцю. Слабыя не ведалі літасці ад яго. Жорсткая барацьба за існаванне, якую яму давялося весці з самага ранняга дзяцінства, калі ўдваіх з маткай, адны, без усякай дапамогі, яны біліся за жыццё, перамагаючы варожасць Лясной Глушы,—не прайшла бясследна. І нездарма навучыўся Белы Клык ступаць ціха і асцярожна, калі больш дужы праціўнік знаходзіўся паблізу. Ён прыгнятаў слабага, але затое паважаў дужага. І калі Шэры Бобр сустракаў на сваім доўгім шляху стаянкі другіх людзей, Белы Клык заходзіў паміж чужымі сабакамі ціха і асцярожна.

Мінула некалькі месяцаў, а падарожжа Шэрага Бабра ўсё яшчэ не спынялася. Доўгая дарога і заўзятая работа ў запрэжцы ўмацоўвалі сілы Белага Клыка, а разумовае развіццё яго як быццам скончылася. Свет, які акружаў яго, ён пазнаў да канца. І Белы Клык глядзеў на жыццё хмурна і не меў у адносінах да яго ніякіх ілюзій. На погляд Белага Клыка, свет гэты быў суровы

і бязлітасны, яго не сагравала ніякая цеплыня, у гэтым свеце не існавала ні ласкі, ні прывязанасцей.

Белы Клык не адчуваў прывязанасці да Шэрага Бабра. Праўда, Шэры Бобр быў богам, але богам вельмі бязлітасным. Белы Клык ахвотна прызнаваў яго ўладу над сабой; але ўлада гэтая грунтавалася на разумовай перавазе і на грубай сіле. У натуры Белага Клыка было нешта такое, што ішло насустрач такому панаванню, інакш ён не вярнуўся-б з Лясной Глушы і не засведчыў гэтым сваёй вернасці багам. У яго натуры меліся яшчэ нікім не даследаваныя глыбіні. Ласкавым словам або мяккасцю Шэры Бобр мог-бы закрануць гэтыя глыбіні, але Шэры Бобр ніколі не песціў Белага Клыка, ніколі не гаварыў з ім ласкава. Гэта было не ў яго звычаі. У перавазе Шэрага Бабра адчувалася жорсткасць, і з такой-жа жорсткасцю ён і загадваў, чынячы суд пры дапамозе палкі, караючы злачынства фізічнай боллю і, узнагароджваючы па заслугах не ласкай, а тым, што ўстрымліваўся ад удару.

І Белы Клык нічога не ведаў аб тым шчасці, якім можа ўзнагародзіць яго рука чалавека. Ды ён і не любіў чалавечых рук. У іх было штосьці падазронае. Праўда, часам рукі давалі мяса, але часцей за ўсё яны прыносілі боль. Ад іх трэба было трымацца як мага далей. Яны шпурлялі камені, сціскалі палкі, дубінкі, бізуны, умелі біць і штурхаць, а калі дакраналіся, то балюча шчыпалі, тузалі, рвалі шэрсць. У чужых пасёлках ён пазнаёміўся з рукамі дзяцей і даведаўся, што яны таксама ўмеюць наносіць боль. Нейкі маленькі ледзь не выкалаў яму вочы. Пасля гэтага Белы Клык пачаў аднасіцца да дзяцей з вялікай падазронасцю. Ён проста не мог іх цярпець. Калі тыя падыходзілі і працягвалі да яго свае рукі, якія не абяцалі дабра, ён уставаў і адыходзіў.

У адным з пасёлкаў на беразе Вялікага Нявольнічага возера Беламу Клыку, які і далей сутыкаўся са злом, якое могуць прынесці чалавечыя рукі, давялося ўдакладніць выкладзены яму Шэрым Бабром закон, згодна якога напад на багоў лічыцца недаравальным злачынствам. Паводле звычаю ўсіх сабак, Белы Клык накіраваўся на пошукі ежы. Ён убачыў хлопчыка, які рассякаў тапаром мёрзлую алеціну. Кавалачкі мяса разляталіся ў розныя бакі. Бегучы міма, Белы Клык спыніўся пачаў падбіраць іх. Хлопчык кінуў тапор і схапіў

цяжкую дубінку. Белы Клык адскочыў убок, ледзь паспеўшы ўхіліцца ад удару. Хлопчык пабег за ім, а Белы Клык, які быў незнаём з пасёлкам, кінуўся паміж двума вігвамамі і апынуўся ў тупіку паміж імі і высокім земляным валам.

Дзявацца не было куды. Хлопчык загароджваў адзіны выхад з тупіка. Падняўшы дубінку, ён накіраваўся да загнанага ворага. Белы Клык раз'юшыўся да апошняга. Яго пачуццё справядлівасці было абурана, ён увесь натапырыўся і сустрэў хлопчыка грозным рыкам. Белы Клык добра ведаў закон: усе рэшткі мяса, як, напрыклад, кавалачкі мёрзлай алеціны, належаць сабаку, які іх знаходзіць. Ён не зрабіў нічога дрэннага, не парушыў закона, і ўсё-ж хлопчык збіраўся пабіць яго. Белы Клык сам не ведаў, як гэта здарылася. Ён зрабіў гэта ў прыпадку шаленства, і ўсё здарылася так хутка, што яго праціўнік таксама нічога не паспеў зразумець. Зусім нечакана хлопчык апынуўся на снезе, а зубы Белага Клыка пракусілі яму руку, якая трымала дубінку.

Але Белы Клык ведаў, што закон, устаноўлены багамі, парушаны. Ён усадзіў зубы ў свяшчэннае цела аднаго з іх і павінен чакаць цяпер самага страшнага пакарання. Ён уцёк пад абарону Шэрага Бабра і сядзеў, скруціўшыся, ля яго ног, калі ўкушаны хлапец і ўся яго сям'я з'явіліся патрабаваць адплаты. Але яны пайшлі ні з чым. Шэры Бобр абараніў Белага Клыка. Тое-ж зрабілі Міт-Са і Клу-Куч. Прыслухоўваючыся да спрэчак і назіраючы за гнеўнай жэстыкуляцыяй людзей, Белы Клык зразумеў, што для яго ўчынку ёсць апраўданне. І такім чынам ён даведаўся, што бываюць багі— і багі. Яны падзяляюцца на яго багоў і на чужых багоў, і паміж імі існуе вялікая розніца. Ад сваіх багоў ён павінен прымаць усё—і справядлівасць і несправядлівасць. Але ён не абавязан цярпець несправядлівасці чужых багоў. Ён мае права помсціць за яе зубамі. І гэта таксама было законам багоў.

У той-жа дзень Белы Клык даведаўся яшчэ тое-сёе аб гэтым законе. Збіраючы галлё ў лесе, Міт-Са наткнуўся на кампанію хлапчукоў, сярод якіх быў і пакусаны. Адбылася сварка. Хлопчыкі накінуліся на Міт-Са. Яму прыходзілася дрэнна. З усіх бакоў на яго сыпаліся ўдары. Белы Клык спачатку проста назіраў за бойкай. Гэта справа багоў, і ён да гэтага не мае ніякага дачынення. Потым Белы Клык уцяміў, што б'юць-жа

Міт-Са—аднаго з яго ўласных багоў. Але тое, што ён зрабіў услед за гэтым, зусім не было абдуманым учынкам. Парыў шалёнай разлютаванасці прымусіў яго кінуцца ў самую сярэдзіну бойкі. І праз пяць хвілін хлапчукі разбегліся ў розныя бакі з поля бітвы, і многія з іх пакідалі на снезе крывавыя сляды, якія сведчылі аб тым, што зубы Белага Клыка не бяздзейнічалі. Калі Міт-Са расказаў пасёлку аб тым што здарылася, Шэры Бобр загадаў даць Беламу Клыку мяса. Ён загадаў даць яму многа мяса; і Белы Клык, насыціўшыся, лёг ля агню і заснуў, цвёрда ўпэўнены ў тым, што закон зразумеў ён правільна.

Услед за гэтым Белы Клык зразумеў закон уласнасці і тое, што ён павінен ахоўваць яе. Ад абароны цела бога да абароны яго маёмасці быў адзін крок, і Белы Клык гэты крок зрабіў. Тое, што належала богу, трэба было абараняць ад усяго свету, не спыняючыся нават перад нападам на іншых багоў. Але ўчынак гэты быў звязаны з вялікай небяспекай. Багі ўсемагутныя, і сабаку цяжка змагацца з імі; і ўсё-ж Белы Клык навучыўся адважна сустракаць іх. Пачуццё абавязку перамагала ў ім страх, і нарэшце зладзеяватыя багі зразумелі, што маёмасць Шэрага Бабра лепш за ўсё пакінуць у спакоі.

У сувязі з гэтым Белы Клык хутка здагадаўся, што зладзеяватыя багі баязлівыя і, пачуўшы трывогу, зараз-жа ўцякаюць. Апрача таго, прамежак часу паміж узнятай трывогай і з'яўленнем Шэрага Бабра быў звычайна вельмі кароткі. І ён зразумеў, што злодзей уцякае не таму, што баіцца яго, Белага Клыка, а таму, што баіцца Шэрага Бабра. У такіх выпадках Белы Клык не брахаў. Ды ён наогул ніколі не брахаў. Ён кідаўся на няпрошанага госця і, калі ўдавалася, упіваўся ў яго зубамі. Панурасць і нетаварыскасць зрабілі з Белага Клыка вельмі добрага вартаўніка гаспадарскай маёмасці, і Шэры Бобр усяляк заахвочваў яго ў гэтых адносінах. У выніку Белы Клык зрабіўся яшчэ больш злым, яшчэ больш неўціхамірным і канчаткова замкнуўся ў самым сабе.

Месяцы ішлі адзін за другім і ўсё больш і больш замацоўвалі дагавор паміж сабакам і чалавекам. Гэты дагавор яшчэ спрадвеку быў заключан першым ваўком, які прышоў з Лясной Глушы да чалавека. І падобна

ўсім пакаленням ваўкоў і дзікіх сабак, Белы Клык сам выпрацаваў умовы гэтага дагавара. Яны былі вельмі простыя. За пакланенне бажаству ён аддаў сваю волю. Ад бога Белы Клык атрымліваў зносіны з ім, апеку, ежу і цяпло. Узамен ён пільнаваў яго маёмасць, абараняў яго цела, працаваў на яго і пакараўся яму.

Белы Клык служыў свайму богу, пакараючыся абавязку і пачціваму страху, але ён не любіў яго. Ён не ведаў, што такое любоў. Ніколі не перажываў гэтага пачуцця. Кіч зрабілася далёкім успамінам. Апрача таго, аддаўшыся чалавеку, Белы Клык не толькі парваў з Лясной Глушшу і са сваімі суродзічамі, але ўключыў у дагавор умову, якая не дазваляла яму пакінуць бога і пайсці за Кіч нават у тым выпадку, калі-б ён сустрэў яе. Адданасць чалавеку стала законам для Белага Клыка, і закон гэты быў мацней любові да волі, мацней кроўных узаў.

*Раздзел шосты*

## ГОЛАД

Вясна была ўжо не за гарамі, калі Шэры Бобр скончыў сваё доўгае падарожжа. У адзін з красавіцкіх дзён Белы Клык, якому к гэтаму часу споўніўся год, зноў вярнуўся ў пасёлак. Міт-Са зняў з яго збрую. Хоць Белы Клык яшчэ не паспеў вырасці як належыць, але пасля Ліп-Ліпа ён быў самым буйным з аднагодкаў шчанюкоў. Атрымаўшы ў спадчыну целасклад і сілу ад бацькі—ваўка—і ад Кіч, ён амаль зраўняўся з дарослымі сабакамі, але ўступаў ім у моцнасці целаскладу. Цела ў яго было худое і зграбнае, і ў бойках ён браў хутчэй спрытнасцю, чым сілай. Скура ў Белага Клыка была шэрая, як у ваўка, і па выгляду ён здаваўся самым сапраўдным ваўком. Кроў сабакі, якая перайшла да яго ад Кіч, не пакінула слядоў на ім са знешняга выгляду, але характар Белага Клыка складваўся не без яе ўдзелу.

Белы Клык блукаў па пасёлку, з пачуццём спакойнага задавальнення пазнаючы багоў, знаёмых яму яшчэ да падарожжа. Сустракаў ён і шчанюкоў, падросшых цяпер таксама, як і ён, і дарослых сабак, якія зусім не былі такімі вялікімі і страшнымі, якімі яны асталіся ў яго памяці. Белы Клык амаль перастаў баяцца іх і пра-

гульваўся вольна сярод зграі, што прыносіла яму на першы час вялікую прыемнасць...

Быў тут і стары сівы Бэсік, якому ранейшыя дні дастаткова было вышчарыць зубы, каб прагнаць спалоханага Белага Клыка. Раней Бэсік не раз прымушаў Белага Клыка пераконвацца ва ўласнай нікчэмнасці, але цяпер той-жа Бэсік дапамог яму ацаніць тыя перамены, якія адбыліся ў ім самым. Бэсік старэў, сілы ў яго слабелі, а маладосць рабіла Белага Клыка ўсё дужэйшым і дужэйшым.

Перамена ва ўзаемаадносінах з сабакамі зрабілася яснай Беламу Клыку ў часе дзяльбы толькі што забітага лося. Ён атрымаў капыта з часткай галёнкі, на якой было досыць многа мяса. Уцёкшы ад сабак, якія біліся, далей у лес, каб яго ніхто не бачыў, Белы Клык узяўся за сваю здабычу, як раптам на яго наляцеў Бэсік. Яшчэ не паспеўшы як належыць скеміць, у чым справа, Белы Клык двойчы разануў старога пса зубамі і адскочыў убок. Аслупянеўшы ад такой дзёрзкай і імклівай атакі, Бэсік бяссэнсна ўтаропіў вочы на Белага Клыка, а костка са свежым мясам ляжала паміж імі.

Бэсік быў стары і ўжо ведаў цану адвагі маладых сабак, якіх раней яму вельмі лёгка было прыстрашыць. Як гэта не было прыкра, але ўсё-ж крыўду прыходзілася глытаць, і стары Бэсік заклікаў на дапамогу ўсю сваю мудрасць, каб не схібіць перад маладымі сабакамі. У мінулыя дні справядлівы гнеў прымусіў-бы яго прыгнуць на Белага Клыка. Але зараз слабеючыя сілы не дазвалялі адважыцца на такі ўчынак. Увесь натапырыўшыся, ён грозна пазіраў на Белага Клыка, а той, успомніўшы свой былы страх, скруціўся, зрабіўся адразу маленькім шчанюком і ўжо меркаваў сам сабе, як-бы яму адступіць з магчыма меншай ганьбай.

Вось тут Бэсік і зрабіў памылку. Меў-бы ён пагрозны і люты выгляд—усё было-б добра. Белы Клык, які прыгатаваўся для таго, каб уцякаць, адступіў-бы, пакінуўшы яму мяса. Але Бэсік не захацеў чакаць. Парашыўшы, што перамога астаецца за ім, ён зрабіў крок уперад. Як толькі Бэсік бесклапотна апусціў галаву, каб панюхаць мяса, Белы Клык злёгку натапырыўся. Нават зараз можна было вызваліцца з гэтага становішча. Калі-б Бэсік стаяў з высока паднятай галавой, грозна пазіраючы на праціўніка, Белы Клык нарэшце

ўцёк-бы. Але ў ноздрах у Бэсіка стаяў пах свежага мяса, і прагнасць прымусіла яго схапіць костку.

Гэтага Белы Клык не здолеў сцярпець. Панаванне над таварышамі па запрэжцы на працягу некалькіх месяцаў было яшчэ свежым у яго памяці, і ён ужо не мог справіцца з сабой, гледзячы, як другі сабака пажырае мяса, якое належала яму. Як звычайна, ён кінуўся на Бэсіка, не даўшы таму апамятацца. Пасля першага-ж укусу правае вуха Бэсіка павісла клоччамі. Раптоўнасць нападу ашаламіла яго. Але зараз-жа ўслед за гэтым з такой-жа раптоўнасцю адбыліся яшчэ больш змрочныя падзеі. Ён быў паважны; на шыі яго ззяла рана. Пакуль ён спрабаваў зноў ускочыць на ногі, малады сабака двойчы ўпіўся яму зубамі ў плячо. Імклівасць нападу была сапраўды ашаламляючай. Бэсік зрабіў быў дарэмную спробу кінуцца на Белага Клыка, але зубы яго толькі раз'юшана ляснулі ў паветры. У наступную-ж хвіліну нос у Бэсіка быў распаласаваны, і ён, хістаючыся, адступіў ад мяса.

Становішча спраў крута змянілася. Над косткай стаяў пагрозна натапырыўшыся Белы Клык, а Бэсік трымаўся воддаль, рыхтуючыся адступіць у любую хвіліну. Ён не асмельваўся ўступіць у бой з маладым, хуткім, як маланка, праціўнікам; і зноў, з яшчэ большай гарачу, Бэсік адчуў бяссілле старасці, якая набліжалася. Яго спроба захаваць дастоінства была сапраўды гераічнай. Спакойна павярнуўшыся спіной да маладога сабакі і косткі, якая ляжала на зямлі, як быццам тое і другое зусім не заслугоўвала ўвагі, ён велічна адышоў прэч. І толькі тады, калі Белы Клык ужо не мог бачыць яго, Бэсік спыніўся і пачаў залізваць свае раны.

Пасля гэтага выпадку Белы Клык загардзіўся і зрабіўся яшчэ больш самаўпэўненым. Ён расхаджваў сярод дарослых сабак яшчэ смялей, зрабіўся не такім уступчывым. Не тое каб ён шукаў прычын для сваркі,— далёка не. Ён патрабаваў увагі да сябе. Ён адстойваў свае правы і ні ў чым не хацеў уступаць другім сабакам. З ім прыходзілася лічыцца, вось і ўсё. Ніхто не смеў пагардліва адносіцца да яго. Шчанюкі цураліся кампаніі з дарослымі сабакамі, уступалі ім дарогу, а часам былі вымушаны аддаваць ім сваю порцыю мяса. Але нетаварыскі, адзінокі, пануры, грозны Белы Клык, які ўсіх цураўся, быў прыняты, як роўны, у асяроддзе збітых з панталыку дарослых сабак. Яны хутка наву-

чыліся пакідаць яго ў стаі, не абвяшчаючы яму варожасці і не робячы спроб завязаць з ім дружбу. А калі яны пакідалі Белага Клыка ў спакоі—ён плаціў ім тымжа, і пасля некалькіх сутычак сабакі пераканаліся, што такое становішча спраў задавальняе ўсіх як нельга лепш.

У сярэдзіне лета з Белым Клыкам здарыўся нечаканы выпадак. Прабягаючы сваёй бясшумнай рысцой на канец пасёлка, каб абследаваць там новы вігвам, пабудаваны, пакуль ён хадзіў з індзейцамі на паляванне за лосем, ён наткнуўся на Кіч. Белы Клык спыніўся і паглядзеў на яе. Ён памятаў матку смутна, але ўсё-ж памятаў, чаго нельга было сказаць аб Кіч. Грозна зарыкаўшы, яна вышчарыла на яго зубы, і Белы Клык успомніў усё. Успаміны аб забытым дзяцінстве і аб усім тым, аб чым гаварыў гэты рык, нахлынулі на яго. Да сустрэчы з багамі Кіч была для Белага Клыка цэнтрам сусвету. Старыя, знаёмыя пачуцці тых дзён вярнуліся і авалодалі ім. Узрадаваны Белы Клык прыгнуў да маткі, яна сустрэла яго трапным ударам клыкоў, распароўшы яму скулу да самай касці. Белы Клык нічога не зразумеў; ён у замяшанні адступіўся назад, ашаломлены такім прыёмам.

Але Кіч была не вінавата. Ваўчыцы забываюць сваіх ваўчанят, якім споўніўся год або больш года. Таксама-ж і Кіч забыла Белага Клыка. Ён быў для яе чужым, незнаёмым зверам, і вывадак, якім яна абзавялася за гэты час, даваў ёй права нязычліва адносіцца да ўмяшання староннїх.

Адзін з яе шчанюкоў падпоўз да Белага Клыка. Самі таго не ведаючы, яны даводзіліся адзін аднаму зводнымі братамі. Белы Клык з цікавасцю абнюхаў шчанюка, за што Кіч яшчэ раз наскочыла на яго і распаласавала яму морду. Белы Клык адступіў яшчэ далей. Усе старыя ўспаміны, якія ўваскрэслі было ў ім, зноў памерлі і ператварыліся ў прах. Ён глядзеў на Кіч, якая лізала свайго шчанюка і час ад часу паднімала галаву, каб зарыкаць. Кіч не мела ніякай цаны для Белага Клыка. Ён навучыўся абыходзіцца без яе і забыў, чым яна была дорага яму. У яго свеце для Кіч ужо не было месца, таксама як і ў яе свеце не было месца для Белага Клыка.

Усе ўспаміны даўно зніклі з яго галавы, і ён стаяў збянтэжаны, ашаломлены ўсім, што здарылася, калі Кіч зноў пачала нападаць у трэці раз, каб прагнаць яго з вачэй прэч. І Белы Клык пакарыўся. Кіч была самка, а па закону, устаноўленаму яго пародай, самцы не павінны біцца з самкамі. Ён нічога не ведаў аб гэтым законе, ён зразумеў яго не на падставе жыццёвай практыкі,—гэты закон быў падказан яму інстынктам, тым самым інстынктам, які прымушаў яго выць на месяц і на начныя зоркі, баяцца смерці і невядомасці.

Месяцы ішлі адзін за адным. Сілы ў Белага Клыка прыбаўляліся, ён рабіўся цяжэйшым, шырэйшым у плячах, а характар яго развіваўся па таму шляху, які наперад вызначылі спадчыннасць і навакольнае асяроддзе. Белы Клык быў створан з матэрыялу мяккага, як гліна. Гэты матэрыял хаваў у сабе шмат магчымасцей. Асяроддзе ляпіла з гэтай гліны ўсё, што яму хацелася, надаючы ёй любую форму. Так, калі-б не падышоў Белы Клык на агонь, раскладзены чалавекам, Лясная Глуш зрабіла-б з яго сапраўднага ваўка. Але багі ўвялі яго ў другое асяроддзе, і з Белага Клыка атрымаўся сабака, у якім было многа воўчага, і ўсё-ж гэта быў сабака, а не воўк.

І вось, пад уплывам навакольнай абстаноўкі падатлівы матэрыял, з якога быў зроблен Белы Клык, набыў вельмі своеасаблівую форму. Гэта было немінуча.

Ён рабіўся ўсё больш панурым, злым, усё больш замыкаўся ў сабе; сабакі-ж зразумелі, што з Белым Клыкам лепш жыць у згодзе, чым быць у варожасці, а Шэры Бобр з кожным днём усё больш і больш цаніў яго.

Тым не менш Белы Клык, не гледзячы на ўсю сваю сілу, цярпеў ад адной слабасці. Ён не любіў, калі над ім смяяліся.

Чалавечы смех здаваўся яму агідным. Людзі маглі смяяцца паміж сабой над чым хочаце, толькі не над ім, і ён не звяртаў на гэта ўвагі. Але варта было ім засмяяцца над Белым Клыкам, як ён пачынаў шалець. Сур'ёзны, заслугоўваючы вартасці сабака пачынаў шалець да недарэчнасці. Смех да такой ступені выводзіў яго з цярпення, што некалькі гадзін запар ён быў у шаленстве, як д'ябал. І гора таму сабаку, які папа-

даўся Беламу Клыку ў гэтыя хвіліны! Ён надта добра ведаў закон, каб спагнаць злосць на Шэрым Бабру; Шэраму Бабру дапамагалі палка і розум, а ў сабак не было нічога, апрача адкрытай прасторы, якая і ратавала іх, калі на сцэне з'яўляўся Белы Клык, даведзены смехам да шаленства.

Калі яму пайшоў трэці год, сярод індзейцаў, якія жылі на рацэ Макензі, настаў страшэнны голад. Летам не лавілася рыба. Зімой алені адышлі са сваіх звычайных месц. Лосі трапляліся рэдка, трусы амаль зніклі, паляўнічыя і драпежныя жывёлы гінулі. Прагаладаўшыся, аслабеўшы ад недаядання, жывёлы пачалі пажыраць адзін аднаго. Выжывалі толькі моцныя. Багі. якіх ведаў Белы Клык, заўсёды жылі паляваннем. Старыя і слабыя памерлі ад голаду. У пасёлку панаваў плач. Жанчыны і дзеці ўступалі сваю мізэрную долю схудзелым, асунуўшымся паляўнічым, якія рыскалі па лесе ў дарэмных пошуках дзічыны.

Голад давёў багоў да такой крайнасці, што яны елі макасіны і рукавіцы, зробленыя з сурамяціцы, а сабакі з'ядалі сваю вупраж і нават пугі. Апрача таго, сабакі елі адзін аднаго, а багі елі сабак. Спачатку з'елі самых слабых і менш каштоўных. Сабакі, якія асталіся ў жывых, бачылі ўсё гэта і зразумелі, што іх чакае такі-ж лёс. Тыя, хто быў смялейшы і разумнейшы, пакінулі агні, раскладзеныя чалавекам, каля якіх цяпер ішла бойня, і ўцякалі ў лес, дзе іх чакала галодная смерць або зубы ваўкоў.

У гэты цяжкі час Белы Клык таксама ўцёк у лес. Ён быў больш прыстасаваным да жыцця, чым іншыя сабакі,—ім кіравала школа, пройдзеная яшчэ ў дзяцінстве. Асабліва ўмела выгледжваў ён маленькіх звяркоў. Ён мог гадзінамі сачыць за кожным рухам асцярожнай вавёркі і чакаць, калі яна адважыцца злезці з дрэва на зямлю. Пры гэтым ён меў такое велізарнае цярпенне, якое ні ў чым не ўступала мучыўшаму яго голаду. Але нават і тады Белы Клык не спяшаўся. Ён чакаў да таго часу, пакуль можна было дзейнічаць без промаху, не баючыся, што вавёрка зноў уцячэ на дрэва.

Тады, і толькі тады, Белы Клык з хуткасцю маланкі выскакваў са сваёй засады, як снарад, які ніколі не пралятае міма намечанай цэлі—міма вавёркі, якую не

маглі выратаваць яе быстрыя ногі. Але, хоць паляванне Белага Клыка на вавёрак было ўдачнае, адна акалічнасць перашкаджала яму наядацца ўволю. Вавёркі пападаліся рэдка, і Беламу Клыку мімаволі прыходзілася паляваць на больш дробную дзічыну. Часамі голад рабіўся такім пакутлівым, што Белы Клык не спыняўся перад тым, каб выкапваць мышэй з норак. Не грэбаваў ён і ўступіць у бой з ласкай, такой-жа галоднай і ў тысячу разоў больш раз'юшанай, чым ён сам. Калі голад данімаў яго асабліва жорстка, Белы Клык падкрадваўся бліжэй да агнёў багоў, але блізка да іх не падыходзіў. Ён бегаў па лесе, унікаючы сустрэч з багамі, і абкрадваў сілкі, калі ў іх зрэдку пападалася дзічына. Аднойчы ён нават абкраў сілок для труса, які быў пастаўлен Шэрым Бабром, а Шэры Бобр у гэты час ішоў, хістаючыся, па лесе і раз-по-раз садзіўся і адпачываў, ледзь пераводзячы дух ад слабасці.

Неяк раз Белы Клык найшоў на маладога ваўка, змучанага і схудалага ад голаду. Калі-б Белы Клык не быў такім галодным, ён, напэўна, адправіўся-б далей з ім і нарэшце ўвайшоў-бы ў воўчую зграю. Але зараз яму не аставалася нічога іншага, як пагнацца за ваўком, разарваць і з'есці яго. Лёс, здавалася, спрыяў Беламу Клыку. Усякі раз, калі недахоп у ежы адчуваўся асабліва востра, ён натрапляў на якую-небудзь здабычу. Шчасце не здраджвала Беламу Клыку нават у тыя дні, калі ён зусім слабеў ад голаду,—ні разу за гэты час ён не папаўся на вочы больш буйным драпежнікам. Аднойчы, падмацаваўшы свае сілы рыссю, якой хапіла на цэлых два дні, Белы Клык сустрэўся з воўчай зграяй. Пачалася доўгая, лютая пагоня, але Белы Клык быў у лепшым стане, чым ваўкі, і нарэшце ўцёк ад іх. І ён не толькі ўцёк, але зрабіў вялікі круг і, вярнуўшыся назад, наткнуўся на аднога са змучаных праследвальнікаў.

Неўзабаве ён пакінуў гэтыя месцы і накіраваўся ў даліну на сваю радзіму. Адшукаўшы ранейшае логава, Белы Клык сустрэў там Кіч. Успомніўшы старое, Кіч таксама пакінула няветлівыя агні багоў і вярнулася ў сваё логава, каб тут парадзіць на свет дзяцей. К таму часу, калі каля логава з'явіўся Белы Клык, з усяго вы-

вадку астаўся толькі адзін ваўчок, але і яго дні былі лічаныя. Маладому жыццю цяжка ўцалець у такі голад.

Прыём, з якім Кіч сустрэла свайго дарослага сына, нельга было назваць цёплым. Але Белы Клык не звярнуў на гэта ўвагі. Ён ужо не меў патрэбы ў матцы, і, спакойна павярнуўшыся да яе спіной, пабег па ручаю. Накіраваўшыся далей удоўж левага рукава, Белы Клык знайшоў логава рысі, з якой некалі ён біўся разам з маткай. Тут, у пакінутай ёю нары, ён лёг і адпачываў увесь дзень.

Раннім летам, калі голад ужо падыходзіў к канцу, Белы Клык сустрэў Ліп-Ліпа, які, таксама як і ён, уцёк у лес і там гібеў. Белы Клык сустрэў яго зусім нечакана. Агінаючы з процілеглых бакоў круты бераг, яны адначасова выбеглі з-за высокай скалы і сустрэліся нос к носу. Абодва спыніліся, спалоханыя такой сустрэчай, і ўтаропілі вочы адзін у аднаго.

Белы Клык быў у вельмі добрым настроі. Увесь гэты тыдзень ён вельмі ўдачна паляваў і наядаўся ўволю, а апошняй сваёй здабычай наеўся даадвалу. Але варта было яму толькі ўбачыць Ліп-Ліпа, як шэрсць у яго на спіне стала дыбам. Ён натапырыўся зусім мімавольна,— гэтае знадворнае выяўленне хваляваўшых яго пачуццяў у мінулым спадарожнічала кожнай сустрэчы з забіякам Ліп-Ліпам. Таксама як і раней, убачыўшы свайго ворага, ён натапырыўся і зарыкаў на яго паміма сваёй волі. Белы Клык не стаў траціць часу. Усё было разлічана ў адзін момант. Ліп-Ліп адступіў быў назад, але Белы Клык накінуўся на яго, зваліў яго з ног, перакуліў і ўеўся зубамі ў яго худую шыю. Ліп-Ліп біўся ў прадсмяротных сударгах, а Белы Клык пахаджваў вакол яго, гатовы ў любую хвіліну кінуцца на ворага. Затым ён зноў пусціўся ў дарогу і знік за крутым паваротам берага.

Неўзабаве пасля гэтага Белы Клык выбег на ўскрай лесу і па вузкай прагаліне апусціўся да ракі Макензі. Ён забягаў у гэтыя месцы і раней, але тады на гэтым беразе было пуста, а зараз там быў відаць пасёлак. Белы Клык спыніўся і, не выходзячы з-за заслоны дрэў, пачаў азірацца. Гукі і пахі здаваліся яму знаёмымі. Гэта быў стары пасёлак, які перабраўся на другое месца. Але ў самым пасёлку, у яго гуках і пахах было

штосьці новае. Нячутна было ні выцця, ні плачу. У гуках, якія даляталі да яго вушэй, чулася насычанасць, і калі Белы Клык адрозніў раптам сярдзіты жаночы голас, ён зразумеў, што так злаваць можна толькі наеўшыся. У паветры пахла рыбай,—значыць, у пасёлку была ежа. Голад скончыўся. Ён смела вышаў з лесу і пабег у лагер, прама да вігвама Шэрага Бабра. Шэрага Бабра не было дома, але Клу-Куч сустрэла яго радаснымі крыкамі, дала свежай рыбы, і Белы Клык лёг і пачаў чакаць звароту Шэрага Бабра.

# ЧАСТКА ЧАЦВЕРТАЯ

*Раздзел першы*

## ВОРАГ

Калі ў натуры Белага Клыка была закладзена хоць якая-небудзь магчымасць збліжэння з прадстаўнікамі яго пароды, то магчымасць гэтая беззваротна загінула пасля таго, як ён зрабіўся важаком запрэжкі. Сабакі зненавідзелі яго, зненавідзелі за тое, што Міт-Са падкідаў яму лішні кавалак мяса; зненавідзелі за ўсе тыя сапраўдныя і ўяўляемыя перавагі, якімі ён карыстаўся; зненавідзелі за тое, што ён заўсёды бег у галаве запрэжкі, даводзячы іх да шаленства адным выглядам свайго пушыстага хваста і быстра мільгаючых ног.

І Белы Клык перапоўніўся да сабак такой-жа самай вострай нянавісцю. Роля важака запрэжкі не прыносіла яму ніякай прыемнасці. Ён насілу мірыўся з тым, што прыходзіцца бегчы наперадзе заліваючыся брэхам сабак, якія на працягу трох год знаходзіліся пад яго ўладай. Трэба было цярпець усё гэта або гінуць, а жыццю, якое білася ў ім крыніцай, гінуць не хацелася. Як толькі Міт-Са рушыў з месца, уся запрэжка з раз'юшаным брэхам кідалася ў пагоню за Белым Клыкам. Абараняцца ён не мог. Варта было яму павярнуцца да сабак, як Міт-Са сцябаў яго па мордзе пугай. Беламу Клыку не аставалася нічога іншага, як уцякаць. Адбіваць напад усёй выючай зграі хвастом і заднімі нагамі ён не мог. Такой зброяй нельга абараняцца супроць мноства бязлітасных клыкоў. І Белы Клык нёсся ўперад,

кожным прыжком гвалтуючы сваю прыроду і зневажаючы свой гонар, а бегчы так прыходзілася цэлы дзень.

Такі гвалт над сабой не праходзіць беспакарана. Калі волас, які вырас на целе, прымусіць расці ў адваротным напрамку, ён будзе прыносіць пакутны боль. Тое-ж самае здарылася і з Белым Клыкам. Усёй сваёй істотай ён імкнуўся накінуцца на зграю, якая праследавала яго па пятах, але волю багоў нельга было парушаць; апрача таго, воля гэтая падмацоўвалася ўдарамі трыццаціфутовай пугі, звітай з аленіх кішак. І Белы Клык сціснуўшы сэрца зносіў усё гэтае, затаіўшы ў сабе такую нянавісць і злосць, на якую толькі была здольна яго лютая і неўціхамірная натура.

Калі жывую істоту і можна было калі-небудзь назваць ворагам сваёй пароды, то гэта адносілася імення да Белага Клыка. Ён ніколі не прасіў літасці і сам нікога не шкадаваў. Сляды ўкусаў і нападаў не сыходзілі ў яго з цела, а сабакі ў сваю чаргу не расставаліся з адзнакамі яго зубоў. У процілегласць многім важакам, якія кідаліся пад абарону багоў, як толькі сабак распрагалі на стаянках, Белы Клык пагарджаў такой абаронай. Ён адважна разгульваў па стаянцы, уначы распраўляючыся з сабакамі за ўсё тое, што даводзілася сцярпець ад іх удзень.

Раней, калі Белы Клык яшчэ не быў важаком, яго таварышы па запрэжцы звычайна стараліся не пападацца яму на дарозе. Цяпер становішча спраў змянілася. Пагоня, якая не спынялася ўвесь дзень, відовішча Белага Клыка, які імчаўся ўперад, відовішча, якое не выходзіла ў іх з галавы нават на стаянцы, усведамленне, што ўвесь дзень ён знаходзіўся ў іх уладзе,— усё гэта не дазваляла сабакам уступаць Беламу Клыку дарогу. Варта было яму з'явіцца сярод зграі, зараз-жа пачыналася бойка. Яго прагулка па стаянцы суправаджалася рыкам, грызнёй, віскам. Самае паветра, якім дыхаў Белы Клык, было насычана нянавісцю і злосцю, і гэта толькі ўзмацняла нянавісць і злосць у ім самым.

Калі Міт-Са загадваў запрэжцы спыніцца, Белы Клык слухаўся яго вокліча. На першы час гэтае спыненне выклікала замяшанне сярод сабак. Усе яны накідаліся на ненавіснага важака, але тут справа набывала зусім іншы

абарот. Размахваючы пугай, на дапамогу Беламу Клыку прыходзіў Міт-Са. І сабакі зразумелі нарэшце, што калі санкі спыняюцца па загаду Міт-Са, важака лепш не чапаць. Але калі Белы Клык спыняўся самавольна, значыць, можна было наляцець на яго і ўчыніць над ім расправу.

Пасля некалькіх такіх выпадкаў Белы Клык перастаў спыняцца без загаду. Такія ўрокі засвойваліся хутка. Ды Белы Клык і не мог не засвойваць іх, інакш ён не выжыў-бы ў той незвычайна суровай абстаноўцы, у якой праходзіла яго жыццё. Але сабакі не маглі навучыцца пакідаць яго ў спакоі на стаянках. Дзённая пагоня і брэх, у які сабакі ўкладвалі ўсю сваю непавагу да важака, прымушалі іх забываць урокі, атрыманыя папярэдняй ноччу; наступнай ноччу ўрок узнаўляўся, з тым каб зараз-жа выляцець у іх з галавы. Апрача таго, нянавісць сабак да Белага Клыка жывілася яшчэ адной немалаважнай акалічнасцю. Яны адчувалі ў ім іншую пароду, і гэтага было цалкам дастаткова для таго, каб адчуць да яго варожасць.

Таксама як і Белы Клык, усе яны былі прыручаныя ваўкі. Але за імі стаяла ўжо некалькі прыручаных пакаленняў. Многае, чым надзяляе ваўка Лясная Глуш, было ўжо страчана, і для сабак у ёй хаваліся невядомасць, жах, вечная пагроза і вечная варожасць. Але знадворны выгляд Белага Клыка, усе яго ўчынкі і інстынкты казалі аб моцнай сувязі, якая існавала паміж ім і Лясной Глушшу. Ён быў сімвалам і ўвасабленнем яе. І таму, вышчараючы на яго зубы, сабакі тым самым ахоўвалі сябе ад пагібелі, якая таілася ў змроку лясоў і ў цемры, што з усіх бакоў абступала агні чалавека.

Але адзін урок сабакі завучылі цвёрда: трэба трымацца разам. Белы Клык быў надта страшны, і ніхто не адважваўся сустрэцца з ім адзін-на-адзін. Сабакі нападалі на яго ўсёй зграяй, інакш ён расправіўся-б з імі за адну ноч. А так Беламу Клыку не ўдалося загрызці ні аднаго сабаку. Ён звальваў праціўніка з ног, але зграя зараз-жа накідалася на Белага Клыка, не даючы яму пракусіць сабаку горла. Пры найменшым намёку на сварку ўся запрэжка дружна апалчалася на Белага Клыка. Сабакі заўсёды грызліся паміж сабой, але варта

толькі каму-небудзь з іх пачаць бойку з Белым Клыкам, як усе іншыя сваркі ўмомант забываліся.

Аднак, загрызці Белага Клыка яны не маглі, пры ўсёй сваёй стараннасці. Ён быў надта спрытны для іх, надта грозны і разумны. Ён унікаў тых месц, дзе можна было папасціся ў бяду, і заўсёды ўхіляўся калі зграя старалася акружыць яго кальцом. А аб тым, каб збіць Белага Клыка з ног, не мог і падумаць ні адзін сабака. Ногі яго з такой-жа ўпартасцю чапляліся за зямлю, з якой сам ён чапляўся за жыццё. І таму ў той бясконцай вайне, якую Белы Клык вёў са стаяй, захаваць жыццё і ўтрымацца на нагах—былі для яго паняцці роўназначачыя, і ніхто не ведаў гэтага лепш, чым сам Белы Клык.

Такім чынам, ён стаў ворагам сваёй пароды. Такім зрабіла яго жыццё. Ён абвясціў крывавую помсту ўсім сабакам і помсціў так бязлітасна, што нават Шэры Бобр, у якім было досыць лютасці і дзікасці, не мог надзівіцца злосці Белага Клыка. «Няма другога такога сабакі!»—кляўся Шэры Бобр, і індзейцы з чужых пасёлкаў згаджаліся з гэтым, успамінаючы, як Белы Клык распраўляўся з іх сабакамі.

Беламу Клыку было каля пяці год, калі Шэры Бобр зноў узяў яго з сабой у доўгачасную паездку, і ў пасёлках ля Скалістых Гор і ўдоўж Макензі і Порк'юпайна, аж да самага Юкона, доўга памяталі расправы Белага Клыка з сабакамі. Ён захапляўся сваёй помстай. Чужыя сабакі не чакалі ад яго нічога дрэннага. Ім не даводзілася сустракацца з праціўнікам, які нападаў-бы так імкліва і нечакана. Яны не ведалі, што маюць справу з ворагам, які забівае нібы маланка, з аднаго ўдару. Сабакі ў чужых пасёлках падыходзілі да Белага Клыка з задзёрыстым выглядам, натапырыўшыся, а ён, не трацячы часу на папярэднія цэрамоніі, кідаўся на іх з імклівасцю раскруціўшайся сталёвай спружыны, хапаў за горла і забіваў ашаломленага праціўніка, не даўшы яму апамятацца.

Белы Клык зрабіўся спрактыкаваным байцом. Ён біўся разважліва. Ніколі не траціў сіл дарэмна, не зацягваў барацьбы. Ён налятаў і, калі здаралася прамахнуцца, зараз-жа адскакваў назад. Як і ўсе ваўкі, Белы Клык унікаў таго, каб біцца ўсутыч з праціўнікам. Ён

не зносіў дакрананне да свайго цела ў час бойкі. Такая блізкасць з праціўнікам хавала ў сабе небяспеку і прыводзіла яго ў шаленства. Ён хацеў быць вольным, хацеў цвёрда трымацца на нагах. Лясная Глуш не выпускала Белага Клыка са сваіх чэпкіх абдымкаў і ўстанаўляла свае правы на яго. Адчужанасць ад кампаніі іншых шчанюкоў з самага ранняга дзяцінства толькі ўзмацніла ў ім гэтую ўласцівасць. Непасрэдная блізкасць да праціўніка таіла ў сабе нейкую пагрозу. Белы Клык надазраваў тут нешта нядобрае, і страх перад гэтым моцна засеў у яго свядомасці.

У выніку ні адзін чужы сабака не мог цягацца з ім. Белы Клык ухіляўся ад іх клыкоў. Ён або распраўляўся з праціўнікам або ўцякаў ад яго, заўсёды астаючыся непашкоджаным. Праўда, няма правілаў без выключэння. Здаралася, што на Белага Клыка налятала адразу некалькі ворагаў, і ён не паспяваў уцячы ад іх; а часам яму здорава пападала і ад якога-небудзь аднаго сабакі. Але гэта была проста выпадковасць. Белы Клык зрабіўся такім спрытным байцом, што выходзіў цэлым амаль з усіх боек. Ён меў яшчэ адну вартасць—уменасць правільна разлічваць час і адлегласць. Белы Клык рабіў гэта, зразумела, зусім несвядома і механічна. Вочы яго працавалі беспамылкова. Увесь арганізм Белага Клыка быў складзен лепш, чым у звычайных сабак, і працаваў значна дакладней і раўней. Калі зрокавыя нервы перадавалі мазгу рухомыя прадметы, мозг Белага Клыка без усякага намагання вызначаў адлегласць і час, неабходныя для таго, каб рух быў завершаны. Такім чынам ён мог выкруціцца ад прыжка сабакі або ад яго клыкоў, у той-жа самы час скарыстоўваючы кожную секунду, каб самому кінуцца на праціўніка. Белы Клык быў больш удасканаленым механізмам—як у фізічных, так і ў разумовых адносінах. Але сам ён не заслугоўваў ніякай хвалы за гэта. Прырода абдарыла яго больш шчодра, чым іншых, вось і ўсё.

Было лета, калі Белы Клык прыбыў у Форт Юкон. У канцы зімы Шэры Бобр перасек горны хрыбет паміж Макензі і Юконам і ўсю вясну займаўся паляваннем на заходніх адгор'ях Скалістых гор. А калі Парк'юпайн ачысціўся ад лёду, Шэры Бобр зрабіў пі-

рогу і спусціўся ўніз па рацэ да месца зліцця яе з Юконам, якраз пад самым Палярным Кругам. Тут стаяў форт Кампаніі, Гудзонавага заліва. У форце было шмат індзейцаў, шмат яды, усюды панавала небывалае ажыўленне. Было лета 1898 года, і золаташукальнікі тысячамі рухаліся ўверх па Юкону, да Даусона і Клан-дайка. Да мэты падарожжа аставалася яшчэ сотні міль, а між тым многія знаходзіліся ў дарозе ўжо год; менш пяці тысяч міль не зрабіў ніхто, а некаторыя прышлі сюды з другога канца свету.

У форце Юкон Белы Клык упершыню ўбачыў белых людзей. Побач з індзейцамі яны здаваліся яму істотамі іншай пароды,—багамі, улада якіх абапіралася на яшчэ большую магутнасць. Гэтая ўпэўненасць з'явілася ў Белага Клыка сама сабой: яму не трэба было напружваць свае разумовыя здольнасц., каб пераканацца ў магутнасці белых багоў. Ён адчуваў яе, але адчуваў з незвычайнай сілай. Вігвамы, пабудаваныя індзейцамі, здаваліся яму ў дзяцінстве выяўленнем магутнасці яго багоў, а тут Белага Клыка здзіўляў велізарны форт і дамы, пабудаваныя з масіўных бярвенняў. Усё гэта гаварыла аб магутнасці. Белыя багі мелі моц. Улада іх пашыралася далей улады ранейшых багоў, сярод якіх самай магутнай істотай быў Шэры Бобр. Але і Шэры Бобр здаваўся нязначным у параўнанні з беласкурымі багамі.

Зразумела. Белы Клык толькі адчуваў усё гэта і дакладна не мог ясна ўразумець свае адчуванні. Але жывёлы дзейнічаюць часцей за ўсё на падставе іменна такіх адчуванняў; і кожны ўчынак Белага Клыка тлумачыўся цяпер верай у магутнасць белых багоў. Ён адносіўся да іх з вялікай асцярожнасцю. Хто ведае, якога невядомага жаху і якой новай бяды можна чакаць ад іх? Белы Клык з цікаўнасцю назіраў за багамі, але баяўся папасціся ім на вочы. Першыя некалькі гадзін ён здавальняўся тым, што сноўдаўся навокал і сачыў за імі з бяспечнай адлегласці. Затым ён убачыў, што белыя багі не прыносяць ніякай шкоды сваім сабакам, і падышоў бліжэй.

У сваю чаргу Белы Клык узбуджаў іх цікавасць. Яго падабенства на ваўка адразу-ж кідалася ў вочы, і людзі паказвалі на яго адзін аднаму пальцамі. Гэта

прымусіла Белага Клыка настаражыцца, і калі хто-небудзь хацеў падыйсці да яго бліжэй, ён шчэрыў зубы і адбягаў убок. Нікому не ўдавалася дакрануцца да яго рукой, і добра, што не ўдавалася.

У хуткім часе Белы Клык зразумеў, што вельмі нямногія з гэтых багоў—усяго чалавек дванаццаць—пастаянна жывуць у форце. Кожныя два-тры дні да берага прычальваў параход (яшчэ адзін неабвержаны доказ усемагутнасці белых людзей) і стаяў там некалькі гадзін. Белыя багі прыязджалі і зноў ад'язджалі на параходах. Здавалася, што людзям гэтым няма ліку. У першы-ж дзень ці два Белы Клык убачыў іх у такой колькасці, у якой не бачыў індзейцаў за ўсё сваё жыццё; і кожны дзень белыя людзі прыязджалі, спыняліся ў форце, зноў адпраўляліся ўверх па рацэ і знікалі з вачэй.

Але калі белыя багі былі ўсемагутнымі, то сабакі іх каштавалі нямнога. Белы Клык хутка пераканаўся ў гэтым, сутыкнуўшыся з тымі сабакамі, якія сходзілі на бераг разам з людзьмі. Усе яны былі непадобнымі адзін да аднаго. У адных былі кароткія, надта кароткія ногі; у другіх—доўгія, надта доўгія. Замест густой футры цела іх пакрывала кароткая шэрсць, а ў некаторых скура была зусім гладкая. І ні адзін з гэтых сабак не ўмеў біцца.

Адчуваючы нянавісць да ўсёй сваёй пароды, Белы Клык лічыў сябе абавязаным уступіць у бойку і з гэтымі сабакамі. Пасля некалькіх сутычак ён пераноўніўся найвялікшым зневажэннем да іх. Праціўнікі былі слабымі і бездапаможнымі, зараз-жа пачыналі брахаць, мітусіцца і стараліся адолець Белага Клыка адной сілай, у той час як ён браў звычкай і хітрасцю. Сабакі кідаліся на яго з віскам. Белы Клык прыгаў убок. Яны гублялі яго з вачэй, і ён у тую-ж хвіліну налятаў на іх, звальваў плячом з ног і пракусваў зубамі горла.

Часта ўкус гэты быў смяртэльным, і праціўнік біўся ў гразі пад нагамі індзейскіх сабак, якія толькі і чакалі таго моманту, калі можна будзе кінуцца ўсёй зграяй і разарваць чужога сабаку на кавалачкі. Белы Клык быў мудры. Ён ужо даўно ведаў, што багі гневаюцца, калі хто-небудзь забівае іх сабак. Белыя багі не з'яўляліся выключэннем. Таму, зваліўшы праціўніка

з ног і распаласаваўшы яму горла, ён адбягаў убок і дазваляў зграі дакончыць пачатую ім справу. К гэтаму часу падбягалі белыя людзі і спаганялі свой гнеў на зграі, а Белы Клык выходзіў сухім з вады. Звычайна ён стаяў з боку і назіраў, як яго таварышоў б'юць каменнямі, палкамі, тапарамі і ўсім, што толькі траплялася людзям пад руку. Белы Клык быў вельмі мудры.

Але яго таварышы таксама сяму-таму навучыліся, і Белы Клык не адставаў ад іх. Яны зразумелі, што самая пацеха пачынаецца ў тую хвіліну, калі параход прыстае да берагу. Пасля таго як два-тры сабакі, якія збягалі з парахода на бераг, былі разарванымі, белыя людзі заганялі астатніх назад і пачыналі бязлітасна распраўляцца. Адзін белы, на вачах якога разарвалі на дробныя кавалачкі яго сабаку—сетэра, выхапіў рэвольвер. Ён стрэліў шэсць разоў запар, і шэсць сабак з зграі павалілася ў непрытомнасці,—яшчэ адна праява магутнасці, якая глыбока запала ў сазнанне Белага Клыка.

Белы Клык захапляўся ўсім гэтым. Ён не любіў сваіх субратаў і заўсёды ўхітраўся аставацца ў такіх выпадках цэлым. На першых парах бойкі з сабакамі белых людзей былі для яго забавай. Потым ён узяўся за гэта як належыць. Іншай справы ў яго не было. Шэры Бобр заняўся гандлем, багацеў. І Белы Клык сланяўся на прыстані, чакаючы разам са зграяй бяспутных індзейскіх сабак прыбыцця параходаў. Як толькі параход прычальваў да берага, пачыналася пацеха. К таму часу, калі белыя людзі маглі апамятацца ад здзіўлення, сабачая зграя разбягалася ў розныя бакі. Пацеха канчалася да наступнага парахода.

Аднак, Белага Клыка нельга было лічыць членам сабачай зграі. Ён не змешваўся з ёй, трымаўся ў баку, ніколі не трацячы сваёй незалежнасці, і сабакі нават баяліся яго. Праўда, ён дзейнічаў з імі заадно. Ён пачынаў сваю сварку з чужымі сабакамі, а астатнія чакалі воддаль. Але як толькі праціўнік быў звалены з ног, сабакі кідаліся і даканчвалі яго. Аднак, правільна і тое, што Белы Клык зараз-жа ўцякаў, прадастаўляючы зграі атрымліваць пакаранне ад разгневаных багоў.

Для таго, каб распачаць такую сварку, не трэба

было шмат турбавацца. Беламу Клыку варта было толькі з'явіцца на прыстані, калі чужыя сабакі сходзілі на бераг. Гэтага было досыць,—яны кідаліся на яго. Так загадваў ім інстынкт. Сабакі чулі ў Белым Клыку Лясную Глуш, невядомасць, жах, вечную пагрозу, чулі ў ім таго самага звера, які хадзіў крадучыся ў цемры, што акружала кастры. Яны-ж, знаходзячыся бліжэй да агню, выхоўвалі ў сабе другія інстынкты і пачыналі баяцца Лясной Глушы, якой яны здрадзілі і якую пакінулі. Ад пакалення да пакалення перадаваўся сабакам гэты страх. На працягу вякоў Лясная Глуш пагражала жахам і пагібеллю. І ўвесь гэты час сабакі карысталіся правам забіваць усякую істоту, якая з'яўлялася з Лясной Глушы, і права гэтае было атрымана імі ад уладароў. Так сабакі абаранялі сябе і багоў, якія дазволілі быць ім у іх асяроддзі. І таму паўднёвым сабакам, збягаўшым па трапу на бераг Юксна, досыць было ўбачыць Белага Клыка, каб адчуць непераадольнае жаданне кінуцца і разарваць яго. Сярод прыезджых сабак пападаліся і гарадскія, але інстынктыўны страх перад Лясной Глушшу захаваўся і ў іх. І калі пры яркім дзённым святле яны бачылі звера, падобнага на ваўка, то сабакі глядзелі на яго не толькі сваімі вачыма. Яны глядзелі на Белага Клыка вачыма ўсіх продкаў, і памяць, атрыманая ў спадчыну ад усіх папярэдніх пакаленняў, падказвала ім, што перад імі стаіць воўк, да яго парода іх адчувае даўнюю варожасць.

Усё гэта прыносіла радасць у жыцці Белага Клыка. Калі адным сваім выглядам ён прымушае сабак кідацца ў бойку, тым лепш для яго і тым горш для іх саміх. Яны глядзелі на Белага Клыка як на сваю законную здабычу, і ён таксама-ж адносіўся і да іх.

Нездарма Белы Клык убачыў упершыню дзённае святло ў адзінотным логаве і ў першых-жа сваіх бойках меў такіх праціўнікаў, як белая курапатка, ласка і рысь. І нездарма яго ранняе дзяцінства было засмучана варожасцю з Ліп-Ліпам і з усёй зграяй маладых сабак. Калі-б склалася яго жыццё інакш,—і ён сам быў бы іншым. Не было-б у пасёлку Ліп-Ліпа, Белы Клык правёў-бы сваё дзяцінства ў коле іншых шчанюкоў, быў-бы больш падобным на сабаку і з большай цярплівасцю адносіўся-б да сваіх суродзічаў. Калі-б Шэры

Бобр быў мякчэйшым і дабрэйшым, ён здолеў-бы абудзіць у Белым Клыку пачуццё прыхільнасці і любові. Але ўсё склалася інакш. Жыццё зрабіла Белага Клыка тым, чым ён зрабіўся цяпер,—панурым, замкненым, злосным зверам, ворагам сваёй пароды.

*Раздзел другі*

## ШАЛЁНЫ БОГ

Белых людзей у форце Юкон было нямнога. Усе яны лічыліся ў тутэйшых месцах старажыламі, называлі сябе «кіслым цестам» і вельмі ганарыліся гэтым. Да тых, хто прыязджаў сюды з іншых месц, старажылы адносіліся з пагардай. Людзі, якія сходзілі з парахода на бераг, былі навічкамі і называліся «чэчакос». Навічкі вельмі недалюблівалі сваю мянушку. Яны расчынялі цеста на содзе, і гэта праводзіла рэзкую грань паміж імі і старажыламі, якія пяклі свой хлеб на заквасцы, таму што соды ў іх не было.

Але ўсё гэта—між іншым. Жыхары форта з пагардай адносіліся да прыезджых і радаваліся ўсякі раз, калі ў тых здаралася якая-небудзь непрыемнасць. Асаблівую ўцеху прыносілі ім расправы Белага Клыка і яго бяспутнай зграі з чужымі сабакамі. Як толькі падыходзіў параход, старажылы форта спяшаліся на бераг, каб не празяваць пацехі. Яны загадзя радаваліся гэтай забаве не менш індзейскіх сабак, і, вядома, зараз-жа ацанілі тую ролю, якую адыгрываў у гэтых бойках Белы Клык. Але сярод старажылаў быў адзін чалавек, якому гэтая забава прыносіла асаблівую прыемнасць. Пачуўшы сірэну падплываючага парахода, ён з усіх ног кідаўся да берага; а калі бойка была скончана і зграя на чале з Белым Клыкам разбягалася ў розныя бакі, чалавек гэты павольнымі крокамі накіроўваўся назад у форт, усім сваім выглядам выказваючы глыбокі жаль. Часта, калі спеставаны паўднёвы сабака з перадсмяротным выццём валіўся на зямлю і гінуў, разрываемы на кавалачкі наляцеўшай на яго зграяй, чалавек не мог стрымацца і пачынаў скакаць на месцы, крычучы ад захаплення. І заўсёды пры гэтым ён з зайздрасцю пазіраў на Белага Клыка.

Старажылы форта празвалі гэтага чалавека «Прыгажун». Ніхто не ведаў яго імя, і ў тутэйшых месцах ён быў вядомы як Прыгажун Сміт. Праўда, прыгожага ў ім было мала. Таму, напэўна, яму і далі такую мянушку. Ён быў на рэдкасць уродлівы. Прырода паскупілася для яго. Перш за ўсё, ён быў маленькага росту, а на яго шчуплым целе сядзела малюсенькая галава, якая звужалася кверху. У дзяцінстве, яшчэ да таго як за ім замацавалася мянушка Прыгажуна, равеснікі называлі Сміта «Булавачнай Галоўкай».

Патыліца ў Прыгажуна была зусім плоскай, а спераду чэрап пераходзіў у нізкі і вельмі шырокі лоб. Тут прырода схамянулася і шчодрай рукой пачала надзяляць Прыгажуна Сміта. Яго вялікія вочы былі так шырока расстаўлены, што паміж імі магла-б змясціцца яшчэ адна пара вачэй. У параўнанні з маленькім тулавам твар яго здаваўся велізарным. Каб як-небудзь запоўніць адно свабоднае месца, Прырода надзяліла яго велізарнай, цяжкай сківіцай, якая выдавалася ўперад і амаль звісала яму на грудзі. Можа быць, такое ўражанне стваралася толькі таму, што шыя ў Прыгажуна Сміта была надта тонкая для такой цяжкай ношы.

Ніжняя сківіца надавала яго твару выражэнне лютай рашучасці, але разам з тым у гэтай рашучасці чагосьці нехапала. Магчыма, што сківіца вельмі кідалася ў вочы. Магчыма, што вінавата ў гэтым была яе масіўнасць. Ва ўсякім выпадку, ніякай рашучасці ў характары Прыгажуна Сміта не было. Ён славіўся ўсюды як агідны, нікчэмны палахлівец. Для паўнаты карціны трэба яшчэ сказаць аб тым, што зубы ў яго былі доўгія і жоўтыя, а два зубы па баках рота выглядвалі з-пад тонкіх губ, як клыкі. Вочы ў яго былі мутна-жоўтага колеру, нібы ў Прыроды раптам нехапіла фарб і яна саскрэбла для афарбоўкі вачэй усе рэшткі са сваёй палітры. Тое-ж самае можна сказаць і пра рэдкія брудна-жоўтыя валасы, якія клоччамі тырчэлі ў яго на галаве і на твары, нагадваючы растрэсаны ветрам сноп саломы.

Карацей кажучы, Прыгажун Сміт быў урод, але вінаваціць у гэтым трэба было кагосьці іншага, а не яго самога. Такім зрабіла яго жыццё. Прыгажун Сміт гатаваў абед для астатніх жыхароў форта, мыў пасуду і

выконваў усякую іншую брудную работу. У форце да яго адносіліся цярпіма і нават глядзелі на яго досыць спачувальна, як на істоту, скаверканую жыццём. Апрача таго, Прыгажуна Сміта крыху баяліся. Ад такога злоснага баязліўца можна было атрымаць і кулю ў спіну і шклянку кавы з атрутай. Але-ж каму-небудзь трэба гатаваць абед, а Прыгажун Сміт, не гледзячы на ўсе свае недахопы, ведаў сваю справу.

Такі быў чалавек, які захапляўся незвычайнай адвагай Белага Клыка і марыў заўладаць ім. Прыгажун Сміт пачаў заігрываць з Белым Клыкам. Той не звяртаў на гэта ніякай увагі. Потым, калі заігрыванні тэтыя зрабіліся больш настойлівымі, Белы Клык вышчарыў на Прыгажуна Сміта зубы, натапырваўся і ўцякаў. Гэты чалавек яму не падабаўся. Белы Клык чуў у ім нешта злоснае, палохаўся яго працягнутай рукі і наўмысна мяккага голасу і ненавідзеў яго.

Дабро і зло ўспрыймаюцца простай істотай вельмі проста. Дабро ёсць усё тое, што спыняе боль, што нясе з сабой волю і задавальненне. Таму дабро—прыемнае. Зло-ж ненавіснае таму што яно прыносіць трывогу, небяспеку, пакуты. Несвядома, нейкім невыразным, невядомым яму самому шостым пачуццём Белы Клык угадваў, што гэты чалавек тоіць у сабе зло, пагражае гібеллю і што яго трэба ненавідзець.

Белы Клык быў дома, калі Прыгажун Сміт упершыню зайшоў у палатку да Шэрага Бабра. Яшчэ задоўга да яго з'яўлення, па аднаму гуку крокаў, Белы Клык ведаў, хто ідзе да іх, і натапырыўся. Ён ляжаў, вельмі добра прыладзіўшыся, але зараз-жа падняўся, як толькі чалавек увайшоў у палатку, і паціханьку, як сапраўдны воўк, уцёк на другі канец лагера. Белы Клык не ведаў, аб чым ішла гутарка, але бачыў, што Шэры Бобр размаўляў з гэтым чалавекам. У часе гутаркі Прыгажун Сміт паказаў на Белага Клыка пальцам, і той зарыкаў, нібы рука чалавека была не на адлегласці пяцідзесяці футаў ад яго, а апускалася яму на спіну. Прыгажун Сміт зарагатаў, і Белы Клык паспяшыў схавацца ў лесе і, уцякаючы, усё азіраўся назад, на размаўляючых людзей.

Шэры Бобр не хацеў прадаваць сабаку. Ён разбагацеў ад гандлю і ні ў чым не меў патрэбы. Апрача таго,

ён ведаў цану Беламу Клыку,—лепшага ездавога сабакі і лепшага важака ў яго ніколі не было. Другога такога сабаку ні на Макензі, ні на Юконе не знойдзеш. Белы Клык майстар біцца. Разарваць сабаку яму вельмі лёгка,—усёроўна, што чалавеку камара раздушыць. (Вочы ў Прыгажуна Сміта заблішчэлі пры гэтых словах, і ён з прагнасцю аблізаў свае тонкія губы). Не, Шэры Бобр не прадасць ні за якія грошы Белага Клыка.

Але Прыгажун Сміт добра ведаў індзейцаў. Ён пачаў часта наведваць Шэрага Бабра і кожны раз прыносіў за пазухай цёмную бутэльку. Віскі мае адну магутную ўласцівасць—яна ўзбуджае прагнасць. І гэтая прагнасць з'явілася ў Шэрага Бабра. Яго ўспалёныя нутранасці і апечаны страўнік патрабавалі ўсё больш і больш гэтай пякучай вадкасці і, ачумеўшы ад яе дапічэнту, Шэры Бобр гатоў быў на што хочаце, толькі-б раздабыць гэты рэдкі напітак. Грошы, набытыя ад продажу футры, рукавіц і макасін, пачалі таяць. Іх рабілася ўсё менш і менш, і чым больш пусцеў мяшок, у якім яны захоўваліся ў Шэрага Бабра, тым ён рабіўся трывожным.

Нарэшце, усё знікла—і грошы, і тавары, і спакой. У Шэрага Бабра асталася толькі адна прагнасць, страшэнная прагнасць, якая расла з кожнай хвілінай. І тады Прыгажун Сміт зноў пачаў гутарку аб продажы Белага Клыка; але на гэты раз цана вызначалася ўжо не доларамі, а бутэлькамі віскі, і Шэры Бобр прыслухаўся да прапановы больш уважліва.

— Здолееш злавіць—сабака твой,—было яго апошняе слова.

Бутэлькі перайшлі да прадаўца, але праз два дні Прыгажун Сміт сказаў Шэраму Бабру:

— Злаві сабаку.

Вярнуўшыся аднаго разу ўвечары дамоў, Белы Клык з палёгкай уздыхнуўшы лёг каля палаткі. Страшнага белага бога не было. За апошнія дні ён усё больш і больш чапляўся да Белага Клыка, і той палічыў за лепшае на гэты час пакінуць лагер. Ён не ведаў, якую небяспеку тояць у сабе рукі гэтага чалавека. Але ён адчуваў нешта нядобрае і парашыў трымацца ад іх як мага далей.

Як толькі Белы Клык улёгся, Шэры Бобр, хістаючыся, падышоў да яго і абвязаў рамень вакол яго шыі. Затым Шэры Бобр сеў побач з Белым Клыкам, трымаючы ў адной руцэ канец раменя, а ў другой — бутэльку, да якой ён увесь час прыкладваўся. Праз гадзіну пачуліся крокі. Белы Клык пачуў іх першы і, здагадаўшыся, хто ідзе, увесь натапырыўся, а Шэры Бобр усё яшчэ сядзеў і кляваў носам. Белы Клык асцярожна пацягнуў рамень з рук гаспадара, але аслабеўшыя пальцы сціснуліся мацней і Шэры Бобр прачнуўся. Прыгажун Сміт падышоў да палаткі і спыніўся побач з Белым Клыкам. Той глуха зарыкаў на гэтую страшную істоту, не зводзячы вачэй з яго рук. Адна рука выцягнулася ўперад і пачала апускацца над яго галавой. Белы Клык зароў грамчэй. Рука павольна апускалася, а Белы Клык, злосна гледзячы на яе і задыхаючыся ад раз'юшанага рыку, усё ніжэй і ніжэй прыпадаў да зямлі. Праз момант клыкі яго заблішчэлі, як у змяі. Рука адскочыла, і зубы з рэзкім металічным гукам ляснулі ў паветры. Прыгажун Сміт спалохаўся і прыйшоў у шаленства. Шэры Бобр ударыў Белага Клыка па галаве, і той пакорліва прытуліўся да яго ног.

Белы Клык сачыў за кожным рухам абодвух людзей. Ён убачыў, што Прыгажун Сміт пайшоў і хутка вярнуўся з вялікай палкай у руках. Шэры Бобр перадаў яму рамень. Прыгажун Сміт зрабіў крок уперад. Рамень нацягнуўся. Белы Клык усё яшчэ ляжаў. Шэры Бобр ударыў яго некалькі разоў, каб падняць з месца. Белы Клык пакарыўся і прыгнуў прама на чужога чалавека, які хацеў забраць яго з сабой. Прыгажун Сміт не адскочыў убок. Ён чакаў гэтага нападу і ўдарам палкі паваліў Белага Клыка на зямлю, спыніўшы яго прыжок на поўдарозе. Шэры Бобр засмяяўся і ўхвальна заківаў галавой. Прыгажун Сміт зноў пацягнуў за рамень, і Белы Клык, аглушаны ўдарам, ледзь падпоўз да яго ног. Ён не паўтарыў свайго прыжку. Аднаго такога ўдару было досыць, каб пераканаць яго, што белы бог умее дзейнічаць палкай. Белы Клык быў надта разумны і бачыў усю дарэмнасць барацьбы з немінучасцю. Падагнуўшы хвост і не перастаючы глуха раўці, ён пацягнуўся за Прыгажуном Смітам, які не зводзіў з яго вачэй і трымаў напагатове палку.

Прышоўшы ў форт, Прыгажун Сміт моцна прывязаў Белага Клыка і лёг спаць. Белы Клык прачакаў гадзіну. Затым ён узяўся за рамень і праз якія-небудзь дзесяць секунд апынуўся на волі. Белы Клык не траціў дарэмна часу. Рамень быў перарэзаны наўскасяк, як нажом. Глянуўшы на форт, Белы Клык натапырыўся і зарыкаў. Затым ён павярнуўся і пабег да палаткі Шэрага Бабра. Ён не быў абавязан слухацца чужога і страшнага бога. Ён аддаў усяго сябе Шэраму Бабру і лічыў, што ніхто другі, апрача Шэрага Бабра, не можа валодаць ім.

Усё тое, што было раней, паўтарылася зноў, але з некаторай розніцай. Шэры Бобр зноў прывязаў яго на рамень і раніцой адвёў ад Прыгажуна Сміта. З гэтага моманту справы набылі некалькі іншы абарот. Прыгажун Сміт адлупцаваў яго. Беламу Клыку, які на гэты раз быў моцна прывязаны, не аставалася нічога іншага, як кідацца ў бяссільнай лютасці і цярпець пакаранне. Прыгажун Сміт пусціў у ход палку і хлыст, і такіх пабояў Беламу Клыку не давялося перанесці яшчэ ні разу ў жыцці. Нават тая лупцоўка, якую калісьці даўно ён зазнаў ад Шэрага Бабра, была глупствам у параўнанні з тым, што давялося перанесці цяпер.

Прыгажун Сміт захапляўся пабоямі. Ён з прагнасцю глядзеў на сваю афяру, і вочы яго запальваліся цьмяным агнём, калі Белы Клык выў ад болю і рыкаў у бяссільнай ярасці пасля кожнага ўдару палкай або хлыстом.

Прыгажун Сміт быў бязлітасным, як бываюць бязлітаснымі толькі палахліўцы.

Пакорліва зносячы ад людзей удары і лаянку, ён спаганяў сваю злабу на слабейшых істотах.

Усё жывое любіць уладу, і Прыгажун Сміт не з'яўляўся выключэннем.

Ён скарыстоўваў бездапаможнасць жывёл. Але Прыгажуна Сміта нельга было вінаваціць у гэтым, ён уступіў у жыццё са скаверканым целам і з розумам звера. З такога матэрыялу ён быў створан, і свет груба ўціскаў яго ў форму.

Белы Клык ведаў, за што яго б'юць. Калі Шэры Бобр прывязаў яго на рамень і перадаў прывязь у рукі Прыгажуна Сміта, Белы Клык зразумеў, што яго бог

загадвае яму ісці з гэтым чалавекам. І калі Прыгажун Сміт пасадзіў яго на прывязь у форце, ён зразумеў, што той загадвае яму астацца і заслужыў пакаранне. Яму даводзілася і раней бачыць, што сабак, якія ўцяклі ад новага гаспадара, білі таксама, як білі яго зараз. Белы Клык быў мудры, але ў ім жылі сілы, перад якімі знікала і сама мудрасць. Адной з гэтых сіл была вернасць. Белы Клык не любіў Шэрага Бабра, і ўсё-ж вернасць жыла ў ім наперакор волі і гневу бога. Тут ўжо нічога не зробіш. Вернасць была неад'ёмнай сутнасцю яго натуры. Яна з'яўлялася адметнай рысай яго пароды і адрознівала яе ад усіх іншых жывёл. Вернасць прывяла ваўка і дзікага сабаку да чалавека і дазволіла ім зрабіцца яго таварышамі.

Пасля збівання Белага Клыка адвялі назад у форт. Але на гэты раз Прыгажун Сміт прывязаў яго да палкі. Аднак, нялёгка адмаўляцца ад свайго бажаства, не так проста далося гэта і Беламу Клыку. Ён лічыў Шэрага Бабра сваім богам і далей чапляўся за яго. Шэры Бобр здрадзіў і адверг Белага Клыка, але гэта нічога не значыла. Нездарма-ж Белы Клык аддаўся Шэраму Бабру і целам і душой. Пакараючыся бажаству, ён дзейнічаў ад шчырага сэрца, і яго сувязь з гаспадаром было не так лёгка парваць.

І ноччу, калі ўвесь форт спаў, Белы Клык пачаў грызці палку, да якой яго прывязалі. Палка была сухая і цвёрдая і так блізка знаходзілася каля шыі, што ён ледзь дастаў яе. Беламу Клыку ўдалося схапіць прывязь зубамі толькі шляхам пакутнага напружання ўсіх шыйных мышц; а на тое, каб перагрызці дрэва, яму спатрэбілася некалькі гадзін найцярплівейшай работы. Наогул кажучы, сабакі не здольны на гэта і ніколі не робяць гэтага. Але Белы Клык зрабіў і досвіткам уцёк з форта, а на шыі ў яго матляўся кавалак палкі.

Белы Клык быў мудры. І калі-б ён быў толькі мудры, ён не прышоў-бы да Шэрага Бабра, які ўжо два разы здрадзіў яму. Але вернасць гнала назад, і ён вярнуўся для таго, каб гаспадар здрадзіў яму ў трэці раз. Зноў Белы Клык дазволіў Шэраму Бабру надзець рамень на шыю, і зноў за ім прышоў Прыгажун Сміт. І на гэты раз Беламу Клыку папала яшчэ больш, чым раней. Шэры Бобр абыякава глядзеў, як белы чалавек

арудвае хлыстом. Ён не спрабаваў абараніць сабаку. Ён ўжо больш не належаў яму. Калі збіванне скончылася, Белы Клык быў ледзь жывы. Слабы паўднёвы сабака не перанёс-бы такіх пабояў, але Белы Клык перанёс. Яго загартавала суровая школа жыцця. Ён быў здзіўляюча жывучы і чапляўся за жыццё. Але зараз Белы Клык ледзь дыхаў. Ён не мог нават паварушыцца, і Прыгажуну Сміту прышлося пачакаць з поўгадзіны, пакуль Белы Клык здолее крануцца з месца. Затым ён устаў хістаючыся і, нічога не бачачы перад сабой, пацягнуўся за Прыгажуном Смітам у форт.

На гэты раз яго пасадзілі на ланцуг, які не паддаваўся зубам. Белы Клык стараўся вырваць скабу, убітую ў бервяно, але ўсе яго намаганні былі дарэмны. Праз некалькі дзён працвярэзіўшыся і дашчэнту разароны Шэры Бобр адправіўся ў далёкі шлях па рацэ Парк'юпайн на Макензі. Белы Клык астаўся ў форце Юкон і перайшоў цалкам ва ўласнасць чалавека, які напалову ўжо страціў свой розум і ператварыўся ў звера. Але што ведае сабака аб шаленстве. Для Белага Клыка Прыгажун Сміт стаў богам, страшным, але ўсё-ж сапраўдным богам. У лепшым выпадку, гэта быў шалёны бог, але Белы Клык нічога не ведаў аб шаленстве; ён ведаў толькі, што трэба падпарадкоўвацца волі гэтага чалавека і выконваць усе яго жаданні і капрызы.

*Раздзел трэці*

## ЦАРСТВА НЯНАВІСЦІ

Пад апякунствам шалёнага бога Белы Клык ператварыўся ў д'ябала. Зрабіўшы ў канцы форта загародку, Прыгажун Сміт прывязаў Белага Клыка на ланцуг і пачаў даводзіць яго да злосці і шаленства, невялікімі, але пакутлівымі нападкамі. Ён вельмі хутка выявіў, што яго афяра не можа сцярпець смеху, і звычайна заканчваў свае катаванні аглушальным насмешлівым рогатам. Здекваючыся над Белым Клыкам, бог паказваў на яго пальцам; у гэтыя хвіліны розум пакідаў сабаку і ў прыпадках ярасці, якая ахапляла яго, ён здаваўся яшчэ больш шалёным, чым Прыгажун Сміт.

Да гэтага часу Белы Клык адчуваў варожасць— праўда, варожасць лютую—толькі да істот сваёй пароды. Цяпер ён зрабіўся ворагам усяго, што бачыў навокал сябе. Здзекванні Прыгажуна Сміта давялі яго да такога азлаблення, што ён слепа і безразважна ненавідзеў усё навакольнае. Ён зненавідзеў свой ланцуг, людзей, што дзівіліся з яго праз агарожу, сабак, якія прыходзілі разам з людзьмі, на злосны рык якіх ён нічым не мог адказаць. Белы Клык ненавідзеў нават дошкі, з якіх была зроблена загарадка. Але больш за ўсё ён ненавідзеў усё-ж Прыгажуна Сміта.

Абыходзячыся так з Белым Клыкам, Прыгажун Сміт ставіў перад сабой пэўную мэту. Аднойчы каля загарадкі сабралася некалькі чалавек. Прыгажун Сміт ўвайшоў да Белага Клыка, трымаючы ў руцэ палку, і зняў з яго ланцуг. Як толькі гаспадар пайшоў, Белы Клык пачаў кідацца ўнутры загарадкі, стараючыся дабрацца да людзей, што дзівіліся з яго. Белы Клык быў вельмі прыгожы ў сваёй ярасці. Поўных пяць футаў у даўжыню і два з паловай у вышыню, ён важыў значна больш любога ваўка тых-жа размераў. Белы Клык атрымаў у спадчыну ад маці масіўны корпус сабакі і важыў больш дзевяноста фунтаў, прычым на целе яго не было і слядоў тлушчу. Ён складаўся з адных мускулаў, касцей і сухажылляў і ўяўляў сабой вельмі прыгожы арганізм, нібы спецыяльна створаны для бітваў.

Дзверы да яго ў загарадку зноў прыадчыніліся. Белы Клык спыніўся. Адбывалася нешта незразумелае. Дзверы адчыніліся шырэй. Затым да яго ўштурхнулі вялікага сабаку, і дзверы зачыніліся. Белы Клык ніколі яшчэ не бачыў такой пароды (гэта быў мастыф), але размеры і раз'юшаны выгляд незнаёмага не збянтэжылі яго ні на адну хвіліну. Ён бачыў перад сабой не дрэва, не жалеза, а жывую істоту, на якой можна было спагнаць сваю ярасць. Заблішчэўшы клыкамі, ён скокнуў на мастыфа і разадраў яму шыю. Мастыф затрос галавой і з хрыплым рыкам кінуўся на Белага Клыка. Але Белы Клык кідаўся з аднаго кутка ў другі, ухітраючыся выкруціцца і выслізнуць ад праціўніка, не перастаючы ўвесь час рваць яго клыкамі і зноў адскокваць убок, ухіляючыся ад удараў.

Гледачы крычалі, апладыравалі, а Прыгажун Сміт, які не памятаў сябе ад захаплення, не спускаў прагнага позірку ад Белага Клыка, што распраўляўся з праціўнікам. Справа мастыфа была безнадзейная. Ён быў надта грузны і непаваротлівы, і бойка скончылася тым, што Прыгажун Сміт палкай адагнаў Белага Клыка, а мастыфа выцягнулі з загародкі. Затым прайграўшыя заплацілі заклад, і ў руцэ Прыгажуна Сміта зазвінелі грошы..

З гэтага дня Белы Клык ужо з нецярплівасцю чакаў той хвіліны, калі навокал яго загарадкі зноў збярэцца натоўп. Гэта прадракала бойку; а бойка зрабілася цяпер для яго адзіным спосабам нейкім чынам выявіць жыццёвую энергію, якая накапілася ў ім.

Седзячы ў загарадцы, зацкаваны, ашалелы ад нянавісці, Белы Клык знаходзіў выхад для гэтай нянавісці толькі тады, калі гаспадар упускаў да яго ў загарадку сабаку. Прыгажун Сміт ведаў цану Беламу Клыку, таму, што Белы Клык заўсёды выходзіў пераможцам з такіх боек. Аднойчы да яго ўпусцілі трох сабак адзін за адным. Другі раз у загарадку ўштурхнулі толькі што злоўленага дарослага ваўка. А ў трэці раз яму давялося біцца з двума сабакамі адразу. З усіх боек, у якіх прыходзілася ўдзельнічаць Беламу Клыку, гэта была самая страшная, і хоць ён забіў абодвух сабак, але к канцу бойкі і сам ледзь дыхаў.

Восенню, калі выпаў першы снег і па рацэ пацягнулася сала, Прыгажун Сміт узяў месца для сябе і для Белага Клыка на параходзе, што адпраўляўся ўверх па Юкону да Даусона. Слава аб Белым Клыку разнеслася ўжо па ўсёй краіне. Ён быў вядомы пад мянушкай «баявога ваўка», і таму каля клеткі, у якую яго пасадзілі на палубе, заўсёды таўпіліся цікаўлівыя. Ён рыкаў і кідаўся на гледачоў або ляжаў нерухома і з халоднай нянавісцю глядзеў на іх. Хіба ён не павінен быў ненавідзець гэтых людзей? Белы Клык ніколі не ставіў сабе такога пытання. Ён ведаў толькі нянавісць і ўвесь аддаўся гэтаму пачуццю. Жыццё стала для яго пеклам. Белы Клык, як і ўсякі дзікі звер, які трапіў у рукі да чалавека, не мог сядзець на прывязі. А яму прыходзілася цярпець гэта. Людзі гля-

дзелі на яго, совалі палкі праз рашотку, прымушалі яго рыкаць і смяяліся над яго злосцю.

Гэтыя людзі выклікалі ў Белым Клыку такую ярасць, якой не мысліла надзяліць яго і сама Прырода. Аднак, Прырода дала яму здольнасць прыстасоўвацца. Там, дзе іншая жывёліна пакарылася-б, Белы Клык прыстасоўваўся да акалічнасцей і прадаўжаў жыць, не ламаючы сваёй упартасці. Магчыма, што Прыгажуну Сміту і ўдалося-б зламаць Белага Клыка, але пакуль што старраннасць яго не мела поспеху.

Калі ў Прыгажуну Сміту сядзеў д'ябал, то ў Белым Клыку сядзеў другі, і абодва яны шалелі адзін супроць аднаго. Раней у Белага Клыка хапала разважлівасці на тое, каб пакарацца чалавеку, які трымае палку ў руцэ; цяпер-жа разважлівасць яго пакінула. Адзін выгляд Прыгажуна Сміта прыводзіў яго ў шаленства. І калі яны налятаў адзін на аднаго і палка заганяла Белага Клыка ў куток клеткі, ён і тады не пераставаў рыкаць і вышчараць зубы. Супакоіць яго было немагчыма. Прыгажун Сміт мог біць Белага Клыка як толькі хацеў, той не здаваўся; і калі чалавек пераставаў біць і адыходзіў, услед яму далятаў задзірысты рык, або Белы Клык кідаўся на пруты клеткі, выючы ад бушаваўшай у ім нянавісці.

Калі параход прыбыў у Даусон, Белага Клыка звялі на бераг. Але і ў Даусоне ён жыў як і раней на вачах ва ўсіх, у клетцы, якая заўсёды была акружана цікаўлівымі. Прыгажун Сміт выставіў напаказ свайго «баявога ваўка», і людзі плацілі па пяцьдзесят цэнтаў залатым пяском, каб паглядзець на яго. У Белага Клыка не было ні хвіліны спакою. Калі ён спаў, яго будзілі вострай палкай, каб гледачы атрымалі поўнае задавальненне за свае грошы. А для таго каб зрабіць прадстаўленне яшчэ больш цікавым, Белага Клыка заўсёды трымалі ў стане лютай злосці.

Але горш за ўсё была тая атмасфера, у якой ён жыў. На яго глядзелі, як на самага страшнага звера, і гэтыя адносіны людзей прасочваліся да Белага Клыка праз пруты клеткі. Кожнае слова, кожны асцярожны рух пераконвалі яго ў тым, наколькі страшна людзям яго ярасць. Гэта толькі падлівала масла ў

агонь, і ў выніку раз'юшанасць Белага Клыка расла з кожным днём.

Апрача таго, што Прыгажун Сміт выставіў Белага Клыка напаказ, ён зрабіў з яго прафесіянальнага байца. Як толькі з'яўлялася магчымасць наладзіць бой, Белага Клыка выводзілі з клеткі і вялі ў лес, за некалькі міль ад горада. Звычайна гэта рабілася ўначы, каб унікнуць сутычкі з мясцовай коннай паліцыяй. Праз некалькі гадзін, досвіткам, з'яўляліся гледачы і сабака, з якім яму трэба было змагацца. Беламу Клыку даводзілася сустракаць праціўнікаў усіх парод і ўсіх размераў. Ён жыў у дзікай краіне, і людзі тут былі дзікія, а бойкі звычайна канчаліся смерцю.

Але Белы Клык прадаўжаў прымаць удзел у баях, і, значыцца, паміралі яго праціўнікі. Ён не ведаў паражэння. Баявая загартоўка, атрыманая з дзяцінства, калі яму прыходзілася змагацца з Ліп-Ліпам і з усёй зграяй маладых сабак, прыгадзілася цяпер. Белага Клыка выратоўвала цвёрдасць, з якой ён стаяў на зямлі. Ні аднаму сабаку не ўдавалася зваліць яго з ног. Сабакі, у якіх захавалася яшчэ кроў іх далёкіх продкаў— ваўкоў, пускалі ў ход свой улюбёны прыём: кідаліся на яго прама або забягалі з таго боку, адкуль ён не чакаў нападу, разлічваючы ўдарыць яго ў плячо і перакуліць наўзніч. Ганчакі з Макензі, эскімоскія і лабрадорскія сабакі—усе выпрабавалі на ім гэты прыём і нічога не дабіліся. Не было выпадку, каб Белы Клык страціў роўнавагу. Людзі расказвалі аб гэтым адзін аднаму і кожны раз спадзяваліся ўбачыць яго зваленым з ног, але Белы Клык нязменна расчароўваў іх. Апрача таго, яму дапамагала яго маланкавая хуткасць. Яна давала Беламу Клыку велізарную перавагу над праціўнікамі. Нават самыя спрактыкаваныя сярод іх яшчэ не сустракалі такога суперніка, які-б так мог ухіляцца. Сабакам прыходзілася лічыцца з нечаканасцю яго нападу. Усе яны прывыклі выконваць перад бойкай пэўны рытуал, у часе якога належала вышчараць зубы, натапырвацца, рыкаць, і радавыя сабакі былі звалены з ног і прыкончаны раней, чым уступалі ў бойку або апамятваліся ад здзіўлення. Гэта здаралася так часта, што Белага Клыка пачалі

стрымліваць, каб даць яго праціўніку магчымасць выканаць рытуал і першым кінуцца ў бойку.

Але самую вялікую перавагу перад праціўнікамі давала Беламу Клыку яго спрактыкаванасць. Ён разумеў сэнс у бойках лепш любога сабакі, з якім яму даводзілася сустракацца. Ён біўся часцей іх усіх, умеў адбіць любы напад, а яго ўласныя прыёмы барацьбы былі больш разнастайнымі і наўрад ці мелі патрэбу ў паляпшэнні. Але паступова біцца прыходзілася ўсё радзей і радзей. Аматары сабачых баёў ужо страцілі надзею знайсці яму вартага суперніка, і Прыгажуну Сміту не аставалася нічога іншага, як выстаўляць супроць Белага Клыка ваўкоў. Індзейцы лавілі іх пасткамі спецыяльна для гэтай мэты, і бойка Белага Клыка з ваўком нязменна прыцягвала натоўпы гледачоў. Аднойчы ўдалося раздабыць дзесьці дарослую самкурысь, і на гэты раз Беламу Клыку прышлося адстойваць у бойцы сваё жыццё. Рысь не ўступала яму ні ў хуткасці руху, ні ў лютай злосці і пускала ў ход зубы і вострыя кіпцюры ў той час, як Белы Клык дзейнічаў толькі зубамі.

Але пасля бойкі з рыссю баі спыніліся. Беламу Клыку ўжо не было з кім змагацца, ва ўсякім выпадку, ніхто не мог выпусціць на яго вартага праціўніка. І ён прасядзеў у клетцы, выстаўлены на паказ да вясны, калі ў Даусон прыехаў нехта Тім Кінэн, па прафесіі карцёжны ігрок. Кінэн прывёз з сабой бульдога— першага бульдога, які з'явіўся ў Калондайку. Сустрэча Белага Клыка з гэтым сабакам была немінуча, і ў некаторых кварталах горада надыходзячая бойка паміж імі цэлы тыдзень з'яўлялася галоўнай тэмай для гутарак.

*Раздзел чацверты*

## У СМЕРЦІ Ў ЛАПАХ

Прыгажун Сміт зняў з яго ланцуг і адступіў назад.

Але Белы Клык кінуўся не адразу. Ён стаяў, як укапаны, натапырыўшы вушы і з цікаўнасцю ўглядаючыся ў дзіўную жывёлу, якая стаяла перад ім. Ён ніколі не бачыў такога сабаку. Тім Кінэн падштурхнуў бульдога ўперад і прамармытаў:

— Вазьмі яго!

Прысадзістая, нязграбная жывёліна пракульгала на сярэдзіну круга і, міргаючы вачыма, спынілася супроць Белага Клыка.

З натоўпу закрычалі:

— Вазьмі яго, Чэрокі! Дай яму як належыць! Бяры яго!

Але Чэрокі, здавалася, не меў ніякага жадання біцца. Ён павярнуў галаву, глядзеў, міргаючы на людзей, што крычалі і дабрадушна круціў абрубкам хваста. Ён не баяўся Белага Клыка, проста ён ляніўся пачынаць бойку. Апрача таго, ён не быў упэўнены, што з сабакам, які стаяў перад ім, трэба ўступаць у бой. Чэрокі не прызвычаіўся сустракаць такіх праціўнікаў і чакаў, калі да яго прывядуць сапраўднага сабаку.

Тім Кінэн увайшоў у круг і нахіліўся над Чэрокі, пагладжваючы яго супроць шэрсці і злёгку падштурхваючы ўперад. Гэтыя рухі падбухторвалі і раздражнялі Чэрокі. Пачулася прыглушанае бурчэнне, якое ішло аднекуль з глыбіні горла. Рухі чалавечых рук цалкам супадалі з бурчэннем сабакі. Калі рукі падштурхоўвалі Чэрокі ўперад, ён пачынаў бурчэць, затым змаўкаў, але на наступнае дакрананне зноў адказваў бурчэннем. Кожны рух рук, што гладзілі Чэрокі супроць шэрсці, закончваўся лёгкім штуршком, які нараджаў у яго ў горле прыглушанае бурчэнне. Белы Клык не мог аставацца абыякавым да ўсяго гэтага. Шэрсць на загрыўку і на спіне паднялася ў яго дыбам. Тім Кінэн штурхнуў Чэрокі ў апошні раз і адступіў назад. Падштурхоўванне спынілася, але бульдог ужо па ўласнай волі пабег уперад, быстра перабіраючы сваімі крывымі лапамі. У гэты момант Белы Клык кінуўся на яго. У гледачоў вырваўся крык захаплення. Белы Клык з лёгкасцю кошкі ў адзін прыжок апынуўся побач са сваім праціўнікам і з той-жа спрытнасцю кошкі рвануў бульдога клыкамі і адскочыў убок.

На тоўстай шыі ў бульдога, каля самага вуха, паказалася кроў. Не звяртаючы на гэта ніякай увагі, нават не зарыкаўшы, Чэрокі павярнуўся і пабег за Белым Клыкам. Адвага, якую выказвалі абое праціўнікі, спрытнасць Белага Клыка і ўпартасць Чэрокі распалілі страсці натоўпу. Гледачы заключалі новыя заклады,

павялічвалі стаўкі. Белы Клык прыгнуў на бульдога яшчэ і яшчэ раз, рвануў яго зубамі і адскочыў убок непашкоджаным, а дзіўны праціўнік бегаў спакойна і далей за ім, не спяшаючыся, але і не запавальняючы хаду, з рашучым і вельмі дзелавітым выглядам. У паводзінах Чэрокі адчувалася нейкая пэўная мэта, ад якой нельга было яго адцягнуць ніякімі намаганнямі. Усе яго рухі былі пранікнуты гэтай мэтай. Белага Клыка гэта збівала з панталыку. Ніколі ў жыцці не сустракаў ён такога сабаку. Шэрсць на ім была зусім кароткая, кроў паказвалася на яго мяккім целе ад самай малой драпіны. Яго здзіўляла таксама адсутнасць пакрыцця на ім з пушыстай футры, якая так часта перашкаджала Беламу Клыку ў бойках з сабакамі блізкай яму пароды. Зубы яго без усякай цяжкасці ўядаліся ў падатлівае цела бульдога, які, здавалася, зусім не ўмеў абараняцца. Апрача таго, Белага Клыка бянтэжыла тая акалічнасць, што Чэрокі бегаў моўчкі, у той час, як усе іншыя сабакі ў такіх выпадках звычайна пачыналі вішчаць. Калі не лічыць глухога бурчэння, бульдог сустракаў напад моўчкі і ні на хвіліну не спыняў пагоні за праціўнікам.

Нельга сказаць, каб Чэрокі быў няспрытным. Ён круціўся і кідаўся з боку ў бок вельмі хутка, але Белы Клык усё-ж выслізгаў ад яго. Чэрокі таксама быў збіт з панталыку. Яму яшчэ ні разу не даводзілася сустракаць сабаку, які не падпускаў-бы яго да сябе. Жаданне сашчапіцца адзін з другім да гэтага часу заўсёды было ўзаемным. Але гэты сабака ўвесь час трымаўся на адлегласці, скакаў то ў той, то ў іншы бок і выкручваўся ад яго. І нават рвануўшы Чэрокі зубамі, ён не затрымліваўся каля яго, а зараз-жа разнімаў пашчэнкі і адскакваў прэч.

А Белы Клык ніяк не мог дабрацца да горла свайго праціўніка. Бульдог быў надта малы ростам, апрача таго, масіўныя пашчэнкі з'яўляліся ў яго добрай абаронай. Белы Клык кідаўся і адскакваў убок, ухітраючыся не атрымаць ніводнай драпіны, між тым як колькасць ран на целе Чэрокі ўсё расла і расла. Галава і шыя ў яго былі распаласаваны з ободвух бакоў. З ран лілася кроў, але Чэрокі не выказваў ніякіх адзнак трывогі. Ён усё таксама добрасумленна ганяўся за

Белым Клыкам і спыніўся ўсяго толькі на адну хвіліну, каб недаўменна паглядзець на людзей і памахаць абрубкам хваста ў знак сваёй гатоўнасці прадаўжаць бойку.

У гэты момант Белы Клык наляцеў на бульдога і, паласнуўшы яго зубамі за вуха, якое і без таго было разарвана ў клочча, адскочыў убок. Пачынаючы злавацца, Чэрокі зноў пусціўся ў пагоню, бегаючы ўнутры круга, які рабіў Белы Клык, і стараючыся ўхапіцца мёртвай хваткай яму ў горла. Бульдог крыху прамахнуўся, а Белы Клык выклікаў гучнае ўхваленне натоўпу, выратаваў сябе толькі тым, што зрабіў нечаканы прыжок у процілеглы бок.

Час ішоў. Белы Клык скакаў і круціўся каля Чэрокі, увесь час наносячы яму ўдары і зараз-жа адскокваючы прэч. А бульдог са змрочнай рашымасцю не спыняў сваё праследаванне. Рана ці позна, а ён даб'ецца мэты і, схапіўшы Белага Клыка за горла, вырашыць лёс бітвы. Пакуль-жа яму не аставалася нічога іншага, як цярпліва зносіць усе напады праціўніка. Кароткія вушы Чэрокі павіслі махрой, шыя і плечы пакрыліся мноствам ран, і нават губы ў яго былі распаласаваны і заліты крывёй,—і ўсё гэта нарабілі маланкападобныя ўдары Белага Клыка, якіх нельга было ні прадбачыць, ні ўнікнуць.

Шмат разоў Белы Клык спрабаваў збіць Чэрокі з ног, але розніца ў росце была надзвычай вялікая паміж імі. Чэрокі быў вельмі карэнасты, вельмі прысадзісты. І на гэты раз шчасце здрадзіла Беламу Клыку. Прыгаючы і круцячыся каля Чэрокі, ён выгадаў хвіліну, калі праціўнік, які не паспяваў за ім, павярнуў галаву ў процілеглы бок, пакінуўшы плячо неахаваным. Белы Клык кінуўся на Чэрокі, але яго ўласнае плячо прышлося значна вышэй пляча праціўніка, ён не здолеў стрымацца і з усяго размаху пераляцеў праз спіну бульдога. У першыню за ўвесь час баявой кар'еры Белага Клыка людзі зрабіліся сведкамі таго, што Белы Клык не здолеў утрымацца на нагах. Стараючыся не страціць глебы пад нагамі, Белы Клык скруціўся ў паветры, як кошка, і толькі гэта перашкодзіла яму паваліцца прама на спіну. Ён грукнуўся набок і ў наступ-

ны-ж момант зноў стаяў на нагах, але зубы Чэрокі ўжо ўеліся яму ў горла.

Хватка была не зусім удалай, яна прышлася надта нізка, бліжэй да грудзей, але Чэрокі не разнімаў пашчэнак. Белы Клык ускочыў на ногі і пачаў кідацца з боку ў бок, спрабуючы скінуць бульдога. Пачуўшы на сабе цяжар цела Чэрокі, ён ашалеў ад ярасці. Чэрокі звязваў яго рухі, пазбаўляў яго свабоды дзеянняў. Усімі сваімі інстынктамі Белы Клык паўставаў супроць гэтай пасткі. Яна прыводзіла яго ў шаленства. На некалькі хвілін Белы Клык літаральна страціў развагу. Ім авалодала жывёльная прагнасць жыцця. Цела яго рвалася да яго. Ён дзейнічаў несвядома. Розум згас, уступіўшы месца сляпому імкненню да жыцця, да руху. Рухацца, у што-б там ні было рухацца,— бо жыццё выяўляецца толькі ў руху.

Не спыняючыся ні на адну секунду, Белы Клык кружыўся, прыгаў, намагаючыся скінуць пяцідзесяціфунтовы груз, які павіс у яго на шыі. Бульдог не разнімаў пашчэнкі. Зрэдку, калі яму ўдавалася на адзін момант дакрануцца нагамі зямлі, ён спрабаваў супраціўляцца Беламу Клыку. Але ў наступную-ж хвіліну Чэрокі адрываўся ад зямлі і апісваў круг у паветры, пакараючыся кожнаму руху ашалеўшага Белага Клыка. Чэрокі рабіў так, як загадваў яму інстынкт. Ён ведаў, што разнімаць пашчэнкі нельга, і гэтае ўсведамленне правільнасці сваіх дзеянняў прымушала яго часамі дрыжэць ад асалоды. У такія хвіліны Чэрокі нават заплюшчыў вочы і, не лічачыся з болем ад удараў, дазваляў Беламу Клыку круціць сябе то ў той, то ў другі бок. Усё гэта не ўлічвалася. Важна было адно: не разнімаць зубоў, і Чэрокі не разнімаў іх.

Белы Клык пакінуў кідацца, толькі канчаткова выбіўшыся з сіл. Ён ужо нічога не мог зрабіць, нічога не мог зразумець. Ні разу за ўсю сваю кар'еру байца яму не даводзілася перанесці нічога падобнага. Сабакі, з якімі даводзілася біцца раней, біліся зусім інакш. З імі трэба было дзейнічаць так: учапіўся, рвануў зубамі, адскочыў, учапіўся, рвануў зубамі, адскочыў. Белы Клык напалову ляжаў на зямлі, цяжка дыхаючы. Не разнімаючы зубоў, Чэрокі налягаў на яго ўсім целам, спрабуючы паваліць праціўніка набок. Белы Клык су-

праціўляўся і адчуваў, як пашчэнкі бульдога, нібы жуючы яго скуру, перасоўваюцца ўсё вышэй і вышэй. З кожнай хвілінай яны набліжаліся да горла. Метад бульдога заключаўся ў тым, што, не паслабляючы сваёй хваткі, ён скарыстоўваў кожны выпадак і падбіраўся ўсё бліжэй і бліжэй да мэты. Яму ўдавалася рабіць гэта, калі Белы Клык ляжаў спакойна, але калі той пачынаў рвацца, Чэрокі здавальняўся тым, што сціскаў пашчэнкі і не паслабляў хваткі.

Белы Клык мог дастаць зубамі толькі масіўны загрывак Чэрокі. Ён учапіўся яму ў шыю, каля пляча, але метад, якім карыстаўся Чэрокі, быў незнаёмы Беламу Клыку, ды і пашчэнкі яго не былі прыстасаваны да такой хваткі. На працягу некалькіх хвілін ён сударгава кусаў і рваў шыю Чэрокі. Затым увага яго накіравалася на перамену, якая адбылася ў палажэнні іх цел. Чэрокі перакуліў Белага Клыка на спіну і, усё яшчэ не разнімаючы зубоў, ухітрыўся стаць над ім. Белы Клык сагнуў заднія лапы і, як кошка, пачаў рваць кіпцюрамі свайго ворага. Чэрокі рызыкаваў астацца з распоратым брухам і вырataваўся толькі тым, што змяніў палажэнне, прыгнуўшы ўбок, пад прамым вуглом да Белага Клыка.

Вызваліцца ад яго хваткі было немагчыма. Яна скоўвала Белага Клыка. Зубы Чэрокі павольна перасоўваліся ўверх, удоўж шыйнай артэрыі. Белага Клыка выратоўвалі ад смерці толькі шырокія складкі скуры і густая шэрсць на шыі. Чэрокі забіў сабе ўсю пашчу скурай, у якой грузлі яго зубы. І ўсё-ж ён скарыстоўваў найменшую магчымасць, каб захапіць яе як мага больш. Белы Клык пачаў задыхацца. З кожнай хвілінай дыхаць яму рабілася ўсё цяжэй і цяжэй.

Барацьба, як відаць, набліжалася к канцу. Тыя, хто ставіў на Чэрокі, былі ў шаленстве ад захаплення і прапанавалі велізарнейшыя заклады. Прыхільнікі-ж Белага Клыка засумавалі і адмаўляліся паставіць дзесяць супроць аднаго і дваццаць супроць аднаго, хоць знайшоўся адзін, які не пабаяўся прыняць заклад у пяцьдзесят супроць аднаго. Гэта быў Прыгажун Сміт. Ён увайшоў у круг і, паказаўшы на Белага Клыка пальцам, пачаў пагардліва смяяцца над ім. Гэта зрабіла жаданы эфект. Белы Клык прышоў у шаленства

ад лютай злосці. Ён сабраў апошнія сілы і ўскочыў на ногі. Але варта было яму пачаць кідацца па кругу з пяцідзесяціфунтовым грузам, што павіс у яго на шыі, як ярасць уступіла ў ім месца дзікаму страху. Жывёльная прагнасць жыцця зноў авалодала Белым Клыкам, і розум у ім згас, падпарадкоўваючыся жаданням цела. Бегаючы ўзад і ўперад па кругу, спатыкаючыся, падаючы і зноў падымаючыся, Белы Клык спрабаваў уставаць на дыбы, падкідаў свайго ворага ў паветры, і ўсё-ж усе яго намаганні вызваліць шыю ад пашчэнак бульдога, якія пагражалі смерцю, былі дарэмнымі.

Нарэшце, ён перакуліўся на спіну выбіўшыся з сіл, а бульдог тым часам хутка перахапіў зубамі і, захопваючы пашчай усё больш і больш скуры, амаль не даваў Беламу Клыку магчымасці змяніць дух. Гром апладысментаў вітаў пераможца, з натоўпу крычалі: «Чэрокі! Чэрокі!» Бульдог старанна завіляў абрубкам свайго хваста. Але апладысменты не адцягвалі яго ўвагі. Хвост і масіўныя пашчэнкі дзейнічалі зусім незалежна адно ад аднаго. Хвост хадзіў з аднаго боку ў другі, а пашчэнкі ўсё мацней і мацней сціскалі Беламу Клыку горла.

У гэтую хвіліну ўвагу гледачоў прыцягнулі староннія гукі. Пачуліся крыкі паганятых сабак і звон бомаў. За выключэннем Прыгажуна Сміта, усе прысутныя затрывожыліся, парашыўшы, што наляцела паліцыя. Неўзабаве на дарозе паказаліся два мужчыны, якія беглі побач з санкамі і сабакамі. Людзі гэтыя накіроўваліся не з горада, а ў горад, варочаючыся, як відаць, з якой-небудзь разведачнай экспедыцыі. Убачыўшы натоўп, яны спынілі сабак і падышлі даведацца, у чым справа.

Адзін з іх быў высокі малады чалавек; яго гладка выбрыты твар пачырванеў ад быстрага руху на марозе. Другі, паганяты, быў ніжэй ростам і з вусамі.

Белы Клык зусім спыніў барацьбу. Час ад часу ён пачынаў сударгава біцца, але ўсякае супраціўленне было дарэмнае. Бязлітасныя пашчэнкі ворага ўсё мацней і мацней сціскалі яму горла, нехапала паветра, і дыханне Белага Клыка рабілася карацейшым з кожнай хвілінай. Вена ў яго на горле была-б даўно перагры-

зена, нават не гледзячы на густую шэрсць, якая пакрывала шыю, калі-б зубы бульдога з самага пачатку не прышліся так блізка да грудзей. У Чэрокі пайшло шмат часу на тое, каб дабрацца да горла Белага Клыка, і пры гэтым ён забіў сабе ўсю пашчу тоўстымі складкамі скуры.

Тым часам звер, што прачнуўся ў Прыгажуну Сміту, выцесніў у ім апошнія рэшткі розуму. Убачыўшы, што вочы Белага Клыка ўжо зацягваюцца туманам, ён зразумеў, што бітва прайграна. Нібы сарваўшыся з ланцуга, ён кінуўся да Белага Клыка і пачаў страшэнна біць яго нагамі. У натоўпу пачуліся абураючыя крыкі і свіст, але гэтым справа і абмежавалася. Не звяртаючы ўвагі на пратэст гледачоў, Прыгажун Сміт не спыняў біць Белага Клыка, калі ў натоўпе раптам паднялася нейкая мітусня. Малады чалавек, які толькі-што прыбыў, кінуўся ўперад, бесцырамонна расштурхаючы ўсіх направа і налева. Ён увайшоў у круг якраз у тую хвіліну, калі Прыгажун Сміт падымаў нагу для наступнага ўдару. Перанёсшы ўвесь цяжар на другую нагу, ён знаходзіўся ў стане няўстойлівай роўнавагі. У гэты момант малады чалавек з надзвычайнай сілай ударыў яго кулаком па твары. Прыгажун Сміт не ўтрымаўся на адной назе і, падскочыўшы ў паветры, паваліўся дагары на снег.

Малады чалавек павярнуўся да натоўпу.

— Палахліўцы,—закрычаў ён.—Быдла

Ён не памятаваў сябе ад гневу, таго гневу, які апаноўвае толькі здаровага чалавека. Яго шэрыя вочы палалі сталёвым блескам. Прыгажун Сміт падняўся на ногі і баязліва падышоў да яго. Незнаёмы не зразумеў яго намераў. Не падазраючы, што мае справу са страшным палахліўцам, ён вырашыў, што той хоча біцца. І, крыкнуўшы: «Быдла!», ён у другі раз паваліў яго дагары. Прыгажун Сміт парашыў, што ляжаць на спіне больш небяспечна, і ўжо не рабіў ніякіх спроб падняцца на ногі.

— Мэт, дапамажыце мне!—крыкнуў незнаёмы паганятаму, які разам з ім вышаў на круг.

Абодва яны нахіліліся над сабакамі. Мэт узяўся за Белага Клыка, каб адцягнуць яго ўбок, як толькі Чэрокі аслабіць сваю мёртвую хватку. Малады чалавек

спрабаваў разняць пашчэнкі бульдога. Але ўсе яго намаганні былі дарэмны. Сціскаючы яму пашчэнкі з абодвух бакоў, стараючыся рашчапіць іх рукамі, ён не пераставаў час ад часу выкрыкваць «Быдла».

Натоўп захваляваўся, і некаторыя ўжо пачыналі пратэставаць супроць такога няпрошанага ўмяшання. Але варта было незнаёмаму на адну секунду падняць галаву і паглядзець у бок натоўпу, як пратэстуючыя галасы змаўкалі.

— Праклятае быдла,—крыкнуў ён і зноў узяўся за работу.

— Няма чаго і старацца, містэр Скот. Мы іх так ніколі не расцягнем,—сказаў, нарэшце, Мэт.

Яны кінулі свой занятак і агледзелі сашчапіўшыхся сабак.

— Крыві шмат вышла,—сказаў Мэт,—а ўсё-ж не паспеў дабрацца да горла.

— Таго і глядзі, дабярэцца,—адказаў Скот.—Вось. Бачылі? Яшчэ вышэй перахапіў.

Хваляванне маладога чалавека і страх яго за лёс Белага Клыка раслі з кожнай хвілінай. Ён некалькі разоў адзін за адным ударыў Чэрокі па галаве. Але гэта не дапамагло. Чэрокі завіляў абрубкам хваста ў знак таго, што, вельмі добра разумеючы сэнс гэтых удараў, ён усё-ж выканае свой абавязак да канца і не разніме пашчэнак.

— Дапамажыце хто-небудзь!—крыкнуў Скот, у роспачы звяртаючыся да натоўпу.

Але ні адзін чалавек не крануўся з месца. Замест гэтага гледачы пачалі падсмейвацца над ім і засыпалі яго цэлым градам здзекавальных парад.

— Усуньце яму што-небудзь у пашчу,—параіў Мэт.

Скот схапіўся за кабуру, што вісела ў яго на поясе, выняў рэвальвер і паспрабаваў прасунуць дула паміж сціснутымі пашчэнкамі бульдога. Ён стараўся з усіх сіл; было чуваць, як сталь скрыпіць аб сашчэпленыя зубы сабакі.

Стаўшы на калені, Скот і паганяты нахіліліся над сабакамі.

Тім Кінэн ступіў у круг. Спыніўшыся каля Скота, ён крануў яго за плячо і прагаварыў пагражальным тонам:

— Не зламайце яму зубоў.

— Тады я зламаю яму шыю,—адказаў Скот, не перастаючы ўсоўваць дула ў пашчу Чэрокі.

— Кажу вам, не зламайце яму зубоў!—яшчэ больш настойліва паўтарыў Тім Кінэн.

Але ўсе спробы застрашыць Скота не мелі поспеху. Не спыняючы арудваць рэвальверам, ён падняў галаву і спакойна запытаў:

— Ваш сабака?

Тім Кінэн прамармытаў нешта

— Тады разнsocialіце яму зубы.

— Вось што,—са злосцю загаварыў Тім,—мая хата з краю. Чаму я павінен ведаць, што тут трэба зрабіць?

— Тады выносцеся,—сказаў Скот,—і не перашкаджайце мне. Я заняты.

Тім Кінэн не адыходзіў, але Скот ужо не звяртаў на яго ніякай увагі. Ён ухітрыўся ўціснуць дула паміж зубамі з аднаго боку і цяпер стараўся прасунуць яго яшчэ далей.

Дабіўшыся гэтага, Скот пачаў пацiханьку і асцярожна разнімаць пашчэнкі бульдога, а Мэт тым часам вызваляў з яго пашчы знявечаную шыю Белага Клыка.

— Трымайце свайго сабаку!—загадаў Скот Тіму.

Гаспадар Чэрокі паслухмяна нахіліўся і схапіў бульдога.

— Трымайце!—крыкнуў Скот, канчаткова разняўшы зубы Чэрокі.

Сабак расцягнулі ў розныя бакі. Бульдог страшэнна супраціўляўся.

— Забярыце яго,—загадаў Скот, і Тім Кінэн адцягнуў Чэрокі ў натоўп.

Белы Клык зрабіў некалькі дарэмных спроб устаць на ногі. Адзін раз яму ўдалося гэта, але аслабеўшыя ногі падагнуліся, і ён павольна паваліўся на снег. Яго поўзакрытыя вочы памутнелі ніжняя пашчэнка адвалілася, языкываліўся. Здавалася, сабака канчаткова задыхнуўся. Мэт агледзеў яго.

— Ледзь жыве,—сказаў ён,—але дыхае ўсё-ж.

Прыгажун Сміт падняўся на ногі і падышоў глянуць на Белага Клыка.

— Мэт, колькі каштуе добры ездавы сабака?—запытаў Скот.

Не ўстаючы з кален, паганяты падумаў з хвіліну.

— Трыста долараў.

— Ну, а такі, на якім жывога месца не асталося?

— Палову,—парашыў паганяты.

Скот павярнуўся да Прыгажуна Сміта.

— Чулі вы, жывёла? Я забіраю ў вас сабаку і плачу за яго паўтараста долараў.

Ён адкрыў бумажнік і адлічыў гэтую суму. Прыгажун Сміт заклаў рукі за спіну, адмаўляючыся ўзяць запрапанаваныя грошы.

— Не прадаю,—сказаў ён.

— Прадаеце,—заявіў Скот,—таму што я купляю. Атрымайце грошы. Сабака мой.

Усё яшчэ трымаючы рукі за спіной, Прыгажун Сміт адступіў быў назад. Скот зрабіў крок уперад і падняў кулак над яго галавой.

Прыгажун Сміт скурчыўся, рыхтуючыся атрымаць новы ўдар.

— Сабака мой...—прамармытаў ён.

— Вы страцілі ўсе правы на гэтага сабаку,—перабіў яго Скот.—Вазьміце грошы, або мне прыдзецца пабіць вас яшчэ раз?

— Добра, добра,—заспяшаўся Прыгажун Сміт і дадаў:—Але вы мяне вымушаеце гэта зрабіць. Гэтаму сабаку цаны няма. Я не дазволю сябе грабіць. Усякі чалавек мае свае правы.

— Правільна,—адказаў Скот, перадаючы яму грошы.—Усякі чалавек мае свае правы. Але вы не чалавек, а быдла.

— Дайце мне толькі да Даусона дабрацца,—прыгразіў яму Прыгажун Сміт,—я знайду на вас управу.

— Адважцеся толькі рот раскрыць, я вас хутка з Даусона выправаджу! Зразумелі?

Прыгажун Сміт буркнуў нешта сабе пад нос.

— Зразумелі?—загрымеў Скот, запаляючыся гневам.

— Так,—буркнуў Прыгажун Сміт, стараючыся хутчэй уцячы.

— Як?

— Так, сэр,—агрызнуўся Прыгажун Сміт.

— Асцярожней. Ён кусаецца!—крыкнуў нехта, і ў натоўпе пач..ўся выбух рогату.

Скот павярнуўся да яго спіной і падышоў да паганятага, які ўсё яшчэ вазіўся з Белым Клыкам.

Некаторыя з натоўпу ўжо разыходзіліся; іншыя збіраліся кучкамі, паглядаючы на Скота і перамаўляючыся паміж сабой.

Да адной з гэтых груп падышоў Цім Кінэн.

— Што гэта за птушка?—запытаў ён.
— Уідон Скот,—адказаў нехта.
— Які такі Уідон Скот?
— Ды інжынер з прыіскаў. Ён сярод тутэйшых заправіл свой чалавек. Запамятай маё слова: калі не хочаш нажыць непрыемнасцей, трымайся ад яго як мага далей. Яму сам начальнік прыіскаў прыяцель.
— Я адразу зразумеў, што гэта важная персона,— сказаў Тім Кінэн,—і не захацеў з ім звязвацца.

*Раздзел пяты*

# НЕЎЦІХАМІРНЫ

— Безнадзейная справа!—сказаў Уідон Скот.
Ён апусціўся на прыступку і паглядзеў на паганятага, які з такім-жа безнадзейным выглядам пацiснуў плячыма.
Абодва глянулі на Белага Клыка. Увесь натапырыўшыся і злосна рыкаючы, ён кідаўся на ланцугу, стараючыся дабрацца да сабак. Сабакі-ж, атрымаўшы даволі значную колькасць урокаў ад Мэта, узброенага ў дадатак палкай, навучыліся пакідаць Белага Клыка ў спакоі. Цяпер яны ляжалі на досыць далёкай адлеглась і, здавалася, зусім забылі пра яго.
— Не, ваўка не прыручыш,—сказаў Уідон Скот.
— Ды хто яго ведае?—адказаў Мэт.—Можа быць, у ім ад сабакі больш, чым ад ваўка. Але ў чым я ўпэўнен, з таго мяне ўжо не саб'еш.
Паганяты замоўк і з таямнічым выглядам паківаў галавой у бок Ласінай гары.
— Ну, не прымушайце сябе прасіць,—рэзка сказаў Скот, пачакаўшы некаторы час, пакуль Мэт не загаворыць сам.—Кажыце, у чым справа?
Паганяты паказаў вялікім пальцам назад, у бок Белага Клыка.
— Воўк ён ці сабака—не ведаю, толькі яго ўжо прыручалі.
— Не можа быць!
— Я вам кажу—прыручалі. Ён і ў запрэжцы хадзіў. Вось адзнакі на грудзях.
— Правільна, Мэт! Да таго як трапіць да Прыгажуна Сміта, ён быў ездавым сабакам.
— А чаму-б яму не зрабіцца зноў ездавым сабакам?

— Гэта як-жа?—паспешна запытаў Скот.

Але надзея, якая з'явілася, зараз-жа згасла, і ён сказаў, ківаючы галавой:

— Мы яго ўжо два тыдні трымаем, а ён зараз, здаецца, яшчэ больш злым, чым у пачатку.

— Давайце спусцім яго з ланцуга—паглядзім, што атрымаецца,—запрапанаваў Мэт.

Скот недаверліва паглядзеў на яго.

— Я ведаю, што вы ўжо спрабавалі,—казаў далей Мэт,—толькі цяпер не забудзьце ўзяць палку ў рукі.

— Паспрабуйце самі.

Паганяты адшукаў палку і падышоў да сабакі, які сядзеў на прывязі. Белы Клык сачыў за палкай, як леў сочыць за бізуном усмірыцеля.

— Глядзіце, як на палку ўтаропіў свае вочы,—сказаў Мэт.—Гэта добрая адзнака. Значыць, сабака не такі ўжо дурны. Ён не адважыцца крануць мяне, пакуль я з палкай. Не шалёны-ж ён, нарэшце.

Як толькі рука чалавека наблізілася да яго шыі, Белы Клык натапырыўся і з рыкам прыпаў да зямлі. Не зводзячы вачэй з рукі Мэта, ён у той-жа самы час сачыў за палкай, якая была ўзнята над яго галавой. Мэт адвязаў ланцуг з нашыйніка і ступіў назад.

Беламу Клыку не верылася, што ён апынуўся на волі. Многія месяцы прайшлі з таго часу, як ім авалодаў Прыгажун Сміт, і за ўвесь гэты час яго спускалі з ланцуга толькі для боек з сабакамі. Як толькі бойка заканчвалася, Белага Клыка зноў садзілі на прывязь.

Ён не ведаў, што рабіць са сваёй воляй. А што, калі багі зноў надумалі якую-небудзь д'ябальскую штуку?

Белы Клык зрабіў некалькі павольных, асцярожных крокаў, кожную хвіліну чакаючы нападу. Ён не ведаў, што яму рабіць, настолькі непрывычная была гэтая воля.

На ўсякі выпадак Белы Клык аддаліўся ад назіраўшых за ім багоў і асцярожнымі крокамі адышоў за вугал дома. Нічога не здарылася. Збіты з панталыку ўсім гэтым, Белы Клык вярнуўся назад і, спыніўшыся футах у дванаццаці ад людзей, пачаў пільна назіраць за імі.

— А ён не ўцячэ?—запытаў новы гаспадар.

Мэт паціснуў плячыма.

— Рызыкнем. Без гэтага нічога не даведаешся.

— Небарака!—прамармытаў Скот, з шкадлівасцю

гледзячы на сабаку.—Больш за ўсё ён мае патрэбу ў чалавечай ласцы.

З гэтымі словамі ён павярнуўся і ўвайшоў у дом. Вышаўшы назад, ён вынес з сабой кавалак мяса і кінуў яго Беламу Клыку. Той адскочыў убок і пачаў недаверліва разглядаць кавалак здалёк.

— Назад, Маёр!—крыкнуў Мэт, але было ўжо позна.

Маёр кінуўся да мяса, і ў той момант, калі кавалак ужо быў у яго ў зубах, Белы Клык наляцеў і зваліў сабаку з ног. Мэт кінуўся да іх, але Белы Клык зрабіў сваю справу хутка. Маёр ледзь падняўся на ногі, а кроў, якая хлынула ў яго з горла, чырвонай лужай распаўзалася па снезе.

— Шкада Маёра, але ён варты таго,—паспешна сказаў Скот.

Мэт ужо падняў нагу, каб ударыць Белага Клыка. Хутка адно за другім адбыліся прыжок, ляскание зубоў і рэзкі выгук.

Раз'юшана рыкаючы, Белы Клык адпоўз на некалькі ярдаў назад, а Мэт нахіліўся і пачаў аглядаць пракушаную нагу.

— Цапнуў усё-ж,—сказаў ён, паказваючы разарваныя штаны і споднюю бялізну, па якой расплываўся крывавы круг.

— Я-ж казаў вам, што гэта безнадзейная справа,—з роспаччу ў голасе сказаў Скот.—Я аб гэтым сабаку ўжо многа думаў. Ну, што-ж, нічога іншага не астаецца.

З гэтымі словамі ён нехаця выняў рэвальвер і, агледзеўшы барабан, пераканаўся, што кулі ў ім ёсць.

— Паслухайце, містэр Скот,—запратэставаў Мэт,— чаго толькі гэтаму сабаку не давялося перанесці! Нельга-ж патрабаваць, каб ён адразуператварыўся ў ангела. Дайце яму тэрмін.

— Паглядзіце на Маёра,—адказаў Скот.

Паганяты глянуў на скалечанага сабаку. Ён валяўся на снезе ў лужыне крыві і, як відаць, здыхаў.

— Ён варты таго. Вы-ж самі так сказалі, містэр Скот. Пакваліўся на мяса Белага Клыка,—значыць, спета яго песенька. Гэтага трэба было чакаць. Я і граша ламанага не дам за сабаку, які аддасць свой кавалак без бою.

— Ну, а вы самі, Мэт? Сабака—сабакай, але ўсяму павінна быць мера.

— І мне па заслугах,—не здаваўся Мэт.—За што, паўстае пытанне, ці яго ўдарыў? Вы-ж самі сказалі, што праўда на яго баку. Значыць, мне не трэба было яго біць.

— Мы зробім добрую справу, застрэліўшы гэтага сабаку,—настойваў Скот.—Нам яго не прыручыць!

— Паслухайце, містэр Скот! Давайце праверым небараку. Няхай пакажа сябе. Ён-жа чорт ведае што выцерпеў, перш чым апынуцца на волі. Давайце паспрабуем. А калі ён не апраўдае нашага давер'я, я яго сам застрэлю.

— Ды мне зусім не хочацца яго забіваць,—адказаў Скот, хаваючы рэвальвер.—Няхай пабегае на волі, паглядзім, што з ім можна дабром зрабіць. Вось я зараз паспрабую.

Ён падышоў да Белага Клыка і загаварыў з ім мяккім, заспакойлівым голасам.

— Вазьміце палку на ўсякі выпадак,—папярэдзіў Мэт.

Скот адмоўна паківаў галавой і прадаўжаў гаварыць, стараючыся заваяваць давер'е Белага Клыка.

Белы Клык настаражыўся, адчуваючы набліжэнне нейкай небяспекі. Ён забіў сабаку бога, укусіў яго таварыша. Чаго-ж можна чакаць за гэта, апрача суровага пакарання? І ўсё-ж ён не ўціхаміраваўся перад тварам небяспекі. Шэрсць на ім стала дыбам, усё цела напружылася, ён вышчарыў зубы і пільна сачыў за чалавекам, прыгатаваўшыся да ўсякай нечаканасці. У руках у Скота не было палкі, і Белы Клык падпусціў яго да сябе зусім блізка. Рука бога пачала апускацца над яго галавой. Белы Клык скурчыўся і прыпаў да зямлі. Вось дзе хаваецца небяспека і здрадніцтва! Рукі багоў, з іх неабвержнай уладай і здрадлівасцю, былі яму добра вядомы. Апрача таго, ён як і раней не мог цярпець дакранання да свайго цела. Белы Клык зарыкаў яшчэ больш злосна і прыгнуўся да зямлі, а рука прадаўжала апускацца. Ён не хацеў кусаць гэтую руку і цярпліва зносіў набліжаючуюся небяспеку да таго часу, пакуль мог змагацца з інстынктам—з ненасытнай прагнасцю жыцця.

Уідон Скот быў упэўнен, што заўсёды паспее своечасова адхапіць руку. Але яму яшчэ суджана было пазнаёміцца з надзвычайнай хуткасцю Белага Клыка, які

наносіў удары з трапнасцю і імклівасцю змяі, раскруціўшай свае кольцы.

Скот рэзка ўскрыкнуў ад нечаканасці і схапіў пракушаную руку здаровай рукой. Мэт уголас вылаяўся і падскочыў да яго. Белы Клык адпоўз назад, увесь натапырыўшыся, вышчараючы зубы і пагражаюча пазіраючы на людзей. Цяпер яго ўжо напэўна чакаюць пабоі, не менш страшныя, чым тыя, якія даводзілася цярпець ад Прыгажуна Сміта.

— Што вы робіце?—раптам закрычаў Скот.

Мэт кінуўся ў дом і выбег назад са стрэльбай у руках.

— Нічога,—павольна адказаў ён, стараючыся гаварыць спакойна.—Хачу толькі выканаць сваё абяцанне. Сказаў, што застрэлю сабаку, значыць, застрэлю.

— Не, вы гэтага не зробіце.

— Не, зраблю! Вось убачыце.

Цяпер надышла чарга Уідона Скота ўступацца за Белага Клыка, як уступаўся за яго раней укушаны ім Мэт.

— Вы самі прапанавалі выпрабаваць яго, дык выпрабуйце. Мы-ж толькі пачалі, нельга адразу кідаць справу. Я сам вінават. І... паглядзіце на яго!

Выглядаючы з-за вугла дома, ярдаў за сорак ад іх, Белы Клык рыкаў з такой лютасцю, ад якой стыла кроў у жылах, але рык гэты адносіўся не да Скота, а да паганятага.

— Ну, што вы на гэта скажаце?

— Няхай я буду пракляты на векі-вечныя!—усклікнуў здзіўлены паганяты.

— Бачыце, які ён разумны!—спяшаючыся казаў далей Скот.—Ён не горш нас з вамі разумее, што такое агнястрэльная зброя. Адразу відаць, што сабака недурны. Трэба толькі даць яму магчымасць выявіць свой розум. Пакіньце стрэльбу.

— Добра. Давайце паспрабуем,—і Мэт прыставіў стрэльбу да штабеля дроў.—Ну, што вы на гэта скажаце!—ускліркнуў ён у тую-ж хвіліну.

Белы Клык супакоіўся і пакінуў бурчэць.

— Варта яшчэ раз паспрабаваць. Сачыце за ім.

Мэт узяў стрэльбу—і Белы Клык зноў зарыкаў. Мэт адышоў ад стрэльбы—вышчараная пашча Белага Клыка зноў закрылася.

— Ну, яшчэ раз дзеля цікавасці.

Мэт узяў стрэльбу і пачаў павольна паднімаць яе да пляча. Белы Клык адразу-ж зарыкаў, і рык яго рабіўся ўсё больш гучным па меры таго, як стрэльба падымалася кверху. Але секундай раней, чым Мэт паспеў навесці дула, Белы Клык прыгнуў убок і схаваўся за вуглом. Мэт утаропіў вочы на пустое месца, дзе толькі што стаяў сабака.

Паганяты ўрачыста апусціў стрэльбу, павярнуўся і паглядзеў на гаспадара.

— Правільна, містэр Скот. Сабака надта разумны. Шкада яго забіваць.

*Раздзел шосты*

## ЛЮБІМЫ ГАСПАДАР

Убачыўшы, што Уідон Скот накіроўваецца да яго, Белы Клык натапырыўся і зарыкаў, даючы гэтым зразумець, што не дазволіць пакараць сябе. З таго часу як ён пракусіў Скоту руку, якая была цяпер забінтавана і вісела на перавязцы, мінулі суткі. Белы Клык ведаў з практыкі, што багі часам адкладаюць пакаранне, і зараз чакаў расплаты за свой учынак. Інакш не магло і быць. Ён зрабіў святатацтва: уеўся зубамі ў свяшчэннае цела бога, прытым беласкурага бога. З практыкі, якая асталася ў яго ад сувязі з багамі, Белы Клык ведаў, што яго чакае жудасная кара.

Бог сеў за некалькі крокаў ад яго. У гэтым яшчэ не было ніякай небяспекі. Звычайна багі караюць стоячы. Апрача таго, у бога не было ні палкі, ні дубца, ні стрэльбы, ды і сам Белы Клык заставаўся на волі. Нішто яго не стрымлівала—ні ланцуг, ні палка, і ён мог выратавацца ўцёкамі раней, чым бог паспее падняцца на ногі. А пакуль што трэба пачакаць і паглядзець, што будзе далей. Бог сядзеў зусім спакойна, не робячы спроб устаць з месца, і злоснае рыканне Белага Клыка паступова перайшло ў глухое бурчэнне, а затым і бурчэнне замоўкла. Тады бог загаварыў, і пры першых-жа гуках яго голасу шэрсць на загрыўку ў Белага Клыка ўзнялася дыбам, у горле зноў заклякатала. Але бог не спыняў спакойна гаварыць, не робячы ніякіх варожых рухаў. Некаторы час Белы

Клык рыкаў ва унісон з яго голасам і паміж словамі і ровам наладзіўся рытм. Але гутарка чалавека лілася бесперапынку. Ён гаварыў так, як яшчэ ніхто ніколі не гаварыў з Белым Клыкам. У мяккіх, супакойлівых словах чулася пяшчотнасць, якая нейкім незразумелым чынам хвалявала Белага Клыка. Мімаволі, наперакор усім перасцярогам, ён адчуў даверлівасць да гэтага бога. У ім нарадзілася ўпэўненасць ва ўласнай бяспечнасці, у якой яму столькі разоў прыходзілася пераконвацца ў адваротным пры зносінах з людзьмі.

Пагаварыўшы так досыць доўгі час, бог устаў і пайшоў. Белы Клык падазрона агледзеў Скота, як толькі той зноў вышаў з дома. У руках бога не было ні дубца, ні палкі, ні стрэльбы. І здаровая рука яго не хавалася за спіну. Ён сеў на тое-ж самае месца за некалькі крокаў ад Белага Клыка і працягнуў яму кавалак мяса. Натапырыўшы вушы, Белы Клык недаверліва агледзеў мяса, ухітраючыся глядзець адначасова і на кавалак і на Скота і прыгатаваўшыся адскочыць убок пры першым-жа намёку на небяспеку.

Але пакаранне ўсё яшчэ адкладалася. Бог паднёс кавалак да яго носа. Мяса—як мяса, нічога страшнага ў ім не было. Але Белы Клык усё яшчэ сумняваўся і не ўзяў працягнутага кавалка, хоць рука Скота падсоўвалася ўсё бліжэй і бліжэй да яго носа. Багі мудрыя,—хто ведае, якая здрада хаваецца ў гэтым няшкодным з выгляду кавалку мяса? Па свайму мінуламу вопыту, асабліва калі прыходзілася мець справу з індзіянкамі, Белы Клык ведаў, што мяса і пакаранне скрозь і ўсюды мелі паміж сабой вельмі непрыемную сувязь.

Нарэшце бог кінуў мяса на снег, да ног Белага Клыка. Той асцярожна абнюхаў яго, не спускаючы вачэй з бога. Нічога не здарылася. Белы Клык узяў кавалак у зубы і праглынуў. І ўсё-ж нічога не здарылася. Бог прапанаваў яму другі кавалак. І ў другі раз Белы Клык адмовіўся прыняць яго з рук, і мяса зноў было кінута да яго ног. Так паўтарылася некалькі разоў. Але надышоў час, калі Скот адмовіўся кінуць мяса. Ён трымаў кавалак і настойліва прапанаваў Беламу Клыку ўзяць яго з рук.

Мяса было смачнае, а Белы Клык прагаладаўся. Паступова, з надзвычайнай асцярожнасцю ён падышоў бліжэй і, нарэшце, адважыўся ўзяць мяса з рук Скота. Белы Клык, не зводзячы вачэй з бога, выцягнуў шыю і прыклаў вушы, шэрсць у яго на загрыўку стала дыбам. Глухое бурчэнне клякатала ў яго ў горле, нібы засцерагаючы чалавека, што жарты зараз недарэчы. Белы Клык з'еў кавалак, і нічога з ім не здарылася. Паступова ён з'еў усё мяса. Пакаранне ўсё яшчэ адкладалася.

Белы Клык аблізнуўся і пачаў чакаць. Бог не спыняў гаварыць. У голасе яго чулася ласка, аб якой Белы Клык не меў да гэтага часу ніякага разумення. І ласка гэтая будзіла ў ім невядомыя да гэтага часу пачуцці. Ён адчуў дзіўны спакой, нібы задавальнялася нейкая яго патрэбнасць, запаўнялася, нейкая пустата ў яго істоце. Потым зноў прачнуўся інстынкт, і мінулы вопыт зноў пасылаў Беламу Клыку засцярогу. Багі хітрыя,—цяжка адгадаць, які шлях яны выберуць, каб дабіцца сваіх мэт.

Так ён і думаў! Вось здрадлівая рука бога цягнецца да яго і апускаецца над яго галавой. Але бог не спыняе гаварыць. Голас яго гучыць мякка і заспакойліва. Не гледзячы на пагрозу, якую таіць у сабе рука, голас унушае давер'е. І не гледзячы на ўсю мяккасць голасу, рука ўнушае страх. Процілеглыя пачуцці і адчуванні змагаліся ў Белым Клыку. Здавалася, ён разляціцца на часткі, раздзіраемы варожымі сіламі, ні адна з якіх не атрымлівала перавагі ў барацьбе толькі таму, што Белы Клык прыкладаў неймаверныя намаганні, каб уціхамірыць іх.

І ён пайшоў на змову з самім з сабой: рыкаў, увесь натапырыўшыся, прыціснуў вушы, але не рабіў спроб ні ўкусіць Скота, ні ўцячы ад яго. Рука апускалася. Адлегласць паміж ёй і галавой Белага Клыка рабілася ўсё меншай і меншай. Вось яна дакранулася стаўшай дыбам шэрсці. Белы Клык прыпаў да зямлі. Рука апусцілася за ім, прыціскаючыся шчыльней і шчыльней. Скруціўшыся, ледзь не дрыжучы, ён усё яшчэ стрымліваў сябе. Ён адчуваў мучэнне ад дакранання гэтай рукі, што гвалціла яго інстынкты. Белы Клык не мог забыць у адзін дзень усё тое злое, якое прынеслі яму чалавечыя рукі. Але такая была воля бога, і ён

рабіў усё мажлівае, каб прымусіць сябе падпарадкавацца ёй.

Рука ўзнялася і зноў апусцілася, лашчачы і гладзячы яго. Так паўтарылася некалькі разоў, але як толькі рука падымалася, дык падымалася і шэрсць на спіне ў Белага Клыка. І кожны раз як рука апускалася, вушы яго прыціскаліся да галавы, і ў горле пачынала клякатаць. Белы Клык бурчэў і бурчэў не сціхаючы.

Гэтым бурчэннем ён папераджаў Скота, што гатоў адпомсціць за ўсякі боль, які той можа прычыніць яму. Хто ведае, калі, нарэшце, выявяцца сапраўдныя намеры бога! У любую хвіліну яго мяккі, унушаючы такое давер'е голас можа перайсці ў гнеўны крык, а гэтая далікатная, ласкаючая рука сцісне Белага Клыка, як ціскамі, і пазбавіць яго ўсякай магчымасці супраціўлення.

Але словы бога былі, як і раней, мяккімі, а рука яго ўсё таксама падымалася і зноў дакраналася да Белага Клыка, і ў гэтых дакрананнях не было нічога варожага. Белы Клык адчуваў двоістае пачуццё. Інстынкт паўставаў супроць такога абыходжання. Яно сцясняла Белага Клыка, і ішло наперакор яго імкненню да волі. І ўсё-ж фізічнага болю ён не адчуваў. Наадварот, гэтыя дакрананні былі нават прыемны. Паступова рука Скота перасунулася да вушэй і пачала асцярожна чухаць іх; прыемнае адчуванне нібыта нават узрасло. І ўсё-ж страх не пакінуў Белага Клыка; ён усё таксама насцярожваўся, чакаючы чагосьці нядобрага і адчуваючы папераменна то пакуту, то прыемнасць, гледзячы па таму, якое з гэтых двух пачуццяў атрымлівала ў ім перамогу.

— Ах, каб на цябе чорт!

Гэтыя словы вырваліся ў Мэта. Ён вышаў на ганак з закасанымі рукавамі, нясучы ў руках таз з бруднай вадой, і, збіраючыся выплеснуць яе на зямлю, спыніўся, убачыўшы, як Уідон Скот лашчыць Белага Клыка.

Пры першых-жа гуках яго голасу Белы Клык адскочыў назад, і раз'юшана зарыкаў на паганятага.

Непахвальна і з пачуццём жалю Мэт паглядзеў на гаспадара.

— Выбачайце, містэр Скот, але я бачу, у вас сядзяць па меншай меры семнаццаць дурняў, і кожны арудуе на свой лад.

Уідон Скот усміхнуўся з выглядам перавагі, устаў і падышоў да Белага Клыка. Ён ласкава загаварыў з ім, але на гэты раз хутка замоўк, затым павольна працягнуў руку, дакрануўся да сабакі і зноў пачаў гладзіць яго па галаве. Белы Клык цярпліва зносіў дакрананне, утаропіўшы вочы не на таго, хто лашчыў яго, а на Мэта, які стаяў у дзвярах дома.

— Можа быць, вы і першакласны інжынер, містэр Скот,—размаўляў далей паганяты,—але я лічу, вы шмат што ўпусцілі ў жыцці: вам-бы належала ў дзяцінстве з цыркам уцячы.

Белы Клык зарыкаў, пачуўшы голас Мэта, але ўжо не адскочыў ад рукі, якая ласкава гладзіла яго галаву і шыю.

І гэта было пачаткам канца ранейшага жыцця, канца панавання нянавісці. Для Белага Клыка пачыналася новае, няўцямна-прыгожае жыццё. Каб закончыць пачатую справу, Уідону Скоту трэба было прыкласці шмат розуму і цярпення. А Белы Клык павінен быў перамагчы загады інстынкта, пайсці наперакор уласнаму вопыту, адмовіцца ад усяго, чаму навучыла яго жыццё.

Жыццё, пражытае Белым Клыкам, не толькі не ўмяшчала ўсяго новага, аб чым ён даведаўся цяпер, але ішло наперакор гэтай навізне. Карацей кажучы, ад Белага Клыка патрабавалася нявымерна -большае ўменне разбірацца ў навакольнай абстаноўцы, чым тое, з якім ён прышоў з Лясной Глушы і дабраахвотна падпарадкаваўся ўладзе Шэрага Бабра. У той час ён быў ўсяго толькі шчанюком, яшчэ не аформленым канчаткова, гатовым зрабіцца ўсім чым хочаце, у залежнасці ад акалічнасцей. Але цяпер усё пайшло інакш. Жыццё апрацавала Белага Клыка надта старанна, зрабіла з яго бязлітаснага лютага, неўціхамірнага Баявога Ваўка, які нікога не любіў і не карыстаўся нічыёй любоўю. Перарадзіцца—азначала адкінуць усё, да чаго Белы Клык паспеў прызвычаіцца, і гэта патрабавалася ад яго цяпер, калі маладосць была ў мінулым, калі гібкасць была страчана і мяккая ткань яго істоты набыла нязломную цвёрдасць, дух зрабіўся непадатлівым, як жалеза, а інстынкт выпрацаваў асцярожнасць, раз і назаўсёды ўстаноўленыя правілы паводзін, антыпатыі і жаданні.

І ўсё-ж незвычайная абстаноўка, у якой апынуўся Белы Клык, зноў узяла яго ў апрацоўку. Яна змякчала ў ім разлютаванасць, ляпіла з яго новую, больш прыгожую форму. Па сутнасці кажучы, усё залежала ад Уідона Скота. Ён дабраўся да самых глыбінь натуры Белага Клыка і ласкай выклікаў да жыцця ўсе тыя пачуцці, якія дрымалі і ўжо напалову заглохлі ў ім. Так Белы Клык даведаўся, што такое любоў. Яна заступіла месца прыхільнасці—самага цёплага пачуцця, даступнага Беламу Клыку ў зносінах з багамі.

Але любоў не можа прысці ў адзін дзень. Узнікнуўшы з прыхільнасці, яна развівалася вельмі павольна. Беламу Клыку падабаўся яго нанава здабыты бог, і ён не ўцякаў ад яго, хоць увесь час быў на волі. Жыць у новага бога было непараўнана лепш, чым у клетцы ў Прыгажуна Сміта, апрача таго Белы Клык не мог абыйсціся без бажаства. Адчуваць над сабой уладу чалавека зрабілася для Белага Клыка неабходнасцю. Адбітак залежнасці ад чалавека астаўся на Белым Клыку з тых далёкіх дзён, калі ён пакінуў Лясную Глуш і падпоўз да ног Шэрага Бабра, пакорліва чакаючы пабояў. Гэты незгладжальны адбітак зноў быў пакладзены на яго, калі ён у другі раз звярнуўся з Лясной Глушы пасля галадоўкі і адчуў пах рыбы ў пасёлку Шэрага Бабра.

І Белы Клык астаўся, таму што ён не мог абыходзіцца без бажаства, а Уідон Скот быў лепш Прыгажуна Сміта. У адзнаку адданасці ён ўзяў на сябе абавязацельства пільнаваць таспадарскае дабро. Ён блукаў вакол дома, калі астатнія сабакі ўжо спалі, і першаму-ж спозненаму госцю Скота прышлося адбівацца ад яго палкай да таго часу, пакуль яго не выратаваў сам гаспадар. Але Белы Клык неўзабаве навучыўся адрозніваць злодзеяў ад сумленных людзей, зразумеў, як многа значыць хада і паводзіны. Чалавека, які, моцна стукаючы нагамі, ішоў прама да дзвярэй, ён не чапаў, хоць і не спыняў пільна сачыць за ім, пакуль дзверы не адчыняліся і надзейнасць наведвальніка не атрымлівала пацверджання з боку гаспадара. Але чалавек, які прабіраўся, крадучыся, кружнымі шляхамі, стараючыся не папасціся на вочы,—гэты чалавек не ведаў літасці ад Белага Клыка і паспешна і хутка ўцякаў.

Уідон Скот узяў на сябе задачу ўзнагародзіць Белага Клыка за ўсё тое, што яму давялося цярпець. Гэта зрабілася для яго справай прынцыпу, справай сумлення. Ён адчуваў, што людзі асталіся ў даўгу перад Белым Клыкам і доўг гэты трэба выплаціць. І таму Скот стараўся выказаць да Белага Клыка як мага больш пяшчотнасці. Ён узяў сабе за правіла штодзённа і доўга лашчыць і гладзіць Белага Клыка.

На першы час гэтая ласка выклікала ў Белага Клыка адны толькі падазрэнні варожасці, але паступова ён пачаў знаходзіць у ёй прыемнасць. І ўсё-ж ад адной сваёй прывычкі Белы Клык ніяк не мог адвучыцца. Як толькі рука чалавека дакраналася да яго, ён пачынаў бурчэць і не сціхаў да таго часу, пакуль Скот не пакідаў яго ў спакоі. Але ў гэтым бурчэнні з'явіліся ўжо новыя ноткі. Староннні не пачуў-бы іх, для яго бурчэнне Белага Клыка аставалася-б па-ранейшаму выражэннем першабытнай дзікасці, ад якой у чалавека кроў стыне ў жылах. За доўгія гады жыцця, пачынаючы з тых ранніх дзён у логаве, калі першыя прыступы ярасці авалодвалі ваўчанём, горла Белага Клыка агрубела ад рыку, і ён ужо не мог выказаць інакш хвалявaўшых яго пачуццяў. Тым не менш, чулае вуха Уідона Скота адрознівала ў злосным бурчэнні Белага Клыка новыя ноткі, якія толькі аднаму яму ледзь чутна гаварылі пра тое, што сабака адчувае прыемнасць.

Час ішоў, і любоў, што ўзнікла з прыхільнасці, усё мацнела і мацнела. Белы Клык сам пачаў адчуваць гэта, хоць і несвядома. Любоў давала ведаць аб сабе адчуваннем пустаты, якая настойліва, прагна патрабавала запаўнення. Любоў прынесла з сабой боль і трывогу, якія сціхалі толькі ад дакранання рукі новага бога. У гэтыя хвіліны любоў рабілася радасцю— неўтамаванай радасцю, якая пранізвала ўсю істоту Белага Клыка. Але як толькі бог адыходзіў, як боль і трывога варочаліся, Белага Клыка зноў ахапляла адчуванне пустаты, якая прагна патрабавала запаўнення.

Белы Клык патроху знаходзіў самога сябе. Не гледзячы на свае сталыя гады, не гледзячы на суровую лютасць формы, у якую ён быў выліты Прыродай, у характары яго ўзнікалі ўсё новыя і новыя рысы. У ім зараджаліся непрывычныя пачуцці і пабуджэнні. Белы

Клык трымаў сябе зусім інакш. Раней ён ненавідзеў нязручнасці і боль і ўсяляк стараўся ўнікаць іх. Цяпер усё было інакш. Дзеля новага бога Белы Клык часта цярпеў нязручнасці і боль. Так, напрыклад, раніцамі, замест таго каб блукаць у пошуках ежы або ляжаць дзе-небудзь у зацішным кутку, ён праводзіў цэлыя гадзіны ля ганку, чакаючы з'яўлення Скота. Уначы, калі той вярочаўся дамоў, Белы Клык пакідаў цёплую нару, выкапаную ў гурбе, дзеля таго, каб адчуць прыязнае дакрананне пальцаў бога, пачуць ад яго прыветныя словы. Ён забываў аб ядзе,—нават аб ядзе!—толькі-б пабыць каля бога, атрымаць ад яго ласку або накіравацца разам з ім у горад.

Але Белы Клык не ўмеў выказваць сваіх пачуццяў. Ён быў ужо не малады і надта суровы для гэтага. Пастаяннае адзіноцтва выпрацавала ў ім вялікую ўраўнаважанасць характару. Яго панурая стрыманасць і замкнутасць з'явіліся вынікам доўгага вопыту. Ён ніколі не брахаў за ўсё сваё жыццё, і ўжо не мог навучыцца вітаць свайго бога брэхам. Ён ніколі не лез яму на вочы, не мітусіўся і не скакаў, каб даказаць сваю любоў; ніколі не кідаўся насустрач, а чакаў у баку, але чакаў заўсёды. Любоў яго межавалася з нямым, маўклівым абажаннем. Толькі ўважлівы позірк яго вачэй, што сачылі за кожным рухам Скота, выдаваў пачуццё Белага Клыка. Калі-ж бог глядзеў у яго бок і загаварваў з ім, Белы Клык бянтэжыўся, не ведаючы, як выказаць любоў, што ахапляла ўсю яго істоту.

Белы Клык пачынаў прыстасоўвацца да новага жыцця. Так, ён зразумеў, што сабак гаспадара чапаць нельга. Але яго ўладны характар заяўляў аб сабе, і сабакам давялося пераканацца на справе ў перавазе Белага Клыка. Прызнаўшы яго ўладу над сабой, сабакі ўжо не прыносілі яму клопатаў. Варта было Беламу Клыку з'явіцца сярод зграі, як сабакі ўступалі яму дарогу і пакараліся яго волі.

Таксама-ж ён прывык і да Мэта, як да ўласнасці гаспадара. Уідон Скот вельмі рэдка карміў Белага Клыка; гэты абавязак ускладаўся на Мэта, але Белы Клык зразумеў, што ежа, якую ён есць, належыць гаспадару, які даручыў Мэту карміць яго. Той-жа самы Мэт паспрабаваў неяк запрэгчы яго ў сані разам з ін-

шымі сабакамі. Але гэтая спроба пацярпела няўдачу, і Белы Клык здагадаўся ў чым справа, толькі тады, калі Уідон Скот сам надзеў на яго вупраж і сам павёў сані. Белы Клык зразумеў: гаспадар хоча, каб Мэт кіраваў ім таксама, як і іншымі сабакамі.

У кландайскіх саней, у адрозненне ад тых, на якіх ездзяць на Макензі, ёсць палазы. Спосаб запрэжкі тут таксама зусім іншы. Сабакі бягуць гуськом у падвойных пастронках, а не разыходзяцца веерам. І тут, на Кландайцы, важак сапраўды з'яўляецца важаком. На першае месца выбіраюць самага кемлівага і самага дужага сабаку, якога баіцца і слухаецца ўся запрэжка. Як і належала чакаць, Белы Клык неўзабаве дабіўся гэтага месца. Пасля многіх клопатаў Мэт зразумеў, што на меншае той не згодзіцца. Белы Клык сам выбраў гэтае месца, і Мэт, не саромячыся ў выразах, пацвердзіў правільнасць яго выбару пасля першай-жа спробы. Бегаючы цэлы дзень у запрэжцы, Белы Клык не забываў і пра тое, што ўначы трэба пільнаваць гаспадарскае дабро. Такім чынам, ён верай і праўдай служыў Скоту, у якога ва ўсёй запрэжцы не было больш каштоўнага сабакі, чым Белы Клык.

— Калі ўжо вы дазволіце мне сказаць сваю думку,— загаварыў неяк Мэт,—то паведамлю вам, што з вашага боку было вельмі разумна даць за гэтага сабаку паўтараста долараў. Спрытна вы абдурылі Прыгажуна Сміта, ужо не кажучы пра тое, што і па фізіяноміі яму заехалі.

Шэрыя вочы Уідона зноў запаліліся гневам, і ён сярдзіта прамармытаў: «Быдла».

Позней вясной Белага Клыка напаткала вялікае гора. Раптам, без усякага папярэджання, гаспадар знік. Уласна кажучы, папярэджанне было, але Белы Клык не меў вопыту ў такіх справах і не ведаў, чаго трэба чакаць ад чалавека, які пакуе свае чамаданы. Пазней ён успомніў, што пакаванне рэчаў было напярэдадні ад'езду гаспадара; але тады ў яго не з'явілася ніякага падазрэння. Увечары ён, як і заўсёды, чакаў яго прыходу. Упоўнач узняўся вецер, і Белы Клык схаваўся ад холаду за домам. Там ён ляжаў, напалову дрэмлючы, напалову пільнуючы, і прыслухоўваючыся чулым вухам, каб злавіць першыя гукі знаёмых крокаў. Але

ў дзве гадзіны ночы непакой выгнаў Белага Клыка з-за дома, ён скруціўся клубком на халодным ганку і пачаў чакаць далей.

Гаспадар не прыходзіў. Раніцой дзверы адчыніліся, і на ганак вышаў Мэт. Белы Клык тужліва паглядзеў на яго. У Белага Клыка не было іншага спосабу, каб запытаць пра тое, што яму так хацелася ведаць. Дні ішлі за днямі, а гаспадар не з'яўляўся. Белы Клык, які не ведаў да гэтага часу, што такое хвароба, захварэў. Ён так дрэнна сябе адчуваў, што Мэту прышлося нарэшце ўзяць яго ў дом. Апрача таго, у сваім пісьме да гаспадара Мэт прыпісаў некалькі радкоў, прысвечаных Беламу Клыку.

Атрымаўшы пісьмо ў Сёркл-сіці, Уідон Скот прачытаў наступнае:

*„Пракляты воўк адмаўляецца працаваць. Нічога не есць. Зусім прыціх. Сабакі не даюць яму праходу. Хоча ведаць, куды вы падзеліся, а я не ўмею растлумачыць яму. Думаю, што ён хутка здохне".*

Мэт пісаў праўду. Белы Клык перастаў есці, страціў бадзёрасць і дазваляў сабакам кусаць сябе. У пакоі ён ляжаў на падлозе каля печы, страціўшы ўсякую цікавасць да яды, да Мэта, да ўсяго на свеце. Мэт мог гаварыць з ім ласкава, мог крычаць на яго,—вынікі атрымліваліся адны і тыя-ж: Белы Клык узнімаў на яго свой цьмяны позірк, а затым зноў схіляў галаву на пярэднія лапы.

Але аднойчы ўвечары, калі Мэт, седзячы за сталом, громкім шэптам, варушачы губамі, чытаў нешта, увагу яго прыцягнула ціхае вішчанне Белага Клыка. Белы Клык устаў з месца, натапырыў вушы, гледзячы на дзверы, і ўважліва прыслухоўваўся. Праз хвіліну Мэт пачуў крокі. Дзверы адчыніліся, і ўвайшоў Уідон Скот. Яны прывіталіся. Затым Скот азірнуўся навокал.

— А дзе воўк?—запытаў ён.

Белы Клык стаяў на сваім месцы, каля печы. Ён не кінуўся наперад, як гэта зрабіў-бы ўсякі іншы сабака, а стаяў, глядзеў на гаспадара і чакаў.

— Ды вы толькі паглядзіце на яго!—усклікнуў Мэт.—Ён хвастом віляе!

Уідон Скот вышаў на сярэдзіну пакоя, у той-жа самы час падзываючы Белага Клыка да сябе. Той не

скочыў яму насустрач, але зараз-жа падышоў. Рухі яго скоўвала сарамяжлівасць, але ў вачах з'явілася незвычайнае выражэнне. Глыбокае пачуццё любві засвяцілася ў іх.

— Ён ні разу на мяне так не глянуў, пакуль вас не было,—сказаў Мэт.

Але Уідон Скот не чуў. Прысеўшы на кортачкі перад Белым Клыкам, ён лашчыў яго—чухаў яму за вушамі, гладзіў шыю і плечы, пяшчотна пахлопваў пальцамі па спіне. А Белы Клык ціха бурчэў у адказ, і мяккія ноткі чуліся ў яго бурчэнні ясней, чым раней. Але гэта было не ўсё. Радасць дапамагла знайсці выхад глыбокаму пачуццю якое рвалася вонкі. Белы Клык раптам выцянуў шыю і сунуў галаву паміж рукой і бокам гаспадара. І, схаваўшы яе так, што былі відаць толькі адны вушы, перастаў бурчэць і прыціскаўся да гаспадара ўсё цясней і цясней.

Мужчыны пераглянуліся. У Скота блішчэлі вочы.

— Ах, чорт вазьмі!—усклікнуў здзіўлены Мэт.

Затым, апамятаўшыся хвілінай пазней ад здзіўлення, дадаў:

— Я заўсёды казаў, што гэта не воўк, а сабака. Паглядзіце на яго!

Пасля таго, як звярнуўся гаспадар, Белы Клык хутка паправіўся. У пакоі ён прабыў яшчэ дзве ночы і дзень, затым вышаў на двор. Сабакі ўжо паспелі забыць яго адвагу. Яны памяталі толькі, што за апошні час Белы Клык быў слабы і хворы, і як толькі ён з'явіўся на ганку, сабакі кінуліся на яго з усіх бакоў.

— Ну і бойка!—з задаволеным выглядам прамармытаў Мэт, назіраючы гэтую сцэну з ганка.—Няма чаго з імі цырамоніцца, воўк. Дай ім як належыць. Ну, яшчэ, яшчэ!

Белы Клык не меў патрэбы ў заахвочванні. Прыезду гаспадара было зусім дастаткова. Жыццё—цудоўнае, бурлівае жыццё зноў забілася ў яго жылах. Ён біўся ад радасці, знаходзячы ў бойцы адзіны выхад для сваіх пачуццяў. Канец мог быць толькі адзін. Сабакі разбегліся, пацярпеўшы паражэнні, і вярнуліся зноў толькі тады, як сцямнела, з прыніжаным выглядам заяўляючы Беламу Клыку аб сваёй пакорлівасці

Навучыўшыся прыціскацца да гаспадара галавой, Белы Клык часта скарыстоўваў гэты новы спосаб выказвання сваіх пачуццяў. Гэта была мяжа, далей якой ён не мог ісці. Галаву сваю ён засцерагаў больш за ўсё і не мог сцярпець, калі да яе хто-небудзь дакранаўся. Гэтым інстынктыўным страхам перад боем, перад пасткай узнагародзіла яго Лясная Глуш. Інстынкт патрабаваў, каб галава аставалася свабоднай. А цяпер, прыціскаючыся да гаспадара, Белы Клык па ўласнай волі ставіў сябе ў бездапаможнае становішча. Ён выказваў гэтым бязмежную веру і абсалютную пакорлівасць, нібы кажучы гаспадару: «Аддаю сябе ў твае рукі. Рабі са мной, што хочаш».

Аднойчы ўвечары, неўзабаве пасля свайго звароту, Скот гуляў з Мэтам у Крыбэдж, перад тым як легчы спаць.

— Пятнаццаць і два, пятнаццаць і чатыры, і яшчэ двойка—ўсяго шэсць,—падлічваў Мэт, як раптам са двара пачуліся крыкі і рык.

Пераглянуўшыся, яны ўскочылі на ногі.

— Воўк накінуўся на некага,—сказаў Мэт.

Страшэнны лямант жаху прымусіў іх кінуцца да дзвярэй.

— Прынясіце лямпу!—крыкнуў Скот, выбягаючы на ганак.

Мэт пайшоў за ім з лямпай у руках, і пры яе асвятленні яны ўбачылі чалавека, які дагары ляжаў на снезе. Ён закрываў твар і шыю рукамі, спрабуючы абараніцца ад зубоў Белага Клыка, і гэта была не лішняя засцярога. Разлютаваны да апошняга, Белы Клык стараўся ў што-б там ні было дабрацца зубамі да яго горла. Ад рукавоў курткі, сіняй фланелевай блузы і споднян кашулі асталіся адны клочча, а рукі ляжаўшага чалавека былі страшэнна пакусаныя і залітыя крывёй. Скот і паганяты разгледзелі ўсё гэта ў адну секунду. Затым Скот схапіў Белага Клыка за шыю і адцягнуў назад. Белы Клык рваўся з рыкам, але не кусаў гаспадара і пасля рэзкага вокрыку хутка супакоіўся.

Мэт дапамог чалавеку ўстаць на ногі. Падымаючыся, той адняў рукі ад твара, і Мэт убачыў звярыную фізіяномію Прыгажуна Сміта. Паганяты адскочыў ад

яго, нібы ад агню. Прыжмурыўшыся ад святла лямпы, Прыгажун Сміт азірнуўся навокал. Твар яго перакасіла ад жаху, як толькі ён убачыў Белага Клыка.

У гэтую-ж хвіліну паганяты заўважыў два прадметы, якія валяліся на снезе. Ён паднёс лямпу бліжэй і падкінуў наском бота сталёвы ланцуг і тоўстую палку.

Уідон Скот кіўнуў галавой. Усё было зроблена ў поўным маўчанні. Паганяты ўзяў Прыгажуна Сміта за плячо і павярнуў да сябе спіной. Гэта было зразумела без слоў. Прыгажун Сміт адправіўся дамоў. А гаспадар тым часам гладзіў Белага Клыка і гаварыў:

— Хацеў забраць цябе,—а? А ты не дазволіў? Так, так, значыць, пралічыўся малы.

— Ён, нябось, падумаў, што на яго ўсё пекла накінулася,—усміхнуўся Мэт.

А раз'юшаны Белы Клык усё яшчэ бурчэў і бурчэў, але паступова шэрсць у яго на спіне апусцілася, і мяккая нота, якая зусім была патанула ў злосным бурчэнні, рабілася ўсё больш чутнай.

# ЧАСТКА ПЯТАЯ

*Раздзел першы*

## У ДАЛЁКУЮ ДАРОГУ

Гэта насілася ў паветры. Белы Клык адчуваў бяду яшчэ задоўга да таго, як яна дала ведаць аб сваім набліжэнні. Вестка аб надыходзячай перамене нейкімі невядомымі шляхамі дайшла да яго свядомасці. Прадчуванне ўзнікла ў ім па віне багоў, хоць ён і не мог ясна ўявіць сабе, як і чаму гэта здарылася. Самі таго не падазраваючы, багі выдалі свае намеры сабаку, які ўжо не пакідаў ганку і, нават не ўваходзячы ў пакой, ведаў, што людзі нешта задумляюць.

— Паслухайце!—сказаў аднаго разу за вячэрай паганяты.

Уідон Скот прыслухаўся. З-за дзвярэй даносіўся ціхі трывожны віск, які быў падобны хутчэй на стрымліваемы плач. Затым было чутна, як Белы Клык абнюхвае дзверы, жадаючы пераканацца ў тым, што бог яго ўсё яшчэ тут, а не знік таямнічым чынам, як у мінулы раз.

— Я думаю, ён адчувае, у чым справа,—сказаў паганяты.

Уідон Скот амаль упрашальна глянуў на Мэта, але словы яго не адпавядалі выражэнню вачэй.

— На якое ліха мне воўк у Каліфорніі?—запытаў ён.

— Я тое-ж самае думаю,—адказаў Мэт.—На якое ліха вам воўк у Каліфорніі?

Але гэтыя словы не задаволілі Уідона Скота. Яму здалося, што Мэт ухіляецца ад прамога адказу.

— Нашы сабакі з ім не справяцца,—казаў далей Скот.—Ён іх усіх перагрызе, і, калі нават я не збяднею канчаткова на адны штрафы, улады ўсёроўна адбяруць яго ў мяне і расправяцца з ім па-свойму.

— Што і казаць, ён сапраўды бандыт,—згадзіўся паганяты.

Уідон Скот недаверліва глянуў на яго.

— Не, нічога не выйдзе,—сказаў ён рашуча.

— Нічога не выйдзе,—згадзіўся Мэт.—Ды, вам прыдзецца спецыяльнага чалавека да яго прыставіць.

Усе хістанні Скота зніклі. Ён радасна кіўнуў галавой. У надышоўшай затым цішыні было чуваць, як Белы Клык ціха вішчыць, нібы стрымліваючы плач, і абнюхвае дзверы.

— А ўсё-ж здорава ён да вас прывык,—сказаў Мэт.

Гаспадар раптам ускіпеў.

— Ды ну вас к чорту, Мэт! Я сам ведаю, што мне трэба рабіць!

— Я не спрачаюся, толькі...

— Што «толькі»?—перапыніў яго Скот.

— Толькі...—баязліва пачаў паганяты, але раптам адважыўся і загаварыў сярдзітым голасам:—Чаго вы так гарачыцеся? Гледзячы на вас, можна падумаць, што вы самі не ведаеце, што рабіць.

Уідон Скот некаторы час змагаўся з самім з сабой і затым сказаў ужо значна больш мяккім тонам:

— Вы праўду кажаце, Мэт. Я сам не ведаю, што мне рабіць. У тым вось і ўся бяда... Ды не, было-б проста вар'яцтва ўзяць сабаку з сабой,—сказаў ён пасля кароткага маўчання.

— Я з вамі цалкам згодзен,—адказаў Мэт, але словы яго і на гэты раз не задаволілі гаспадара.

— Якім чынам ён здагадваецца, што вы ад'язджаеце,—вось, што мяне з панталыку збівае,—нявінным голасам казаў далей Мэт.

— Я і сам гэтага зразумець не магу,—адказаў Скот, сумна паківаўшы галавой.

Затым надышоў дзень, калі праз адчыненыя дзверы Белы Клык убачыў ракавы чамадан, у які гаспадар пакаваў рэчы. Гаспадар і Мэт увесь час адыходзілі і пры-

ходзілі, і мірную атмасферу дома парушылі мітусня і трывога. Усякія сумненні былі дарэмны. Белы Клык ужо даўно адчуваў бяду. Цяпер ён зразумеў, у чым справа. Яго бог зноў рыхтаваўся да ўцякання. Ужо калі ён не ўзяў з сабой Белага Клыка ў першы раз, то, напэўна, не возьме і цяпер.

Гэтай ноччу Белы Клык пачаў працягла па-воўчаму выць. Ён выў, ўзняўшы морду да абыякавых зорак, і выказваў ім свае гора таксама, як у дзяцінстве, калі, прыбегшы з Лясной Глушы, ён не знайшоў пасёлка, а на тым месцы, дзе стаяў раней вігвам Шэрага Бабра, убачыў толькі кучу смецця.

У доме людзі толькі штоляглі спаць.

— Ён зноў перастаў есці,—сказаў са свайго ложка Мэт.

Уідон Скот прамармытаў нешта і заварочаўся над коўдрай.

— Мяркуючы па мінуламу разу, нічога дзіўнага не будзе, калі ён здохне цяпер.

Коўдра на другім ложку сярдзіта заварушылася.

— Ды замоўкніце вы!—крыкнуў у цемнаце Скот.— Прычапіліся горш бабы.

— Зусім правільна,—адказаў паганяты, і ў Скота не было цвёрдай упэўненасці ў тым, што той падсмейваецца над ім цішком.

На наступны дзень трывога і страх Белага Клыка толькі ўзмацнілася. Ён хадзіў за гаспадаром па пятках, а калі Скот аставаўся дома, тырчэў на ганку. Праз адчыненыя дзверы ён бачыў рэчы, раскладзеныя на падлозе. Да чамадана далучыліся два вялікія парусінавыя мяшкі і скрыня. Мэт скруціў коўдры і футравае адзенне гаспадара і сунуў іх у маленькі парусінавы мяшок. Белы Клык заскуголіў, гледзячы на тэтыя падрыхтаванні.

Праз некаторы час з'явіліся двое індзейцаў. Белы Клык уважліва сачыў, як яны ўзвалілі рэчы на плечы і спусціліся з узгорку ўслед за Мэтам, які ўзяў чамадан і пасцель. Але Белы Клык не пабег з імі. Гаспадар усё яшчэ аставаўся ў доме. Неўзабаве Мэт вярнуўся. Гаспадар вышаў на ганак і паклікаў да сябе Белага Клыка.

— Эх ты, небарака!—ласкава сказаў ён, пачэсваючы яму за вухам і гладзячы па спіне.—Ад'язджаю, старына. Цябе ў такую далечыню з сабой не возьмеш. Ну, пабурчы на развітанне, пабурчы, пабурчы як належыць.

Але Белы Клык адмаўляўся бурчэць. Замест гэтага ён паглядзеў на гаспадара сумнымі дапытлівымі вачыма і схаваў галаву паміж яго рукой і бокам.

— Гудок!—крыкнуў Мэт.

З Юкона даляцела прарэзлівае выццё параходнай сірэны.

— Канчайце развітвацца! Ды не забудзьце зачыніць пярэднія дзверы. Я выйду праз заднія. Спяшайцеся.

Абедзве дзверы зачыніліся адначасова, і Уідон Скот пачакаў на ганку, пакуль Мэт выйдзе з-за вугла дома. За дзвярыма чулася ціхае скуголенне, падобнае на плач. Затым Белы Клык пачаў глыбока, усімі грудзьмі ўцягваць паветра, прынюхваючыся да пахаў.

— Беражыце яго, Мэт,—сказаў Скот, калі яны спускаліся з узгорка.—Напішыце мне, як яму тут жывецца.

— Абавязкова,—адказаў паганяты.—Паслухайце!

Яны спыніліся. Белы Клык выў, як выюць сабакі над трупам гаспадара. Глыбокае гора гучэла ў гэтым выцці, якое пераходзіла то ў раздзіраючае сэрца скавытанне, то ў жаласлівы стогн, то зноў узлятаўшай кверху з новым выбухам роспачы.

«Аўрора» была першым параходам, які адпраўляўся ў гэтым годзе з Кландайка, і палубы яе былі перапоўнены пасажырамі. Тут таўпіліся людзі, якім пашанцавала ў пагоні за золатам, людзі, якіх залатая ліхарадка разарыла дашчэнту,—і ўсе яны імкнуліся пакінуць гэтую краіну, таксама як у свой час імкнуліся папасці сюды.

Стоячы каля сходняў, Скот развітаўся з Мэтам, які быў гатоў сыйсці на бераг. Але Мэт раптам утаропіўся вачыма на нешта, што знаходзілася ззаду гаспадара, і не адказаў на яго поціск рукі. Скот абярнуўся. Белы Клык сядзеў на палубе, у некалькі кроках ад іх і тужліва глядзеў на Скота.

Здзіўлены Мэт прамармытаў нейкі праклён. Скот глядзеў на сабаку ў поўным недаўменні.

— Вы замкнулі пярэднія дзверы?

Скот кіўнуў галавой і запытаў:

— А заднія?

— Вядома, замкнуў!—з запалам адказаў Мэт.

Белы Клык з ліслівым выглядам прыціснуў вушы, але прадаўжаў сядзець у баку, не спрабуючы падыйсці.

— Прыдзецца забраць яго з сабой.

Мэт зрабіў два крокі ў кірунку да Белага Клыка, але той кінуўся ўбок. Паганяты кінуўся за ім, а Белы Клык праслізнуў паміж нагамі пасажыраў. Выкручваючыся, шныраючы з аднаго боку ў другі, ён бегаў па палубе і не даваўся Мэту.

Але як толькі гаспадар загаварыў, Белы Клык пакорліва падышоў да яго.

— Столькі часу карміў яго, а ён мне цяпер у рукі не даецца,—з крыўдай прамармытаў паганяты.—А вы хоць-бы раз пакармілі з таго першага дня.—Забіце мяне—не ведаю, як ён здагадаўся, што гаспадар—вы.

Скот, які гладзіў Белага Клыка, раптам нахіліўся і паказаў на свежыя парэзы на яго мордзе і глыбокую рану паміж вачыма.

Мэт таксама нахіліўся і правёў рукой па бруху Белага Клыка.

— А пра акно вось мы з вамі забылі. У яго ўсё бруха парэзанае. Мабыць, прама галавой уперад кінуўся.

Але Уідон Скот не слухаў яго. Ён хутка абдумваў нешта. «Аўрора» дала апошні гудок. Тыя, хто праводзілі, паспешна сходзілі на бераг. Мэт зняў хустку з шыі і хацеў быў узяць Белага Клыка на прывязь. Скот схапіў яго за руку.

— Бывайце, Мэт, дружышча! Вам, мабыць, не прыдзецца пісаць пра ваўка... я хачу...

— Што?—ускрыкнуў прыганяты.—Няўжо вы?..

— Вось іменна. Вазьміце сваю хустку. Я сам напішу вам пра ваўка.

Мэт затрымаўся на сходнях.

— Ён не перанясе клімату. Вам прыдзецца стрыгчы яго ў гарачыню.

Сходні ўцягнулі на палубу, і «Аўрора» адчаліла ад берагу. Уідон Скот памахаў на развітанне рукой. Затым ён павярнуўся да Белага Клыка, які стаяў побач,

— Ну, цяпер рыкай, нягоднік, рыкай,—сказаў ён, гладзячы Белага Клыка і пачухваючы яму прыціснутыя да галавы вушы.

*Раздзел другі*

## ПА ПОЎДНІ

Белы Клык сышоў з парахода ў Сан-Францыско. Ён быў надзвычай здзіўлен. І ніколі яшчэ белыя людзі не здаваліся яму такімі цудадзеямі, як зараз, калі ён ішоў па слізкіх тратуарах Сан-Францыско. Замест знаёмых хацін з бярвенняў па баках узнімаліся велізарныя будынкі. Вуліцы былі поўныя ўсякага роду небяспек: фургонаў, цялежек, аўтамабіляў; велізарныя коні ледзь цягнулі нагружаныя павозкі, а па самай сярэдзіне рухаліся грандыёзныя трамваі, несупынна пагражаючы Беламу Клыку прарэзлівым гучэннем і бразгатам, якія нагадвалі віск рысі, з якой яму прыходзілася сустракацца ў паўночных лясах.

Усё навокал казала аб магутнасці. За ўсім гэтым адчувалася прысутнасць уладарнага чалавека, які ўстанаўляў сваё панаванне над светам рэчаў. Белы Клык быў ашаломлены і падаўлены гэтым здзіўляючым відовішчам. Яму зрабілася страшна. Усведамленне ўласнай нікчэмнасці ахапіла гордага, жыццерадаснага сабаку, нібы ён зноў ператварыўся ў шчанюка, што прыбег з Лясной Глушы да пасёлка Шэрага Бабра. А колькі багоў тут было! Галава кружылася бачачы гэтае людское зборышча. У вушах звінела ад вулічнага грукату. Белы Клык прышоў у замяшанне ад няспыннага патоку і мільгання рэчаў. Ён адчуваў, як ніколі, сваю залежнасць ад гаспадара і ішоў за ім па пятах, не губляючы яго з вачэй.

Але горад праімчаўся кашмарам, і ўспаміны аб ім доўгі час праследавалі Белага Клыка, як дрэнны, недарэчны сон. У гэты-ж дзень гаспадар прывязаў яго на ланцуг у кутку багажнага вагона, сярод кучы чамаданаў і сундукоў. Тут распараджаўся прысадзісты, каранасты бог, які з грукатам перастаўляў сундукі і чамаданы, уцягваў іх у вагон, навальваў кучамі або з трэскам шпурляў за дзверы, дзе іх падбіралі іншыя багі.

І тут, у гэтым крамешным пекле, гаспадар пакінуў Белага Клыка,—прынамсі, Белы Клык лічыў сябе пакінутым да таго часу, пакуль не адчуў побач з сабой дарожных рэчаў гаспадара, і стаў на варту каля іх.

— У час прышлі,—прамармытаў гаспадар вагона, калі праз гадзіну ў дзвярах з'явіўся Уідон Скот.—Гэты сабака не даў мне дакрануцца да вашага дабра.

Белы Клык выбраўся з вагона. Ён быў здзіўлен. Кашмар скончыўся. Уваходзячы ў вагон, Белы Клык палічыў яго за пакой у доме, які з усіх бакоў быў акружан горадам. Але за гэтую гадзіну горад знік. Грукат ужо не лез яму ў вушы. Перад Белым Клыкам расцілалася вясёлая, залітая сонцам, краіна. Але здзіўляцца гэтай перамене не было калі. Белы Клык прыняў яе, як прымаў усе цуды, што спадарожнічалі кожнаму кроку багоў.

Іх чакала каляска. Да гаспадара падышлі мужчына і жанчына. Жанчына працягнула рукі і абняла гаспадара за шыю—варожае дзеянне! У наступную ж хвіліну Уідон Скот вырваўся з абдымкаў і схапіў Белага Клыка, які зарыкаў, як разлютаваны д'ябал.

— Нічога, мама!—казаў Скот, не адпускаючы Белага Клыка і стараючыся заспакоіць яго.—Ён думаў, што ты хочаш мяне пакрыўдзіць, а гэтага рабіць не дазваляецца. Нічога, нічога. Ён хутка зразумее.

— А тым часам я змагу выказваць сваю любоў да сына толькі тады, калі яго сабакі не будзе паблізу,— засмяялася маці, хоць твар яе пабялеў ад спалоху.

Жанчына паглядзела на Белага Клыка, які ўсё яшчэ рыкаў і, ўвесь натапырыўшыся, злосна пазіраў на яе.

— Ён хутка зразумее, вось убачыце,—сказаў Скот.

Ён пачаў ласкава гаварыць з Белым Клыкам і, канчаткова супакоіўшы яго, сказаў строгім голасам:

— Ляжаць! Табе кажуць!

Беламу Клыку ўжо былі знаёмы гэтыя словы, і ён паслухаўся загаду, хоць выканаў яго неахвотна і з сярдзітым выглядам.

— Ну, мама!

Скот працягнуў рукі, не зводзячы вачэй з Белага Клыка.

— Ляжаць!—крыкнуў ён яшчэ раз.

Белы Клык натапырыўся, прыўстаў, але зараз-жа апусціўся на месца, не перастаючы назіраць за паўтарэннем гэтых варожых дзеянняў. Аднак, ні жанчына, ні незнаёмы бог, што абняў услед за ёй гаспадара, не прынеслі яму ніякай шкоды. Паклаўшы рэчы, незнаёмыя і гаспадар селі ў каляску, а Белы Клык пайшоў за ёй, час ад часу падбягаючы блізка да коней і натапырваючыся, нібы папярэджваючы іх, што ён не дазволіць зрабіць ніякай шкоды богу, якога яны так хутка везлі па дарозе.

Праз чвэрць гадзіны каляска ўехала ў каменныя вароты і пакацілася па алеі, што была абсаджана густым арэшнікам. За алеяй з абодвых бакоў расціламіся лугавіны, на якіх дзе-ні-дзе ўзвышаліся магутныя дубы. Падстрыжаная зелень лугавін кантраставала з залаціста-карычневымі палямі, выпаленымі сонцам; яшчэ далей былі відаць бурыя ўзгоркі і пашы. Пасярэдзіне лугавіны на невысокім узгорку стаяў дом з вялікай верандай і мноствам акон.

Але Белы Клык не паспеў як належыць разгледзець яго. Ледзь толькі каляска ўехала ў алею, як на яго з палаючымі ад абурэння і злосці вачыма наляцела аўчарка. Белы Клык апынуўся адрэзаным ад гаспадара. Увесь натапырыўшыся, ён прыгатаваўся нанесці ёй знішчальны ўдар, але ўдару гэтага так і не адбылося. Белы Клык спыніўся на паўдарозе, як укопаны, і сеў на заднія лапы, стараючыся ў што-б там ні стала ўнікнуць дакранання з сабакам, якога з хвіліну таму назад ён хацеў зваліць з ног. Гэта была самка, а закон яго пароды ахоўваў яе ад такіх нападаў. Напасці на самку значыла-б для Белага Клыка не больш, не менш, як пайсці супроць голасу інстынкта.

Але самка не мела такога інстынкту. Наадварот, будучы аўчаркай, яна адчувала несвядомы страх перад Лясной Глушшу, і перад ваўком у асаблівасці. Белы Клык быў для яе ваўком, спрадвечным ворагам, што грабіў стада яшчэ ў тыя далёкія часы, калі першая авечка была даручана клопатам яе аддаленага продка. І таму, як толькі Белы Клык спыніўся, адмаўляючыся давесці да канца свой напад, аўчарка сама кінулася на яго. Ён мімаволі зарыкаў, адчуўшы, як вострыя зубы самкі ўядаюцца яму ў плячо, але ўсё-ж не ўкусіў яе,

а толькі збянтэжана адступіў назад, стараючыся абегчы сабаку з боку. Белы Клык кідаўся з аднаго боку ў другі, круціўся, але ўсё было дарэмна. Аўчарка перагараджала яму дарогу.

— Назад, Коллі!—крыкнуў незнаёмы чалавек, што сядзеў у калясцы.

Уідон Скот засмяяўся.

— Нічога, папа. Гэта добры ўрок для Белага Клыка. Яму да многага прыдзецца прызвычаіцца, і чым хутчэй, тым лепш. Нічога, абыйдзецца як-небудзь.

Каляска аддалялася, а Коллі ўсё яшчэ загараджвала Беламу Клыку дарогу.

Ён паспрабаваў абагнаць яе і, звярнуўшы з дарогі, кінуўся праз лугавіну, але аўчарка бегла па ўнутранаму кругу, і Белы Клык усюды натыкаўся на яе вышчараную пашчу. Ён павярнуў назад, спрабуючы перасячы дарогу, але і тут яна папярэдзіла яго намеры.

А каляска адвозіла гаспадара. Белы Клык бачыў, як яна паступова знікала за дрэвамі. Становішча было безвыходнае. Ён паспрабаваў апісаць яшчэ адзін круг. Аўчарка не адставала. Тады Белы Клык на ўсім хаду павярнуў на яе. Ён адважыўся на свой выпрабаваны баявы прыём, ударыў яе ў плячо і зваліў з ног. Аўчарка бегла так хутка, што ўдар гэты не толькі зваліў яе на зямлю, але прымусіў па інерцыі перакуліцца некалькі разоў. Яна завыла ад абурэння і абражанага гонару і, заграбаючы кіпцюрамі пясок, спрабавала спыніцца і ўстаць на ногі.

Белы Клык не чакаў. Дарога была свабодная, а яму толькі гэта і патрабавалася. Не спыняючы вішчаць, аўчарка кінулася за ім наўздагон. Ён кінуўся наўпрамік, а ўменню бегаць аўчарка магла павучыцца ў Белага Клыка. Яна імчалася, як шалёная, напружваючы ўсе свае сілы для кожнага прыжка, а Белы Клык моўчкі імчаўся ўперад без ніякага напружання, праносячыся па зямлі, як здань.

Абагнуўшы дом, ён убачыў, як гаспадар выходзіць з каляскі, што спынілася ля пад'езду. У тую-ж хвіліну Белы Клык адчуў, што на яго рыхтуецца новы напад. Да яго бег борзы. Белы Клык хацеў яго прыязна сустрэць, але не здолеў спыніцца на поўным бягу, а борзы быў ужо амаль побач. Ён наляцеў на яго з боку. Ад такога нечаканага ўдару Белы Клык з усяго раз-

маху кулём пакаціўся па зямлі. А калі ён ускочыў на ногі, выгляд яго быў страшны, вушы, прыціснутыя шчыльна да галавы, сударгава дрыжэўшыя губы і нос, клыкі, што ляснулі ў якім-небудзь дзюйме ад горла борзага.

Гаспадар кінуўся на дапамогу, але ён быў надта далёка ад іх, і выратавальнікам борзага аказалася Коллі. З'явіўшыся якраз у тую хвіліну, калі Белы Клык рыхтаваўся скочыць, яна не дазволіла яму нанесці смяртэльнага ўдару праціўніку. Коллі наляцела, як шквал. Пачуццё абражанай дастойнасці і злосць толькі распалілі ў аўчарцы нянавісць да гэтага грабежніка з Лясной Глушы, які ўхітрыўся спрытным манеўрам ашукаць і абагнаць яе і ў дадатак выкуцаў у пяску. Яна кінулася на Белага Клыка пад прамым вуглом у той момант, калі ён скочыў да борзага, і ў другі раз зваліла яго з ног.

К гэтаму часу падышоў гаспадар, ён схапіў Белага Клыка, а яго бацька адклікаў сабак.

— Няма чаго казаць, добра прымаюць тут няшчаснага ваўка, які прыехаў з Палярнага Круга,—гаварыў Скот, супакойваючы Белага Клыка.—За ўсё сваё жыццё яго толькі раз збілі з ног, а тут яго перакулілі двойчы за якія-небудзь паўхвіліны.

Каляска ад'ехала, а з дому вышлі незнаёмыя багі. Некаторыя з іх спыніліся на значнай адлегласці ад гаспадара, але дзве жанчыны падышлі і абнялі яго за шыю. Белы Клык пачынаў патроху прывыкаць да гэтага варожага жэсту. Ён не рабіў ніякай шкоды гаспадару, а ў словах, якія багі вымаўлялі пры гэтым, не адчувалася ніякай пагрозы. Незнаёмыя багі спрабавалі было падыйсці і да Белага Клыка, але ён засцерагальна рыкаў, а гаспадар пацвердзіў яго засцярогу словамі. Белы Клык ціснуўся да ног Скота, а той падбадзёрваў яго, ласкава гладзячы па галаве.

Па камандзе: «Дзік! На месца!», борзы падняўся па прыступках і ўлёгся на тэрасе, усё яшчэ бурчачы і не зводзячы сярдзітых вачэй з прышэльца. Адна з жанчын абняла Коллі за шыю і пачала лашчыць і гладзіць яе; але Коллі ніяк не магла супакоіцца і, абураная прысутнасцю ваўка, скуголіла, у поўнай упэўненасці, што багі робяць памылку, дапускаючы яго ў сваю кампанію

Багі падняліся на прыступкі. Белы Клык ішоў за гаспадаром па пятах. Дзік забурчэў з тэрасы; Белы Клык натапырыўся і адказаў яму тым-жа.

— Увядзіце Коллі ў дом, а гэтыя двое няхай паб'юцца,—запрапанаваў бацька Скота.—Пасля бойкі яны будуць сябрамі.

— Тады Беламу Клыку прыдзецца выступіць у ролі галоўнага плакальшчыка на пахаванні, каб даказаць сваю дружбу,—засмяяўся гаспадар.

Бацька недаверліва паглядзеў спачатку на Белага Клыка, потым на Дзіка, і нарэшце на сына.

— Ты думаеш, што?..

Уідон кіўнуў галавой.

— Вось іменна. Ваш Дзік адправіцца на той свет праз хвіліну, самае большае—праз дзве.

Ён павярнуўся да Белага Клыка.

— Пойдзем, воўк. Відаць, табе прыдзецца ўвайсці ў дом.

Белы Клык нязграбна падняўся па прыступках і прайшоў на тэрасу, задраўшы хвост, не зводзячы насцярожаных вачэй з Дзіка і ў той-жа самы час рыхтуючыся да любой нечаканасці, якая можа сустрэць яго ў доме. Але нічога страшнага там не было. Увайшоўшы ў пакоі, Белы Клык старанна агледзеў іх, усё яшчэ падазраючы нейкую небяспеку і не знаходзячы яе. Затым ён улёгся з задаволеным бурчэннем ля ног гаспадара, не перастаючы сачыць за ўсім, што адбывалася навокал, і рыхтуючыся кожную хвіліну ўскочыць з месца і ўступіць у бойку з тымі жахамі, якія, як ён думаў, хаваюцца пад дахам гэтага жылля.

*Раздзел трэці*

## УЛАДАННІ БОГА

Пераезды з аднаго месца на другое толькі развілі ў Белым Клыку ўмеласць прыстасоўвацца да навакольнай абстаноўкі, падараваную яму прыродай, і ўмацавалі ў ім усведамленне неабходнасці такога прыстасавання. Ён хутка звыкся з жыццём у Сіера-Віста—так называўся маёнтак суддзі Скота. Ніякіх сур'ёзных непаразуменняў з сабакамі больш не было. Тут, на Поўдні, сабакі ведалі звычаі сваіх багоў лепш, чым ён, і ў

іх вачах існаванне Белага Клыка ўжо апраўдвалася тым фактам, што багі дазволілі яму ўвайсці ў сваё жыллё. Да гэтага часу ім ніколі ў жыцці не даводзілася сустракацца з ваўком, але раз багі дапусцілі яго да сябе, сабакам не аставалася нічога іншага, як пакарыцца.

На першых парах адносіны Дзіка да Белага Клыка не маглі не быць некалькі нацягнутымі, але неўзабаве ён прымірыўся з ім, як з неад'емнай прыналежнасцю Сіера-Вісты. Калі-б усё залежала ад аднаго Дзіка, яны-б былі сябрамі, але Белы Клык не адчуваў неабходнасці ў дружбе. Ён патрабаваў ад сабак, каб яны пакінулі яго ў спакоі. Усё жыццё ён трымаўся асобна ад сваіх сабратоў і не меў ніякага жадання нарушаць цяпер гэты парадак рэчаў. Дзік дакучаў яму сваімі чапленнямі, і ён, рыкаючы, праганяў яго прэч. Яшчэ на Поўначы Белы Клык зразумеў, што сабак гаспадара чапаць нельга і не забываў гэтага ўроку і тут. Але ён прадаўжаў настойваць на сваёй адасобленасці і замкнутасці і да такой ступені ігнараваў Дзіка, што гэтая добрадушная істота пакінула ўсе свае спробы завязаць дружбу з Белым Клыкам і нарэшце ўдзяляла яму ўвагі не больш, чым конавязі каля стайні.

Але з Коллі справа была некалькі іншая. Прымірыўшыся з тым, што прысутнасць ваўка санкцыянавана багамі, яна ўсё-ж не бачыла ніякіх прычын для таго, каб зусім пакінуць яго ў спакоі. У памяці ў Коллі былі безлічныя злачынствы, зробленыя ім і яго сабратамі супроць яе продкаў. Знішчаныя аўчарні нельга было забыць ні за адзін дзень, ні за цэлае пакаленне. Яны заклікалі да помсты. Коллі не асмельвалася нарушыць волю багоў, што дазволілі Беламу Клыку быць сярод іх, але гэта не перашкаджала ёй атручваць яму жыццё. Паміж імі была векавая варожасць, і Коллі паставіла сабе за мэту няспынна напамінаць аб гэтым Беламу Клыку.

Скарыстаўшы перавагі свайго пола, яна ўсяляк надакучала і праследавала яго. Інстынкт не дазваляў Беламу Клыку нападаць на Коллі, але з другога боку, ён не мог аставацца абыякавы да яе настойлівых прычэпак. Калі аўчарка кідалася на яго, ён падстаўляў пад яе вострыя зубы сваё плячо, зарослае густой шэрсцю,

і велічна адыходзіў убок. Калі-ж Коллі надта насядала, ён з цярплівым і сумуючым выглядам апісваў круг, падстаўляючы ёй плячо і хаваючы галаву. Між іншым калі вострыя зубы ўядаліся яму ў заднюю нагу, адступаць прыходзілася значна паспешней, ужо не клапоцячыся аб велічы. Але ў большасці выпадкаў Белы Клык ухітраўся захоўваць дастойны і ледзь не пераможны выгляд. Ён не заўважаў Коллі, калі толькі гэта было магчыма, і стараўся не пападацца ёй на вочы. Убачыўшы Коллі ці пачуўшы яе голас паблізу, ён уставаў з месца і адыходзіў.

Белы Клык многа чаму павінен быў навучыцца тут. Жыццё на Поўначы было зусім простае ў параўнанні са складанымі справамі Сіера-Вісты. Перш за ўсё Белы Клык павінен быў пазнаёміцца з сям'ёй гаспадара, але яму прыходзілася рабіць гэта і ў мінулым. Міт-Са і Клу-Куч належалі Шэраму Бабру, елі яго ежу, грэліся каля яго агню і спалі пад яго коўдрамі, таксама-ж і ўсё жыхары Сіера-Вісты, як думаў Белы Клык, належалі яго гаспадару.

Але і тут заўважалася розніца, і розніца досыць значная. Сіера-Віста была куды больш вігвама Шэрага Бабра. Беламу Клыку даводзілася сустракацца з вельмі многімі людзьмі. У Сіера-Вісце жыў суддзя Скот са сваёй жонкай. Затым там былі дзве сястры гаспадара— Бэт і Мэры. Была жонка гаспадара—Эліс і, нарэшце, яго дзеці—Уідон і Мод, двое карапузаў, чатырох і шасці год. Ніхто не мог расказаць Беламу Клыку аб усіх гэтых людзях, а аб узах сваяцтва і чалавечых узаемаадносінах ён не ведаў нічога, ды і ніколі-б не здолеў даведацца. І ўсё-ж ён хутка зразумеў, што ўсе гэтыя людзі належаць яго гаспадару. Затым, не выпускаючы самай малой магчымасці для назірання за іх учынкамі, словамі, нават інтанацыямі галасоў ён паступова разабраўся ў ступені блізасці кожнага з жыхароў Сіера-Вісты да гаспадара, адчуў прыхільнасць, якой ён дарыў іх. І адпаведна ўсяму гэтаму Белы Клык пачаў адносіцца да новых багоў. Тое, што цаніў гаспадар, цаніў і ён; тое, што было дарага гаспадару, павінен быў усяляк песціць і ахоўваць і Белы Клык.

Так абстаяла справа з дзецьмі. Усё сваё жыццё Белы Клык не цярпеў дзяцей. Ён баяўся і не мог вытрымаць

іх дакранання. Ён не забыў дзіцячай бязлітаснасці і дэспатызма, з якімі яму даводзілася сутыкацца ў індзейскіх пасёлках. І калі Уідон і Мод у першы раз падышлі да яго, ён засцерагальна зарыкаў і злосна бліснуў на іх вачыма. Удар кулаком і прарэзлівы вокрык гаспадара прымусілі Белага Клыка падпарадкавацца іх ласкам, хоць ён не пераставаў бурчэць, пакуль маленькія рукі гладзілі яго, і ў бурчэнні гэтым не чулася ласкавай ноткі. Пазней, заўважыўшы, што хлопчык і дзяўчынка мелі вялікую цэннасць у вачах гаспадара, ён дазваляў ім гладзіць сябе, ужо не чакаючы ўдару і рэзкага вокрыку.

Усё-ж Белы Клык не ўмеў выказваць сваіх пачуццяў. Ён падабаўся дзецям гаспадара з адкрытай неахвотай і цярпеў іх прычэпліванні, як церпяць пакутлівую аперацыю. Канчаткова страціўшы цярпенне, ён уставаў і з рашучым выглядам адыходзіў прэч. Але неўзабаве дзеці пачалі нават падабацца Беламу Клыку, хоць ён ўсё яшчэ ніяк не выказваў сваіх адносін да іх. Ён ніколі не падыходзіў да дзяцей сам, але і не ўцякаў ад іх, а чакаў, калі яны падыйдуць. А яшчэ праз некаторы час дарослыя пачалі заўважаць, што ўбачыўшы дзяцей у вачах Белага Клыка з'яўляецца задаволенае выражэнне, якое ўступае месца чамусьці накшталт лёгкай дасады, як толькі дзеці пакідаюць яго для іншых забаў.

Натура Белага Клыка паступова ўзбагачалася, але ўсё гэта патрабавала часу. Наступнае месца пасля дзяцей Белы Клык адводзіў суддзі Скоту. Тлумачылася гэта двума прычынамі: па-першае, гаспадар, відавочна, вельмі цаніў яго, па-другое, суддзя Скот быў чалавек стрыманы. Белы Клык любіў ляжаць ля яго ног, калі той чытаў газету на прасторнай тэрасе. Позірк ці слова, зрэдку кінутыя ў бок Белага Клыка, казалі яму, што суддзя Скот заўважае яго прысутнасць і ўмее даць адчуць гэта, не робячыся дакучлівым. Але ўсё гэта рабілася, калі гаспадара не было паблізу. Як толькі ён паказваўся, як увесь астатні свет пераставаў існаваць для Белага Клыка.

Белы Клык дазваляў усім членам сям'і Скота гладзіць і лашчыць сябе, але ні да кога з іх ён не адносіўся так, як да гаспадара, ніякія ласкі не маглі выклікаць любоўных нотак у яго бурчэнні, і як ні старалася ўся чэлядзь

Скота, а нікому з іх не ўдалося прымусіць Белага Клыка прыціснуцца да сябе галавой. Гэтым выказваннем абсалютнага давер'я, падпарадкавання і адданасці Белы Клык узнагароджваў аднаго Уідона Скота. Па сутнасці кажучы, астатнія члены сям'і былі для яго не чым іншым, як уласнасцю гаспадара.

Таксама-ж Белы Клык вельмі рана адчуў розніцу паміж ім і слугамі. Апошнія баяліся яго, а ён са свайго боку стрымліваўся ад нападу на слуг толькі таму, што лічыў іх такой-жа ўласнасцю гаспадара. Паміж імі і Белым Клыкам падтрымліваўся нейтралітэт, і толькі. Яны гатавалі абед для гаспадара, мылі пасуду і выконвалі ўсякую іншую работу, таксама-ж як на Кландайку ўсё гэта рабіў Мэт. Карацей кажучы, слугі ўваходзілі неабходнай састаўной часткай у жыццёвы ўклад Сіера-Вісты.

Многа новага прышлося даведацца Беламу Клыку і за межамі Сіера-Вісты. Уладанні гаспадара былі шырокія і абшырныя, але ўсё-ж мелі свае межы і граніцы. Каля Сіера-Вісты праходзіла дарога. За ёй пачыналіся агульныя ўладанні ўсіх багоў—дарогі і вуліцы. Асабістыя ўладанні іншых багоў стаялі за агарожамі. Усё гэта кіравалася безлічнай колькасцю законаў, якія дыктавалі Беламу Клыку яго паводзіны, хоць ён і не разумеў мовы багоў і мог знаёміцца з гэтымі законамі толькі на падставе ўласнага вопыту. Ён дзейнічаў адпаведна сваім інстынктам да таго часу, пакуль не сустракаўся з адным з гэтых законаў. Пасля некалькіх такіх сутычак Белы Клык пачынаў разумець закон і ўжо больш не нарушаў яго.

Але мацней за ўсё дзейнічалі на Белага Клыка кулак гаспадара і строгія ноткі ў яго голасе. Удар гаспадара, да якога Белы Клык адчуваў велізарную любоў, прыносіў яму такі боль, які не маглі ўчыніць пабоі Шэрага Бабра і Прыгажуна Сміта. Пабоі тых былі адчувальнымі толькі для цела і не ўціхамірвалі прыгожага ў сваёй лютасці Белага Клыка. Удары гаспадара былі занадта слабыя, каб прынесці боль. І ўсё-ж яны пранікалі глыбей. Гаспадар выказваў сваю непахвальнасць і ўражаў гэтым Белага Клыка ў самае сэрца.

Па сутнасці кажучы, удары прыходзіліся на яго долю вельмі рэдка. Голасу гаспадара было цалкам дастат-

кова. Белы Клык меркаваў па ім, добра ён зрабіў ці не, прыстасоўваў да яго свае паводзіны, суразмяраў учынкі. Голас гэты служыў яму компасам, па якому ён накіроўваў свой шлях, компасам, які дапамагаў яму знаёміцца з новай краінай і новым жыццём.

На поўначы сабака быў адзінай хатняй жывёлай. Усе астатнія жылі ў Лясной Глушы і з'яўляліся законнай здабычай кожнага сабакі, калі толькі ён мог з ёй справіцца. У свой час Белы Клык заўсёды здабываў сабе ежу паляваннем. Ён не падазраваў, што на Поўдні справа абстаіць інакш, але пераканацца ў гэтым давялося ў самым пачатку свайго прабывання ў даліне Санта-Клара. Сноўдаючыся неяк на досвітку каля дома, ён вышаў з-за вугла і наткнуўся прама на курыцу, якая ўцякла з птушынага двара. Зусім зразумела, што Беламу Клыку захацелася з'есці яе. Прыжок, заблішчэўшыя зубы, спалоханае кудахтанне—і адважная падарожніца апынулася ў яго пашчы. Курыца была добра адкормленая, тлустая і далікатная на смак; Белы Клык аблізнуўся і парашыў, што яда папалася нядрэнная.

У гэты-ж дзень ён натрапіў каля канюшні яшчэ на адну зблуджаную курыцу. На паратунак ёй прыбег конюх. Не ведаючы пароды Белага Клыка ён захапіў з сабой для застрашэння тонкі дубец. Пасля першага-ж удару Белы Клык пакінуў курыцу і кінуўся на чалавека. Яго можна было-б спыніць палкай, але не дубцом. Белы Клык прыняў другі ўдар, што сустрэў яго на сярэдзіне прыжку, моўчкі, не задрыжэўшы ад болю. Конюх ускрыкнуў, адхіснуўся назад ад сабакі, які скочыў яму на горла, упусціў дубец, схапіўся за шыю рукамі. У выніку рука яго была распаласавана ад локця ўніз да самай касці.

Конюх страшэнна перапалохаўся. Яго ашаламіла не столькі злосць Белага Клыка, сколькі бясшумнасць яго нападу. Усё яшчэ не адымаючы пакусанай і пакрытай крывёй рукі ад твара і горла, ён пачаў адступаць да хлява. Калі-б не з'явілася на сцэне Коллі, яму было-б дрэнна. Коллі выратавала конюху жыццё, таксама як у свой час яна выратавала жыццё Дзіку. Не памятаючы сябе ад гневу, яна кінулася на Белага Клыка. Яна мела рацыю. Яна была разумней дапусціўшых памылку багоў. Усе яе падазрэнні апраўдаліся.

Непапраўны грабежнік зноў узяўся за свае старыя ўчынкі.

Конюх уцёк на канюшню, а Белы Клык пачаў адступаць перад бязлітаснымі зубамі Коллі, кружачыся то ў адзін, то ў другі бок і падстаўляючы пад яе ўкусы плячо. Але Коллі не пакідала яго ў спакоі, не абмяжоўваючыся на гэты раз звычайным пакараннем. Яе ўзбуджэнне і злосць распаляліся з кожнай хвілінай, і нарэшце Белы Клык забыў увесь свой гонар і ўцёк ад яе ў поле.

— Ён пакіне курэй у пакоі,—сказаў гаспадар,—але мне трэба застаць яго на месцы злачынства.

Выпадак здарыўся праз два дні, але гаспадар не мог і меркаваць, якіх размераў дасягне злачынства. Белы Клык уважліва сачыў за птушыным дваром і яго жыхарамі.

Увечары, калі куры ўселіся на нашэст, ён узлез на груду нядаўна прывезеных дошак. Адтуль скочыў на дах куратніка, пералез праз яго і саскочыў на зямлю. Секундай пазней у куратніку пачалася разаніна.

Раніцой, калі гаспадар вышаў на тэрасу, ён убачыў відовішча—пяцьдзесят белых легорнаў ляжалі ў адзін рад. Скот ціха засвістаў, спачатку ад здзіўлення, потым ад захаплення. Вочы яго ўбачылі таксама і Белага Клыка, які не выказваў ніякіх адзнак замяшання або ўсведамлення ўласнай віны. Ён трымаў сябе вельмі горда, нібы і сапраўды зрабіў учынак, які заслугоўваў усялякіх пахвал і захаплення. Ён зусім не ўсведамляў усяго цяжару сваёй віны. Пры думцы аб меўшай быць яму непрыемнай справе гаспадар сціснуў губы. Затым ён рэзка загаварыў са злачынцам, які нічога не падазраваў, і ў голасе ў яго чуўся гнеў. Мала таго, гаспадар ткнуў Белага Клыка носам у забітых ім курэй і ўдарыў яго кулаком. З таго часу Белы Клык ужо не рабіў налёту на куратнік. Птушка ахоўвалася законам, і Белы Клык зразумеў гэта. Неўзабаве гаспадар узяў яго з сабой на птушыны двор. Як толькі жывая птушка заснавала ледзь не перад самым носам у Белага Клыка, ён зараз-жа кінуўся на яе. Гэта быў зусім натуральны рух, але голас гаспадара прымусіў Белага Клыка спыніцца. Яны прабылі на птушыным двары з поўгадзіны. І кожны раз, калі Белы Клык паддаваўся інстынкту і

кідаўся за птушкай, голас гаспадара спыняў яго. Такім чынам ён зразумеў закон і тут-жа, не выходзячы з птушынага двара, навучыўся зусім ігнараваць прысутнасць курэй.

— Такія паляўнічыя на курэй непапраўны,—сумна ківаючы галавой, сказаў за снеданнем суддзя Скот, выслухаўшы расказ сына аб уроку, які даў яму Белы Клык.—Варта ім толькі ўнадзіцца і пакаштаваць смак крыві...—і ён зноў з сумам паківаў галавой.

Але Уідон Скот не згаджаўся з бацькам.

— Ведаеш, што я зраблю?—сказаў ён, нарэшце.— Я замкну Белага Клыка ў куратніку на цэлы дзень.

— Што-ж будзе з курамі!—запярэчыў бацька.

— Больш таго,—казаў далей сын:—за кожную задушаную курыцу я плачу залаты долар.

— Няхай і папа таксама заплоціць які-небудзь штраф,—умяшалася Бэт.

Сястра падтрымала яе, і ўсе, што сядзелі за сталом, хорам ухвалілі гэтую прапанову.

— Добра!—Уідон Скот на хвіліну задумаўся.—А калі к канцу дня Белы Клык не зачэпіць ніводнага кураняці, за кожныя дзесяць хвілін, праведзеныя ім на птушыным двары, ты скажаш яму зусім сур'ёзным і ўрачыстым голасам, як у сябе ў судзе ў часе абвяшчэння прыгавору: «Белы Клык, ты разумнейшы, чым я думаў».

Выбраўшы такое месца, дзе Белы Клык не мог іх бачыць, уся сям'я прыгатавалася назіраць за падзеямі. Але ўсе чаканні былі дарэмныя. Як толькі гаспадар пакінуў двор, Белы Клык лёг і заснуў. Адзін раз ён устаў і падышоў да карыта напіцца. На курэй ён не звяртаў ніякай увагі,—яны для яго не існавалі. У чатыры гадзіны ён разбегся, скочыў на дах куратніка, саскочыў на зямлю па другі бок і з заклапочаным выглядам пабег дадому. Ён зразумеў закон.

І суддзя Скот на вялікую радасць усёй сям'і, што сабралася на тэрасе, урачыстым голасам сказаў шаснаццаць разоў адзін за адным:

«Белы Клык, ты разумнейшы, чым я думаў».

Але разнастайнасць законаў вельмі часта збівала Белага Клыка з панталыку і кідала яго ў няміласць. Трэба было цвёрда ўразумець сабе, што курэй, якія належаць іншым багам, таксама нельга чапаць. Тое-ж

самае адносілася і да кошак. Адкрыта кажучы, пасля першага азнаямлення з гэтым законам у яго стварылася такое ўражанне, што ўсе жывыя істоты—недакранальны. Перапёлка магла ўзляцець на лузе ў яго з-пад самага носа і адлятала цэлай. Белы Клык дрыжэў усім целам ад нецярпення, але ўсё-ж уціхамірваў у сабе інстынктыўнае жаданне схапіць птушку і не кранаўся з месца. Ён пакарыўся волі багоў.

Аднойчы яму прышлося ўбачыць, як Дзік узагнаў на лузе за домам труса. Гаспадар глядзеў, як Дзік гоніцца за ім, але не ўмешваўся. Больш таго, ён падбухторваў Белага Клыка далучыцца да пагоні. Такім чынам Белы Клык даведаўся, што забарона не пашыраецца на трусоў. Нарэшце ён засвоіў закон цалкам. З хатнімі жывёламі трэба жыць у міры. Калі дружба з імі не наладжваецца, то ва ўсякім выпадку трэба падтрымліваць нейтралітэт. Але іншыя жывёлы—вавёркі, перапёлкі і трусы, якія не парвалі сувязі з Лясной Глушшу і не пакарыліся чалавеку, былі законнай здабычай кожнага сабакі. Багі абаранялі толькі ручных жывёл і не дазвалялі ім жыць у варожасці паміж сабой. Багі былі ўладарны ў жыцці і смерці сваіх падданых і старанна ахоўвалі гэтую ўладу.

Жыццё ў Сіера-Вісце было вельмі складанае ў параўнанні з прастатой жыцця на Поўначы. Цывілізацыя патрабавала ад Белага Клыка перш за ўсё кантролю над сабой, вытрыманасці, ураўнаважанасці, неасязальнай, як павуцінка, і ў той-жа час цвёрдай як сталь. Жыццё тут было тысячалікае, і Белы Клык судакранаўся з ім ва ўсёй яго featнастайнасці. Так, яму прыходзілася бегчы ўслед за каляскай па гораду або чнаўдацца па вуліцах чакаючы гаспадара, жыццё цякло міма яго глыбокім, неабсяжным патокам, няспынна патрабуючы імгненнага прыстасавання да сваіх законаў і амаль заўсёды прымушаючы Белага Клыка заглушаць у сабе ўсе прыродныя парывы.

У горадзе ён бачыў мясныя крамы, у якіх зусім на віду вісела мяса. Але чапаць яго не дазвалялася. У дамах, куды заходзіў гаспадар, былі кошкі, якіх таксама трэба было пакідаць у спакоі. А сабакі сустракаліся ўсюды, і біцца з імі было нельга, хоць яны і раўлі на яго. Апрача таго, на тратуарах безлічная колькасць людзей хадзіла ўзад і ўперад, увагу якіх ён

прыцягваў да сябе. Людзі спыняліся, глядзелі, паказвалі на яго адзін аднаму пальцамі, разглядалі з усіх бакоў, загаварвалі з ім і, што было горш за ўсё, чапалі Белага Клыка рукамі. Прыходзілася цярпліва зносіць дакрананне чужых рук, але Белы Клык ужо паспеў запасціся цярплівасцю. Ён здолеў нават перамагчы сваю нязграбную сарамлівасць і з пагардлівым выглядам прымаў усе знакі ўвагі, якія ўдзялялі яму незнаёмыя багі. Яны спагадліва адносіліся да яго, і ён адказваў ім тым-жа. І ўсё-ж у Белым Клыку было нешта такое, што перашкаджала надта фамілярнаму абыходжанню з ім. Прахожыя гладзілі яго па галаве і адпраўляліся далей, вельмі задаволеныя ўласнай смеласцю.

Але Беламу Клыку не заўсёды ўдавалася адчапіцца так лёгка. Калі каляска праязджала ваколіцамі Сан-Хозе, хлапчукі, што пападаліся на дарозе, сустракалі яго каменнямі. Белы Клык ведаў, што дагнаць іх і адтрапаць як належыць нельга. Прыходзілася рабіць наперакор інстынкту самазахавання; і Белы Клык, які рабіўся ручным, цывілізаваным сабакам, заглушаў у сабе голас інстынкта.

І ўсё-ж такое становішча спраў не зусім задавальняла яго. Праўда, ён не мог мець адцягненага ўяўлення аб бесстараннасці і сумленнасці, але кожная жывая істота да пэўнай ступені мае пачуццё справядлівасці, і Беламу Клыку цяжка было прымірыцца з тым, што ён не можа абараніць сябе ад гэтых хлапчукоў. Ён забыў, што дагавор, заключаны паміж ім і багамі, абавязваў іх клапаціцца аб ім і ахоўваць яго жыццё. Але неяк аднаго разу гаспадар выскачыў з каляскі з бізуном у руках і як належыць правучыў хлапчукоў. Пасля гэтага яны ўжо не кідаліся каменнямі, і Белы Клык зразумеў, у чым справа, і адчуў поўнае задавальненне.

Неўзабаве яму прышлося перанесці другі падобны выпадак. Каля салуна, міма якога Беламу Клыку прыходзілася прабягаць па дарозе ў горад, заўсёды сланяліся тры сабакі, якія ўзялі сабе за правіла кідацца на Белага Клыка. Ведаючы, чым канчаюцца ўсе яго бойкі з сабакамі, гаспадар няспынна паўтараў Беламу Клыку закон, які забараняе бойкі. Белы Клык добра засвоіў гэты ўрок і таму, прабягаючы міма салуна, за-

ўсёды пападаў у вельмі непрыемнае становішча. Рык яго зараз-жа адганяў усіх трох сабак на значную дыстанцыю, але яны прадаўжалі сваю пагоню, брахалі, абражалі яго. Гэтак было досыць доўгі час. Наведвальнікі салуна нават заахвочвалі сабак і неяк раз зусім адкрыта нацкавалі іх на Белага Клыка. Гаспадар спыніў каляску.

— Вазьмі іх!—сказаў ён Беламу Клыку.

Белы Клык не верыў уласным вушам. Ён паглядзеў на гаспадара, паглядзеў на сабак. Затым яшчэ раз запытальна і з прагнасцю глянуў на гаспадара.

Той кіўнуў галавой.

— Вазьмі іх, старыкан! Дай ім як належыць!

Белы Клык адкінуў усе хістанні ўбок. Ён павярнуўся і моўчкі скочыў на ворагаў. Тыя сустрэлі яго напад. Началася вазня; сабакі брахалі, вылі, ляскалі зубамі. Пыл, што ўзняўся слупам, засланіў поле бітвы. Але праз некалькі хвілін два сабакі ўжо біліся на дарозе ў прадсмяротных сударгах, а трэці ўцякаў ва ўсе лапаткі. Белы Клык пераскочыў канаву, пралез праз плот і ўцёк у поле. Ён імчаўся зусім бясшумна, як сапраўдны воўк, не ўступаючы ваўку і ў хуткасці, і на сярэдзіне поля нагнаў сабаку і прыкончыў яго.

Гэтае патройнае забойства паклала канец яго непрыемнасцям з сабакамі. Чуткі аб здарэнні разнесліся па ўсёй даліне, і людзі пачалі сачыць за тым, каб сабакі іх пакінулі Белага Клыка ў спакоі.

*Раздзел чацверты*

## ГОЛАС КРЫВІ

Месяцы ішлі адзін за адным. Ежы на Поўдні было ўволю, работы ад Белага Клыка не патрабавалі, і ён стаў больш гладкім, добра жыў і быў шчаслівы. Поўдзень зрабіўся для Белага Клыка не толькі геаграфічным пунктам,—Белы Клык жыў на Поўдні жыцця. Чалавечая ласка сагравала, як сонца, і ён распускаўся, як кветка, пасаджаная ў добрую глебу.

І ўсё-ж паміж Белым Клыкам і сабакамі адчувалася нейкая розніца. Ён ведаў закон нават лепш сабак, якім не даводзілася жыць у іншых умовах, і выконваў яго з вялікай дакладнасцю; і ўсё-ж лютасць хавалася ў яго істоце, нібы Лясная Глуш усё яшчэ не адпускала

ад сябе Белага Клыка, а воўк, што жыў у ім, толькі задрамаў на час.

Белы Клык ніколі не сябраваў з сабакамі. Ён заўсёды жыў у адзіноцтве, паколькі справа датычыла яго сабратаў, і меў намер жыць так і далей. З першых год свайго жыцця, засмучаных праследаваннямі Ліп-Ліпа і ўсёй стаі шчанюкоў, і за час прабывання ў Прыгажуна Сміта Белы Клык зненавідзеў сабак. Жыццё яго ўхілілася ад нармальнага цячэння, і ён зблізіўся з чалавекам, аддаліўшыся ад сваіх суродзічаў.

Апрача таго, сабакі на Поўдні адносіліся да Белага Клыка з вялікай падазронасцю. Ён выклікаў у іх інстынктыўны страх перад Лясной Глушшу, і яны сустракалі яго злосным брэхам, бурчэннем і нянавісцю. Ён-жа са свайго боку зразумеў, што пускаць у ход зубы зусім неабавязкова. Вышчараныя клыкі і злосна ўздрыгваючыя губы дзейнічалі беспамылкова і амаль заўсёды спынялі разбрахаўшагася сабаку.

Але жыццё паслала Беламу Клыку выпрабаванне ў асобе Коллі. Коллі не давала яму ні хвіліны спакою. Закон не меў для яе такую-ж нязменную сілу, як для Белага Клыка, і яна працівілася ўсім спробам гаспадара завязаць паміж імі дружбу. Яе злосны, раздражнены рык неадчэпна праследаваў Белага Клыка. Коллі не магла дараваць яму гісторыю з курамі і была цвёрда ўпэўнена ў злачынстве ўсіх яго намераў. Яна знаходзіла віну там, дзе яе яшчэ і не было. Яна атручвала Беламу Клыку існаванне, ходзячы за ім па пятах, як паліцэйскі, і варта было яму толькі кінуць цікаўны позірк на голуба або куранё, як Коллі пачынала раз'юшана, абурліва брахаць. Улюбёны спосаб Белага Клыка адчапіцца ад Коллі заключаўся ў тым, што ён клаўся на зямлю, паклаўшы галаву на пярэднія лапы, і прытвараўся што спіць. Гэта заўсёды прымушала яе замаўчаць.

За выключэннем непрыемнасцей з Коллі, усё астатняе ішло гладка. Белы Клык навучыўся стрымліваць сябе, цвёрда засвоіў законы. У характары яго з'явіліся станоўчасць, спакой, філасофская цярплівасць. Навакольная абстаноўка перастала быць варожай у адносінах да яго. Прадчуванне небяспекі, страх болю і смерці ўжо не трывожылі Белага Клыка. Паступова

знік і жах перад невядомасцю, што падпільноўвала раней на кожным кроку.

Жыццё зрабілася спакойным і лёгкім. Яно цякло гладка, не засмучалася ні страхамі, ні варожасцю.

Яму нехапала снегу, але ён не мог ясна ўсвядоміць сабе гэтага. «Як зацягнулася лета!»—падумаў-бы ён, напэўна, калі-б думка пра снег прышла яму ў галаву; але гэтага не здаралася, і Белы Клык толькі няясна і несвядома адчуваў патрэбу ў снезе. Таксама-ж у летнюю спякоту, калі прыходзілася пакутваць ад сонца, ён адчуваў лёгкія прыступы суму па Поўначы. Але сум гэты выяўляўся толькі ў трывозе, прычыны якой аставаліся няяснымі для яго самога.

Белы Клык ніколі не адрозніваўся экспансіўнасцю. Ён умеў прыціскацца галавой да гаспадара і ласкава бурчэць, і толькі гэтымі спосабамі і выказваў сваю любоў. Але неўзабаве ён даведаўся і пра трэці спосаб. Смех багоў заўсёды вельмі моцна дзейнічаў на Белага Клыка. Смех прыводзіў яго ў шаленства, прымушаў траціць рассудак ад ярасці. Але на гаспадара Белы Клык не ўмеў злаваць, і калі той пачаў дабрадушна жартаваць і смяяцца над ім, ён прышоў у замяшанне. Белы Клык адчуваў, як у ім узнімаецца ранейшая злосць, але на гэты раз ёй прыходзілася змагацца з любоўю. Ён не мог злаваць, а ў той-жа час так або інакш трэба было адказваць на смех. Спачатку ён стараўся захаваць велічны выгляд, але гаспадар зарагатаў больш гучна. Белы Клык набраўся яшчэ больш велічы, а гаспадар зарагатаў яшчэ больш гучна. Нарэшце Белы Клык здаўся. Пашчэнкі яго злёгку разняліся, верхняя губа ледзь задрыжэла, і ў вачах з'явілася камічнае выражэнне, якое гаварыла не столькі аб смеху, колькі аб любові. Белы Клык навучыўся смяяцца. Ён навучыўся таксама ўзнімаць вазню з гаспадаром, дазваляў валіць сябе з ног, перакульваць на спіну, рабіць над сабой усякія жарты. У адказ на гэта ён прытвараўся разгневаным, увесь натапырваўся, раз'юшана бурчэў і ляскаў зубамі, робячы выгляд, што хоча ўчапіцца ў гаспадара. Але Белы Клык ніколі не забываўся. Зубы яго заўсёды ляскалі ў паветры, не закранаючы Скота. І ў канцы такой вазні, калі ўдары, штуршкі, лясканне зубоў і бурчэнне рабіліся ўсё мац-

ней і мацней, чалавек і сабака раптам адскоквалі ў розныя бакі, спыняліся і глядзелі адзін на аднаго. А затым, таксама нечакана, нібы сонца раптам паказвалася над бушуючым морам, яны пачыналі смяяцца. Гульня канчалася тым, што гаспадар абнімаў Белага Клыка за плечы і шыю, а той заводзіў сваю бурчліва-пяшчотную песеньку любві.

Але, апрача гаспадара, ніхто не пачынаў такой вазні з Белым Клыкам. Ён не дапускаў гэтага. Варта было каму-небудзь іншаму пасягнуць на яго пачуццё ўласнай вартасці, як пагражальны рык і стаўшая дыбам шэрсць забівала ўсякае жаданне пагуляць з ім. Калі Белы Клык дазваляў свайму гаспадару такія вольнасці, гэта зусім не азначала, што ён траціў сваю любоў направа і налева, як звычайны сабака, які гатоў вазіцца і гуляць з кім хоча.

Ён любіў толькі аднаго чалавека, і адмаўляўся разменьваць сваю любоў.

Гаспадар шмат ездзіў конна, Белы Клык лічыў сваім пярвічным абавязкам ісці з ім у такія прагулкі. На Поўначы ён даказваў сваю адданасць людзям тым, што хадзіў у запрэжцы; але на Поўдні саней не было, і сабакі тут не цягалі цяжару на спіне. Таму Белы Клык заўсёды бег побач з канём гаспадара, знайшоўшы ў гэтым новы спосаб для выказвання сваёй адданасці. Белы Клык мог бегчы так хоць цэлы дзень. Ён бег без усякага напружання, не адчуваючы змораасці, роўнай воўчай рыссю і, зрабіўшы так міль пяцьдзесят, усё таксама бадзёра імчаўся наперадзе каня.

У сувязі з гэтымі паездкамі гаспадара Белы Клык навучыўся яшчэ аднаму спосабу выказвання сваіх пачуццяў, і выдатна тое, што ён скарыстаў яго толькі два разы за ўсё жыццё. Першы раз гэта здарылася, калі гаспадар спрабаваў дабіцца ад гарачага пародзістага каня, каб ён дазволіў яму адчыніць і зачыніць калітку, не сходзячы з сядла. Раз за разам ён накіроўваў яго туды, спрабуючы зачыніць за сабой калітку, але ўсякі раз конь спалохана адступаў назад і кідаўся ўбок. Конь гарачыўся ўсё больш і больш. Як толькі ён узнімаўся на дыбы, гаспадар даваў яму шпоры, прымушаючы апусціць пярэднія ногі на зямлю, але ў адказ на гэта конь пачынаў біць задам. Белы Клык

сачыў за імі з узрастаючай трывогай і пад канец, не маючы больш сіл стрымліваць сябе, падскочыў да каня і злосна і пагражальна забрахаў на яго.

Пасля гэтага выпадку ён часта спрабаваў брахаць, і гаспадар заахвочваў гэтыя спробы, але брэх удаўся ў яго толькі раз, прычым гаспадара ў гэты час не было паблізу. Прычынай да брахання з'явіліся наступныя падзеі: гаспадар імчаўся галопам па полі, як раптам конь кінуўся ўбок, спалохаўшыся выскачыўшага з-пад самых яго ног труса, спатыкнуўся, гаспадар выскачыў з сядла і зламаў нагу. Белы Клык аж ашалеў і хацеў ўчапіцца правініўшамуся каню ў горла, але вокрык гаспадара спыніў яго.

— Дамоў! Пайшоў дамоў!—загадаў Скот, пераканаўшыся, што нага зломана.

Белы Клык не жадаў пакідаць яго аднаго. Гаспадар хацеў напісаць запіску, але ні алоўка, ні паперы ў кішэнях не было. Тады ён зноў загадаў Беламу Клыку адпраўляцца дамоў.

Белы Клык тужліва паглядзеў на яго, зрабіў некалькі крокаў, вярнуўся і ціха заскуголіў. Гаспадар загаварыў з ім ласкавым, але сур'ёзным тонам; ён натапырыў вушы, з надзвычайным напружаннем услухоўваючыся ў словы.

— Не бянтэжся, старыкан, ідзі дамоў,—казаў далей гаспадар.—Ідзі дамоў і раскажы там, што здарылася. Дамоў, воўк, дамоў!

Белы Клык ведаў словы «дамоў» і, не разумеючы астатняга, усё-ж здагадаўся, аб чым гаворыць гаспадар. Ён павярнуўся і няхочучы пабег. Затым спыніўся ў нерашучасці і глянуў праз плячо на гаспадара.

— Дамоў!—пачуўся рэзкі загад, і на гэты раз Белы Клык паслухаўся.

Калі ён падбег к дому, усе сядзелі на тэрасе, цешачыся вячэрняй прахаладай. Белы Клык быў увесь у пылу, і цяжка дыхаў.

— Уідон вярнуўся,—сказала жонка суддзі.

Дзеці сустрэлі Белага Клыка радаснымі крыкамі і кінуліся яму насустрач. Ён услізнуў ад іх і прашоў праз усю тэрасу, але Уідон і Мод загналі яго ў куток паміж качалкай і поручамі. Ён зароў і паспрабаваў пралезці паміж дзецьмі. Маці спалохана паглядзела на іх.

— Усё-ж я ніколі не перастану баяцца за дзяцей, калі яны круцяцца каля Белага Клыка,—сказала яна.— Толькі таго і чакаю, што ў адзін прыгожы дзень ён накінецца на іх.

Белы Клык з лютым брэхам выскачыў з кутка, зваліўшы хлопчыка і дзяўчынку з ног. Маці паклікала іх да сябе, угаварваючы пакінуць Белага Клыка ў спакоі.

— Воўк заўсёды астанецца ваўком,—заўважыў суддзя Скот.—Яму нельга верыць да канца.

— Але ён не сапраўдны воўк,—умяшалася Бэт, становячыся на бок адсутнага брата.

— Ты пакладаешся на словы Уідона,—запярэчыў суддзя.—Ён думае, што ў Белым Клыку ёсць сабачая кроў, але дакладна яму нічога невядома. А што датычыцца знадворнага выгляду Белага Клыка...

Суддзя не скончыў фразы. Белы Клык спыніўся перад ім і люта забурчэў.

— Пайшоў на месца! На месца!—загадаў яму суддзя Скот.

Белы Клык павярнуўся да жонкі гаспадара. Яна спалохана ўскрыкнула, калі ён схапіў яе зубамі за сукенку і пацягнуў да сябе, разарваўшы лёгкую матэрыю.

Тут ужо Белы Клык быў цэнтрам агульнай увагі. Ён перастаў бурчэць і стаяў, падняўшы галаву і ўглядаючыся ў твары людзей. Горла яго падзёргвалася сударгай, але з яго не вырывалася ні аднаго гуку. Белы Клык напружваўся усім целам, намагаючыся вызваліцца ад таго, што рвалася ў ім напаверх і не знаходзіла сабе выхаду.

— Трэба спадзявацца, што ён не ашалеў,—сказала маці Уідона.—Я казала Уідону, што паўночны сабака не перанясе цёплага клімату.

— Па-мойму, ён хоча сказаць нешта,—усклікнула Бэт.

У гэты момант Белы Клык набыў здольнасць мовы і пачаў аглушальна брахаць.

— Нешта здарылася з Уідонам,—з упэўненасцю сказала жонка Скота.

Усе ўскочылі на ногі, а Белы Клык збег па прыступках, азіраючыся назад, нібы запрашаючы людзей ісці за сабой. Ён брахаў другі і апошні раз у жыцці і дабіўся таго, што яго зразумелі.

Пасля гэтага выпадку жыхары Сіера-Вісты пачалі адносіцца да Белага Клыка яшчэ лепш, і нават конюх, якому ён пакусаў руку, прызнаў, што Белы Клык разумны сабака, хоць і падобны на ваўка.

Суддзя Скот усё яшчэ настойваў на сваім пункце гледжання і, на агульнае нездавальненне, прыводзіў у выглядзе доказаў уласнай праваты апісанні і табліцы, узятыя з энцыклапедыі і розных кніг па прыродазнаўству.

Дні ішлі адзін за адным. Даліна Санта-Клара купалася ў сонечных праменнях. Але як толькі дні зрабіліся карацейшымі з набліжэннем зімы, другой яго зімы на Поўдні, Белы Клык зрабіў дзіўнае адкрыццё: зубы Коллі перасталі быць такімі вострымі; яе гуллівыя, лёгкія ўкусы ўжо не рабілі яму болю. Белы Клык забыў той час, калі Коллі атручвала яму жыццё, і, з важным выглядам, адказваў на ўсе яе ўвіванні.

Аднойчы Коллі пабегла па лузе, вабячы Белага Клыка за сабой у лес. Гаспадар збіраўся пакатацца конна з раніцы, і Белы Клык ведаў аб гэтым. Асядланы конь стаяў ля пад'езда. Белы Клык хістаўся. Ён адчуў у сабе нешта, што было мацней закона, мацней усіх звычак, мацней любові да гаспадара, мацней волі да незалежнасці; і калі Коллі куснула яго і пабегла прэч, ён пакінуў сваю нерашучасць, павярнуўся і пайшоў за ёй. У гэты дзень гаспадар ездзіў адзін, а Белы Клык бегаў у лесе побач з Коллі, таксама як многа год таму назад яго маці Кіч бегала з Аднавокім у маўклівым паўночным гушчары.

*Раздзел пяты*

## ДРЭМЛЮЧЫ ВОЎК

Прыблізна ў гэты час газеты застракацелі паведамленнямі аб смелым уцёку аднаго са зняволеных у санквенцінскай турме. Гэты чалавек славіўся сваёй лютасцю. Ён быў пакалечан жыццём з самага нараджэння, а грамадства нічым не дапамагло яму. Злачынца гэты з'яўляўся надзвычайным прыкладам таго, у што можаператварыцца чалавечы матэрыял, які трапіў у бязлітасныя рукі грамадства. Гэта была жывёла,—праўда,

жывёла, якая мела выгляд чалавека, але тым не менш інакш, як драпежнікам, яе нельга было назваць.

У сан-квенцінскай турме ён лічыўся непапраўным. Ніякае пакаранне не магло зламаць яго ўпартасці. Ён быў здольны біцца да смерці, не памятаючы сябе ад лютасці, але не мог жыць, адмовіўшыся ад барацьбы. Чым больш раз'юшана бунтаваў ён супроць грамадства, тым больш сурова яно абыходзілася з ім, і гэтая суровасць толькі распальвала яго злосць. Вар'яцкая кашуля, голад, пабоі не дасягалі сваёй мэты, і нічога іншага ад жыцця Джым Хол не атрымліваў. Такія адносіны сустракалі яго з самага ранняга дзяцінства, праведзенага ў трушчобах Сан-Францыска, калі Джым Хол быў мяккай глінай, гатовай набыць любую форму ў руках грамадства.

У трэці раз адбываючы свой тэрмін зняволення ў турме, Джым Хол сустрэў там вартаўніка, які быў зверам не менш, чым ён сам. Вартаўнік абышоўся з ім несумленна, абняславіў перад наглядчыкам, усяляк праследаваў яго, і Джыму перасталі давяраць. Уся розніца паміж імі заключалася толькі ў тым, што вартаўнік насіў пры сабе звязку ключоў і рэвальвер. А Джым Хол меў у сваім распараджэнні толькі голыя рукі і зубы. Але аднаго разу ён скочыў на вартаўніка і ўчапіўся зубамі яму ў горла, як гэта робяць дзікія звяры ў лясным гушчары.

Пасля гэтага Джыма Хола перавялі ў камеру для непапраўных злачынцаў. Ён пражыў у ёй тры гады. Падлога, сцены і столь камеры былі абіты жалезам. За ўвесь гэты час ён ні разу не вышаў з яе, ні разу не ўбачыў неба і сонца. Замест дня ў камеры былі змрок, замест ночы—чорная цішыня. Джым Хол быў жывым пахаваны ў жалезнай магіле. Ён не бачыў чалавечага твара, не мог загаварыць ні з адной жывой істотай. Калі яму прасоўвалі ежу, ён рыкаў, як дзікі звер. Ён ненавідзеў увесь свет. Ён мог выць ад лютасці дзень за днём, ноч за ноччу, потым замаўкаў на цэлыя тыдні і месяцы, не вымаўляў ні гуку ў гэтай чорнай цішыні, што пранікала яму ў самую душу.

А затым неяк уначы ён уцёк. Даглядчык запэўняў, што гэта нямысліма, але тым не менш камера была пустая, а на парозе яе ляжаў забіты вартаўнік. Яшчэ два трупы адзначалі яго дарогу праз турму да зна-

дворнай сцяны, і ўсіх траіх Джым Хол забіў голымі рукамі, каб не рабіць шуму.

Зняўшы з забітых вартаўнікоў зброю, Джым Хол схаваўся ў гарах.

Галаву яго ацанілі ў вельмі вялікую суму золатам. Прагавітыя фермеры ганяліся за ім са стрэльбамі. На грошы, атрыманыя за яго галаву, можна было выкупіць закладную ці паслаць сына ў каледж. Грамадзяне, натхнёныя пачуццём абавязку, вышлі на Хола з вінтоўкамі ў руках. Зграя ішчэек імчалася па крывавых слядах, якія пакідалі яго ногі. А паліцыя званіла па тэлефону, пасылала тэлеграмы, заказвала спецыяльныя паязды, ні ўдзень, ні ўначы не спыняючы сваіх пошукаў.

Час ад часу Джым Хол трапляўся сваім праследвальнікам, і тады людзі па-геройску ішлі яму насустрач або ўрассыпную праз дротавыя агарожы, на вялікую радасць усёй краіны, за снеданнем чытаўшай пра гэта ў газетах. Пасля такіх сутычак забітых і раненых адвозілі ў горад, а іх месцы займалі другія аматары палявання за чалавекам.

А затым Джым Хол знік. Сабакі дарэмна рыскалі па яго слядах. Узброеныя людзі затрымлівалі ні ў чым невінаватых фермераў, якія трапляліся далёка ў глыбіні краіны, і прымушалі іх засведчыць сваю асобу. А тыя, хто прагнуў атрымаць выкуп за галаву Хола, дзесяткі разоў знаходзілі ў гарах яго астанкі.

Увесь гэты час газеты чыталіся ў Сіера-Вісце не столькі з цікаўнасцю, сколькі з трывогай. Жанчыны былі перапалоханы. Суддзя Скот хараховыўся і жартаваў над імі, не маючы на гэта ніякіх падстаў, таму што незадоўга да таго, як ён вышаў у адстаўку, Джым Хол стаяў перад ім у судзе і выслухаў ад яго свой прыгавор. І там-жа, у зале суда, перад усёй публікай Джым Хол заявіў, што надыйдзе дзень, калі ён адпомсціць суддзі, што вынес гэты прыгавор.

На гэты раз Джым Хол казаў праўду. Ён не быў вінаваты ў тым злачынстве, за якое яго асудзілі. У зладзейскім свеце і сярод паліцэйскіх гэта называлася «пракаціцца па чыгунцы». Джым Хол «пракаціўся» ў турму за злачынства, якое ён не зрабіў. Прыняўшы пад увагу той факт, што Джым Хол ужо быў асу-

джаны двойчы, суддзя Скот даў яму пяцьдзесят год турэмнага зняволення.

Суддзя Скот многага не ведаў, не падазраваў ён і таго, што зрабіўся супольнікам змовы паліцэйскіх, што паказанні былі падстроены і скажоны, што Джым Хол не меў дачынення да злачынства. А Джым Хол са свайго боку не ведаў, што суддзя Скот дзейнічаў па няведанню. Джым Хол быў упэўнены, што суддзя Скот усё гэта вельмі добра ведае і, выносячы гэты страшэнны па сваёй несправядлівасці прыгавор, дзейнічае заадно з паліцыяй. І таму, калі суддзя Скот абвясціў прыгавор, што асуджаў Джыма Хола на пяцьдзесят год жыцця, якое мала чым адрозніваецца ад смерці, Джым Хол, які быў насычан нянавісцю да ўсяго свету, што так жорстка абышоўся з ім, ускочыў са свайго месца і шалеў ад ярасці да таго часу, пакуль з поўтузіны яго ворагаў, апранутых у сінія мундзіры, не паваліла яго на падлогу. Ён лічыў суддзю Скота коранем зла, галоўным віноўнікам зробленай несправядлівасці, спаганяў на ім сваю ярасць і пагражаў помстай. А затым Джыма Хола пасадзілі ў камеру, якая мала чым адрозніваецца ад магілы... і ён уцёк адтуль.

Аб усім гэтым Белы Клык нічога не ведаў. Але паміж ім і жонкай гаспадара Эліс, існавала тайна. Кожную ноч, пасля таго як уся Сіера-Віста клалася спаць, Эліс паднімалася з ложка і ўпускала Белага Клыка на ўсю ноч у хол. А паколькі Белы Клык не быў пакаёвым сабакам і яму не дазвалялася спаць у доме, то на світанні яна спускалася ўніз, пакуль усе яшчэ спалі, і выпускала яго на двор.

У адну такую ноч, калі ўвесь дом спаў, Белы Клык прачнуўся, але прадаўжаў ляжаць зусім ціха. І таксама ціха ён павёў носам і адразу злавіў вестку аб прысутнасці ў доме незнаёмага бога, якая неслася па паветры. Да яго вушэй даляталі гукі крокаў. Белы Клык не пачаў злосна брахаць. Гэта было не ў яго звычаі. Незнаёмы бог ступаў вельмі ціха, але яшчэ цішэй ступаў Белы Клык, таму што на ім не было адзення, якое нахаду трэцца аб цела. Ён рухаўся моўчкі. У Лясной Глушы яму даводзілася паляваць за палахлівай дзічынай, і ён ведаў, як важна застаць яе знянацку.

Незнаёмы спыніўся каля лесніцы і пачаў прыслухоўвацца. Белы Клык замёр, ён стаяў не крануючыся і ча-

каў, што будзе далей. Лесніца вяла ў карыдор, дзе былі пакоі гаспадара і самых дарагіх для яго істот. Белы Клык натапырыўся, але прадаўжаў чакаць. Незнаёмы бог падняў нагу. Ён пачаў паднімацца па сходках.

І ў гэтую хвіліну Белы Клык кінуўся. Ён зрабіў гэта без усякага папярэджання, нават не зарыкаў. Цела яго ўзляцела ў паветры і апусцілася прама на спіну незнаёмаму. Белы Клык павіс пярэднімі лапамі на плячах у яго і ў той-жа самы час упіўся яму клыкамі ў шыю. Ён павіс на ім усім сваім цяжарам і ў адзін момант перакуліў бога на спіну. Абодва паваліліся на падлогу. Белы Клык адскочыў убок, але як толькі чалавек паспрабаваў устаць на ногі, ён зноў скочыў і ўпіўся ў яго клыкамі.

Усе жыхары Сіера-Вісты ў страху прачнуліся. Па шуму, які далятаў з лесніцы, можна было падумаць, што там распачалі бойку цэлыя полчышчы д'яблаў. Даносіліся рэвальверныя стрэлы, нехта пранрэзліва крычаў ад жаху і болю. Чуўся страшэнны рык. І ўсе гэтыя гукі суправаджаў звон разбітага шкла і грукат перакуленай мэблі.

Але шум сціх таксама раптоўна, як і ўзнік. Уся барацьба прадаўжалася не больш трох хвілін. Перапалоханая сям'я стоўпілася на пляцоўцы лесніцы. Знізу, як з бяздоння змроку, далятаді булькаючыя гукі, нібы паветра выходзіла пузыркамі на паверхню вады. Часамі гукі гэтыя пераходзілі ў сіпенні, ледзь не ў свіст. Але яны таксама хутка замерлі, і ў цемнаце чулася толькі цяжкае дыханне, быццам нехта пакутна лавіў ротам паветра.

Уідон Скот павярнуў выключацель, і струмень святла заліў лесніцу і хол. Затым ён і суддзя Скот асцярожна апусціліся ўніз, трымаючы напагатове рэвальверы. Між іншым, засцярога гэтая была лішняй. Белы Клык ужо зрабіў сваю справу. Пасярэдзіне перакуленай і паламанай мэблі на баку ляжаў чалавек, твар яго быў прыкрыты рукой. Уідон Скот нахіліўся, прыняў руку і павярнуў чалавека тварам уверх. Зяючая рана на горле не выклікала сумненняў адносна прычын яго смерці.

— Джым Хол!—сказаў суддзя Скот.

Бацька і сын многазначна паглядзелі адзін на аднаго. Затым яны спыніліся каля Белага Клыка. Ён так-

сама ляжаў на баку. Вочы ў яго былі заплюшчаныя, але калі людзі нахіліліся над ім, ён прыпадняў павекі, намагаючыся глянуць уверх, і ледзь крануў хвастом.

Уідон Скот пагладзіў Белага Клыка, і ў адказ на гэтую ласку той забурчэў. Але бурчэнне прагучэла ледзь чутна і зараз-жа абарвалася. Павекі яго задрыжэлі і заплюшчыліся, усё цела абмякла і выпрасталася на падлозе.

— Дрэнная твая справа, небарака,—прамармытаў гаспадар.

— Ну, гэта мы яшчэ ўбачым,—сказаў суддзя, накіроўваючыся да тэлефона.

— Адкрыта кажучы, у яго адзін шанс на тысячу,—сказаў хірург, які паўтары гадзіны правёў каля Белага Клыка.

Пачало днець, электрычнасць пацямнела. За выключэннем дзяцей, уся сям'я сабралася каля хірурга, каб паслухаць, што ён скажа пра Белага Клыка.

— Пералом задняй нагі,—казаў далей той.—Тры зламаных рэбры, адно з іх прайшло ў лёгкае. Вельмі вялікая страта крыві. Магчыма, што ёсць і іншыя ўнутраныя пашкоджанні, таму што, як відаць, яго таптаі нагамі. Я ўжо не кажу пра тое, што ўсе тры кулі прайшлі навылет. Ды не, адзін шанс на тысячу будзе, мабыць, надта аптымістычна. У яго няма і аднаго на дзесяць тысяч.

— Але нельга траціць і гэтага шансу!—усклікнуў суддзя Скот.—Якіх-бы грошай гэта ні каштавала! Трэба зрабіць прасвечванне,—усё, што трэба будзе... Уідон, тэлеграфіруй зараз-жа ў Сан-Францыско доктару Нікольс. Вы, вядома, разумееце, доктар, што я не сумняваюся ў вашых веданнях, але сабака не павінен траціць ні адной магчымасці.

Хірург спагадліва ўсміхнуўся.

— Зразумела, зразумела! Рабіце ўсё, што вы можаце,—ён гэтага заслугоўвае. За ім трэба даглядаць, як за чалавекам, як за хворым дзіцем... І не забывайце пра тэмпературу. Я зайду ў дзесяць гадзін.

Догляд за Белым Клыкам быў вельмі добры. Дочкі суддзі з абурэннем адхілілі прапанову выклікаць спрактыкаваную сядзелку і ўзяліся за гэтую справу самі. І Белы Клык вырваў у жыцця той адзіны шанс, у якім яму адмаўляў хірург.

Але не трэба асуджаць хірурга за яго памылку. Усё сваё жыццё яму прыходзілася лячыць і аперыраваць выпешчаных цывілізацыяй людзей—патомкаў многіх далікатных пакаленняў. У параўнанні з Белым Клыкам усе яны здаваліся кволымі і слабымі і ня ўмелі чапляцца за жыццё. Белы Клык быў выхадцам з Лясной Глушы, якая знішчае слабых і нікому не дае літасці. Ні ў яго маткі, ні ў бацькі, ні ў многіх пакаленняў іх продкаў не было і адзнак слабасці. Лясная Глуш узнагародзіла Белага Клыка жалезным арганізмам і жывучасцю, і ён чапляўся за жыццё з усёй упартасцю, якая яшчэ спрадвеку была ўласціва кожнай жывой істоце.

Прыкаваны да свайго месца, не маючы магчымасці нават крануцца з-за гіпсавых павязак і бандажоў, Белы Клык доўгія тыдні змагаўся з хваробай. Ён спаў гадзінамі, бачыў вялікую колькасць сноў, і ў мазгу яго бясконцай чарадой праносіліся вобразы Поўначы. Мінулае ажыло і абступіла Белага Клыка з усіх бакоў. Ён зноў жыў у логаве з Кіч, зноў дрыжучы, падпаўзаў да ног Шэрага Бабра, выказваючы яму сваю пакорлівасць, зноў ратаваўся ўцёкамі ад Ліп-Ліпа і выючай зграі шчанюкоў.

Белы Клык зноў бегаў па маўкліваму лесу, палюючы за дзічынай у доўгія дні голаду; затым ён бачыў сябе на чале запрэжкі, чуў як Міт-Са і Шэры Бобр ляскаюць пугамі і крычаць: «Раа! Раа!» калі сані ўязджаюць у цясніну і запрэжка сціскаецца, як складаны веер, каб праціснуцца па вузкай дарозе. Дзень за днём прайшло перад ім жыццё ў Прыгажуна Сміта і бойкі, у якіх ён удзельнічаў. У гэтыя хвіліны ён скуголіў і рыкаў, і людзі, што сядзелі каля яго, гаварылі, што Беламу Клыку сніцца дрэнны сон.

Але пакутней за ўсё Белага Клыка праследаваў адзін кашмар: яму сніліся страшыдлы—трамваі, якія з грукатам і бразгатам імчаліся на яго, як велізарныя рыкаючыя рысі. Вось Белы Клык ляжыць за кустамі, чакаючы той хвіліны, калі вавёрка адважыцца, нарэшце, сысці з дрэва на зямлю. Вось ён прыгае на сваю здабычу. Але вавёрка ўмомант ператвараецца ў страшны трамвай, які нагрувашчваецца над ім, як гара, пагражальна вішчыць, грукоча і плюе на яго агнём. Тое-ж самае адбывалася і з ястрабам. Ястраб каменем лятеў на яго з неба і ператвараўся наляту ўсё ў

той-жа трамвай. Або Белы Клык бачыў сябе ў загарадцы ў Прыгажуна Сміта. Навокал збіраецца натоўп, і ён ведае, што хутка пачнецца бой. Ён глядзіць на дзверы, чакаючы свайго працаўніка. Дзверы расчыняюцца і страшны трамвай ляціць на яго. Такі сон паўтараўся тысячы разоў, і кожны раз Белы Клык адчуваў усё той-жа жах.

Нарэшце, надышоў час, калі з яго знялі апошнюю гіпсавую павязку, апошні бінт. Гэта быў урачысты дзень. Уся Сіера-Віста сабралася каля Белага Клыка. Гаспадар пачухаў у яго за вухам, а ён пеў сваю бурчліва-ласкавую песеньку. Жонка гаспадара назвала яго «Неацанімым Ваўком»,—імя гэтае было сустрэнута радаснымі крыкамі, і ўсе жанчыны пачалі называць яго Неацанімым Ваўком.

Ён паспрабаваў падняцца на ногі, але пасля некалькіх дарэмных спроб паваліўся ад слабасці. Хвароба так зацягнулася, што мускулы Белага Клыка страцілі пругкасць і сілу. Белы Клык сароміўся сваёй слабасці, нібы ён быў у нечым вінават перад багамі. І, зрабіўшы гераічнае намаганне, ён стаў на ўсе чатыры лапы, хістаючыся з аднаго боку ў другі.

— Неацанімы Воўк!—хорам усклікнулі жанчыны.

Суддзя Скот паглядзеў на іх з радасцю.

— Правільна!—сказаў ён.—Я казаў пра гэта ўвесь час. Ні адзін сабака не мог-бы зрабіць таго, што зрабіў ён. Ён—воўк.

— Неацанімы Воўк,—паправіла яго жонка.

— Так, Неацанімы Воўк,—згадзіўся суддзя.—І ад гэтага часу я толькі так і буду называць яго.

— Яму прыдзецца нанава вучыцца хадзіць,—сказаў доктар.—Няхай зараз і пачынае. Цяпер ужо можна. Выведзеце яго на двор.

І Белы Клык вышаў на двор, а за ім пачціва ішлі ўсе жыхары Сіера-Вісты. Ён быў вельмі слабы і, дайшоўшы да Лугавіны, лёг на траву і некалькі хвілін адпачываў. Затым працэсія рушыла далей, і паступова з кожным крокам мускулы Белага Клыка наліваліся сілай, кроў хутчэй і хутчэй пераліваласа па жылах. Дайшлі да стайні, і там каля варот ляжала Коллі, а навокал яе гулялі на сонцы шасцёра тоўстых шчанюкоў.

Белы Клык паглядзеў на іх з недаўменнем. Коллі пагражальна зарыкала, і ён палічыў за лепшае тры-

мацца ад яе як мага далей. Гаспадар падштурхнуў да яго нагой поўзаўшага па траве шчанюка. Белы Клык натапырыўся, але гаспадар супакоіў яго. Коллі, якую стрымлівала адна з жанчын, не зводзіла з яго настарожаных вачэй і рыкам папярэджвала, што супакойвацца яшчэ рана.

Шчанюк падпоўз да Белага Клыка. Той натапырыў вушы і з цікаўнасцю агледзеў яго. Затым яны дакрануліся адзін да аднаго насамі, і Белы Клык адчуў, як цёплы язычок шчанюка лізнуў яго ў шчаку. Сам не ведаючы, чаму так здарылася, ён высунуў язык і аблізаў шчанюку мордачку.

Багі сустрэлі гэта апладысментамі і крыкамі захаплення. Белы Клык здзівіўся і з недаўменнем паглядзеў на іх. Затым на яго зноў напала слабасць; апусціўшыся на зямлю, ён натапырыў вушы і, пагладаючы на шчанюка, нахіліў галаву набок. Астатнія шчанюкі таксама падпаўзлі бліжэй на вялікае нездавальненне Коллі, і Белы Клык з важным выглядам дазваляў ім узбірацца на сябе і скочвацца на траву.

Апладысменты спачатку прымусілі яго адчуць ранейшую няёмкасць. Але неўзабаве гэта прайшло. Шчанюкі прадаўжалі сваю вазню, а Белы Клык, які цярпліва ляжаў, прыгрэты сонцам, і, прыплюшчыўшы вочы, павольна пачынаў драмаць.

---